

# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**10** (1044)

КАСТРЫЧНІК

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2016

## *ЗМЕСТ*



Анатоль БУТЭВІЧ

# РАСПАСАЖАНЫ ДОМ, АБО ХУТАРСКАЯ ВОЛЬНІЦА*

*Аповесць*

**Маім бацькам Івану ды Мар'і**

***Жыццё пражыта, нібы зжата жыта...***
Віктар ШНІП

*«Совет Министров БССР и ЦК КП Белоруссии отмечают, что наличие в западных областях республики 190 тысяч хуторских дворов колхозников крайне усложняет управление колхозным производством и стало серьезным препятствием дальнейшему развитию общественного хозяйства и экономики колхозов, а также улучшению благосостояния и культурно-бытового обслуживания колхозников.*

*Руководствуясь решениями XX съезда КПСС о дальнейшем улучшении жилищно-бытовых условий колхозников путем усиления строительства жилых и культурно-бытовых построек в колхозах на базе первоочередного роста общественного колхозного производства и учитывая многочисленные просьбы колхозников-хуторян и решения многих общих собраний колхозников*

---

***Бутэвіч Анатоль Іванавіч** нарадзіўся 15 чэрвеня 1948 года на хутары Язавец Нясвіжскага раёна. Скончыў філфак БДУ (1971). Працаваў у БелТА, намеснікам рэдактара газеты «Чырвоная змена», дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура», у ЦК ЛКСМБ і ЦК КПБ, старшынёй Дзяржкамітэта РБ па друку, міністрам інфармацыі, міністрам культуры і друку Беларусі, Генеральным консулам Рэспублікі Беларусь у Гданьску, Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Румыніі. Аўтар кніг «Прыгоды памаўзлівай Рыскі» (1999), «Як акіян з кропелькай барукаўся» (2003), «Прыгоды Віруса Шкодзі» (2009), «Раскіданае гняздо крывіцкай славы» (2008), «Расстайны пах асоту» (2000), серыі кніг «Сем цудаў Беларусі» — «У гасцях у вечнасці» (2001), «Званы Нямігі» (2002), «За наміткай гісторыі» (2003), «Адвечны пакліч Радзімы» (2004), «Славутыя родам сваім» (2006), «Перуновага племені дзеці» (2008); «Пад небам беларускага слова» (2007), рамана «Каралева не здраджвала каралю» (2010), «Я адной табе належу...» (2013), «Паміж Княствам і Каронай» (2013), «Пацалунак на фоне гор» (2014), «Таямніцы Мірскага замка» (2013), «Таямніцы Нясвіжскага замка» (2014), «Таямніцы Крэўскага замка» (2015) і інш., вядомы таксама як перакладчык.*

---

* Другая аповесць дылогіі «Апошняе ігрышча». Першая надрукавана ў часопісе «Полымя» ў № 1—2, 2007 г.

*о сселении хуторских дворов в колхозные селения, а также и то, что многие колхозы республики экономически окрепли и имеют возможность выделять значительные денежные и материальные средства как для строительства общественных построек, так и для оказания серьезной помощи колхозникам в сселении хуторов, Совет Министров БССР и ЦК КП Белоруссии считают хозяйственно целесообразным и возможным осуществить в 1956—1960 гг. сселение хуторов в колхозные селения в западных областях республики.*

*Некоторые передовые колхозы уже начали проводить сселение хуторов в колхозные селения.*

*Общее собрание колхозников колхоза им. Калинина Несвижского района, Минской области решило переселить все 540 дворов с хуторов в колхозные селения в течение 1956—1958 гг. и выделило из доходов колхоза в 1956 году 1200 тыс. рублей для выдачи ссуд колхозникам, переселяющимся с хуторов…*

*Придавая огромное значение делу сселения хуторов в колхозные селения, как одному из важнейших мероприятий дальнейшего роста экономики колхозов и поддерживая инициативу многих колхозов и колхозников по сселению хуторов, Совет Министров БССР и ЦК КП Белоруссии постановляют:*

*1. Рекомендовать колхозам Брестской, Гродненской, Молодечненской и Минской областей провести в течение 1956—1960 годов сселение всех хуторов в колхозные сёла.*

*2. Обязать облисполкомы и райисполкомы, обкомы и райкомы КПБ Брестской, Гродненской, Молодечненской и Минской областей организовать разъяснительную работу среди колхозников о назревшей необходимости как для роста общественного хозяйства колхозов, так и для улучшения жилищно-бытовых условий и культурного обслуживания колхозников сселения хуторов в колхозные сёла.*

*3. Принять предложения Брестского, Гродненского, Молодечненского и Минского облисполкомов и утвердить план сселения хуторских дворов в колхозные селения в 1956—1960 гг. по этим областям по годам, согласно приложению № 1…»*

*З Пратакола № 13 пасяджэння Бюро ЦК КПБ ад 5 мая 1956 года*
*«Аб ссяленні хутароў у калгасныя пасяленні*
*ў Брэсцкай, Гродзенскай, Мінскай і Маладзечанскай абласцях»*
*(Пастанова Савета Міністраў БССР і ЦК КПБ).*

## 1

Раскашавала светлая раніца позняй вясны. Ці на ўсім белым свеце, то невядома, але што да нядаўняга заходнебеларускага, а цяпер проста беларускага хутара Язавец — тое дакладна. Ва ўсялякім разе для маладой маці Марыі, альбо проста Мані, як называлі яе тут, гэта не патрабавала аніякіх дадатковых доказаў, было відочным і таму неаспрэчным.

Асабліва чуйная і надзвычай празрыстая перадсвітальная цішыня панавала над Язаўцом, клапатліва атуляла яго ад усялякіх чужых тут гукаў. Нават лясное і палявое птаства перапыніла свае начныя спевы ў напружаным чаканні. Вось-вось павінна выпырхнуць на неба адпачылае за ноч і абмытае расой недалёкага разнатраўнага поплаву працалюбівае сонейка. Менавіта ў прадчуванні гэтага цуду і сцішылася ўсё чыста на свеце. Каб не прапусціць гэткіх дзівосных дзівосаў, каб паспець прыкмеціць тую танюткую мяжу, што падзяляе

ноч і дзень, і якая незаўважна, але няўмольна рухаецца па зямлі, адбіраючы ў цемрыва метр за метрам, за лесам — вёску, за лугам — лес, за зоркай — зорку. Каб убачыць трымціва непаўторнае і заўсёды кранальна свежае абуджэнне прыроды пасля начнога сну. Хоць, што праўда, жыццё не аціхае і падчас панавання цемры. Яно нязводнае і неўміручае, яно ўсюдыіснае, бо ахоплівае ўсё, усюды і ўсіх.

У прыродзе наступае мо самы цікавы, самы адказны і самы таямнічы момант.

Разняволеныя ад цемры прамені сонца вызалацілі ўскраек неба — саменькі ягоны беражок, які на даляглядзе так шчыльна прытуліўся да сцішанай пакуль зямлі, што пры ўсёй стараннасці і вастравокасці немагчыма заўважыць іхнюю мяжу. І таму здаецца, што загадкавым бляскам свеціцца распаленая на невядомым і нябачным адсюль магутным вогнішчы альбо ў кавальскім горане сама зямля. А там, дзе начная цемра адступіла, ледзь-ледзь варушыцца набрынялая святлом вялізная празрыстая намітка. Здаецца, каб махнуў сваім крылом прыціхлы ветрык, намітка адразу пачала б адкрываць яркасць і прамяністаць нябеснага свяціла, якое настойліва, захоплена і радасна коціцца па небе, каб агледзець свае ўладанні — як без яго пераначавалі крыху ўспучаныя пагоркамі палеткі і пляскатыя, як стол, паплавы, як пачуваецца Школьны лес з яго паўзмрокамі і паўценямі, што ўпарта трымаюцца за падлесак, як адыходзіць на глыбінны спачын вадзянік у Ткачовым лузе, і каб убачыць, хто ж першым выйдзе сёння на надворак сваёй хаты сустракаць яго — распарадчыка цяперашняга, як і ўсіх папярэдніх і ўсіх будучых дзён, гаспадара над гэтым рассеяным сярод бязмернага поля хутарам з незвычайнай назвай Язавец.

І ў гэтае самапершае імгненне, калі распаленае і расчырванелае ад натугі сонца пачынае адрывацца ад зямлі, каб цэлы дзень не сыходзіць з нябеснага купала і купацца ў ягоным блакіце, коціцца яно надзвычай рухава — не згледзіш, як аддзялілася сляпучай палосачкай ад берага бачнай адсюль зямлі, як шырыцца гэтая мяжа і адначасова губляе сваю яркасць, пераходзячы ў звычайны летні блакіт неба, якое незлічоную колькасць гадоў захінае родную зямельку ад розных далёкіх і блізкіх бед і катастроф — так клапатлівая маці аберагае ад непатрэбных мітрэнгаў і непамыснасцяў сваіх ужо нават дарослых дзяцей, бо яны для яе заўсёды дзеці: да самага матулінага скону. Пакуль тата ці мама называюць цябе «сынок» альбо «дачушка», ты ўсё яшчэ на гэтым свеце дзіця, нават калі табе шэсцьдзясят альбо восемдзесят гадочкаў. І толькі тады, калі не будзе каму сказаць гэтыя запаветныя шчырыя словы, ты становішся дарослым, адказным за свой род. Высокая адказнасць, надта высокая…

А сонца ўсё вышэй і ярчэй. У такі момант прыжмурыш вока, зірнеш праз вузенькія шчылінкі, а яно, быццам забаўляючыся, кальне сваёй пікай-праменьчыкам у самую зрэнку так, што ажно слязінка народзіцца. І пакуль ты міргаеш, страсаючы яе, сонейка з гарэзлівай рухавасцю залезла яшчэ вышэй. Падымеш галаву, а яно ўжо так высока, што і качаргой не дастанеш. І толькі тады крышачку прыпыніцца, быццам прытомленае, а ягоны рух па небе набудзе сваю заўсёдную самавітасць і няспешнасць.

Сонечку весела, і табе становіцца ўсцешна, быццам і няма неадкладных клопатаў, як бы ўсё жыццё толькі і быў адзіны занятак, што пазіраць на сонца ды сачыць за ягоным кругабегам па нябесным купале...

Маня схамянулася: ой, занадта доўга гуляе ў хованкі з сонцам. Як малая. Гэта ў яе сыночка Толіка адно гулі наўме, а ёй за працу брацца пара. Але напаследак яшчэ хвілінку дадала да свайго незвычайнага занятку. Яна то прымружвае вочы, то расплюшчвае іх, то прыкрыве растапыранымі пальцамі,

ловячы мігатлівыя вясёлкавыя праменні і праменьчыкі. Але адчула, што ёй і сапраўды стала лагодней, палягчэла, адлягло, нібыта нябеснае супакаенне сышло на жанчыну, адагнаўшы ўсе трывожныя развагі, прыцьміўшы неспакой, які апошнімі днямі проста разрывае душу, сушыць мазгі, нават ціск павышае, бо Маня адчувае, як моцна пасля ночы баліць галава, а патыліцу быццам сабакі грызуць.

Маня ўздыхнула: «Стой, кабета, стой — паранее... Забаўляйся з сонцам, гуляй з ім у жмуркі ці ў хованкі, як бы ў цябе і клопату іншага няма. Але помні, што ўходжвацца табе ўсё адно давядзецца. Гаспадарка на руках гаспадыні трымаецца». А нехта іншы як бы пярэчыць: у Бога дзён многа.

Так, думае Маня, у Бога і праўда дзён многа, але клопатаў па гаспадарцы не менш. Нечакана для сябе яна пачала прыдуманае самой практыкаванне, так сказаць, дыхальную гімнастыку. Дыхала радзей і спакайней, як бы цадзіла празрыстае ранішняе паветра, якое аддавала яшчэ начной прахалодай. Гэта заўсёды прыносіла супакаенне. Да такой высновы яна прыйшла даўнавата і самахоць, можна сказаць, выпадкова. Неяк падчас такога знарочыста размеранага дыхання адчула, што настрой яе мяняецца, лепшае, а самой хочацца зараз жа брацца за справу, нават тую, што была нямілай, і якую доўгі час адкладвала. Праверыла і адзін раз, і другі — так і было. Маня ўспрыняла гэта як дараваны ёй небам знак і пачала карыстацца гэткай манерай даволі часта. Дапамагала.

Бывала, нават у час працы на полі прыпынялася на хвілінку-другую і паўтарала свой занятак, аднаўляючы падупалыя сілы і падвясельваючы настрой. А што да дарогі, то і казаць няма чаго — як бы далёка ні ішла, а не забывалася патрэніраваць грудзі глыбокім і размераным дыханнем, надоўга затрымліваючы выдых і робячы глыбокі ўдых. Ішлося пасля гэтага куды лягчэй.

Спачатку нікому не прызнавалася, баялася, што будуць смяяцца, скажуць здурнела баба пад старасць, хоць якая там яшчэ старасць — ледзь за трыццаць перайшло. Адным словам, трыццаць з г*а*кам. Ды, як жартаваў некалі іхні хутарскі балагур і мудрэц, вечнае яму супакаенне і царства нябеснае, дзед-усёвед Мацейка, — у тым г*а*ку яшчэ гэтулькі. Але тут і праўда невялікі гак. Гэта яе Івану на дзесяць гадоў больш. Ды і то старым сябе не лічыць. Кажа, самы цымус, найлепшы час для заляцанняў. На што Маня не прамінае падчапіць яго:

— Ну-ну, давай, польскі кавалер, ілжы, не падсяваючы. Вешай локшыну на вушы. То будзе, як пра тоё Стэпка, вечны спакой, казала.

— А што ж яна такоё казала, га? — як быццам забыўшыся, пытаецца Іван.

— А то ты ні ведаеш?

— Не-а.

— Казала, што калі будзеш вешаць локшыну на вушы, то я табе на рогі буду яе накручваць, — Маня ажно заходзіцца ад смеху.

— Каб табе такі нос, як ты праўду кажаш, — не саступае Іван. — А я тыя рогі адрэжу і разам з локшынай на Сноўскі базар аднясу. Цукерак сыну куплю. Бо хіба забылася: не капай другому яму там, дзе ходзіш сам?

Гэта ён аджартоўваецца так, з Мані пакепвае, калі пад настрой і час вольны мае. Не зважае, што гэткія жарты злуюць Маню, бо недзе ў глыбокай глыбіні яе душы тлее незразумелая трывога. Іван хоць і гаспадарлівы, улеглы ў працы, але больш суровы і ашчадны ў пачуццях. Маня ж вясёлая і разняволеная, і дома не ўседзіць на адным месцы, і на ігрышчах не з боку прыпёку — песню любіць першай зацягнуць, а то і ў танец п*у*сціцца. Што праўда, спявае яна не

адно на ігрышчах. Удома, у хаце — ля калыскі сына, на надворку, калі ўходжваецца, нават падчас жніва спявае ў ахвотку, альбо хоць бы мурлыкае нешта сама сабе пад нос. За гэта невядома чаму не раз папікаў яе Іван. Як быццам зло якое яна рабіла, альбо не ведаў ён да вяселля, што спяваць любіць.

**2**

Да вяселля… Ой-я-ёй, як даўно тое было. Яшчэ не за нашым часам. Не, што не за нашым, то няпраўда. Бо ў наш, у савецкі час гэта адбывалася. Але праўда і тое, што не за нашым. Бо пад немцам тады былі. Толькі што з-пад палякаў вылузаліся, як тут вайна навалілася, немцам не хапала жыццёвай прасторы. А тое, аб чым згадка Маніна, акурат пад канец вайны сталася. Хутар акупацыю перажыў як і ўсе вакольныя вёскі. Нехта з партызанамі знаўся. Бо чыгунка недалёка. Да Савэрава — так называлі бліжэйшы паўстанак, дзе цягнікі на Баранавічы—Брэст і на Мінск праносіліся, было ад Язаўца кіламетры тры-чатыры. Рвалі партызаны рэйкі, пускалі пад адхон вагоны. Часта начавалі альбо днявалі ў Іванавага бацькі. А нехта з хутаран і да партызан не хінуўся, але і немцам ботаў не чысціў. Сёй-той атрымаў з невядома-далёкіх ваенных франтоў пахавальны ліст — па-геройску аддаў сваё жыццё за Радзіму муж, сын ці брат. Плакалі тады ўсім хутарам, бо балела кожнаму. Мо з той пары і баяліся хутаране паштальёна — бог ведае, што ён прынясе.

Маня ўздыхнула, паправіла хустку на галаве.

— Ой, вяселлё, вяселлё, — прашаптала і зноў уздыхнула.

Такая звычка не толькі на хутары была: да вяселля маладая павінна вышыць маладому сарочку. Сваімі рукамі. Каляровымі ніткамі. Маня не паспела. Вайна ж. Дзе тыя ніткі возьмеш. Ды і не да вышыванкі было. У канцы мая вырашылі пабрацца, а 9 чэрвеня вяселле гулялі. Было гэта ў 1944 годзе. Немецкія рэшткі ўжо дадому — нах хаўс — драпалі, добра гналі іх савецкія воіны. Але яшчэ агрызаўся немец, за чужую зямлю чапляўся, не пераставаў веяць людскую душу ад цела. А тут нечакана хапун пачаўся.

Хутаране гэтаму верылі і не верылі. Ліпаўцы ж казалі, што ў іх такое ўжо было: прыедуць немцы з паліцаямі, збяруць нібыта на сход, а тады давай маладых і здаровых хлапцоў з дзяўчатамі асобна адсартоўваць. Пасля альбо ў калгаснае гумно, альбо адразу на калёсы, тут жа па іхняму загаду сабраныя, і ў Гародзяй, на чыгуначную станцыю, а там — у вагоны і ў Германію на працу. Відаць, не хапала сваіх рук, каб снарады з патронамі рабіць. Але галоўная інтрыга была ў тым, што, казалі, бралі толькі нежанатых.

Праўда гэта ці не, то й не праверыш адразу. Бо адны баялі адно, іншыя другое. Але што вывозілі, то праўда. Вось і пайшла гуляць па вёсках і хутарах пагалоска, усё больш доказна і цвёрда паўтораная: не, не бяруць немцы жанатых. І давай маладыя хлопцы і дзяўчаты, іхнія бацькі вяселлі ладзіць. Ці то сапраўдныя, ці мо фальшывыя — абы не перціся ў тую ўсё яшчэ страхатліва ваяўнічую Германію. Але вяселлі стараліся рабіць як і раней, па ўсіх правілах — са сватамі, з вышыванкамі, з музыкай. Ды дзе ты паспееш усё справіць, калі хапун не спыняецца. Абыходзіліся і без вышыванкі, і без музыкі — не даваў рады гарманісты Васіль Пулікоўскі, бо адзін на ўсе вакольныя вёскі.

Баяліся таго дурнога хапуна і ў Гэтэвічаў, і ў Назаноў, не на месцы было сэрца ў мацярок. Хапаць было каго — поўныя хаты дзяцей, дарослых ужо. Але і засцярогі бацькі не гублялі. Асабліва пасля таго, як паехаць у Нямеччыну мусіў сёй-той са знаёмых. Бачылі ў абедзвюх хатах, што Іван не спускае вока з

Мані. Праўда, тая не заўсёды адказвала ўзаемнасцю. Здаралася, меншы Іванаў брат Петрык праводзіў Маню з вечарынак альбо на нячастых танцах на польку запрашаў. Яе сусед Чэсь Пахвалёнчыкаў тады так пазіраў на Петрыка, што ў яго, здавалася, дзірка прагарыць у кашулі. Іван жа толькі ціхенька пасмейваўся з іхніх хітрыкаў, хоць сам ён да сястры Чэсевай, Стасі, даўнавата быў неабыякавы. Маня пра тое ведала, аднак не рабіла з гэтага трагедыі. Яны ж усе пакуль што проста хлопцы і дзеўкі — нежанатыя, чаго тут злосць паказваць? І за што? Што нехта некага правёў альбо на танец запрасіў? Столькі тае бяды. Калі дойдзе да сур'ёзнай справы, тады і будзе вырашацца, хто з кім жыць захоча, хто за каго пойдзе.

Аднак, калі размовы тыя сталі асабліва даймаць, а немцаў на мінскай зямлі пачалі савецкія самалёты бамбіць, прыйшлі да Мані сваты. Як убачыла іх, сэрца ёкнула: ад Петрыка. Аказалася, ад Івана. Яна яшчэ вагалася: ісці замуж ці не? А калі ісці, то за каго? Чэся яна баялася — ён нахабны і сапраўдны бандзюк. А тут Петрык нечага прыціх, як бы Івана наперад выпусціў. А мо назіраў, што ж далей будзе — адправіць Маня Івана ці прыме сватоў? Калі адправіць, тады і яго час настане.

Не, не адправіла. Пакіраваліся падзеі на вяселле. Разважаць ды цягнуць ката за хвост было небяспечна. Час імкліва каціўся з гары, а немцы не спынялі хапуна.

Вяселле, як і належыць, гулялі з музыкай. На гармоніку іграў Васіль Пулікоўскі. Брат Іванаў Мікалай стукаў у барабан. Гасцей сабралася нямала. І калі толькі бацькі маладой п*а*ры паспелі самагонкі нагнаць? З закускай, што праўда, не шыкавалі. Ды й дзе ты таго шыку набярэшся, калі пустуюць паграбы і каморкі. Але ж і вачамі не свяцілі ні Гэтэвічы, ні Назаны. Па-людску ўсё адбывалася, па-чалавечы.

Па-людску… Яны то па-людску стараліся рабіць, а з імі проста па-свінску паступілі. Нялюдскі быў час…

Маня падняла вочы да неба — сонца ўжо вуньдзека дзе, а яна ўсё дзіцячымі з*а*баўкамі займаецца, як малая. Але нібыта на развітанне яшчэ раз паднесла да вачэй растапыраныя пальцы і праз іх зірнула на яркую нябесную сінечу. Вакол пальцаў заіскрыліся вясёлкі. І не пальцы гэта зусім, а нейкія чароўныя палачкі, ад якіх нетутэйшае святло праменіцца. Маню быццам нехта падахвочваў пазабаўляцца яшчэ крышку. Яна пакручвала пальцамі, сціскала іх у кулак і праз вузкую трубачку пазірала на яркі дыск, нібыта выцікоўвала нешта ля сонца, пасля растапырвала пальцы зноў. Ёй было весела.

А тады нейкая вострая піка нечакана кальнула ў самую зрэнку. Раптоўна стала цёмна ў вачах. Маня міжволі зажмурылася, а калі адплюшчыла вочы, нічога перад сабой не бачыла — чорная цемра засцілала ўвесь свет. Адно толькі ў гэтым цемрыве святлела прадаўгаватая белая плямка, якая некуды рухалася. Калі Маня ўнутраным зрокам прыгледзелася да яе, падалося, што гэта іхняя хата. Ва ўсякім разе, абрысы былі яе — гэткая ж доўгая будыніна, дзе пад адной страхой і хата, і сені, і каморка, і хлеў. На месцы дзвярэй і вокнаў плямкі былі святлейшыя.

Адно здзіўляла — хата чамусьці была без страхі. Як ні намагалася Маня ўбачыць што-небудзь больш выразна, нічога не выходзіла: хата мігцела і, здавалася, ад'язджала ад яе, аддалялася. Калі ж Маня плюскала вачыма, будыніна набліжалася, каб неўзабаве зноў адсунуцца на такую адлегласць, з якой разгледзець яе немагчыма. І чым больш Маня міргала аслеплымі вачыма, тым больш размытай станавілася хата, пакуль урэшце не знікла зусім. Мо ў прадонне якое паляцела?

Маня пачала спалохана церці павекі кулакамі, ім стала балюча, ажно слёзы збіраліся ў куточках, але ў вачах не святлела. Стала плюскаць павекамі, міргаць, быццам страсала з вейкаў нейкую злую цёмную пялёнку, што закрывала не толькі свет, а, здавалася, усё жыццё. Нечакана яе ахапіў неўсвядомлены, але моцны, страх, чаго не адчувала ніколі раней, хоць часцяком трапляла ў незвычайныя сітуацыі. Вочы не хацелі бачыць і ўсё тут. Маня спалохалася не на жарт, ад чаго цемра перад вачыма пачарнела яшчэ больш. Яна пакруціла галавой, паправіла хустку, перавязала яе вузельчык пад барадой, нібыта прычына была ў ім, рэзка страпянулася і ад нечаканасці знерухомела — перад вачыма нязвыкла ярка выбухнула святло, быццам звалілася тая нябачная заслона, што вісела перад ёй.

«Ой, Божухна, што ж гэта за знак такі? — уздыхнула Маня і перахрысцілася. — Каб жа да нядобраго не дайшло».

А думкі зноў вярталася да вяселля. Іхняга з Іванам вяселля.

Па-людску ўсё адбывалася… Так, па-людску, пакуль не заявіліся ў хату да Івана паліцаі. Свае прыйшлі, з Вялікай Ліпы. Гаспадары не надалі гэтаму асаблівага значэння: ці мала каму хочацца выпіць дармовага. За стол запрасілі, пачаставалі. А калі прапанавалі няпрошаным гасцям разам пайсці да маладое, каб там вяселле прадоўжыць, тыя адмовіліся. Вось тут і затрашчала сябрына па ўсіх швах.

— Не на вяселле мы прыйшлі, Іван, — прызналіся. — Загад у нас…

— А што ж за загад такі, хлопчыкі? — нешта кальнула ў сэрца Іванавай маці.

Хлопчыкі мусілі прызнацца:

— Па цябе, Іван, прыйшлі… Ты ж тое… з патрызанамі знаўся.

«От бачыш, нехто ўсё ж высачыў, удаў немцам. От зараза… А яшчэ кажуць, што Бог даў людзям язык, каб умелі маўчаць. Не, на тоё і сабака, каб брахаць», — сама сабе падумала Іванава маці, а ўголас прамовіла:

— Дак жа і бацьку яго Іванам клічуць, — кінулася ратаваць сына, хоць не адразу зразумела, што тым самым удае свайго мужа.

— Не, маці, («Во знайшліся сыночкі» — маці ледзь не папярхнулася ад нечаканасці), гэты Іван нам патрэбен… Так немцы напісалі. Во паглядзіце…

Ды каму хацелася пазіраць у тую чужую паперчыну, быццам гэта магло нешта змяніць. Выйшла, як у той прымаўцы: якія музыкі, такое і вяселле.

Не аднаго Івана «за сувязь з патрызанамі» забралі. Узялі пад белыя ручкі і гарманістага Васіля. Прыхапілі нават амаль дзевяностагадовага дзеда Кусабуцкага. Не, што праўда, рук не вязалі нікому, нават руляў у плечы не настаўлялі, але ж павялі. Мо пасароміліся браць каня, пайшлі пешкі. А куды? То хто ж іх ведае. Не сказалі.

Таму і давялося Мані добра пазбіваць ногі ў пошуках. Як там ужо дагулялі тое вяселле, то й згадваць не хочацца. Да роспачы непамысна стала маладой, горка бацькам, ды і ў гасцей весялосць прапала. Прыхапіла Маня з сабой усе сабраныя на каравай грошы і пайшла, як па этапу. Спачатку ў Баранавічы — няма там Івана. Пасля ў Гародзяй — няма. Тады ў Нясвіж — нічога не кажуць. Але людзі навялі, што немцы ў нясвіжскую турму шмат новенькіх прывезлі. І кожную ноч многіх вывозяць беззваротна.

Ні слёзы, ні плач з енкамі, ні просьбы, ні нават аддадзеныя вясельныя грошы не дапамаглі — нічога не даведалася Маня. Ні з чым вярнулася на хутар. А вось куды ісці — не ведала. Да сваіх бацькоў? Дак нібыта замужам. У Іванаву хату? Дак жа няма там мужа. Спынілася пакуль у сваіх.

А тут савецкія самалёты ледзь не штоночы бамбіць пачалі. Нават гарматны гул чуўся — фронт імкліва набліжаўся да Нясвіжчыны. Часам і начаваць дома баяліся хутаране...

Нечакана Маня ўспомніла самы пачатак вайны. Савецкія салдаты адступалі з Баранавіч, ці мо з Брэста, ішлі па шашы на Нясвіж. За імі, змэнчанымі і знясіленымі, прапацелымі і параненымі, ледзь не па пятах ехалі немцы. Увесь хутар апусцеў — баючыся нямецкіх прыхадняў, людзі пачалі хавацца ў высокім ужо жыце, бо нармальнага лесу блізка не было. Сыны і дочкі Назаноў таксама папаўзлі па збажыне. Калі звечарэла, іхні бацька вырашыў сабраць усіх. А як? Не станеш жа гукаць на ўсё поле. Пачаў Міхась свістаць. Але ніхто не адклікаўся. Як пасля расказвалі дзеці, яны думалі, што гэткім чынам іх звабліваюць немцы. Таму не толькі не адзываліся, а ўцякалі яшчэ далей у жыта.

Калі ж урэшце паразумеліся і сабраліся ўсе разам, вырашылі змыць той страх і палявы пыл у Сержановым лузе. Прыйшлі на бераг, параздзяваліся і ў ваду. А тут нехта адчуў, што пахне нечым нетутэйшым, не кветкамі. Аказалася, перад імі мыліся на лузе немцы, яны і пакінулі мыла проста на траве. Надоўга хапіла тых пахкіх нямецкіх змылкаў Назанам…

А вяселле? Што ж вяселле… Вяртаннем маладога дамоў, да маладой закончылася яно. Адпусцілі немцы, дакладней, паліцаі Івана з ягонай «камандай», вывезлі за горад — вязні думалі на расстрэл, але тыя паехалі ў бліжэйшую вёску Малева збіраць коней, каб разам з немцамі з’ехаць адсюль. Не толькі Івана адпусцілі, а і Васіля, і дзеда Кусабуцкага, добра наастатак мацюкамі пакрыўшы і загадаўшы бегма бегчы, не азіраючыся. Пабеглі. Не азіраліся, а чаго на іх пазіраць, каб ім самім свету белага не бачыць. Так дамоў і прыбеглі. Адно грошай вясельных шкада было — марна, безвынікова патраціла іх Маня.

Таму вышываць кашулю свайму Іванку давялося пасля вяселля, калі Іван ужо ў шахтах апынуўся.

## 3

Звечара Толіку не спалася і ён сваім хныканнем давёў Маню з Іванам ледзь не да шаленства. Ужо і сварыліся на яго, і ўгаворвалі, і страшылі, і лашчылі — нічога не дапамагала. Мо надвор’е замінала яму, бо на вуліцы цыбурэніў такі дождж, што і носа не высунуць. Хлопец хныкаў, выпруджваўся, не хацеў спаць. А потым раптоўна сцішыўся і заснуў. З палёгкай уздыхнулі бацька з маці і таксама пачалі даваць храпака.

Але не іхняя сёння была ноч. Як толькі расслабіліся натруджаныя за дзень рукі і ногі, уздрыгнуць прымусіў нечаканы і моцны грукат у дзверы. Спачатку падумалі: падалося, вецер. Але ж не. Дзверы калаціліся ўсё мацней. Толік таксама прачнуўся і першым ягоным пытаннем было:

— Што, Дзед Мароз прыйшоў?

— Які табе, сынок, Дзед Мароз летам? Не дуры галавы, — злосна адказала маці. — Спі. Відаць, зладзеі некія… І каго там нячыстая сіла прынесла?

Пачуўшы гэта, Толік зноў завёў сваю невясёлую песеньку. Аднак бацькі не суцяшалі яго і самі не ўставалі з ложка: ці мала хто там і невядома, што можа адбыцца. Грукат не спыняўся, а неўзабаве ад дзвярэй ён перайшоў да вокнаў. Стукалі то ў адно, то ў другое так, што ажно лескаталі незакітаваныя шыбы. Толік спаў разам з бацькам каля акна. Ён адразу ж нацягнуў цяжкую кудзельную коўдру з пакулля на самую галаву — схаваўся. А калі б хлопчык ведаў «Новую зямлю» Якуба Коласа, як ведаў яе мамін брат Саша, то мог бы сказаць пра гэтую ноч Коласавымі словамі:

У хаце стала больш страхліва.
З-за вокан ноч глядзіць маўкліва,
І гэта ноч як бы жывая,
І быццам нешта яна знае,
Але аб тым казаць не хоча,
Бо на размовы не ахвоча.

Праўда, для Гэтэвічаў ноч не была маўклівай. Бацька мусіў уставаць, бо халера іх ведае, што могуць натварыць гэтыя невядомыя заразы-стукачы. Лямпы не запальвалі, каб не дражніць валацугаў: мо яны са стрэльбай і могуць смальнуць па агні. Іван, не апранаючы куфайкі, падышоў да дзвярэй у сенях — прыслухацца, што адбываецца на дварэ. Гэта, відаць, адчулі прыхадні. Стук у дзверы памацнеў. Не вытрымаў Толік — зайшоўся ад плачу. Маня пачала супакойваць сына. Гэтую мітусню пачулі незнаёмцы. Да Івана даляцела іхняя пагроза:

— Аткрывай, а то всё равно взламаям.

Справа дрэнь. Іван міжволі праверыў засаўку на дзвярах — усё нармальна. Памаўчаў. А тады спакойна спытаў:

— А вы хто? Што вам патрэбно, га? Нічого ў нас німа.

Але гэта толькі падахвоціла стукачоў — грукат памацнеў.

— Ты дзепутат? — пачуўся голас.

— Ну, дзіпутат. А што вам трэба?

— Ага, казала я табе: ні лезь у гэтаё начальство. Калі ні поп, то й ні ўбірайся ў рызы, — пачала шаптаць Маня, якая ўстала са свайго ложка і падышла да Івана. — А табе ўсё мало, усё недзя плішчышся. Усё хочаш на сваём паставіць. Во і пастаў, калі такі мондры.

— Ладна, не распускай нюні. Ні пары гарачкі, зараз разбяромсё.

Прышэльцы ж сваё права правяць:

— Тады пачаму ты дурня строіш? Аткрывай. Мы ўпалнамочаныя. Всё равно взламаем.

«Упалнамочаныя… Патрэбныя вы мне. Як у плоце дзірка…»

У Івана аж дух заняло, стаяў ні жывы ні мёртвы. Грукат не спыняўся. Што было рабіць — адсунуў засаўку: «Бог не папусціць — свіння не ўкусіць». У сені ўваліліся змоклыя, як цуцыкі, мужчыны. Двое. Маня пачала нешта злоснае мармытаць сабе пад нос. Толік зайшоўся ад плачу.

— Запалі лямпу, — загадаў Іван Мані.

Упаўнаважаныя ўвайшлі з сяней у хату. Яны і праўда былі намочаныя — з іх цякло, як са страхі падчас навальніцы. Неўзабаве каля іхніх ног утварыліся на зямлі сапраўдныя лужыны.

«Мо са старху паабсікаліся?» — не магла стрымаць усмешкі Маня, а ўслых сказала:

— Дай ты, Іван, ім свае порткі, хай здымуць мокраё.

Госці супраціўляцца не сталі. Апранулі сухое і патлумачылі:

— Мы ўпалнамочаныя. Із Мінска. Па льну. Нада большэ яго вырошчваць. Совецкая прамышленнасць в нём сільно нуждаяцца. У сельсавеце нам сказалі, что дзепутат Гэтэвіч за эта адвячае. Вот мы к вам і прышлі. А вы…

— А што мы? Мы не проціў вас. Нам за сына боязно — ці мало якая зараза тут цягаецца, — патлумачыў Іван.

Слова «цягаецца» насцярожыла няпрошаных гасцей, яны, заўважыў Іван, натапырыліся. Ён мусіў загладзіць гэтую няёмкасць:

— Бачылі мы такіх майстроў, што з белаго ўмеюць рабіць чорнаё… Ні раз, бывало, швэндаліся тут усялякія прахадзімцы-прайдзісветы, а выдавалі

сябе за людзей з цэнтра... — Іван і не заўважыў, што прамовіў проста словамі сельсавецкага актывіста. — Упалнамочанымі называліся.

— Не, мы настаяшчыя… — На гэтых словах Маню так і падмывала дадаць: «Настаяшчыя прахадзімцы», але яна толькі сама сабе ўсміхнулася і змаўчала. — Не бойся, мы рук не распускаем. Мы праўда ўпалнамочаныя. Вот і дакумент, — мужчына намерыўся дастаць з партфеля нейкую паперчыну.

— Ат, нашто ён мне, — адказаў Іван і хацеў дадаць: «Усё роўно не ўмею чытаць», але перадумаў — трэба трымаць марку дэпутата і прамовіў: — Я і так веру…

Урэшце госці і гаспадары паразумеліся. На стале з'явілася не толькі параная бульба, а і бутэлька першаку, якую Маня хавала на лекі — калі патрэба будзе кампрэс які паставіць. Але сітуацыя вымагае: не падмажаш — не паедзеш. Ну, а пасля гэтага — як і ва ўсіх бывае: наеўся, напіўся і спаць паваліўся…

Адно Толік не заснуў да самай раніцы: прытвараўся, што спіць, а сам усю ноч прыслухоўваўся, ці не ўстаюць няпрошаныя госці, ці не хочуць звязаць бацьку з маці, а самі забраць усё іхняе дабро.

Пасля гэтага на слова «ўпалнамочаныя» Толік рэагаваў даволі дзіўна: заплюшчваў вочы, затульваў іх рукамі і казаў: «Я ні дзіпутат…»

## 4

Упаўнаважаныя тымі гадамі былі ці не галоўнымі дзейнымі асобамі грамадскага жыцця, прынамсі, на хутары. Адбою ад іх не было. Відаць, не прыдумалі яшчэ такой сферы дзейнасці сельскага жыхара-калгасніка, якой не цікавіліся б спецыялісты на ўсе рукі — упаўнаважаныя. Адказныя людзі, як правіла гарадскія, ездзілі і хадзілі па ўсіх вёсках і хутарах. Шукалі непаладкі, выяўлялі недахопы, агітавалі, сварыліся, каралі, падтрымлівалі, палохалі. А пасля гэтага, як кругі па вадзе, разыходзілася пагалоска пра іхнія патрабаванні. Некаторых прыхільнікаў вострых адчуванняў, залішняй вольнасці і заліхвацкасці гэта і праўда спыняла. Пабойваліся тыя, хто не хацеў рабіць таго, што патрабавалі начальнікі, асцерагаліся тыя, хто рабіў не тое, што хацела ўлада. Разумелі: як засяваеш, так і атрымаеш…

Не абміналі ўпаўнаважаныя і Іванаву хату. Хоць стаяла наводшыбе ад брукаваных дарог, ды не выпадала з поля «ўпалнамочанай» увагі. Праўда, увага гэтая найчасцей праяўлялася чамусьці пад вечар альбо ноччу. Ведама, дэпутат жыў далекавата ад сельсавета. Ды ўсё адно — дэпутат гэта ўжо асоба. Грамадска актыўная, савецкая асоба. А раз савецкая, значыць, перадавая, разумная, гатовая ахвяраваць уласнымі інтарэсамі і харчовымі прыпасамі дзеля агульнай справы. Да такой асобы павага павінна быць, але ж і адпаведны спрос, як казалі тады на кожным сходзе. Спрос за ўсю грамадскую і вытворчую дзейнасць на яго дэпутацкай тэрыторыі, за кожнага ўдзельніка альбо знарочыстага няўдзельніка новага савецкага будаўніцтва. А калі выявяцца хібы ва ўсім клубку гэтых узаемаадносін, то павінна наступіць адпаведнае спагнанне. Бо як вы нашым, так мы вашым. З дэпутата таксама спытаюць, атрымае ён свае пяць капеек на абаранкі. І тут могуць «паспрыяць» упаўнаважаныя, бо дэпутат — важная для іх асоба, адказная.

Іван таксама адказваў, як мог. Як казала часам Маня: «Памагаеш ты ім, як хваробі кашаль». Але дзе ж ты дзенешся. Праўда, мог ён няшмат. Хіба што часам пакарміць, а то і напаіць тых уедлівых (не, не ад слова «настойлівых», а

ад працэсу пошукаў дармовага наедку) упалнамочаных, ласых, відаць, на дармаўшчыну, якія па накіраванні сельсавета раз за разам шукалі на хутары Іванаву хату. Для сябе ж Іван зрабіў выснову: калі не можаш памагчы, то лепей памаўчы. Ці ратавала гэта? Здаралася, дапамагала пазбегнуць яшчэ большай бяды.

Камунісцік ажно язык намазоліў, падсмейваючы Івана:

— Папрасі, каб сільсавет каля Школьнага лесу ўказальнік паставіў, як перад Нясвіжам. Хай напішуць: «Дзіпутат Гэтэвіч. 1 кіламетар 700 мэтраў». Альбо сам пастаў, — і ажно заходзіўся ад смеху.

— Ты ведаеш што, чалавеча? Калі да цябе ні п'юць, ні кажы «будзь здароў», — зласнавата адказваў Іван.

— Ну, чаму? — не пераставаў смяяцца Хвілосаф, бо і Камунісцікам, і Хвілосафам называлі на хутары Валодзіка Кусабуцкага. — Калі паставіш, та-скаць (гэта Хвілосаф такім чынам скарачаў сваё ўласнае прыслоўе «так сказаць», якое ў яго вылятала часам ледзь не за кожным словам), то я вып'ю. І «будзь здароў» скажу. Толькі пастаў…

— Ды ідзі ты, — ужо зусім сярдзіта адказваў Іван, але не казаў, куды ісці гэтаму насмешніку: не хацеў чапаць, хай яго кашуля не чапае.

— Ну, а што? — не здаваўся Хвілосаф. — Бо дзе вы яшчэ бачылі: упалнамочаны, та-скаць, на ўпалнамочаным едзе і ўпалнамочаным паганяе? І ўсе на наш хутар, да дзіпутата, да Івана Гэтэвіча. Быццам і няма тут іншых людзей.

— А што? Да цябе, балбатуна, паедуць? Дак ты ж зух толькі супраць мух.

— Ага, добро таго страшыць, хто баіцца, — неяк незразумела для Івана прамовіў Хвілосаф і пакіраваў дадому.

Маня ж часцяком моцна злавалася:

— Надаелі гэтыя ўпалнамочаныя, горш за сытаё мясо надаелі. Пачулі слабіну, просто пішчом лезуць. Прывыклі егдзіць на чужом гарбу.

На гэта Іван падпускаў у голас сур'ёзнасці і прапаноўваў:

— Дак мо табе, Маня, звяннявой стаць? Па льну. Тагды і егдзіць ні будуць, — Іван не ўдакладніў, што меў на ўвазе: не будуць ездзіць на гарбу, ці наогул перастануць наведвацца на хутар. — А калі будзеш добра старацца, ні будзеш бібікаў біць, то і ордэн дадуць, альбо ў Маскву на выстаўку пашлюць. Тагды і нас з Толікам возьмеш…

— Ты што, здурнеў, ці толькі думаеш? — злавалася Маня. — У цябе хіба башка ні варыць? Я табе пакажу: звяннявая! Пользы ад гэтаго, як з казла малака. Хваціць таго, што ты дзіпутат. Наеліся і гэтаго, ажні ванітуя… У Маскву пашлюць… Глядзі, а то я цябе бліжай пашлю. Але і адтуль не вернешся…

— Ну, глядзі сама, — прымірэнча казаў Іван. — Табе відней. Хваціць, дак хваціць. Адно каб пасля ні шкадавала.

— Ні бойся, ні пашкадую…

## 5

Аднойчы густаватым веснавым прыцемкам вярталіся Іван з Маняй і Толікам дахаты. Гасцявалі ў дзеда Міхася з бабай Воляй — іхні сын Янак, брат Манін, у водпуск з войска прыйшоў. Пакуль сёе ды тое, пакуль даводзілі адзін аднаму перавагі сённяшніх і колішніх ваенных танкаў і артылерыі, добра такі сцямнела. Але колькі тут ісці — нейкія паўтара кіламетра. Ішлі цярэспаля, так бліжэй. Але нездарма кажуць: як пойдзеш нацянькі, то праходзіш тры дзянькі.

Ужо на падыходзе да вішнёвых прысадаў сваёй сядзібы Маня нечакана турзанула Івана за рукаў:

— Пастой, пачакай, — яна трывожна кіўнула галавой у бок свае хаты. — Палядзі, гарыць нешта.

— Хіба ты здурнела? Што там можа гарэць?

Іван прыгледзеўся. І праўда, каля плоту, з таго боку, дзе сцежка да дзеда Ясевай хаты, нешта мільгае, як быццам гарыць.

— Глядзі ты, — неўразумела прамовіў Іван. — Мо мышы свае старыя гнёзды паляць?

— Ні гарадзі гарод, як п'яны. Табе ўсё хіханькі ды хаханькі, — устрывожана абсекла яго Маня. — Мо хату хто падпаліў?

І яны разам на ўсе вочы пачалі ўзірацца ў тое трывожнае мільгаценне жывога агню, які то ападаў ледзь не да зямлі, то падскокваў высока ўгару.

— Вы пастойце тут, а я пайду пагляджу, — прапанаваў Іван.

— Не ўжэ, ні кідай нас адных, — запярэчыла Маня. — Пайшлі ўсе разам.

— А калі там зладзеі?

— Ага, зладзеі. У цябе столькі праўды, колькі ў рэшаце вады, — запярэчыла Маня. — Ні ў хату палезлі, а рашылі каля агню пагрэцца, хоць і без таго на двары цёпло.

— А мне дак і саўсім горачо, — нечакана ўставіў свае тры капейкі Толік. — Як удома на печы.

— А мо гэта нкусаўцы якія? — прамовіў Іван, бо даходзілі чуткі аб залішняй цікавасці спецорганаў да хутарскога жыцця былых польскіх падданых. Але пакуль што чуткі чуткамі і заставаліся. — Мо нас правяраць будуць…

— Ты што, здурнеў?! — ледзь не закрычала Маня. — Прышчамі язык! Знайшоў чым жартаваць! — Але трывога тачыла і яе сэрца, якое затрапятала авечым хвастом.

Дык што ж рабіць? Не начаваць жа тут, на полі.

— Давай мо назад да дзеда Міхася вернямсё? — нерашуча прапанавала Маня.

— Ага, а хату чорту лысаму пакінем. Ці будзе куды вярнуцца?

Вырашылі ціхенька падысці да той невядомай кампаніі. А там відаць будзе. Толіка папрасілі, каб не баяўся нічога, але і не размаўляў, не румзаў. Малому такая просьба толькі паддала страху, але дзе ты дзенешся.

Калі наблізіліся да вішнёвых прысадаў, стала зразумела, што гарыць касцёр. А каля яго два чалавекі бачны. Аб нечым спрачаюцца, бо голас то аднаго, то другога часам набірае высокія ноты. Калі агонь меншае, падкідваюць у яго палкі: відаць, наламалі частаколу з плоту каля гарода. Пастаялі гаспадары хаты, прыслухоўваючыся, але далекавата — нічога не разбярэш. Падышлі бліжэй. Выразна бачацца дзве мужчынскія постаці.

— Я кажу табе, што нкусаўцы, — прамовіў Іван.

— Ні майнач, ні кажы абы-чаго. Хочаш, каб на вярбе грушы выраслі? А мо ўсё-такі ўпалнамочаныя? — разважыла Маня. — Дзіпутата чакаюць, — падкузьміла Івана.

— Ага, самагонку гоняць альбо кілбасу смажаць, частаваць нас будуць, — ужо злосна адказаў Іван, хоць сам ахвотна ўхапіўся за гэтую версію: упалнамочаныя ўсё ж лепш за нкусаўцаў.

— А калі п'янчужкі якія? — засумнявалася Маня. — То могуць бэбахі выпусціць. Альбо будзе, як некалі Косціку Сіневічу…

Была такая бяда на хутары. Аднае ночы, добра падпіўшы, кампанія дзецюкоў вырашыла, што недабрала. Пайшлі шукаць дабаўкі, каб іх зямля не насіла. Пастукаліся да Сіневіча. Не адчыняе. Тут ужо і кулакі засвярбелі. Пачалі грукаць у акно мацней: мо спіць, дак разбудзіць хацелі. Але хмель сваю справу робіць — не разлічылі хлопцы, высадзілі акно. Не сцярпеў Косцік — ухапіў жалезную качаргу, якою ў печцы варушылі, ды як пачне праз акно мянціць. Аднаму з дзецюкаў добра заехаў па галаве, кроўю заліўся той. Гэта яшчэ больш узвіравала і без таго гарачую кроў прыхадняў. Каб не Гэлька, жонка Косцікава, то невядома чым бы ўсё скончылася. Падала яна праз акно бутэльку і папрасіла не сердаваць і не біцца больш. А тыя, ухапіўшы жаданы напой — на халяву і соль салодкая, забыліся на пабітага сябрука, пашлындалі ў Школьны лес, дзе была іхняя палянка, на якой часцяком наталялі смагу. Гэльцы ж давялося яшчэ і таму пабітаму галаву перавязваць, твар абмываць.

— Дак ты хочаш, каб і табе акно вынеслі, і нас добра пакалашмацілі? — пытаецца Маня. — Адно зачапі іх, то бяды ні абярэсся. Бо ў іх, напэўно, і пісталет ёсцека, калі і праўда яны ўпалнамочаныя. Смальнуць з яго і ўсё тут. А ты ім што — солі на хвост насыплеш?

— Ні рві ты дарэмно душу, яшчэ невядомо нічого. Ні вешай на іх усіх сабак. А то заварыш кашу, што есці ні будзя каму…

Пры слове «пісталет» Толік голасна заплакаў.

— Ні плач, Толічак, а то тыя пачуюць і рэбры пералічаць, — папрасіла Маня. — Слязьмі бядзе ні паможаш.

А яны і праўда нешта пачулі, усталі з зямлі, навокал азіраюцца.

Але дзе ты што ўбачыш, калі вочы да агню прывыклі і не прабіваюць цемры, якая яшчэ гусцейшай здаецца. Тады адзін з іх гучна прамовіў:

— Ану хадзі сюды! Хто там хаваецца? А то зараз усіх перастраляем… — прыгразіў мужчына і зрабіў рух, як быццам дастае з кішэні пісталет.

Тут ужо і Маня ледзь не загаласіла. А Іван гучна і выразна прамовіў, напускаючы ў трымцівы голас як мага больш спакою:

— Ды гаспадары мы. Жывём тут. Нашая гэта хата, ага. А вы хто?

— А як цябе зваць, калі гаспадар? Нам Іван Гэтэвічаў патрэбны. Дэпутат.

— Дак я, гэтаё самаё, і ёсць дзіпутат.

— А хто з табою яшчэ?

— Дак жонка мая і сын. Малы яшчэ, дзіця…

— Ты нам зубы не загаворвай, на вярбу груш не вешай. А зброі ў цябе няма?

— Ды што вы такоё кажаце?! Хто сам ілжэ, той і другім ні верыць, — спалохана прамовіў Іван, не да канца ўсведамляючы, што такімі словамі можа яшчэ больш раззлаваць нябачных гаваруноў. — Якое зброі? Ні смяшыце людзей. У мяне яе і ў вайну ні было.

— Праўду кажаш? Бо ведаем, што кожны цыган сваю кабылу хваліць, а на хутарах у кожнага нават качарга страляе…

— Не сысці мне з гэтаго места. Кабылы ў мяне даўно німа, а качаргой жонка заведуя…

— Ладна. Тады спярша хай сын падыдзе.

— О, не, вы што — з глузду з’ехалі? — асмялеў Іван — Не, на такоё я ні згодны, аднаго дзіцёнка адпускаць. Лепей мы ўсе разам.

— Пачакай. Мы падумаем, — пачуўся адказ.

Пастаяла хвіліна напружанага чакання, але хвіліна гэтая для Мані і Толіка цэлай гадзінай здалася.

— Ну, добра. Давайце разам. Толькі глядзіце, зубы не паказвайце, а то калі што якое, то кепска будзе. Па зубах і палучыце…

Аказалася, і праўда ўпаўнаважаныя. Па нарыхтоўках хлеба прыехалі і агітаваць за падпіску на аблігацыі. Памірыла, як заўсёды, самагонка і прынесенае на гэты раз самімі ўпаўнаважанымі кола куплёнай кілбасы…

Living text continues:

Celebrate

Рознае здаралася з тымі ўпалнамочанымі: і смешнае, і грэшнае, і страшнае, і пацешнае. Самі яны былі і з мухамі ў носе, і з бзікам, блізкім да жадання звесці са свету тых, хто па іх меркаванні не да канца шчыра прымаў савецкую рэчаіснасць. Сустракаліся людзі з добрымі намерамі і рэальным разуменнем непатрэбнасці сваёй місіі. Як у звычайным жыцці бывае. А Івану з Маняй да самых апошніх іхніх дзён помніліся ўсе гэтыя прыходы і прыгоды, не забывалася, як з грахом папалам пераражылі той «упалнамочаны» час.

## 6

Хутаране, як самі казалі, свету белага не бачылі, не ведалі ні выхадных, ні прахадных, ні свят, ні Каляд. «От, нек гараваласё, нек жылосё», — казалі. Працы хапала пад самую завязку кожны божы дзень. Здаўна і дагэтуль. Што б ты ні рабіў, як бы ні стараўся, а ўсяго не пераробіш. Часта дыхнуць не было калі, нават хварэць не мелі часу. Ды ніхто з раскошы не шалеў. Але праўда і іншае: як бы цяжка ні было, а на святы ні ў кога стол не пуставаў. Была пульхная белая булка, было і да булкі.

Нягледзячы на раннюю ранічку, хата Мані і Івана Гэтэвічаў ужо жыла сваім звыклым турботна-клапатлівым жыццём. Дарэчы, як і іншыя хаты, што не дружным гуртам, а асобнымі — дзе большымі, а дзе зусім маленькімі — астраўкамі з пачарнелымі ад часу і дажджу, сям-там пабітымі зялёным мохам саламянымі стрэхамі рассыпаліся па яркім зяленіве веснавой руні хутара. Відаць, хутаране — былыя, за палякамі, гаспадары сваіх уласных надзелаў: хто большага, хто меншага, а сённяшнія не прызвычаеныя яшчэ да абагуленай маёмасці і невялікіх ды аднолькава роўных ва ўсіх сотак калгаснікі, шчыра прытрымліваліся здаўна вядомай ім прымаўкі: «Хто рана ўстае — таму Бог дае».

Ды не па гадзінніку ўставалі яны. Сонца будзіла, клікала за справы брацца. Нават не само сонейка, не ягоныя нябачныя да часу праменні, а іхняе прамяністае святло, якое вырывалася з-за гарызонта і рабіла ўсё больш празрыстым схаванае ў начным змроку наваколле. Яшчэ нават не дакранулася сонейка да хутарской зямлі, а людзі ўжо на нагах, стараюцца, каб не апярэдзіла іх нябеснае свяціла.

Па сонцу і працу канчалі. Калі яно апускалася за хутарскі поплаў і ўсё вузейшай станавілася светлая нябесная палоска, вярталіся работнікі з поля. Але не адразу спяшаліся ў хату, нарэшце маглі яны і на ўласным надворку пільнай справай заняцца, сваімі соткамі і агародам. І толькі тады, калі плот пачынаў вымалёўваць на пацямнелай зямлі свой уласны цень, народжаны святлом усё больш высокага месяца, калі нехта нябачны запальваў на нябесным купале шматлікія зорачкі-свечкі, натруджаныя і натомленыя гаспадары заходзілі ў хату, каб перахапіць нейкай спажывы, і адразу ў ложак, бо не зглядзіш, як зноў уставаць трэба — сонейка пабудзіць. Так ад сонца да сонца і мералі хутаране свой дзень, свой тыдзень, свой год і сваё жыццё.

Сведкам сённяшняга ранняга ўставання быў дзе светлы, а дзе цемнаваты дым, што амаль вертыкальна падымаўся над комінамі ў бязветранае паветра,

каб недзе там, у пакуль яшчэ прыцемненай нябеснай вышыні, растварыцца, разысціся і знікнуць, а мо зліцца з рэдкімі воблакамі і паплысці ў невядомую далеч далёкую, каб расказаць там пра закінуты ў бязмежжа беларускага прастору хутар, не, нават не хутар, а хутарок — усяго на дваццаць з невялікім гакам хацін, што на Нясвіжчыне. Той самай Нясвіжчыне, якая некалі Радзівілам належала, гэтаму магутнаму на ўсю Еўропу магнацкаму роду некаранаваных каралёў. Праўда, для хутаран, як і для іншых насельнікаў далёкіх і блізкіх зямель, яны былі проста Радзівіламі, гаспадарамі легендарнага Нясвіжскага замка. І гэтага хапала, каб слухацца іх, баяцца, слугаваць і... паважаць. Так, было за што і паважаць.

Дык мо з тае самае радзівілаўскае пары і засталася ў людзей звычка рана ўставаць і дбайна шчыраваць не толькі на сваёй гаспадарцы, але і на чужым для іх, дарэчы, да гэтай пары, полі? А мо ў адначассе падымала ўсіх з нагрэтых пасцеляў цяперашняя патрэба раненька бегчы ў калгас на нарад, каб атрымаць прызначэнне на працу, а пасля ўжо — хто адразу з сахаром ці граблямі ішоў на поле, на луг, у гумно ці на канюшню, а хто на хвілінку забягаў дамоў, каб даць апошні наказ сыну альбо дачцэ, якія яшчэ спалі, калі іхнія бацькі спяшаліся на нарад. Апошнім часам, праўда, наваспечаныя калгаснікі налаўчыліся атрымліваць нарад на дваіх — мужык браў і на жонку, а жонка на мужыка. Ды, відаць, усё ж часцей гэта станавілася абавязкам мужчын, бо жанкам у гаспадарцы выпадала куды больш ранішніх клопатаў.

Вялізная глінабітная печ — ледзь не на палову Гэтэвічавай хаты — разам з моцным цяплом шчодра дыхала на ўсю невялікую куханьку сонадбіўным водарам аладак. Ён прабіваўся праз вузкія і няшчыльныя дашчаныя дзверы на тую палавіну, якая адначасова служыла і залай, і спальняй.

Прыкметай залы стаяў на покуці, дзе віселі атуленыя выбеленымі тканымі льнянымі ручнікамі з карункамі на канцах абразы Ісуса Хрыста і Прачыстай Дзевы Марыі, сярэдніх памераў стол з дзвюх шырокіх дошак, накрыты таксама выбеленым ільняным настольнікам, вытканым Манінай маткай. За гэтым сталом збіраліся толькі па святах альбо разам з гасцямі, бо ў буднія дні абыходзіліся столікам на кухні, дзе зручней і больш звыкла — не наносіш у залу гразі. Хоць чаго тут баяцца: падлогі ж не было ні ў хаце, як звыкла называлі залу, ні на кухні, ні тым больш у сенях з каморкай. Затое паўсюль былі вытканыя і выробленыя Маняй, яе матуляй і свекрывёю посцілкі, настольнікі, ручнікі, дзяружкі, прасціны, занавескі, фіранкі, іншыя патрэбныя ў хаце рэчы. Не было толькі розных палавікоў, дываноў ці дыванкоў. А навошта яны на земляным таку — добра ўтрамбаваным, выплесканым босымі нагамі, выгладжаным падэшвамі туфляў, чаравікаў і ботаў, бо ніякіх іншых лапцяў-тапцяў не толькі ў Гэтэвічаў не ведалі. Звычайная зямля. Вымецеш хату бярозавым венікам, прыцярушыш сухім жоўценькім пясочкам, і адразу настрой становіцца святочным. А што халаднавата зімой, дык тое прывычна. Затое летам ніякай табе гарачыні-спякоты.

Пра спальню ж сведчылі два ложкі ля падоўжнай сцяны насупраць стала. Нават не адгароджаныя ніякай занавескай ці шырмай яны стаялі літарай «г» — адзін драўляны, на якім спала некалі яшчэ Маніна прабабуля, а цяпер сама Маня, і ўпрытык да яго жалезны — з «мяккімі» пружынамі. На кожным ложку быў сяннік, напханы саломай і засланы рудой, не адбеленай, палатнянай прасцінай. Накрываліся цяжкаватымі ад кудзелі ўнутры коўдрамі, прашытымі тоўстымі кужэльнымі ніткамі, каб пакулле тое не лямчылася і не збівалася ў адзін камяк. На дзень ложкі засцілалі вытканымі каляровымі дзяружкамі з рознымі ўзорамі.

Жалезны ложак добра асвоілі Іван і ягоны сынок Толік. Пад цяжарам іхніх цел пружыны прагіналіся ледзь не да зямлі, таму пад іх падклалі дошкі, і тая пругкасць ужо ніяк не адчувалася. Калі Толік нечага сердаваў ці проста песціўся, ён прасіўся да маткі і начаваў тады разам з ёй. Зараз жа ён спаў адзін на бацькавым ложку, шырока раскінуўшы ручкі і ножкі, соладка ўсміхаўся ў сне. Мо яго казытаў пах аладак, які цадзіўся з кухні?

Маня вялікім драўляным апалонікам налівала на скавараду цеста з дзежачкі, што стаяла побач на табурэтцы. Спрытна патрасала, нахіляла-паварочвала яе туды-сюды — каб цеста расцяклося раўнамерна. Пасля падводзіла пад скавараду вілкі і ставіла яе ў печ, каля самага вуголля, што пыхкала жарам, на колішнюю снарадную гільзу, цяпер так пачарнелую і абгарэлую, што і пазнаць нельга ад чыйго снарада — савецкага ці нямецкага. Хапала на полі яшчэ ўсялякіх. Вось і знаходзілі ім гаспадарскае скарыстанне — каб не марнаваліся без патрэбы. Найбольш увішныя навучыліся рабіць з латунных гільзаў конаўкі для вады і прадавалі іх на базары ў Снове. Гэткім кубкам зносу не было.

Маня старалася не грукаць скаварадой, не грымець вілкамі, каб не трывожыць самы салодкі сынаў сон. Але ўжо чутна было, як ён варочаецца на ложку, бо і салома ў сенніку шуршыць, і дошкі пад ім патрэскваюць. Так, Толіка і праўда разбудзіў кухонны пах — надта ж любіў ён аладкі з вішнёвым варэннем. Найбольш дзеля сына і старалася Маня.

Іван ледзь свет пайшоў з касой на поплаў — укасіць травіцы для цялушкі. Касіў у рове, што некалі, яшчэ за польскім часам, пракапалі для адводу з сенакосу лішняй вады. Там менш прыкметна, а то выходзіла б, што прагны хутаранін, ды яшчэ дэпутат, крадзе калгасную траву, а к*а*ра за гэта была жорсткая і немінучая. Не абміналі пакаранні і хутар, дзе, здавалася, ніхто нікога не бачыць, а тым больш ніхто ні за кім не сочыць. Ды, аказваецца, і лебяда з крапівой маюць вушы і вочы, бо не аднаму мужыку прыпаялі штраф за шкоду калгасным палеткам то ад курэй, то ад кароў. Вось толькі адна загадка заставалася: як тыя лебяда з крапівой перадавалі свае даносы калгаснаму начальству, бо яны ж не толькі нямыя, але і непісьменныя.

Добры стос пульхных аладак ужо ляжаў на стале, прыкрыты чыстым кужэльным ручніком, каб не астывалі, пакуль прыйдзе з поплаву Толікаў бацька, і ўсе яны сядуць за стол, няспешна і апетытна жуючы аладку за аладкай, адзін — бо трохі вымерхаўся, парадкуючы ранішнія справы, другі — набіраючыся сілы на дзень, каб добра гуляць-забаўляцца.

Іван акуратна памыў рукі і твар, выцерся вялікім кужэльным ручніком і зайшоў у залу. Стаў перад іконамі і ціхімі словамі пачаў сваё ранішняе маленне. Маліўся, як звыкла, не надта доўга, але шчыра. Пазіраў на абразы, схіляў галаву, шаптаў малітвы, прыкладаючы да грудзей правы кулак. І заканчваў малітвай «Ойча наш». Толік не падаваў знаку, што не спіць, сцішыўся на пасцелі і ў каторы раз слухаў бацькава маленне, праз шчылінкі вачэй назіраў за ім, дзівячыся ягонай заўсёднай шчырасці.

Затым усе разам селі за стол на кухні.

Але не паспелі з'есці і па аладцы, як на абсаджанай вішнямі сцежцы, што вяла ад хаты Толікавага дзеда Яся і бабы Гандзі, пачулася туркатанне колаў і фырканне каня.

— Каго гэта нясе нячыстая гэдак рано? — вызірнуў у акно Іван. — Няўжэ зноў упалнамочаныя?

— А халера іх ведая. І праўда, прэцца нехто ні свет ні зара, — спалохана прамовіла Маня. — На возе. Мо нехто бачыў, як ты ў рове траву касіў, га? Забіраць едуць. Языкоў людзям не завяжаш.

— Не, ні павінны. Каб і бачыў хто, то гэдак скоро ні данёс бы.

— І ні ўпалнамочаныя гэта. Бо много іх. А ты еш, сынок, ні глядзі ні на кого, — папрасіла Маня Толіка і даліла з паўлітровага слоіка варэння, якое малы размазваў лыжкай па пульхнай і наздраватай аладцы — прамоклая, яна больш смачная.

Маня яшчэ раз зірнула ў акно: цікава ўсё ж — хто там. Не, што не ўпалнамочаныя, то пэўна. Але хто ж тады?

І нечакана ёй згадалася зусім іншае, што цяжка звязаць з сённяшнім днём.

## 7

Светлы, крышку шараваты ад марознага паветра зімовы ранак. Прытуманенае сонейка толькі-толькі выкацілася на неба з таго боку, дзе хата дзеда Яся. Туды ад Іванавай сядзібы вядзе тупкая палявая сцежка-дарожка, вясной і летам моцна падзялененая бабкай, трыпутнікам і іншай палявой травой. Цяпер жа, што праўда, не відно ні сцежкі, ні травы. Густы сняжок, які падаў апошнімі днямі, зраўняў усё чыста, што й не разбярэш, дзе дарога, а дзе поле. Адна суцэльная белізна, якая мігціць шматлікімі блёсткамі. Марозныя сняжынкі яшчэ не зляжаліся, не прыціскаюцца адна да адной, а натапырваюцца, быццам намагаюцца адарвацца ад зямлі і зноў падняцца ў неба. Ад гэтага снежнае пакрывала здаецца пульхным, як Маніны аладкі. Сонца ж свеціць з усёй моцы, быццам хоча дадаць сняжынкам сілы, каб адважыліся на нябесную дарогу назад. Вось яны і блішчаць ад радасці.

Але не толькі гэта захапляла Маню. Яе позірк прыцягваў роўненькі шнурочак слядоў. Дзіўна выглядалі яны на гэтай белай роўнядзі. Нідзе нічога, а тут — чалавечыя сляды. Адны на ўсё бязмежнае наваколле. Гэта яе Іван праклаў сваю дарожку ў свет, да людзей, да людскога хаўрусу. Пайшоў у калгас, на працу, як дзень пры дні гэта робіць. Ён пайшоў, а сляды ягоныя засталіся — тут, удома, з Маняй і Толікам. Каб не забываліся на мужа і татку. Так думалася Мані. Яна неверагодна доўга, ажно да слязлівасці вачэй, пазірала на гэты дзіўны шнурочак — знак чалавечай прысутнасці ў светлай прыроднай маўклівасці. Ёй станавілася цёпла, утульна і прыемна. Маня брала на рукі Толіка, прыціскала да грудзей, цалавала, паказвала на акно і казала:

— Запомні, сынок, гэта сляды твайго таткі. Мо некалі яны стануць і тваёй дарожкай. Не, не дарожкай — шырокай дарогай… З хутара ў Вялікую Ліпу, дзе школа… А мо і яшчэ далей… У Нясвіж, альбо ў Баранавічы. Ці, можа, у сам Мінск, — на гэтых словах Манін голас ажно затрымцеў ад хвалявання…

Маня цяжка ўздыхнула, паправіла на галаве касу.

А на надворку ўжо чуваць гучны чужы голас:

— Дзе тут гаспадары? Чаго так доўга спіце, ліха вашай матары, — жартаўліва лаяўся нехта яшчэ нябачны.

— Дак хто вам сказаў, што спімо, га? — выйшаў на надворак Іван, выціраючы рукой салодкія ад варэння вусны і шкадуючы, што не далі пад'есці. — Не пазней за вас паўставалі. І ўжэ работы перарабілі колькі, ажні патаміліся, — як бы апраўдваўся ён, а ў самога нешта трывожнае тарганулася ўнутры.

На падводзе прыехалі калгаснікі з Вялікай Ліпы, але чаго, то Іван яшчэ не ведаў, хоць і здагадваўся. Неўзабаве на матацыкле на двор укаціўся брыгадзір. Тут ужо не вытрымаў і Толік. Следам за маткай выбег на надворак, пакінуўшы

недаедзенай сваю любімую аладку, хоць кавалак яе паспеў запхнуць за шчаку і цяпер ваўсю малаціў зубамі. Крутнуўся ля бацькі і стаў на парозе, прытуліўшыся да маці, якая са скрыжаванымі на грудзях рукамі неўразумела стаяла ў сенях, няўцямна пазіраючы на гэтую нечаканую кампанію. Толік на ўсе вочы пазіраў на брыгадзіраў матоцык, бо першы раз бачыў гэтую чартапхайку.

Усе маўчалі і пачакальна зіркалі адны на адных. На тварах людзей — і прышлых, і тутэйшых — бачылася незадаволенасць. Адна розніца, што ў гаспадароў да яе дамешваўся прыкметны страх ад невядомасці: зваліліся, як снег на галаву, і невядома чаго прыджгалі. Незадаволенасць спараджалі адны і тыя ж эмоцыі: усім ім не далі даснедаць, паднялі з-за стала дачасна, як бы нешта гарэла і трэба было тэрмінова тушыць. Толькі што?

Іван наважыўся запрасіць нязваных гасцей у кухню: Бог з імі, з аладкамі, хай пакаштуюць прыезджыя, якія смачныя пячэ ягоная Маня, але ў гэты момант у вішнёвых прысадах паказаўся «бобік» — старшынёва машына, тут памылкі быць не магло, бо акрамя Гарушкі ніхто на машыне не ездзіў.

Трывога і незразумелы страх апанавалі не толькі Маню. Іван таксама з-за страху сонца не бачыў, пачуваўся не вельмі ўпэўнена, хоць здагадка пра прычыну гэткага шматлюддзя на ягонай хутарской вотчыне круцілася ў галаве. Не раз ужо калгаснікі прыцішанымі па звычцы галасамі меркавалі пра маючае быць ссяленне з хутароў. Казалі, ёсць такая папера зверху, загад такі, не выканаць які не пасмее ніхто. Бо высокім начальствам падпісаны. Не раённым і нават не абласным. А тым, што на самай высокай вышыні. Ці то ў Мінску, ці мо ў самой Маскве. Сэнс яго адназначны і не падлягае сумніву — ссяляць усе хутары, як непатрэбныя калгасам перажыткі мінулага, што замінаюць людзям ладзіць свабоднае калектыўнае жыццё. Каб не нагадвалі пра жытку за палякамі. Але ж то былі размовы-чуткі. А тут? Падобна, чуткі станавіліся самай нечаканай і таму злоснай рэальнасцю акурат на Іванавым двары.

## 8

Як ні мяняецца час, якія новыя людзі ні прыходзяць на гэтую зямлю, а хутар Язавец жыве па сваім, невядома кім і калі заведзеным гадзінніку. Не абмінае яго сонца, не стамляюцца цікаваць за ім зоркі з месяцам, не перастае адганяць пыл нястомны вецер, не глухнуць тут грамы, не губляюць бляску маланкі, не абяссільваюцца асвяжальныя дажджы і грозныя навальніцы. Язавец працуе, адпачывае, святкуе, напружваецца — каб не горш як у людзей. Хоць і не шыкуюць хутаране, ды неяк зводзяць канцы з канцамі. Калі надарыцца госць, годна прымуць, добра пачастуюць. Ды і самі на святы не прыбядняліся, стараліся адзін перд адным паказаць самае лепшае. Не толькі белыя булкі з пытляванае мукі пяклі, але найбольш увішныя і здатныя гаспадыні нават макароны свае рабілі. Ад дзядоў і бацькоў перанялі: як дбаеш, так і маеш. Але запомнілі і іншае: век звекаваць — не толькі добрае спазнаць.

Не заўважылі, як Новы год з Калядамі набеглі. Яшчэ адзін гадок закаціўся за хутарскі поплаў. На гэты раз бацькі вырашылі пацешыць Толіка, паказаць, што і ў цёмнай хаце можа быць свята. Узялі і паставілі на покуці ёлку, чаго ніколі раней не рабілі. Самую сапраўдную, бацька доўга ў Школьным лесе выбіраў. Тым самым, які некалі, пры паляках, школе належаў — адкуль і назва ягоная, і дзе ў першыя месяцы апошняй вайны Іван разам з братам Мікалаем ноччу, тайком, каб не бачыла чужое вока, пахаваў забітага партызанамі немца — не па-людску ж, калі цела не аддадзена зямлі, ды і пах нядобры,

бо гарачыня на двары. Пахавалі так, каб і самім не знайсці: пад самай елкай выкапалі магілу, зверху дзёрнам заклалі і нават мінулагодняй ігліцай прысыпалі. Ніхто не бачыў. Аказалася, не так усё проста — таму і вострая іголка, каб ніхто не схаваў яе. Знайшлося нядрэмнае вока, выцікавала. Жорык Бандзюкоў неяк перастрэў Івана, паразмаўлялі пра сёе-тое, а тады Жорык і кажа, нібыта між іншым, а сам так пільна ў вочы пазірае, што, здаецца, вось-вось уколе:

— Ці не ведаеце вы часам, дзядзька Іван, хто гэта немца, бандыта зламыснага пахаваў, га? Бачыў я, як партызаны з ім расправіліся, а вось хто і дзе яго закапаў, не дагледзеў…

— Дак жа ты бліжай да лесу жывеш, табе відней, а я ні бачыў. Чаго ты мне мазге пудрыш, га? — трохі зласнавата адказаў Іван.

— Не, я то нічога такога, але цікава, хто шкадуе забойцаў гэтых, каму жаласць слёзы наганяе і рукам волю дае.

Вытрымаў Іван Жорыкаў позірк, не даў маху. Але сабе зарубку зрабіў: не займайся ты з ім, бо ягоная пільнасць табе клопату дадасць, да торбы альбо да турмы давядзе.

На ўскраіне Школьнага лесу і выбраў Іван зялёную прыгажуню. А вось цацак на яе не было: купілі б сяло, ды грошай гало. Ні капейкі ў запасе. Ды і дзе ты на хутары тыя цацкі знойдзеш. Гэта так падманвалі сябе Іван з Маняй, бо, каб захацелі, то на Сноўскім базары за прададзеныя яйкі маглі б набыць хоць пару тых шкляных шароў, што так бліскуча на галінках ёлкі раскашуюць. Абышліся сваімі сіламі — нарабілі цацак з паперы, праўда, не знайшлі белай, скарысталі старыя газеты, ланцужкі з іх аказаліся доўгімі і нават цікавымі — можна рэшткі газетных здымкаў разглядваць. Фанцікаў накруцілі, ліхтарыкаў. Акрамя таго, хімічным алоўкам, бо іншых не было, мама размалявала пустыя яечныя шкарлупіны — сапраўдныя лялькі атрымаліся.

А пасля і неспадзяванка надарылася. Баба Гандзя прынесла Толіку — яна так і сказала: «Толіку» — ажно тры сапраўдныя шкляныя ёлачныя цацкі. Магазінныя! Дзед Ясь у Снові купіў, сказала. Гэта былі салдацік, шышка і нейкая пташачка. Толік апынуўся ажно на сёмым небе — і ад радасці, і ад гонару: яму, менавіта яму купілі такі каштоўны падарунак. Ды тут новая неспадзяванка — ноччу ёлка паваліліся, як сказаў тата, мышы яе пакацілі. А разам з гэтым разбіліся ўсе тры шкляныя цацкі, ажывіць іх не дапамаглі і Толікавы слёзы. Ён плакаў так горка, што не маглі супакоіць ні маміны суцяшэнні, ні татавы пагрозы.

Ды не скончыліся на гэтым неспадзяванкі. Яшчэ адна чакала Толіка. На гэты раз добрая. Як сталі падымаць ёлку з зямлі, Толік убачыў каля яе папяровы пакуначак. Думаў проста скамечаная папера. А калі падняў, пакуначак аказаўся важкім. Не заўважаў Толік, як хітравата сочыць за сынам тата. Разгарнуў хлопец паперу, а там… цукеркі. Самыя сапраўдныя. Падушачкі. Толікавы любімыя. І не адна жменя. Перастаў плакаць Толік, тату з мамай хваліцца, іх частуе. А мама і кажа:

— Гэта табе Дзед Мароз прынёс.

— Дзед Мароз? — дзівіцца Толік. — А хто гэта такі? І калі ён прыходзіў, га? Я ні бачыў яго.

— Дак ён заўсюды нябачным прыходзіць, — патлумачыў тата. — І ціхенько падарункі пад ёлку кладзе.

— Так, гэта праўда, — пацвердзіла мама і дадала: — Але падарункі ён толькі добрым дзецям робіць.

— А я таксама добры? — задаў нечаканае пытанне Толік.

Тата нават разгубіўся, але адказаў:

— Раз ты атрымаў падарунак, значыць, ты добры.

Толік задаволена ўсміхнуўся і працягнуў пакуначак тату.

— Не, сынок, еш сам, гэта твой падарунак.

Але Толік не адступіўся, пакуль тата з мамай не ўзялі па цукерцы.

Коляды заўсёды вабілі Толіка сваёй таемнасцю, загадкавасцю, чароўнасцю абрадаў, якія адбываліся ў хаце. Тут і варажба, і калядныя спевы, і ажно тры куцці. Посная, якая заканчвала Піліпаўскі пост. Багатая, або Шчадрэц, прыносіла з сабой шчодры вечар, адбывалася напярэдадні Новага года, які адзначаўся 14 студзеня па новым стылі. Вадзяная куцця прыпадала на Вадохрышча, свята, звязанае з хрышчэннем Ісуса Хрыста ў водах ракі Іардан. І кожная з іх мае свае адметнасці. Іх вельмі добра ведае тата, кожны год хоць і паўтарае тое галоўнае, што павінна быць за святочным сталом, аднак жа і нешта новае, невядомае Толіку дадае.

Найбольш уражвалі Толіка два рытуалы. Першы — гэта тое, што на Посную куццю, якую тата яшчэ называў Вялікай, пад абрус на стале, што ў зале на покуці, клалі сена, раўнамерна рассцілалі яго па ўсёй паверхні. Праўда, сена клалі і на покуці, а ў яго ставілі гаршчок з куццёй, у якую была ўторкнута свечка.

— А як жа на сене будуць міскі стаяць? — пытаўся Толік. — Яны ж перакуляцца.

— Не, не перакуляцца, сынок, — супакойваў бацька. — А сена для таго кладуць, каб не забывацца, што Ісус Хрыстос у яслях нарадзіўся, дзе жывёла свойская стаіць.

Пасля бацька запрашаў за стол, на якім стаяла куцця і не менш за дванаццаць страў — як толькі маці ўдавалася нагатаваць гэтулькі — не адно сваіх аднасямейнікаў, але і не прысутных тут дзядоў, што было для Толіка найбольшым дзівам. Ён не мог даўмецца, як здолеюць сесці за стол тыя людзі, якія памерлі. Цікаўнасць брала сваё, і ён не раз, пакуль засне, цікаваў з-пад коўдры за сталом, каб не прапусціць той момант, калі збяруцца на вячэру, бо са стала нанач не прымалі ўсіх страў, нябачныя дзяды. Ды ні разу не пашэнціла яму дачакацца гэтага.

А другой незвычайнасцю для Толіка было тое, што рабіў бацька на Посную альбо Вадзяную куццю, якая вянчала Калядныя святы. Гэтым вечарам ён запальваў свечку, хадзіў па ўсіх памяшканнях і выпісваў ёю каляду — маляваў цёмныя, задымленыя полымем свечкі крыжыкі на верхняй перакладзіне вушака ўваходных дзвярэй, на іншых памяшканнях. Гэтыя крыжыкі на працягу года аберагалі хату ад усякай нячыстай сілы.

На Коляды напаткала Толіка яшчэ адна прыемнасць. Гэтым разам і Маню з Іванам. На Шчодрую куццю падышла да іхняй хаты самая сапраўдная гвязда — так, з выбуховым «г», бацька і хутаране называлі гэты незвычайны цуд. Вялікую зорку, збітую з драўляных рэечак і абабітую каляровай матэрыяй нёс адзін з хутарскіх хлопцаў. Яна не была падобнай на тую, што ў газетах ці кніжках малююць.

— Гэта Віфліемская зорка, — дасведчана патлумачыў бацька і дадаў: — Святая, тая, што некалі паказала пастухам дарогу да народжанага Ісуса Хрыста, які ў Віфліеме на свет з'явіўсё. А носяць зорку калядоўшчыкі, так заўсюды на Коляды бывае.

Толік з гэтага тлумачэння мала што зразумеў, але на ўсе вочы цікаваў, што ж далей будзе. І дзіва дзіўнае — гвязда свяцілася, міргала, а ўнутры яе нейкія звяркі бегалі. Мама патлумачыла, што ў гвяздзе гарыць свечка, а звяры тыя выразаныя з паперы, наклееныя на кардон і склееныя ў кола. Калі знізу за

спецыяльны рычажок пакручваць кола, звяркі рухаюцца ў мігатлівым святле свечкі.

У гурце калядоўшчыкаў былі падшпаркі, дзецюкі і нават дарослыя мужчыны, якія насуперак сваёй занятасці і заклапочанасці не гублялі здольнасці і жадання павесяліцца самім і пазабаўляць іншых. Бацька запрасіў калядоўшчыкаў у хату, якую маці прыбрала да свята. Адно той, што трымаў гвязду, застаўся на дварэ, прыклаўшы яе да акна. У вечаровым прыцемку гвязда свяцілася вельмі загадкава. Таямнічасці і незвычайнасці дадавала тое, што на аконным шкле пакінуў ужо свае сляды мароз — ён тонкімі ўзорыстымі ільдзінкамі размаляваў усё акно. Падсвечаныя святлом каляднай зоркі, гэтыя марозныя ўзоры выглядалі асабліва прыгожа. Госці спявалі калядныя песні, казалі добрыя пажаданні гаспадарам і нават Толіку.

Сярод калядоўшчыкаў стаяў і Манін брат Саша Назаноў, які на памяць ведаў усю паэму Якуба Коласа «Новая зямля», многія творы іншых беларускіх аўтараў. На гэты раз ён пачаў з каляднай песні:

Добры вечар таму, хто ў гэтым даму.
Добры вечар добрым людзям!
А ў гэтым даму сам пан гаспадар,
Шчодры вечар добрым людзям!
Сам пан гаспадар дый на покуце,
Шчодры вечар добрым людзям!
Дый на покуце ўвесь у золаце,
Шчодры вечар добрым людзям!
Ой, каля яго дый жана яго,
Шчодры вечар добрым людзям!
Ой, каля яе дзетачкі яе,
Шчодры вечар добрым людзям!

А той хлопец, што застаўся каля акна, таксама не сцярпеў, словы казаць пачаў:

Пане гаспадару, ці спіш, ці ляжыш,
Ці спіш, ці ляжыш, ці нас чуеш?
Адчыні акно, паглядзі ў гумно,
Што ў тваім гумне сам Бог ходзіць,
Сцірты лічыць і цябе клічыць,
Цябе клічыць, дар табе даць:
Табе самому — сто коп жыта,
А жане тваей — шубу да долу,
Сыночкам тваім — да па коніку…
Пане гаспадару, не кажы таміць,
Не кажы таміць, проша нас дарыць!
Проша нас дарыць, наш дар невялік:
Коўш гароху, рэшата бобу,
Асьміну аўса, наверх каўбаса,
А дасі другую, то яшчэ пашчадрую.
Пане гаспадару!
Аддаўшы нам дар, сам жыві здароў
З дзеткамі, з жаной і з усёй сям’ёй.

А тады Саша нечакана пытаецца ў Толіка:

— А мо ты ведаеш які-небудзь вершык?

Толік запытальна зірнуў на маму. Тая падахвоціла яго:

— Ну, давай, раскажы пра зіму. Вершык Якуба Коласа. Ты ж вучыў разам з Сашам.

Толік сарамліва пазірае на гасцей, аднекваецца.

— Ну, давай, сынок, ні бойся, — падахвочвае мама. — Памятаеш:

> Не сядзіцца ў хаце
> Хлопчыку малому…

А цяпер ты. Ну…

Толік, запінаючыся, працягвае:

> Кліча яго рэчка,
> Цягнуць санкі з дому...

— Малайчына, — хваліць мама. А Саша падхоплівае:

> — Мамачка-галубка! —
> Просіць ён так міла, —
> Можа б ты на рэчку
> Пагуляць пусціла?

— Так? Правільна, Толік?

Толік згоднаківае галавой і прамаўляе больш смела:

> — Я не буду доўга,
> Зараз жа вярнуся,
> Трошачкі на рэчцы
> Ў санках паважуся.

Мама адразу ж падхоплівае:

> — Ну, ідзі пабегай,
> Толькі апраніся
> Ды, глядзі, ў палонку,
> Сынку, не ўваліся.

Усе разам — і госці, і гаспадары дружна запляскалі ў ладкі.

— Ну, во, цэлы спектакаль атрымаўсё, — пахваліў Саша. — Хутка мы можам свой тэатр зрабіць. Праўда, Толік? І будзем хадзіць па хатах, паказы ладзіць. Не толькі на Каляды…

Толік то й не ведае, што гэта такое — той вабны для Сашы тэатр, не разумее, чаго трэба хадзіць па чужых хатах, але, каб не падводзіць яго, згодна ківае галавой.

Усе смяюцца, а мама дае гасцям ладны кавалак сала, паўбулкі з пытляванае мукі і цэлую каўбасу.

— А як жа яны падзеляць гэта? — ціхенька пытаецца Толік. — Іх жа много.

— Нічого, — супакойвае Валодзік Кусабуцкі, — падзелім папраўдзе. Або мне каўбаса, а твайму Сашу булка, або твайму Сашу булка, а мне каўбаса, — залівісты смех заглушае яго словы.

На адыход калядоўшчыкі жадаюць Гэтэвічам:

— Хай шчодрыя Калядкі ніколі не мінаюць вашай хаткі.

— Дай, Божа, кожнаму з вас усё ўмець, ды ні ўсё рабіць.

— Пакідаем вам шчасце-долю і сала ўволю.

— Будзьце багатыя, як зямля, і шчодрыя, як небо.

— Будзьце здаровыя на ўвесь год, як калядны лёд.

— Ага, будзьце здаровы, жывіце багата. І не толькі на свята.

— А ты, Толік, вялікі расці, добра гадуйся і да вяселля рыхтуйся.

А нехта зусім жартоўна:

— Каб у вас заўсюды ўсё было і вам за гэта нічого ні было…

## 9

Госці пайшлі, а Маня да самай ночы спявае калядныя песні. Толік заўсёды з нейкім асабліва шчымлівым пачуццём слухае маміны спевы. Так і сёння. Слухаў-слухаў, а тады нечакана вырашыў дапамагчы. Падпець захацеў. Але зацягнуў так, што і самому сорамна стала, бо тое крычанне, каб і захацеў, спевамі не назавеш.

— А чаму ў мяне ні выходзіць песня? — пытаецца. — У цябе вэнь як хорашо, а ў мяне абы-што…

— Бо табе мядзведзь на вухо наступіў, — смяецца мама.

— Але ж я чую добро, а спяваць ні магу. Ты ж таксама ні вушамі спяваеш. Чаму так?

— А каб жа я ведала, мой ты сыночак, — сур'ёзна адказвае мама. — Так людзі кажуць. Пра тых, хто спяваць ні ўмее. А чаму на вухо наступіў той мядзведзь, то я і сама ні ведаю. Твой бацько тожа ні падпявае нікому. Бо, бывая, так зацягне басам, як воўк часам. Я ж спяваю, як само спяваецца. Як падрасцеш, то і ты навучышся, ні бядуй.

І мама зноў за спевы ўзялася. Нават паклаўшы Толіка спаць, не сціхла. Шчырыя, добрыя, задушэўныя, вясёлыя, працяжныя, сумныя калядкі доўга гучалі ў Іванавай хаце.

Учора звячора зора засвяціла,
Новы год, новы, зора засвяціла.
А Божая Маці Сына нарадзіла,
Новы год, новы, Сына нарадзіла.

Сына нарадзіла, у пялёнцы спавіла,
Новы год, новы, у пялёнцы спавіла.
У пялёнцы спавіла, анёлам сказала,
Новы год, новы, анёлам сказала:

«Анёлы святыя, калышыце Сына,
Новы год, новы, калышыце Сына.
Калышыце Сына, пойце Яму песні,
Новы год, новы, пойце Яму песні.

Пойце Яму песні, да ўсё і святыя,
Новы год, новы, да ўсё і святыя».
Усе людзі рады, усе весяляцца,
Новы год, новы, усе весяляцца.

На Божага Сына ўсё не наглядзяцца,
Новы год, новы, ўсё не наглядзяцца.

Слухае Толік маму, а думкі паплылі далёка-далёка ад дому. У ягоным уяўленні паўстае ўсё, аб чым матуля спявае. І вельмі ж дзіўным выглядае тое бачанне, ні вачам, ні вушам не дасі веры. А тады раптам такім блізкім і знаёмым здасца пачутае, што лёгка паверыць у яго, згадзіцца, што ўсё спеўнае адбывалася менавіта тут, на іхнім хутары, на Нясвіжскім Язаўцы.

А мама не сціхае, спявае і спявае:

Ціхая ноч, святая ноч!
Усё спіць, спіць даўно.
Толькі Маці Святая усцяж
Ціха ў яслях люляе Дзіця:

«Спі, Сыночак малы, люлі-люлі, спі!»
Угары усё гарыць

Срабром зорных крыг,
Хор анёлаў пяе пастухом
Аб Дзіцяці, што будзе Хрыстом,
Светлай песняй хвалы
Славяць Збаўцу зямлі.

Ціхая ноч, святая ноч,
Ў родны край завітай,
Людзям сум і тугу разгані,
Хай жа цешацца ў гэтыя дні,
У ціхую, святую ноч,
У ціхую, святую ноч!

Толік не даслухаў да канца маміных спеваў — заснуў. І прыснілася яму, што трапіў ён у густы-найгусты лес, не такі нізкарослы, як іхні Школьны, а ў самы сапраўдны — высокі, з магутнымі і кашлатымі елкамі. З гушчару з усіх бакоў песні чароўныя чуюцца. Таксама пра ціхую і святую ноч. А хто спявае іх, то й не зразумееш, бо нідзе нікога не відно. І раптам Толіку пачуўся нейчы голас:

— Гэта лясныя анёльскія спевы. Лес вітае цябе з Новым годам і святым святам Божага нараджэння. Слухай і сам вучыся…

«От добра, — думае Толік, — вярнусё дадому і буду разам з мамай спяваць…»

Нечакана бліжэйшая да Толіка елка сваю махнатую галіну-лапу падае — вітаецца з госцем. Разгубіўся Толік, не ведае, як адказаць велічнай гаспадыні. А тады працягнуў сваю руку ў рукавіцы і лёгенька, каб не пашкодзіць, пацiснуў мяккія іголкі. Елка ж пачала кланяцца — варушыць усімі сваімі магутнымі галінамі. А песні загучалі яшчэ мацней, на гэты раз не толькі з-за елак, а і аднекуль з вышыняў.

Закруціўся Толік на месцы, каб убачыць тых спевуноў, ды нідзе нікога. І раптам песня ацiхла, а замест яе пачалося шматгалосае птушынае пяянне. На ўсе лады і галасы, якія толькі можна прыдумаць, гучыць, звініць, трашчыць, чырыкае, заліваецца лес. Толік ажно вочы прымружыў ад захаплення.

— А чым жа я аддзячу вам, мае вы спевуночкі? Німа ў мяне нават крошак, — і ў доказ гэтага Толік запусціў руку ў кішэню, каб вывернуць яе, пустую.

Ды нечакана рука намацала не толькі хлебныя крошкі, а нават зернейкі жыта і цукеркі падушачкі. Дзівіцца Толік гэткай прыемнай неспадзяванцы, прабачэння просіць:

— Даруйце, пташкі, што пашкадаваў вам кашкі. Вось вам падзяка мая.

І высыпае на снег крошкі, зярняткі, кідае пад елкі падушачкі. І ніколечкі не шкада яму сваіх любімых цукерак: хіба ж можна шкадаваць нечага таму, хто табе дабро і прыемнасць робіць?

А тут новы голас прагучаў:

— Час табе дадому ісці, хлопча. Мама зачакалася, каб не спалохалася тваёй адсутнасці.

А куды ісці, Толік не ведае. Куды ні зірне, няма дарогі, адно елкі махнатыя сваімі вялізнымі галінамі-лапамі хістаюць. Круціцца Толік на месцы, пад елкі заглядвае — мо там сцежка якая відаць. Нідзе нічога. А цемра, здаецца, яшчэ гусцейшай стала, выцягні руку, то й пальцаў не ўбачыш. Страх падбіраецца да хлопца. А ў страху, як вядома, вочы вялікія. У Толіка таксама вочы круглымі сталі. Нечакана позірк ягоны да неба скіраваўся. А там — зорка яркая, ад святла, здаецца, лопнуць гатова. Падміргвае Толіку, дарогу яму паказвае. Рушыў хлопчык на тое вабнае святло-мірганне. І раптам зноў песня маміна загучала:

«Спі, Сыночак малы, люлі-люлі, спі!»
Угары усё гарыць
Серабром зорных крыг…

Толік усміхнуўся, да мамы ручкі свае выцягнуў. Рэальна, а не ў сне. А яна папрасіла:

— Не раскрывайся, сынок, а то холадно будзя.

Папраўіла коўдру, пацалавала сына ў шчочку, пажадала добрай ночы, і песні-калядкі зноў паплылі з яе вуснаў…

## 10

Пасля Каляд дні пакаціліся да Вялікадня. Падрослыя хутарскія хлопцы-падшпаркі, Толіка бацькі яшчэ не пускалі, хадзілі па хатах, збіралі фарбаваныя яйкі — велікодныя валачобныя.

Затым у веснавых працоўных клопатах хутаране чакалі лета. Работа не давала прысесці. Парыліся пад сонцам, пацелі ад нязноснай працы ў спадзеве на добрыя набыткі і восеньскую лагоду. А каб было не так горача, заўсёды хадзілі басанож, так казаў больш адукаваны калгасны брыгадзір. Хутарская рэальнасць у каторы раз даказвала: працаваць — не языком малоць, а языком малоць — не дровы калоць.

Пазней сваёй беллю вабіла і дзівіла хутаран блёсткамі раўнюткае заснежанае поле, клікаў да сябе бліскучы лёд Сержановага лугу. А там зноў — Каляды-Коляды. Калядкі — добрыя святкі…

Так і нясуцца няспынна і нястомна дзень за днём, месяц даганяе месяц, год змяняе год. Ад усходу і да заходу сонца не маюць хутаране спачыну. Ад вясны да лета, ад восені да зімы. Ад нараджэння да смерці. І так круг за кругам. Дзе бокам, а дзе скокам. Дыхнуць няма калі, працуй хоць цэлыя суткі, а ўсёй работы не пераробіш. Здаецца, каб і цалюткую ноч калупаўся, і то не паспеў бы. Хоць ты суткі надточвай, каб даўжэйшыя былі. Як ні падаўжай дзень за кошт сну, а не меншае прарэх і недаробленых спраў.

Ды што там дзень альбо вечар — цэлага жыцця не хапае, каб дайсці да ладу, адчуць сапраўдную асалоду ад пражытага, мець радасць ад зробленага. Жываты да спіны папрырасталі. Бо вядома, што не хлеб за жыватом бегае, а жывот за хлебам. Мо таму ўсё жыццё то бягом, то подбегам, усё з аглядкай на недаробленае. Не агледзішся, як і з гэтага свету давядзецца сыходзіць — з адчуваннем віны за нявздзейсненае, няспраўджанае і недажытае. Сынам і дочкам, унукам і праўнукам застанецца абавязак — дарабіць, дакончыць, даспяваць, дажыць. Але і іх чакае тая ж доля, што ў іхніх сваякоў і родных была: пакінуць сваім наступнікам недаспяванае і недамалочанае.

Адно ўсцешна: не чакалі манны нябеснай, не сядзелі карчом — нешта рабілі, дзейнічалі, варушыліся, вучыліся ў прыроды. А гэта самая дасканалая школа, якая вучыць дабру, кемнасці, працавітасці, настойлівасці, абачлівасці, ды хіба пералічыш усе цікавосткі, якія мае прырода, і якімі яна не супраць падзяліцца з тымі, хто гатовы стаць яе партнёрам, супольнікам, сутворцам, а не намагаецца бяздумна гаспадарыць, браць і браць з яе прыпасаў, бязмежна карыстацца яе багаццямі, падпарадкоўваць усё сваім эгаістычным інтарэсам. Нездарма найбольш дасціпныя перайначылі вядомае мічурынскае выказванне, якое стала гучаць зусім з іншым сэнсам: мы не можам чакаць літасці ад прыроды, пасля таго, што мы з ёй зрабілі.

Ды ўсё-ткі ў гэтым неаб'яўленым супрацьстаянні чалавека і прыроды, відаць, першынство належыць капрамісу. Прыродзе не ўдаецца вылузацца з-пад улады чалавека, а чалавек на здольны апанаваць прыроднымі сіламі да той ступені, каб цалкам падпарадкаваць іх сабе. Дбайныя гаспадары паспяваюць сёе-тое карыснае пасеяць. А пасеянае абавязкова прарасце, узыдзе, зарунее, пацягнецца да сонца, набярэцца моцы, закаласіцца, выспее, папросіцца ў засекі, у сэрца, у душу, каб вырасціць з немаўляці рупнага чалавека, выхаваць дбайнага гаспадара, хоць і часовага на гэтай зямлі, ды сапраўднага пераемніка бацькоўскіх звычак працаваць да знямогі, жыць да радасці, гараваць цярпліва, весяліцца шчыра. Жыць у няспынных і нястомных клопатах, хоць, напэўна, калі б не стала гэтых клопатаў, то і жыцця сапраўднага не было б. Няхай сабе не заўсёды ў дастатку, няхай не кожны дзень са скваркай, але ж — жыць. Жыць, каб пасля раптоўна спатыкнуцца, а затым і зусім сысці ў нябыт, пакінуць гэты куточак, з якім зрадніўся, зжыўся, які хоць і выцягвае жылы, адбірае сілы, ды ўсё адно — найлепшы і наймілейшы за ўсе іншыя, мо і больш прыгожыя.

Бо ён — на *гэтым* свеце, сярод сваіх людзей, з якімі і гараваць, і шыкаваць лягчэй. Як *тут* бывае, то кожны ведае, а што і якое яно *там*, на *тым* свеце — на яго вышынях ці мо ў самых глыбокіх глыбінях апраметнай: што каму лёсам наканавана і пражытым жыццём заслужана, то аднаму Богу найвышняму вядома.

Так, людзі разумелі: *гэты* свет не заўсёды быў добрым да іх. А які *той,* нябачны і не асвоены, то хто ж яго ведае. Некалі, Маня помніць, нястомны на выдумкі дзед Мацейка пытаўся і ў сябе самога, і ў тых, што слухалі:

— От пайду я ад вас у *свой* свет. І ці буду я тагды ведаць, як вы там, на *тым* свеці жыць будзеце?

Дзеда Мацейку тады не ўсе разумелі, а вось у Мані словы гэтыя моцна заселі ў галаве. Доўга не давалі спакою, ажно пакуль яна не ўсвядоміла: гэта ж для жывых *той* свет завецца *тым* — нездарма кажуць: на тым свеце пабыў, калі некаму кепска стане. А для памерлых? Для іх жа *той* свет становіцца іхнім — *сваім, гэтым*, значыцца. А *гэты*, цяперашні, туташні, дзе ўсе яны сёння жывуць, будзе называцца для іх *тым*?

Во якая загадка жыцця, аказваецца…

## 11

Недзе за тыдзень да прыезду на Іванаў надворак нечаканых гасцей з калгаса адбылася тут дзіўная, але, як аказалася, знакавая, сустрэча-гаворка. Іван раненька ў калгас пакіраваў. Маня ж звыкла па гаспадарцы тупала, разважаючы над сэнсам іхняга хутарскога і чужога вясковага жыцця. Шукала перавагі таго і другога. Але прыплысці да нейкага аднаго берага не магла. Сама называла выгоды то хутара, то вёскі. А пасля сама ж выкрывала іхнія недахопы. Чаго аказвалася больш, то й не разбярэш.

Пакуль яна такім чынам «хвіласофствавала», як сказаў бы Валодзік Хвілосаф, на надворку азваўся нейкі мужчына. Аказалася, во дзіва дзіўнае, прыйшоў сам Хвілосаф. Як быццам пачуў Маніны развагі. У яе ж і праўда, калі ўбачыла яго, нешта ажно ёкнула ў грудзях — рэдкае супадзенне.

— Хто тут жывы? — паклікаў ён.

— Дак усе жывыя, — адказала Маня, прывітаўшыся. — А хто табе патрэбны, га?

— А ці ўдома Іван? — спытаў Хвілосаф. — У мяне, та-скаць, да яго справа.

— А я ні памагу табе? Хоць і злева, а не справа, — нечакана для сябе змайстравала Маня жарт.

— Чаму ж не? Паможаш, та-скаць, калі захочаш. Праўда, справа для мяне важней, — у тон Мані адказаў Хвілосаф, крыху памаўчаў, нібыта над нечым разважаў, а тады прамовіў: — Мне цвікоў са жменю трэба. Адно прасла плоту, та-скаць, разваліласё, дак трэба штакецiны прыбіць.

Цвікі на хутары тым часам, як і іншыя жалезныя прычындалы, былі асабліва вострай патрэбай. Бо дзе ты іх купіш тут? Трэба самае малое ў Сноў дабірацца. Ды і не танна каштавалі яны, асабліва для тых, у каго не рублі ў запсе, а адны капейкі. Таму Маня не спяшалася адказаць згодай.

— Ой, мой ты Валодзічак, я то мо і пашукала б, дзе яны, але ж ні ведаю, ці ёсцека тыя цвіке, і колькі іх там, мо лепей хай сам Іван імі распарадзіцца. Добро?

— А калі ён прыйдзе?

— Дак толькі вечарам, пасля работы.

— Ну, ладна, — згадзіўся Хвілосаф, але сыходзіць з надворка не спяшаўся.

— А што ты там добраё на свеці чуў? — задала пытанне Маня, каб не стаяць моўчкі. — Ты ж больш рухавы і дапытлівы, — пахваліла.

— Дак пра далёкаё я ні ведаю, — адказаў Валодзік. — А блізкаё ні вельмі добраё, та-скаць. А то і саўсім кепскаё.

— А што ж такоё сталасё, Валодзічак, га? — заклапочана спытала Маня.

— А ты хіба ні чула? Маладую дзеўку знайшлі ў прысадах каля дарогі, што са Снові ў Нясвіж. Нехто наздзекаваўсё і задушыў.

— А Божачкі, — пляснула рукамі Маня. — А хто ж там што натварыў? А чыя дзеўка? — спытала.

— Яшчэ ні знайшлі, чыя.

— А тых ці таго, хто гэдак напаскудзіў, знайшлі?

— Ты што? — здзівіўся Хвілосаф. — Яны ж ні сядзелі каля яе. Зрабілі сваю чорную справу і прапалі, та-скаць, уцяклі.

— І Пахомаў ні злавіў іх?

— Які табе Пахомаў. Там цэлы бобік міліцыі з Нясвіжа прыехаў. Шукаюць.

Маня не на жарт спалохалася: каб на іхнім хутары, ці мо больш пэўна — каля хутара, бо дарога тая крышку ўбаку, ды такое дзікае і недарэчнае здарэнне? Ніколі нічога падобнага не было, а тут…

Яны памаўчалі, думаючы кожны пра сваё. А тады нечакана Маня прызналася:

— А ты ведаеш, Валодзік, я тут без цябе тваім дзелам займалася.

— Не даходзіць нешто, та-скаць. Якім маім дзелам?

— Дак хвіласофствавала, як і ты, — Маня ледзь вымавіла гэтае цяжкае слова.

— Ну то й добро, — згадзіўся Валодзік. — Мне весялей будзе. Удваіх лягчэй праўду шукаць. А што ж цябе на хвіласофію, та-скаць, пацягнуло?

— Дак жыццё. Пра жыццё ўсё думала. Ці мо лепей сказаць пра смерць і жыццё.

— Ого! — здзівіўся Хвілосаф. — Гэта ўжо, та-скаць, вельмі высокая матэрыя. І што ж ты надумала?

— Ды вось меркавала, колькі за час свайго жыцця зямля забрала да сябе людзей, — Маня запытальна зірнула на Валодзіка, але той маўчаў, і яна пра-

цягвала: — Думаю, вельмі многа. Але ўсё мала ёй, забіраючы і забіраючы. І мала хто сыходзіць туды па сваёй ахвоці. Праўда ж? — спытала. — Хіба што тыя, хто сам засіліцца. Але такіх жа ні вельмі многа. Праўда? — спыталася зноў і на гэты раз ужо чакала адказу.

— Канешне, ні многа, — згадзіўся Валодзік, але ў далейшыя развагі не ўключаўся, бо не раскатурхаў яшчэ сваю хвіласофскую думку.

— А хто ж тады вызначае, калі і якому чалавеку пара развітвацца з *гэтым* жывым светам, га? — задала пытанне Маня. — Пакідаюць жа яго не толькі тыя, хто шмат пражыў і добра напакутаваўсё, а і саўсім маленькія дзеткі. Тыя, хто не паспеў ні нарадавацца, ні наплакацца. Саўсім кароценькім аказваецца іхні зямны шлях. Праўдзівымі анёлачкамі выпраўляюцца яны на неба. Тады само сабой задаецца пытаннё: а за што?

— Ну, вядомо за што — за грахе, — адказаў Валодзік.

— Іш, які быстры. Але скажы ты мне, чалавеча, за чые грахе, га? Во дзе штука. Няўжо маленькае дзіцятко, якое яшчэ ніводнага слоўка ні прамовіло, паспело так моцно саграшыць, што ні мае права на *гэтым* свеці пажыць?

— Дак мо расплачваецца яно не за свае грахе? — ужо на поўны свой хвіласофскі розум пачаў уключацца ў размову Валодзік. — Мо дарослыя, та-скаць, людзі, таты з мамамі так награшылі, што грэх гэты і дзецям іхнім астаецца?

— Але як жа ты вылічыш вагу таго граху кожнаму? Як? — насядала Маня. — Бо няма такіх вагаў, няма і бязмена такого, каб адмералі гэтаму дапушчальную норму, а таму недапушчальную. Як і хто праводзіць тую рысу, за якую ні можна заходзіць?

— Я думаю, ты ведаеш, што згодно са Святым пісаннем Бог дараваў грахі і вельмі вялікім грэшнікам. Нават таму разбойніку, які быў укрыжаваны побач з ім, дазволіў, та-скаць, у рай трапіць. Значыць, існуе такая верагоднасць.

— Ды як распазнаць яе нам, жывым людзям? Нас жа не толькі спакусы жыццёвыя пад'юшчваюць, але і чэрці штурхаюць у грахоўную бездань. Выходзіць, у пекло, га? А як абараніцца ад усяго заганнаго? Як? — усё больш залазіла ў глыбіні Валодзікавай хвіласофіі Маня.

А ці толькі Валодзікавай? Мо і ён не ведае ўсёй вышыні чалавечага падымання і ўсёй глыбіні чалавечага падзення. Бо жыццё людское не толькі з дабра і карысці сплецена. Ці паддаецца яму ўвесь той жыццёвы абсяг, які атачае кожнага чалавека?

«Ой-я-ёй, што гэта за навалач такая напала на мяне, якая не дае супакою, — сама сабе падумала Маня. — Нешто на такія развагі штурхае, што ажно самой страшно становіцца. Нашто мне ўсё гэто ведаць? Хіба ад таго ведання, нават калі б дайшла да самай яго сутнасці, лягчэй стало б? Пэўне ж, не. Тады нашто ламаць галаву, сушыць мазге? Але ж во прычэпіцца нейкая думка, і пакуль ты не дадумаеш яе да канца — невядомо якого? — ні адпускае».

І з гэтымі развагамі ў Мані таксама нявыкрутка. Яна мо ўжо і спынілася б, пайшла б займацца сваімі хатнімі справамі, ды не адпускае яе нехта — не, не Валодзік Хвілосаф, нехта іншы, нябачны, больш настойлівы і ўедлівы. Бо ўсё новыя загадкі загадвае. І Маня зноў звярнулася да Хвілосафа:

— А скажы ты мне, Валодзік, яшчэ во што. Ты ж больш за мяне, ды і за ўсіх нас ведаеш.

— Ого, каб я ўсё ведаў, то чаго я тут, на хутары, та-скаць, прападаў бы? — аджартаваўся Валодзік.

— Не, ты ні ўвільвай. Ты скажы: калі за ўвесь час зямля прыняла ў сябе гэтулькі памерлых людзей, што мо больш за тых, хто сёння жыве на ёй, то дзе яны дзеліся, га?

— Вядомо дзе — разлажыліся, зямлёй сталі.

— Дак, выходзіць, што зямля з кожным годам становіцца ўсё цяжэйшай? Праўда ж?

Тут ужо задумаўся Валодзік. Ён і праўда не ведаў, што адказаць. Што зямля прымае ў сябе памерлых, то праўда. Але ж праўда і тое, што зусім нядаўна яны жылі на гэтай зямлі. Так што на яе вагу гэта не павінна ўплываць. Аднак жа нараджаюцца новыя. І што атрымліваецца тады? Валодзік быў у нейкім замяшанні і адказаць адназначна не мог.

А Маня ўсё насядала:

— А калі так, то ці не тармозіцца тады рух зямлі ў тым нябачным нам свеці ці сусвеці? — спыталася зноў.

Чула Маня і гэткае слова — «сусвет», але сэнсу яго не разумее да гэтага часу. Пра неба, нават сёмае, казаў у сваіх пропаведзях бацюшка Сноўскай царквы, а вось пра сусвет не расказваў нават іхні хутарскі дзед-усёвед Мацейка.

— Відаць, не, не тармозіцца, — пачаў разважаць Хвілосаф. — Бо калі зямля, та-скаць, становіцца цяжэйшай, то і рух яе будзе больш стабільным, — ужо з большай пераконанасцю казаў ён. — А калі вялікая маса набярэ, та-скаць, хуткасць, спыніць яе цяжэй, чым нешта малоё. Тым больш, што зямля цэжэе не толькі ад пахаванняў, — такім адказам Хвілосаф усё ж згаджаўся з Маняй. — А колькі снегу зімой, та-скаць, падае на яе з неба? Да гэтага яна была бясснежнай, а тады раптам навалілася яго столькі, што цяжар ціснe, та-скаць, на зямныя грудзі.

— Ага, вось чаму зімой бываюць завірухі і кудасы, — ні то жартам, ні то сур'ёзна прамовіла Маня. — Хуткасць зямлі павялічваецца, і яна, гэтая хуткасць, пачынае зрываць і круціць снег, ён і віруе ўсё мацней і мацней. Так выходзіць? — спытала Маня.

— Ну, не зусім так, — няпэўна пачаў Хвілосаф. — Та-скаць, снег круціцца ад ветру…

— А вецер ад чаго? — не здавалася Маня. — Хіба не ад хуткасці зямнога вярчэння?

— Дак, — пачаў Хвілосаф, але яго перапыніла Маня:

— Ну, ладна, тут ты ні ўсё ведаеш. А скажы ты мне, як гэта хапае на зямлі месца, каб рабіць усё новыя і новыя пахаванні? Іх жа вэнь колькі патрэбно, каб пахаваць усіх памерлых. І ў вайну забітых вельмі ж многа. А войны, як ты ведаеш, ніколі не сціхалі і не спыняліся на зямлі. Праўда ж?

— Ну, так, — згадзіўся Валодзік. — Але ж і зямля, та-скаць, не маленькая.

— Не, не маленькая. Але ж ні ўся зямля гэта зямля. А лес, а мора, а вада, а балота? Там жа ні хаваюць людзей, — не згаджалася Маня.

— Ну, чаму? У лесі хаваюць.

— Добро, хай сабе ў лесі.

— І ў моры тонуць караблі, а людзей тых ні заўсёды знаходзяць, — прамовіў Валодзік.

— Добро, хай і гэто, — згадзілася Маня. — Але ж усё адно: ці не жывуць сённяшнія людзі на былых, колішніх людскіх пахаваннях, на магілах, значыцца?

— Мы то не, — з пэўным хістаннем адказаў Хвілосаф. — А іншыя? То хто ж яго ведае. І ці можна, та-скаць, на цэлыя вякі запомніць месцы ўсіх ранейшых пахаванняў? — сумняваўся ён.

Маня ж, як загіпнатызаваная ці прышпораная нейкай нябачнай сілай, задавала ўсё новыя пытанні:

— А ці перадаюць пахаваныя ў зямлі людзі гэтай жа зямлі сваю былую энергію? — яна пільна зірнула ў вочы Хвілосафа, адчуўшы ягоныя хістанні. — Толькі праўду кажы, Валодзічак. Ці аддаюць ёй свой нораў, сваю радасць і свой боль, свае звычкі?

— Мо, та-скаць, і забірае ўсё гэта ад іх зямля, — Хвілосаф не быў пераканаhistory ў праўдзівасці сказанага, а таму адказваў няўпэўнена. — Але ж нічога гэтаго нікому ні відаць.

— Добро, калі зямля ўсё гэто забірае, то куды яно дзяваецца? Ні можа ж яно знікнуць бясследно? Праўда?

— Ні можа, — згадзіўся Хвілосаф.

— Дак мо ўсё яно становіцца сокамі зямлі? — прыпірала да сценкі Маня. Хвілосаф ажно дзівіўся яе развагам. — А калі так, то сокі тыя законным парадкам пераходзяць у дрэвы, расліны, у жыто і пшаніцу. І мо ў ваду, тую, што ў калодзежы. А праз іх і ў нас, у цябе і мяне, у звяроў і пташак — ва ўсіх жывых. Так, га?

— Ну, так, сокі зямлі і праўда жывяць, та-скаць, усё жывоё на гэтай зямлі, — згадзіўся Хвілосаф.

— Выходзіць, што разам з памерлымі тоё зніклаё з *гэтаго* жыцця, тоё, чаго мы сёння ні бачым, не знікае цалкам, зусім, дарэшты? Значыць, яно недзе існуе, а пасля зноў вяртаецца да людзей? Так?

— Відаць, што так, — зноў згадзіўся Хвілосаф.

Маня, падахвочаная нейкай невядомай сілай, наступала яшчэ больш рашуча:

— Выходзіць, нішто зробленаё чалавекам, не прападае, не раствараецца невядомо дзе? Тады выходзіць, што яно ўплывае на паводзіны і характары жывых людзей, на нас з табою? І перадаецца нам, так?

— Ну, тут ні ўсё так просто, як кажаш ты, — разважыў Хвілосаф, але дакладных і пераканаўчых аргументаў, каб запярэчыць, не знаходзіў.

Яны зноў памаўчалі. Маня ж тым часам не астывала:

— А мы ж усе спажываем тоё, што дае нам зямля. Праўда? А тоё дадзенаё нам яе сокамі напоўнено. Выходзіць, сокі зямлі могуць быць атрутнымі, раз ад іх паміраюць? Але для каго? І калі, га?

Валодзік маўчаў і толькі здзіўлена пазіраў на Маню.

— А зямля ж прымае ў сябе ні толькі людзей, — працягвала яна. — Кароў, коней, ваўкоў, іншых звяроў, пташак, кузурак таксамо яна бярэ. Словам, усё некалі жывоё з часам аказваецца ў зямлі, становіцца мёртвым. Але ж мёртвым для *гэтаго* свету. Праўда? А як яно ўсё на *тым* свеці адбываецца, га?

— Але ж ты і закруціла. Во загнула, та-скаць, дак загнула. Тут і спрачацца цяжко. Тут і дзед-усёвед Мацейко ні памог бы. Відаць, ты ў сваім мінулым жыцці была хвілосафам?

— Ты што, звар’яцеў ці мо здурнеў? Якоё маё мінулаё жыццё? Я ж жывая яшчэ! — Маня ажно перахрысцілася.

— А ты ні ерапеньса, та-скаць. Мудрыя людзі кажуць, што ў кожнаго некалі было ўжо сваё жыццё. І ён некім некалі, та-скаць, ужо быў. А цяпер жыве па-новаму і мае саўсім новы характар, новую прафесію, новыя прывычкі. Але тоё мінулаё ні пакідае яго назаўсёды. Час ад часу, хоць яно і пад замком, дае пра сябе знаць, праяўляецца, та-скаць, у дні сённяшнім.

— Ну, гэта толькі ты, хвілосаф, можаш да гэтаго дадумацца. Мне ж лягчэй жыто жаць, там хвіласофіі ні трэба.

— Ні скажы, — запярэчыў Валодзік, і было не зразумець, ці то ён апраўдвае яе хвіласофскія развагі, ці то не згаджаецца, што без хвіласофіі жыта жаць лягчэй.

Маня ажно цяжка ўздыхнула і развяла рукамі. Пасля паправіла на галаве хустку, якая падчас гэтай гарачай для яе гаворкі спаўзла на шыю, перавязала пад барадой вузельчык і прамовіла:

— Ну й стамілася я ад гаворкі з табою.

— А ты думаеш, мне лёгко? — прызнаўся Хвілосаф. — Іш, што выйшло? Я ішоў па цвікі да Івана, а ты забіла мне, та-скаць, такі цвік, што прыйдзецца добро галаву паламаць, каб дастаць яго.

Маня ўсміхнулася:

— Ну, табе гэта прасцей. Ты ж спрактыкаваны, ты гэто ўмееш.

— Ну, то бывай. А я пайшоў, та-скаць, цвік даставаць, — пажартаваў Валодзік. — А вечарам усё ж прыйду да Івана. Па праўдзівыя цвікі…

І Хвілосаф пайшоў па вішнёвых прысадах, нешта мармычучы сабе пад нос і размахваючы рукамі.

Маня ж паступова астывала ад разгарачанасці і таго імпэту, з якім нечакана для сябе так горача спрачалася — ці мо праўдзівей дыскутавала? — з самім Валодзікам Хвілосафам. От калі даведаецца яе Іван, во будзе смеху. А калі Валодзік іншым раскажа? І назавуць яе тады Маняй Хвіласофкай, ці мо Хвіласафіняй, партнёркай Валодзіка Хвілосафа?

— Дак мо ён праўду казаў пра маё мінулаё жыццё? — Маня адчула, як раптоўна горача стала яе шчокам. — Ой, не. Не трэба больш так мазге свае сушыць, — загадала сама сабе. — Як быццам у мяне іншых клопатаў мало. Даруй мне, Божанька, грэх мой, не ўводзь мяне ў спакусу, — яна тройчы перахрысцілася. — Збаў мяне, Божа, і ўсіх нас ад бяды, ад нядобрага і злого, якого і без нас хапае на гэтым свеці, хай яно спрахне…

## 12

Пайшоў Валодзік Хвілосаф. Пайшла Маня. А за імі адразу і дождж пайшоў. І не дождж зусім, а самая сапраўдная навальніца. Ды такая, якія рэдка калі на хутар накідваліся. Здаецца, нічога на дождж не паказвала. Толькі што неба было чыстым, свяціла сонейка, і на табе. Раптоўна набеглі хмаркі і адразу ж пачалі ператварацца ў чорныя хмары. Яны шпарка акружалі сонца, якое схавалася ад іх за іншыя, больш празрыстыя хмары-воблакі. Але хіба можна перахітрыць чорную сілу назойлівых і каварных разбойнікаў?

Перамаглі чорныя хмары. Не аказалася на небе сонейка. Ніводны праменьчык не праб'ецца праз чорную завесу. Стала так ціха, што ажно вушы аглухлі. Не варухнецца ніводная травінка, не кранецца ніводзін лісток, паветра і тое застыла нерухома. Цішыня такая напружаная, што, здаецца, ажно звініць. І адразу ж густая цемра атуліла ўсё наваколле. Яна імгненна насоўвалася на пабудовы, на дрэвы, на людзей — быццам нябачная ненажэрная істота намагалася праглынуць усё навокал. Стала так цёмна, што хоць вока выкалі. Не заўсёды восеньская ноч бывае такой чорнай, як гэты вясновы дзень.

А тады пачуўся нейкі незразумелы шумок-гудзенне. Як бы гул вялізарнага пчалінага роя. Далёкі, густы, настойлівы. Мо гэта церліся адна аб адну нябесныя чорныя хмары, змагаючыся за месца каля сонца? З кожнай секундай гул набліжаўся, станавіўся мацнейшым, ціснуў на вушы. Слабенькі ветрык варухнуў лісце, зашалясцеў дрэвамі. Ад вушэй адлягло.

Пачалі падаць рэдкія кроплі. Няспешна, размерана, быццам іх выпускалі з неба праз роўныя прамежкі часу. Кроплі былі такія буйныя, што невядома

адкуль яны толькі браліся. Як стукне такая па бураках ці салаце, дык адразу да зямлі прыгінаецца ліст.

Ветрык імкліва станавіўся ветрам. Ва ўсе бакі пачалі хістацца кусты, высокія агародныя расліны, нават трава-мурава. Зарыпеў частакол у плоце. У хляве назойліва заскрыгаталі на ржавых завесах перакошаныя дзверы. Ляпнула незачыненая фортка-люфцік у акне.

Без усялякага перапынку вецер ператвараўся ў буру. Ягоны гул, шум дрэў, якія гнуліся да зямлі і ажно стагналі ад натугі-супраціўлення, віраванне паднятага з зямлі смецця, трымценне аконнага шкла, звонкае бразганне паваленага вядра, якое кацілася па надворку — усё злілося ў неверагодную гукавую какафонію, з якой не здолеў бы саўладаць ні адзін нават самы здатны дырыжор.

Дождж набіраўся моцы. Асобныя кроплі гублялі вагу, ператвараючыся ў імклівыя вадзяныя струмені. Вадаспад мацнеў, станавіўся ўсё больш густым, аж пакуль не стаў суцэльным. Сапраўдная вадзяная сцяна, ужо без аніякіх струменяў і кропель з моцным шумам і грукатам абрынулася на ўсё зямное. Тут каб хто нават намагаўся схавацца, то не ўдалося б.

Маня ледзь паспела пазачыняць дзверы ў хлеў, у куратнік, унесці ў сені пустыя вёдры і чыгуны. Ускочыла ў хату ўжо пад дажджом. У адно імгненне сукенка прыліпла да цела, па валасах струменіла вада. Толік спалохана пазіраў то на маму, то на вокны, за якімі раз за разам пачала разрываць чорнае неба маланка. Далёкі гром наблізіўся і грукатаў разложыста, прывольна, здаецца, проста на надворку.

Маня пераапранулася, запаліла і паставіла на стале грамнічную свечку — каб не стукнуў у хату гром, села на ложак, прыхінула да сябе Толіка і пачала шаптаць засцерагальную малітву ў спадзеве, што нечаканая бяда абміне іхнюю хату, іхні двор і іхнюю жыўнасць. А Толік нечаканае пытанне маме задаў:

— Мама, у цябе німа цвілого хлеба?

Маня спачатку не зразумела сынавага пытання, а пасля да яе дайшоў ягоны страх і яна адказала:

— Грому баішся? Ды тут цвілы хлеб ні паможа. Вялікая навальніца і гром моцны. Ні бойся, я з табою.

Навальніца грукатала хвілін пяць, не больш. Праўда, Мані з Толікам здалося, што мінула цэлая вечнасць. Але і за гэты кароценькі час нябесная вада заліла ўсе разоры на агародзе, усе нізінкі на сотках і надворку, ператварыўшы іх у вялікія і бліскучыя вочы невядомай жывёліны. Яе брудныя патокі былі такія бурлівыя, што вымывалі з градаў памідоры і капусту, сапраўднымі рэчкамі несліся з невялікіх пагоркаў калгаснага поля на больш нізкі поплаў. Там, відаць, было ўжо цэлае мора разліванае.

Навальніца спынілася гэтак жа нечакана, як і пачалася. Вадзяная сцяна аслабела, змізарнела, а пасля і зусім знікла, акрапіўшы наастатак усё дробным дожджыкам. Гэтак жа раптоўна з цемры выглянула сонейка. Заззяла так ярка, як не свяціла да навальніцы. Яно на ўсе вочы дзівілася таму, што паспела натварыць на ўсім хутарскім прасторы вадзяная залева.

Разам з усім гэтым на хутар апусціўся поўны і ўсеабдымны паслянавальнічны спакой. Цішыня стала такой чуйнай, што чуваць, як коціцца зверху па лісцях вішні кропелька. З лісціка на лісцік, з галінкі на галінку і — шпок на размяклую зямлю. А прагучала гэтае шпоканне мо гучней за самы моцны гром. Ва ўсякім разе так падалося Мані, якая адчыніла дзверы з сяней, стала на парозе і пазірала на тое, што нарабіла на надворку навальніца. Маня на

ўсе грудзі ўдыхала паветра, насычанае нейкім невядомым водарам, моцнымі пахамі, прыпраўленае маланкавай пругкасцю. Яно бадзёрыла і ажно кружыла галаву, рабіла лягчэйшым і больш рухавым цела.

Гэтая ціша, відаць, здзівіла ўсё жывое, захапіла ў свой палон нават вецер. А мо ўсіх так напалохала навальніца, што не могуць ачухацца, да сябе дайсці? Бо ніхто не адважваўся першым парушыць гэтае незвычайна маўклівае маўчанне. Трывала яно даволі доўга, пакуль не знайшоўся-такі смяльчак. Як толькі Маня адчыніла дзверцы куратніка, на мокры надворак выскачыў певень. Спачатку ён прыгнуў галаву да самай зямлі, дзюбнуў яе мокры грудок, пасля высока задзёр свой чырвоны грэбень — мо правяраў, ці не будзе ліцца зверху, выгнуў шыю і закукарэкаў. Ды так гучна, што Маня ажно сцепанулася:

— А каб цябе…

Яна не дагаварыла свайго пакарання, бо зразумела, што певень гэткім чынам абвяшчае аб заканчэнні буры з навальніцай, кліча сваіх нясушак на волю, на надворак, на поле, дзе хутка з'явіцца для іх шмат спажывы. Каб агледзець усю макрэчу, на паверхню пачнуць вылазіць з зямлі дажджавыя чарвякі, вунь на градах яны ўжо з'явіліся.

Памаўчала наваколле і пачало ажываць. Прамытымі і пасвяжэлымі галасамі заспявалі птушкі, аднекуль узяліся матылькі і пачалі кружыць над мокрымі кустамі. Недзе слабым пакуль голасам азвалася жабка, ёй ляніва адгукнулася падпадрубная рапуха. І ўсё ажыло, заспявала, затрапятала, заварушылася. І ў кожнага свая непаўторная мелодыя, свая песня.

Маня ўздыхнула: «Ага, слухай, Маня, слухай. А хто за цябе парадак на надворку наводзіць будзе? Іван невядомо калі вернецца. Хоць па гэткай гразі шмат ні наробіш», — як бы супакоіла сама сябе і пайшла займацца пакуль што хатнімі справамі.

## 13

— Ну што, Іван, дай пяць, — старшыня калгаса з сімвалічнай для заходнебеларусаў назвай «17 верасня» падаў руку і Іван хуценька працягнуў сваю, па звычцы церануўшы ёю аб порткі-галіфэ на сцягне, нізка схіліў галаву — як перад сапраўдным начальнікам. — І дай божа, у добры час пачаць, — прамовіў старшыня, хоць Іван не зразумеў, пра што ён. — Казаў я табе, што ты будзеш першым? Казаў, га?

— Дак, — паспрабаваў нешта гаварыць Іван, то апускаючы галаву, то падымаючы.

Ён пазіраў старшыні то ў вочы, то на ягоныя хромавыя боты, якія ў адрозненне ад Іванавых кірзавых былі так начышчаны, што ажно блішчалі. Іван мо хацеў запярэчыць, але Гарушка не слухаў яго і працягваў:

— Тады давай правядзём шырокае абмеркаванне ў вузкім коле, — старшыня ажно рукі пацёр ад сваёй дасціпнасці. — Толькі ты, Іван, не гуляй у маўчанку. Казаў я табе, што цябе першага пераселім з хутара? — і, не звяртаючы ўвагі на Іванава мармытанне з пакашліваннем: «Казаць то казалі, але ж...», прамаўляў далей: — Казаў. І ад слоў сваіх не адмаўляюся, не-а. Як лепшага колішняга шахцёра і сённяшняга руплівуца на калгасным полі. Як нязменнага дэпутата. І хату табе новую збудую. А ці выбраў ты, куды хочаш пераехаць? — без развагі задаў балючае для Івана з Маняй пытанне.

Івану ж найперш смылела не тое, куды з'язджаць, а навошта акурат сёння рушыць звыклае, нашто чапаць нечапанае. Таму да яго не даходзіла нечакана

хуткае і безапеляцыйнае старшынёва рашэнне: ссяляцца. Рашэнне без спросу, без тлумачэння, без парады з гаспадарамі. Дак а хто тут тады гаспадар? Паспрабуй спытай. Такі адказ пачуеш, што і не рады будзеш. Ссяляйся — і ўсё тут. Не твая гэта справа, не тваёй галавы клопат. Ты працуй — калгас мацуй, а думаць за цябе ёсць каму.

Ёсць больш галавастыя, у іх розум спрытны, іхнія галовы мудрэйшыя, вочы больш дальнабачныя, а памкненні адны — не паказаць перад яшчэ большым начальнікам сваю нерашучасць альбо, крый божа, сумненне. Сказалі рабіць — рабі. Рабі адразу, хутка і моўчкі і станеш першым, можаш нават ордэн атрымаць. Думаць і пытацца пасля будзеш, калі дазволяць. Цяпер жа не час, ёсць каму за цябе думаць. Тым больш, што гэта першы прыклад. А прыклад, вядомая рэч, поклічным павінен быць. Дак чаго тут нюні распускаць, чаго размазваць-рассусольваць, чаго даказваць, што вада мокрая, калі ўсё і без таго ясна і зразумела: ногі ў рукі, сяннік за плечы і — у вёску. Хопіць дзікдзікаром сядзець пасярод поля, няма чаго хавацца ў збожжавых мыдлях. Да людзей, у хаўрус, у кагал, у сябрыну…

— Ой, старшынька ты наш, дак жа нам і тут гэдак добра, — падпускае ласкі ў голас Маня. — Гэдак хорашо. Жывём, як у Бога за пазухай. Нашто ад дабра дабро шукаць? Нашто нам тыя невядомыя залатыя горы? Куды і чаго перціся на злом галавы? Тут жа вэнь колькі прастору, усім хопіць…

— Што вы за дзікуны? — дзівіцца старшыня. — У вас жа тут ціш ды глуш, як у магіле.

— А нашто нам шум ды гам? І няпраўда ваша, зусім ні самотна тут, — смела не згаджаецца Маня. — Хоць і адны ў полі, а весела. Праўду кажу. Гэта мо там у вашых вёсках усе ніжэй травы і цішэй вады. А ў нас не, — Маня не заўважыла двухсэнсоўнасці сказанага і працягвала: — У нашуй хаці ні адзін раз і танцы былі, і ігрышчы. І ў Васіля Пулікоўскага, і ў Валодзіка Кусабуцкага…

— Во-во, за гэтымі танцамі-шманцамі вы скоро і пра калгас забудзецяся, — астудзіў Маніну радасць старшыня.

— Не, старшынька. Ні ваша праўда, — не губляла смеласці Маня. — І ў калхоз мы ходзім. І той мінімум ваш вырабляем. А як жа? Бо пасярод калхознаго жывём…

— Ага, — умяшаўся брыгадзір. — Праўда, як дупа — кожны сядзіць на сваёй. Добра гусей пасвіць у калхозным. І карову падпасваць. І ўкасіць калхознага добра... Гэта табе ні пры Польшчы — на два бокі аладкі мазаць, — засмяяўся. — Што тут мазгаваць, сказалі голаму збірайся, голы й гатоў…

Маня злосна зірнула на гаваруна — не лезь, куды цябе не клічуць, і працягвала:

— Нам і пры Польшчы аладак не хапала, каб на два бокі мазаць. І да хаты свае прывыклі. Добро тут, хорашо, чым радней — тым даражэй, — паўтарала. — Бо як растрасём яе, то й не збяром на новум месцы...

Але старшыню на мякіне не правядзеш.

— Не рабіце з мухі слана. За каго вы мяне прымаеце? — стаяў на сваім Гарушка. — Старшыня я вам ці не старшыня? — Пры гэтых словах ён, здаецца, ажно падрос. — Хіба не разам з тваім Іванам вугаль у шахтах дзяўблі? — Гарушка прыціх і неяк асабліва горда зірнуў на Івана.

— Дак разам, а як жа, Аляксеявіч... — адгукнуўся Іван з нейкай невыразнай надзеяй. — Але праўду Маня кажа, як развернем гэтыя вуглэ, — гнуў ён сваё, — то й ні пазбіраям. Старая хата, праўда, — як бы апраўдваўся. — Я як купляў, то старая была ўжэ. А грошай на новаё дзераво ні было, — тлумачыў ён са скрухай. — Іх і цяпер німа. Дак...

— Дак хопіць табе «дакаць» ды плакацца, Іван, — пачаў злавацца старшыня. — Нагаварыў тут тры бочкі арыштантаў. Што ты на голым месцы праблему ствараеш? Во дажыліся, дэпутата і таго ўгаворваць трэба. Не, каб першы, каб сам папрасіўся… Не забівай сабе голаў. Я ж кажу, што памагу. Не верыш, ці што? Пазыку дам...

— Пазыку?! Гэткае дабро так возьме за рабро, што і не дыхнеш, — Маня дзівілася гэткай старшынёвай дабрыні: бач, якія залатыя горы абяцае.

— Дак калі ж мы аддамо яе, Аляксеявіч? — скрушліва прамовіў Іван.

— Хіба на том свеці вугалькамі, — прашаптала Маня. Іван злосна зірнуў на яе і працягваў:

— Вы ж ведаяцця, у калхозі больш «спасіба», чым грошай, адны палачкі ставяць, — сказаў і адразу прыкусіў язык: во ляпнуў, пасадзяць яшчэ, не паглядзяць, што дэпутат. Азірнуўся: добра, што міліцыянта, Пахомава, тут няма. Хуценька паправіўся: — Грошай ні сабралі, Аляксеявіч.

— Гэта праўда, — паддакнула Маня. — Працуем, працуем а пахваліцца няма чым.

— Не перажывай, Іван, не пералівай з пустога ў парожняе. Я ж кажу, будзе табе новая хата, — паўтараў старшыня. — На ўсе сто зробім. Двух зайцоў заб’еш. Пазыку дам, паўтараю.

У гэты момант не сцярпеў брыгадзір, напаўголаса падкузьміў Івана:

— Ага, на халяву і соль салодкая. Але на чужом гарбу ў рай не заедзеш.

На гэта Маня не прамінула адказаць:

— Ні смейся, раб*е*, будзя і табе.

Старшыня патрос яму кулаком і працягваў:

— Работу добрую дам. Адробіш, яшчэ і сабе зарабляць будзеш, — на гэтых словах Маня прашаптала сама сабе пад нос: «Ага, на пабягушках будзеш, бо на другоё нос ні дарос», але Гарушка альбо не пачуў, альбо не звярнуў увагі. — Дэпутат ты ўрэшце, ці не? Перадавым чалавекам павінен быць, а ты-ы, — старшыня махнуў рукой. — Але не дрэйф, выплывем…

— Дзіпутат, — панура адказаў Іван. — Але гэта ж трэба па вушы ў даўге залезці. Ці дажыву я да тае пары, калі адраблю? — гне ён сваё. — Быў конь, ды з’ездзіўсё…

— А ты што: паміраць ужэ сабраўся? — з усмешкай прамовіў старшыня. — Ды ты такі цягавіты, што і мяне перажывеш, — пахваліў. — Не трусь, Іван, будзе табе новая хата, — паўтарыў страшыня і зірнуў на тых, што прыехалі на возе: — Ну што, хлопцы, пачынайце.

Хлопцам тым было каму за сорак, а каму мо больш за шэсцьдзясят. Іван ведаў іх — калхознікі з Вялікай Ліпы.

— Дак мы ж і ні сабралі нічога, — запярэчыў Іван. — Куды што з хаты дзець, га?

— Ага, і дзе жыць будзем, пака пераедзем? — дадала Маня. — І куды? Мы ж яшчэ ні рашылі...

— Не загаворвай мне зубы, не баляць яны. Перастань з ветру вяроўку віць. Маглі даўно рашыць, — пачынаў злавацца Гарушка. — Ведалі, што будуць ссяляць? Ведалі. А пажыць можаце і ў бацькі твайго, Іван, ці ў брата Мікалая, блізка ж яны, хадзіць далёка не трэба, — разважыў старшыня.

— Ведаць то мо й ведалі, — згадзіўся Іван, а Маня так сярдзіта зірнула на яго, што ажно іскры з вачэй пасыпаліся. І каб зменшыць віну перад ёю за сваю дасведчанасць, паправіўся: — Але ж ні думалі, што гэдак скоро...

І навастрыў вушы, на ляту схапіў старшынёву прапанову пажыць у свайго бацькі:

— А што, ні ўсіх будуць ссяляць? — спытаў абнадзеена. — Брат мой тут астанецца? І хто яшчэ?

— Ды не, — астудзіў старшыня. — Не так ты паняў. Ссяляць будзем усіх. Але не адразу. Цябе першага. Іншых пасля. Калі адразу, то цесляў не хопіць.

— А-а-а, — панура прамовіў Іван. — А куды ж нам ехаць? — спытаў нібыта ў самога сябе.

— Дак мо хіба ў Сноў? — падала голас Маня.

— Як гэта ў Сноў? — ледзь не закрычаў старшыня. Толік ажно вочы прыжмурыў: каб не ўдарыў невядомы дзядзька бацьку, і цясней прыціснуўся да маці. — Што ты мне голаў дурыш? Па другому кругу пайшоў? Ні пляці кашалёў з лапцямі! Там жа другі калхоз! Дру-гі, панімаяш, га? — старшыня ажні крывёю наліўся. — Ні валяй дурня! Там і працядацяль другі! Хіба забыўся? Ці мо хочаш на арэхі палучыць, га?

— Дак, гэта во… І праўда, — пайшоў на папятную Іван. — Там жа Аляксанін.

— Во-во, Аляксанін, — пацвердзіў Гарушка. — Дак чаго ты сваё права правіш? Хочаш да яго ўцячы? Ад мяне? А чаго ж мы тады разам у шахце былі? — падабрэў старшыня. — Не пар*ы* ярунд*ы*, а то як возьмем за шкірку, не рады будзеш, — зноў напусціў суровасці.

— Дак брат мой там жыве, Петрык, — патлумачыў Іван, бо згадка пра шкірку не на жарт напалохала яго. — Той, што Стасю ўзяў, — дадаў як самы важкі аргумент, нібыта старшыня і праўда ведаў тую Стасю.

— Стасю ці Югасю, мне якая розніца. Хопіць там аднаго Гэтэвіча. Нам таксама яны патрэбныя, — як бы падсумаваў Гарушка. — Зрэшты, не пудры ты мне мазгоў, Іван. Сталы чалавек, а блэндаеш, як малы.

— Не-е, без паўлітры з вамі ні разбярэсся, — развёў рукамі брыгадзір, але яго астудзіў позірк старшыні.

— А ні трэба браць нахрапам, — злосна прамовіла Маня. І прагучала гэта так, што сказанае магло датычыць як слоў брыгадзіра, так і самога старшыні.

## 14

Кіраўнікі двух суседніх калгасаў — імя Калініна, што ў Снове, і «17 верасня», што ў дзвюх Ліпах — Вялікай і Высокай, здаўна супернічалі між сабой: хто стане больш передавым. Па-рознаму выходзіла. У нечым вырываўся наперад Аляксанін, у іншым перамагаў Гарушка. Але абедзве гаспадаркі лічыліся на былых заходнебеларускіх землях моцнымі, на іх абапіраліся ў раёне, імі хваліліся перад Мінскам, а то і перад Масквой. Таму падтрымлівалі і з раёна, і з цэнтра: свае перадавікі, маякі, так сказаць, павінны свяціць ярка, каб святло іхняе і клопат тых, хто гэтае святло запаліў, былі далёка відаць. Каб яшчэ больш высокае начальства заўважыла і не папікала, каб хваліла і адзначала прэміямі, а калі пашанцуе, то і ордэнамі. А маяк не толькі на туманным моры важны. Не замінае ён і на калгасным полі. Здалёку пазнаюць па ім лепшых.

Вось зараз самы час некаму з іх запаліць той маяк, які дадасць асабістага гонару і грошай на такую важную кампанію. Але ў хутарской справе пакуль што ў перадавікі вырваўся Аляксанін. Ягоны калгас нават у пастанове ЦК КПБ і Савета Міністраў аб ссяленні з хутароў падалі як прыклад. Ударнікам Аляксанін выглядае: усе 540 хутароў дакляруе ссяліць за тры гады, пазыкі калгаснікам высокія абяцае.

Ды Гарушка ведае, што хітруе ягоны супернік: знарок гэткі тэрмін узяў, каб апярэдзіць, так сказаць, перавыканаць, паказаць, што да самага «не магу» пранікся партыйнай справай і таму датэрмінова спраўдзіў абяцанае. А за гэта вядома што бывае — і слава, і грошы, і ўзнагароды, і прэзідыумы ганаровыя на розных высокіх сходах. А з тых прэзідыумаў далёка відаць. Ды і седакі ў прэзідыуме не простыя, людзі ганаровыя, а значыць, уплывовыя, ва ўсіх навідавоку. Таму мусяць старацца яшчэ больш. Вунь колькі пассяляў Аляксанін хутаранцаў і ўсё мацней стараецца. Яму і з раёна падтрымка большая, і з вобласці — ведама, у самую пастанову ЦК патрапіў. А трапіў мо не без пратэкцыі. Ніхто асабліва не абмяркоўвае, а сам Аляксанін не надта хваліцца, што яго родны брат засядае ажно ў Маскве. У міністэрскім крэсле. Зразумела, што такое высокае братава становішча адгукаецца і ў Снове.

Ды не паддасца Гарушка. Ён і без згадкі ў пастанове, без высокапасаднага брата дакажа, што корань любой справы не ў высокай падтрымцы, а ў арганізацыі працы. А тут ужо ён пастараецца, вопыту і настырнасці хопіць, паглядзім тады, хто першы будзе рапартаваць. Хоць без спрыяння зверху, вядома, цяжка. Найперш з грашыма, бо на пазыкі людзям вунь колькі патрэбна. Яны то мо і самі папаўнялі б калгасную касу, але ж раённае начальства таксама не дрэмле: яму таксама пахвальба не лішняя. Таму ўжо не адзін раз далучалі і да калінінцаў, і да вераснёўцаў слабыя і адстаючыя гаспадаркі. Так з калгасаў-карлікаў выраслі вялікія і моцныя. Выгада відавочная — адстаючых у раёне менее, а заможныя гаспадаркі вымушаны папраўляць становішча нягеглых за свой кошт і зноў моцна на ногі станавіцца.

Гарушка вырашыў зарабляць грошы на льне: перспектыўная справа з усіх пазіцый. Тут табе і грошы, і слава. Таму і націскае на развіццё гэтай прыбытковай галіны. Настварааў спецыяльных звенняў, падабраў маладых, а, значыць, амбіцыйных звеннявых, падтрымлівае іх, хваліць пры любым выпадку, а тыя і рады старацца. Добра пайшлі справы. Абагналі нават Аляксаніна. На апошняй раённай нарадзе сакратар райкама партыі Сіротка пахваліў Гарушку і лёгка паўшчуваў Аляксаніна: што ж вы, маўляў, перадавое месца саступаеце.

Але пакуль той будзе выпраўляць становішча, Гарушка яшчэ далей пойдзе, мо і да самай Масквы дапне — на ўсесаюзную ВДНГ трапіць, медаль атрымае за лён. І тады грошай пабольшае. На тое ж ссяленне хутароў спатрэбяцца. Тут Гарушку мо ўдасца перахітрыць Аляксаніна, бо ў таго больш перасяленцаў, Гарушка можа хутчэй справіцца, абы толькі самі хутаране палак у колы не пхалі, бо во, бачыш, нават актывіст — пастаянны дэпутат сельсавета — і той хістаецца, як мурава пад ветрам, не ведае, што яму рабіць. Злосці не хапае: Гарушка ведае, а гэтыя аднаасобнікі — так называў ён ці то жартам, ці то каб больш настрашыць незгаворлівых хутаранцаў — капрызы свае паказваюць, а не высокую сацыялістычную свядомасць. Жыць ім, бачыце, не будзе дзе. Печ астанецца? Варыць будзе дзе, а пераспаць... Колькі тых летніх начэй. Знойдуць выйсце, не першы раз у пераплёт трапляюць. Усе сваякі Іванавы і Маніны тут. Прымуць на пару месяцаў, а да восені хата будзе збудавана. Мо ўдасца яшчэ па тры-чатыры паставіць у кожнай вёсцы. Бо на ўсе хутары адразу не хопіць сілы, не хоча Гарушка гэткі камень сабе на шыю вешаць. Цішэй едзеш, вядома, дзе будзеш… А што сваякоў пацясняць Гэтэвічы, то нічога страшнага. Курам на седале вунь як цесна і нічога, яйкі ўсё адно нясуць. Праўда, да суседа бліжняга і жыхара ніжняга не надта добра адносяцца, ды гэта ўжо іншая справа.

Была ў Гарушкі і яшчэ адна таемная надзея. Чуў ён, што сёй-той з Язаўца збіраецца перасяляцца да Аляксаніна. З аднаго боку не зусім добра: рабочыя рукі і яму патрэбны. А з другога — хай сабе, больш клопату будзе суседу, можа не ўкласціся ў вызначаны тэрмін, і тады...

## 15

Але Івану Гэтэвічу не трэба патакаць наконт Снові. Гарушка ўжо заявіў праз беларускае радыё, што першым з Язаўца будзе ссelены менавіта ён, былы батрак, шчыры працаўнік, адданы справе калгаснік, чалавек, пацярпелы ад фашыстаў, актывіст. Праўда, актыўнасць тая толькі ў тым, што невядома з якой ласкі каторы год выбіраецца дэпутатам сельсавета, хоць дэпутат гэты адно і ўмее, што распісацца сваім прозвішчам, а не крыжыкам. Гарушка падкрэсліў нават, што яны разам пасля вызвалення ад немцаў на шахтах былі. Во як, маўляў, клапоціцца старшыня пра сваіх паплечнікаў. Таму рашуча заявіў:

— Давай ты, Іван, у Баяры. Хоць мог бы і ў Высокую Ліпу, — як бы разважаў сам з сабою. — Там мы некалі цэнтр калгаса зробім. Сельсавет туды перавядзём. Клуб пабудуем — двухпавярховы, з цэглы, кантору, школу, магазіны, вуліцы шырокія зробім, ліпамі абсадзім, — марыў старшыня. — Але ж трэба ўсе вёскі развіваць, — спахапіўся. — Таму давай ты ў Баяры, — цвёрда вырашыў за Івана. — На гэты канец, што Каралёўшчынай завуць. Бліжэй да Язаўца. І ў Высокую Ліпу недалёка. Праз рэчку толькі... Дак што? — павесялела спытаў адразу ва ўсіх.

«Думаю, не памылюсё, калі не скажу нічога», — згадаў Іван, у якога ўжо не хапае ні духу, ні аргументаў супраціўляцца, колішні Камунісцікаў досціп і моўчкі зірнуў на Маню. Не паспеў ён і слова прамовіць, як яго апярэдзіў брыгадзір:

— Дак а што тут думаць, старшынька, у Баяры дак у Баяры.

— Хай сабе будзе тая Каралёўшчына, — панура згадзіўся Іван, не захацеў лезці на ражон. — Мне ўсё раўно.

— Каб было ўсё раўно, то лазілі б у акно, а так ходзяць праз дзверы, — хіхікнуў брыгадзір. А Іван нібыта папрасіў згоды ў жонкі:

— І ў Баярах добрыя людзі жывуць. Праўда ж, Маня?

— Ага, там і школа блізка, — дадаў старшыня. — Тая, што ў Абуховічавым палацы, панскім доме. Толіку будзе блізка хадзіць.

Маня хацела запярэчыць Івану: «Ага, куды вароні ні лятаць, усюды гаўно кляваць», але не паспела, загаварыў Гарушка:.

— Тады на страх*у*, хлопцы, — пляснуў ён у далоні і зірнуў на тых, што ўсё яшчэ сядзелі на возе. — Валіце кулём, пасля разбяром, — засмяяўся старшыня са свайго досціпу і адразу ж ягоны смех падхапіў брыгадзір.

— Дак мо хоць паснедаем, га? Заморым чарвячка? — нясмела прапанаваў Іван, у якога сэрца ледзь не ў пяткі апусцілася ад уяўлення, што зараз будзе з ягонай хатай. — Ні будзем пароць гарачкі. Маня вэнь колькі аладак напякла. Прападуць...

— Якія табе аладкі! — падладжваючыся пад старшыню, закрычаў брыгадзір. — Выдумаў. Сонца ўжэ вэньдзка вэнь, качаргою не дастанеш, а ты не наеўсё. Галоднай куме хлеб наўме, — брыгадзір таксама засмяяўся свайму красамоўству. Але яго астудзіў старшыня:

— А што, давайце пакаштуем Маніных аладак. Чаго яны будуць сохнуць, га? А тым часам мо і з тэлевізіі пад'едуць. Казалі журналісты з Мінска, што прыедуць, каб зняць для тэлевізара. Бо першае ссяленне, гэта ж не абы-што. Ты ж першы, Іван, — як бы зноў пахваліў старшыня. — Хіба мо тыя з тэлевізара ў Сноў паехалі, пераблыталі? — занепакоіўся Гарушка.

— А чаму б і не выпіць, калі чарка поўная? — ужо на другі бок перакінуўся брыгадзір.

Іван нічога не зразумеў са старшынёвых слоў: хто такія журналісты, што за цілівізар. І што ім тут трэба. Да яго дайшло толькі адно: згадзіліся паласавацца аладкамі, значыць, яшчэ крышку цэлай пабудзе ягоная хата. І ён пачаў запрашаць усіх, а Мані загадаў:

— Трэба ў хаці стол накрыць, бо ні ўлезуць усе. Сядзем на лаве, ды спакойна пагаворым па справе…

— Ідзі і накрый, гаварун знайшоўсё, — злосна адрэзала тая. — Ні вялікі пан. Іш, раскамандаваўсё, камандзір аб’явіўсё. Трэба было ў шахтах камандаваць, калі Гарушка пад табой хадзіў...

Івана як варам абліло: не дай бог пачуе Гарушка, дасць тады прачуханца за тое, што дагэтуль хваліцца Іван — у шахце ён брыгадзірыў над Гарушкам. Бо хто ж гэта з начальства любіць прызнавацца, што быў некалі меншым па чыне за сённяшнага ягонага самага звычайнага работніка.

— Я табе сказаў: ідзі-і-і, — са сціснутымі зубамі прасіпеў Іван, а ўсіх яшчэ раз папрасіў: — Дак хадземця ў хату, га? Хадзем, старшынька...

— Ага, хадзем, — згадзіўся нехта з прыезджых і не вельмі ўцямна пажартаваў: — Лепей перанедапіць, чым недаперапіць.

— І праўда, лепш пераесці, чым недаспаць… — дадаў брыгадзір, паціраючы рукі. — То дай божа, каб і заўтра тожа…

Паўтараць не было патрэбы: хто ж гэта будзе адмаўляцца ад дармавой скваркі ды бясплатнай чаркі. Наконт чаркі то яшчэ невядома: Іван мо і паставіў бы — выпілі б, закусілі, а тады мо і не пачыналі б разбуральнай справы, але старшыня стане рубам, не дазволіць, нейкі цілівізар яму замінае.

Маня ж наастатак агрызнулася, як бы сама сабе:

— Перад кім распінаешся? Чаго выпруджваешся? Ні церпіцца хаўтуры па хаце справіць? — і пайшла на кухню, дзе стаялі на стале астылыя аладкі.

А па дарозе ёй нечакана згадаўся прыход Валодзіка Хвілосафа да Івана па цвікі. «Дык вось чаго прыходзіў гэты хітрун, — здагадалася Маня. — Відаць, ужо ведаў пра Іванаў лёс і хацеў у яго самога аб усім распытацца. Маня ж завяла яго зусім у іншы бок. Ён і прамаўчаў. Ну й хвілосаф, ну й хітрун…»

## 16

Пакуль няпрошаныя госці бавіліся ў хаце, Мані здавалася, што ўсё гэта благі сон, насланнё. Вось-вось дзьмухне свежы вецер, і ўся гэтая непатрэбшчына знікне гэтак жа, як і з’явілася, развеецца над полем, што і следу не застанецца. А застанецца тое, што тут раней было. Бо яна верыла, што кругабег часу непарыўны. Хоць кожны раз новы, але ўсё адно нязменны. Як сам свет, які за сонца трымаецца, як зямля, якая нястомна мяняецца, але застаецца той жа, надзейнай карміліцай, крыніцай жыццёвых набыткаў і самога жыцця, дабрадзейкай для ўсіх, хто некалі ступіў на яе сваёй спачатку няпэўнай хадой немаўляці, а пасля цвёрдым поступам хлебасея, каб зыначыць яе, зрабіць больш шчодрай і пладавітай, каб выпусціла яна з абдымкаў галечы ды нястачы, каб уволю было і хлеба, і да хлеба, каб заставалася яна клапатлівай маці, а не пераўвасаблялася ў няласкавую мачыху.

Такой рознай і была для Мані зямля — тая, якую мелі некалі яе бацькі, і тая, якой сёння надзяліў Іванаву сям’ю калгас. Ёй, як і кожнай жытажнейцы, здавалася: вось яна, пташка шчасця, тут, побач, зусім блізка. Яшчэ адно намаганне, яшчэ адна спроба, і хвост яе будзе ў тваіх руках. Але, відаць, справядліва кажуць: даганяючы, не нацалавацца. Як ні пніся, як ні набліжайся да

гэтай няўлоўнай пташкі дастатку і шчасця, а ніяк не дацягнешся, не дастанеш. Сем патоў сыдзе, а не дапнеш нават да хваста — рукі кароткія. Не дачакаешся, пакуль вырастуць яны, каб хоць малую магулінку таго мройнага багатага жыцця адхапіць, паспрабаваць на зуб, пасмакаваць на языку, пасля чаго, здаецца, і сыходзіць у *той* нябачны, невядомы і няласкавы свет будзе лягчэй, і саступаць іншым будзе што.

Не шыкавалі яе бацькі за палякамі — нават на адзін бок аладкі не заўсёды мазалі, то аладак не было, то здору, каб мазаць іх, не ставала. Не было за што шыкаваць, зямліцы не хапала, грошай бракавала, каб прыкупіць яе. Розныя начальнікі тры скуры здзіралі, абы свой кашалёк не пуставаў. Жылі выключна з працы сваіх рук, з якіх ніколі не сыходзілі мазалі і адмыць якія ад травяной ды зямельнай акрасы не ўдавалася нават на Каляды ці Вялікдзень.

Не сталі Назаны багацеямі і на калгасным полі. Мо нават наадварот — змізарнелі, бо аддалі ў агульны кацёл усю жывёлу, увесь гаспадарскі рыштунак. Свае соткі няма чым абрабляць. Нават гною не хапае, бо няма каровы і каня, каб настойвалі яго. А зямля, вядома, як талерка — што пакладзеш, тое і возьмеш. У калгасе зямля ўсіхняя, значыцца, і твая. Але ж паспрабуй вазьмі, прысабеч з яе без дазволу хоць адзін каласок, спазнаеш тады, пачым фунт ліха і што такое сацыялістычная законнасць. Не толькі міліцыянер Пахомаў зоймецца табой. Бо ўсё яшчэ на памяці людской сумна вядомы закон аб трох каласках, згодна з якім за крадзеж калгаснай маёмасці вінаваты падлягаў самаму суроваму пакаранню, ажно да расстрэлу. Ды яшчэ з канфіскацыяй маёмасці. Як з'едліва жартавалі самі сяляне: «Не чапай каласок, бо палучыш срок і надарвеш свой пупок». Вось тут і жыві…

Адно застаецца нязменным: хадзіць і хадзіць на працу, натруджваць рукі на агульным палетку, каб тое, што збярэш з яго, знікла невядома дзе, растварылася, рассыпалася, стала невідзімкай. За стараннасць тваю адмераюць табе мяшок-другі збажыны ды яшчэ палачак наставяць — працаднёў, за якія не толькі каровы не купіш, а і лусты хлеба не дадуць у магазіне.

Маня таксама калгасніца. Ёй, як і іншым, трэба сваю норму палачак набраць — выпрацаваць устаноўлены мінімум працаднёў, бо інакш будзе на арэхі. Пачнуць і на сходзе паласкаць, і матэрыяльна пакараюць. Праўда, для жанчын-мацярок мінімум меншы, чым для мужчын. Як жа ўмудралася яна спраўляцца і з малым Толікам, і з тым калгасным мінімумам? Выкручвалася, як і многія іншыя. Пакідала сына, якому шосты годзік пайшоў, на руках найчасцей Іванавай маці, бабы Гандзі, радзей — бабы Волі, Манінай маці, узрост якіх даваў пэўную палёгку ў калгасе. Замыкала сваю хату, каб нічога ніякага нечаканага не здарылася, і бегла на працу, куды пашлюць. Працуе, а ў самой неспакой сэрца точыць: як там Толік, каб не адбіўся ад рук, каб не натварыў чаго нядобрага. І так вось ужо тры годзікі. Ажно тры, а як адзін дзянёк. Час, што сыпучы пясок, цярушыцца і цярушыцца праз пальцы, пакідаючы на іх свае паметкі.

Толік жа, калі цёпла, па надворку сваім соваецца — то туды, то сюды ўторкне нос, то са сваім аднагодкам Мікалаевым Колікам буды строяць — была такая забава ў іх: рукамі альбо палачкай прадрапаюць у зямлі ямку, зямлянкай званую, нарвуць лебяды альбо якой іншай травы і зверху пакладуць — старху накрыюць. Для прыгажосці палявых кветак каля зямлянкі-буды ў зямлю наўторкваюць. Занятку гэтага хапала на цэлы дзень. А назаўтра новыя буды ладзяць. Так часам і цэлы хутар з будаў вырасце.

Але ахвотней пагуляў бы Толік у ножыка. Ды няма з кім,аднаму нецікава. Праўда, і ножыка ў яго няма. Бо патрэбен ножык-складанчык. У Віціка, баць-

ка якога гарманіст, ёсць. Часам, калі гуляюць, то і Толіка бяруць у кампанію. Сэнс гульні такі. Бяруць даўгаватую палачку, адзін канец завострываюць і крышку ўбіваюць у зямлю. Лязо складанчыка адчыняюць да паловы. Кончык ляза ўторкваюць у зямлю, а канец тронка ставяць на яе. Падкладваюць палец пад гэты самы тронак і падкідваюць ножык. Ён куляецца ў паветры, а пасля або ўторкваецца ў зямлю, альбо падае на яе. Калі ўпадзе, то гулец прайграе. А іншы стукае ножыкам па палачцы, забівае яе ў зямлю. Прайграўшым лічыцца той, каму не застаецца вольнага калка — увесь ён у зямлі. І тады гэты хлопец мусіць зубамі выцягнуць калок з зямлі. Паспрабуй выцягні, калі верх палачкі ля саменькай паверхні, што і зубамі не ўчапіцца. Пакуль дастанеш, то пад смех гульцоў і ўсіх прысутных і зямлі наясіся, і зубы з губамі добра натоміш.

А то пойдзе Толік на бабы Гандзі надворак, сядзе на стос бярвенняў, што каля хаты дзядзькі Мікалая складзеныя, і сцішыцца. Сядзіць, на неба пазірае, як там нехта невядомы і нябачны з пульхных белых воблакаў палацы будуе незвычайнай велічыні і прыгажосці.

«Вось бы хоць разок у той нябесны палац трапіць, — думае Толік. — Там, відаць, не горш, чым у Нясвіжскім палацы Радзівілаў». Праўда, Толік ні разу не бачыў Радзівілаўскага замка, але чуў, як шмат пра яго Колікаў бацька Мікалай расказваў. Пра ягоныя памеры, залы, багацці, аздобу і наогул пра такое, чаго не толькі на хутары не сустрэнеш, а нават у думках не прымроіш.

З высокага неба позірк Толікаў на рабіну пераходзіць. Таксама высокую, купчастую. Надта ж прыгожая яна. Заўсёды — і калі цвіце, а белыя кветкі тады вельмі пахкія, і калі буйныя ягады вісяць вялізнымі гронкамі, а самі ягады такія чырвоныя, што, здаецца, нейчай крывёю налітыя, заварожваюць, магнітам прыцягваюць, не адпускаюць позірку.

Аднаго разу ўбачыў Толік такі незвычайны малюнак, што спачатку сваім вачам не паверыў, а пасля як найвялікшым сваім адкрыццём перад татам і мамай хваліўся.

Пад страхой дзедавага хлява, таго самага, што з вялізных пустакоў складзены і ў якім у вайну партызаны хаваліся, пасяліліся шпакі. Не было на хутары звычкі рабіць шпакоўні. Вось птушкам і даводзілася самім выбіраць найбольш зручныя месцы для свайго жытла. Пад страхой, у падстрэшшы, было не горш. Дождж не залівае, кошка не залезе. Нанасілі шпакі патрэбнай ім саломкі з травінкамі, зрабілі гняздзечка і пачалі птушанят выседжваць.

Неўзабаве маленькія шпачаняткі вывеліся. Ды пакуль што не відаць іх, адно моцным крыкам нагадваюць пра сябе, калі бацькі іхнія харч да гнязда падносяць. Але ж моцна пражорлівыя, відаць, бо цалюткі дзянёк не спыняюцца шпачыныя тата з мамай, носяць і носяць розную машкару і чарвячкоў, а дзеткі іхнія ніяк не наядуцца, бо крычаць і крычаць.

Калі падраслі шпачаняткі, пачалі галоўкі свае з разяўленымі жоўтымі роцікамі з гняздзечка высоўваць. Вось тады і ўбачыў іх Толік. Не раз падоўгу сядзеў ён на бярвеннях, назіраючы за жыццём і паводзінамі дарослых і малых шпакоў. Здзіўляла яго не толькі пражорлівасць шпачынай малечы, але і прыхільнасць да чысціні. Часта заўважаў, як дарослыя шпакі не толькі ў гняздзечка нешта нясуць, але не пустуюць іхнія дзюбкі, калі з гнязда вылятаюць. Доўга назіраў Толік, каб разабрацца, а тады зразумеў, што гэткім чынам яны ачышчаюць гняздо ад рознай непатрэбшчыны, у тым ліку ад шпачанятавых какашак.

Аднойчы адбылося менавіта тое, што так моцна здзівіла Толіка. Сядзіць ён на бярвеннях. Сядзяць у сваім гняздзе шпачаняты, ужо добра падрослыя. Пакуль бацькоў няма, маўчаць, калі ж прынясе тата ці мама спажыву, кры-

чаць, каб менавіта яго, а не браціка ці сястрычку, першым пакармілі. Ды бацькі надзейна чарговасці прытрымліваюцца, раўнапраўе выхоўваюць, не заахвочваюць эгаізму. А пакуль чакаюць шпачаняты тату з мамай, бывае, што жывоцік перапоўніцца, на двор схадзіць патрэба ўзнікае. І тады маленькі шпачок выстаўляе з гняздзечка свой хвосцік, а ўсякая непатрэбшчына проста на зямлю падае. Не засмечваецца гняздзечка, не дадаецца працы тату з мамай. Вось так прырода і бацькоўскае выхаванне закладваюць у шпачанят прывычку прытрымлівацца чысціні, не смеціць і не паскудзіць там, дзе непатрэбна.

Пра тое ж Толіку і ягоныя тата з мамай сказалі, калі ён падзяліўся з імі сваім назіраннем. А за шпакамі ён цікаваў да таго часу, пакуль яны не вылецелі з гнязда. Шпакі паляцелі, а Толік не перастаў на стосе бярвенняў час бавіць, за наваколлем назіраць.

Вось і зараз сядзіць ён, маўчыць, думу сваю дзіцячую думае. Шкадаўлівая баба Гандзя ўжо не раз у хату запрашала, але не ідзе Толік. Што яму рабіць у той хаце з нізкай столлю, з земляной падлогай і прыцемненымі вокнамі, бо галіны дрэў і кустоў, што растуць на надворку, у самыя шыбы паўпіраліся, свет закрываюць.

Нарэшце здагадлівая баба Гандзя пытаецца:

— Ты мо, Толічак, есці хочаш?

Маўчыць Толік, нічога не кажа. Для яго маўчанне акурат і азначае згоду, прызнанне голаду, а баба Гандзя чамусьці не разумее гэтага.

— Дак будзеш што есці? — пытаецца зноў. — Мо картоплю з кіслым малаком?

Толік адмоўна круціць галавой.

— Дак мо табе яблык даць? Ці скібку хлеба?

Толік моўчкі ківае галавой, але баба не разумее, на што згодны ўнук. Яна выносіць з хаты вялікі яблык і добры акраец хлеба, адрэзанага ад пачатку бохана, дзе самая скарынка. Толік рады бабінай шчодрасці, бо кішкі і праўда пачынаюць марша граць. Ён нягучна прамаўляе «Дзякуй» і ўпіваецца зубамі ў сакавітую антонаўку.

А вось хлеб есць сваім спосабам, ім самім прыдуманым. Адкусвае маленькі кавалачак, не жуе яго адразу, а доўга трымае ў роце, пакуль той не размякне ад сліны. Вось чаму скарынка больш выгодная за мякіш — яе даўжэй смактаць можна. І гэта для Толіка самая вялікая смаката, самы вялікі ласунак, нават лепшы за цукеркі-падушачкі, бо іх рэдка і мала даюць, яны хутка растаюць у роце, а хлебная скібка вунь якая вялікая.

## 17

Аднаго дня, у час такой самапагулянкі, калі маці была ў калгасе, а ён бавіў час на надворку бабы Гандзі, адбылася з Толікам дзіўная прыгода. Каля іхняй хаты тады жыта сеялі. Калгаснае. Трактар ХТЗ (Толік чуў, як дарослыя дзядзькі падсмейвалі трактарыста. Калі таму доўга не ўдавалася завесці свайго жалезнага каня, пыталіся: «Хто трактар завядзе?» Здаралася, казалі і больш моцнае слова) цягаў за сабой сеялку, поўную насення. Калі ж яна станавілася пустой, мужчыны, што марнавалі час на возе, бралі на плечы поўныя мяшкі і засыпалі жыта ў сеялку. А пасля зноў клаліся на воз у чаканні чарговай порцыі працоўнага старання.

Назіраў Толік за іхняй працай, назіраў, а тады вырашыў надоўга палепшыць сваё хлебнае становішча. Каб не залежаць ад бабы Гандзі, намерыўся ён пасеяць свой уласны загончык жыта. Каля плоту. Там акурат і месца пустое ёсцека. Як вырасце, папросіць маму хлеба напячы.

Калі сеяльшчыкі наблізіліся да дзедавай хаты, а баба Гандзя недзе забавілася ў хляве, Толік рушыў да воза. Доўга ў нерашучасці маўкліва стаяў наводдаль, а тады падышоў бліжэй. Моўчкі перамінаўся з нагі на нагу ажно да таго часу, пакуль адзін з мужчын сам не спытаў у яго:

— А што ты, хлопчык, хочаш?

Толік маўчаў, не ведаючы, ці варта казаць пра сваю задуму, а тады прызнаўся:

— Хачу жыта пасеяць…

— І многа?

Толік не зразумеў пытання і прамовіў:

— Дзве жмені.

Цяпер яго не зразумеў мужчына.

— Дак жмені дзве, ці соткі дзве?

Што такое соткі, Толік не ведаў, таму адказаў:

— Дак там, каля плоту, дзе зямля пустуе… Я жыта пасею, а тагды мама хлеба напячэ…

Мужчына зразумеў Толіка.

— А ў што табе насыпаць? — спытаў. — Ідзі вазьмі ў маці мяшок, альбо хоць вядро.

— Не-а, — каратка адказаў Толік, зняў з галавы шапку, падаў мужчыне.

Той засмяяўся і спытаў:

— Што, адну шапку?

Толік адмоўна пакруціў галавой і цвёрда прамовіў:

— Дзве жмені…

Мужчына ўзяў Толікаву шапку і насыпаў поўную. Толік паспешна схапіў шапку і нечакана шпарка загаварыў:

— Не-не, адно дзве жмені…

І пачаў адсыпаць з шапкі лішняе.

Мужчына здзіўлена плюскаў вачыма:

— Што ты робіш, дзіцятка? Вазьмі хоць шапку, калі не хочаш вядра. Курэй пакорміш…

— Не-не, — адпіраўся Толік і з усіх ног пусціўся на бабін надворак, на хаду дагаворваючы: — Мне дзве жмені… дзве… жмені…

Калі пра ўсё гэта баба Гандзя, якой Толікаву прыгоду выдаў мужчына з воза, расказала ўнукавай маме, тая спачатку засмяялася, а пасля сур'ёзна прамовіла:

— Правільна, сынок, малайчына, — пахваліла, — ні бяры чужого, і ніхто да цябе ні прычэпіцца.

А бацька здзіўлена пажартаваў:

— Няўжо і ён закона аб трох каласках спалохаўся?

Хоць закон гэты ўжо не дзейнічаў, ды па-ранейшаму чапляліся да многіх. Перападала і хутарскім, але да строгага суда не даходзіла. З часам хутарскіх калгаснікаў усё часцей пачалі хваліць за стараннасць, працавітасць і сумленнасць. На розных высокіх нарадах, сходах і сходках начальнік-гаварун, як мог, выхваляўся калгаснымі набыткамі, руплівасцю работнікаў з Язаўца. А гэта значыць, выстаўляў напаказ свае асабістыя дасягненні. Бо ад гэтага залежала яго кар'ера, дабрабыт і грамадскае прызнанне. Ды як толькі хвалько спускаўся з трыбуны і апынаўся на ўласнай кухні, настрой ягоны чамусьці мяняўся, а поспехі знікалі, як снег вясною. Калі ж некаму папраўдзе надарыцца часам такая неспадзяванка лёсу, што пачне з зямлі падымацца, на ногі станавіцца, зірк, а Моравая пані з касой, якая ніяк не затупіцца і не вышчарбіцца, ужо тут

як тут, цікуе з-за куста, вычэквае за плотам, калі можна махнуць сваім злосным і страхавітым струмантам, падразаючы каго на самым узлёце, каго ў сталым веку, а каго і з добрым запасам пражытых гадоў. А ад смерці, вядома, не адкупішся…

## 18

Нядобрыя прыгоды ніяк не хацелі абмінаць Толіка. Часам ён сам наклікаў іх. Вось і на гэты раз такі нумар адчыбучыў, што ледзь не забрала яго Моравая пані да сябе.

Пасля Калядаў было тое. Іван, як заўсёды, у калгасе прападаў. Маня тупала па хаце, тут спраў ніколі не меншае. Хутка абед, а яна яшчэ далей за надворак не выходзіла. І снег на сцежцы-дарожцы да дзеда Ясевай хаты заставаўся цнатліва белым. Неўзабаве з неба пачалі церушыцца вельмі ж прыгожыя сняжынкі — дробненькія, узорчатыя, прасветленыя сонечнымі праменнямі, здаецца, глядзеў бы на іх і глядзеў, вачэй не адвесці. Быццам у чароўную казку трапляеш, у самае сапраўднае снежнае каралеўства.

Толік тое і рабіў — пазіраў і пазіраў на снег, не адарваць ад акна. Маня трохі нават сварылася, каб адышоўся, бо холадна, цягне праз незакітаваныя шыбы. А ён ні за што. Прахукае ў замёрзлым шкле дзірачку і пазірае на тую самую сцежку-дарожку да дзеда. Калі ж мароз пачынае зацягваць шкло сваёй плёнкай, Толік пашкрэбае пальцам, і акно зноў чыстым становіцца.

Неўзабаве сонца пачало хіліцца да поплаву, бо зімой вечарэе рана. Маня зірнула на пустыя вёдры — трэба па ваду схадзіць. Ісці мусіла да дзеда Яся, бо толькі на іхнім надворку меўся калодзеж. Далёка? А што ты зробіш, не будзеш жа тапіць снег, бо выгады мала, а дроў спаліш многа. І так апалу не хапае. Хоць і гэта часам рабілі, калі патрэбна была вада свіням ці карове. А сабе хадзілі да дзеда. Зімой, бывала, пакуль прынясеш, то вядро зверху скарынкай лёду пакрыецца.

Маня ўзяла каромысел, два пустыя вядры, адзела кажушок, затулілася хусткай-канаплянкай і наказала Толіку:

— Я пайду да дзеда па ваду, а ты сядзі ў хаці, нічога кепскага ні рабі, пазірай у акно, мяне чакай.

Толік згодна кіўнуў галавой. Ён і праўда пазіраў, як аддалялася ад хаты мама, пакідаючы за сабой глыбокія сляды, якія прысыпаў пульхны сняжок. Маня набрала вады, забегла на хвілінку да свёкра, перакінулася слоўкам-другім са свекрывёю і рушыла дамоў. На каромысле хісталіся поўненькія вёдры. Таму ісці старалася няспешна, каб вада не боўталася і не вылівалася. На падыходзе, у вішнёвых прысадах усё зіркала на акно — ці не тырчыць там нос Толіка. Носа відаць не было. Мо на ложку ляжыць сын, падумала.

Зайшла ў хату, паставіла на кухні вёдры і паклікала:

— Толік, дзе ты? Агу-у-у, сынок…

Але Толік не адказваў. Не было яго і на ложку. Маня зазірнула пад стол — думала схаваўся туды, як рабіў гэта, калі хацеў пазабаўляцца з бацькамі. Пуста. Нікога не было і пад ложкам. Маня не на жарт запанікавала. Паклікала яшчэ раз. Ні слыху ні дыху. Яна ажно халодным потам аблілася. Спалохана выбегла на надворак. Гукала-клікала. Ніхто не адзываўся. Маня мітусілася па двары ў блізкіх ужо прыцемках, не ведаючы, што рабіць. Раптам заўважыла маленькія слядочкі. Толікавы. Прыцярушаныя сняжком, яны вялі да поплаву, туды, дзе хавалася за гарызонт ярка-чырвонае сонца.

Аказалася, сонца і падвяло Толіка.

Мамы не відаць на дарозе, сумна стала аднаму. Яркае сонейка зазірае ў акно, быццам да сябе кліча. А ў хаце цішыня такая, што аж вусцішна. Толькі гадзіннік на сцяне не спыняе свайго адвечнага цік-такання. Гэта маятнік так размаўляе з яго вялікасцю часам, калі з левага боку пачынае зваротны ход направа і наадварот. Услухаўся Толік у зычны гук і падалося яму, што гадзіннік пытаецца ў некага: «Ці так?», «Ці не так?» Што адказаць яму на гэта, хлопчык не ведае. Вырашыў спытацца ў мамы, калі вернецца.

Пасля зноў стаў пазіраць на сонца за акном. Хутка простае пазіранне надакучыла, Толік скруціў з далоні трубачку і прыставіў да вока. Цікавасці пабольшала. Ён заплюшчыў левае вока, пасля правае. Затым пачаў пачаргова заплюшчваць то адно, то другое. І тады сонца то адхілялася ўправа, то вярталася назад. Чым хутчэй плюскаў вачыма, тым больш хісталася сонца. Сапраўдны маятнік вялізнага гадзінніка. Але ж маятнік то відзён, а самога гадзінніка не бачна. Як ні ўзіраецца Толік у акно, не відаць гадзінніка, хоць ты плач. Але ж не можа маятнік быць сам па сабе, лічыць Толік. Бо як тады ён будзе хістацца?

Захацелася хлопцу на вуліцу выйсці, дзе больш прастору, каб зірнуць на той нябесны гадзіннік. Сяк-так апрануўся, абуў валёнкі і выслізнуў за дзверы. Доўга ўзіраўся ў сонечныя малюнкі, шукаючы гадзіннік. Безвынікова. Маятнік ёсць, а гадзінніка няма. А тады раптам падалося, што да сонца кіруецца гвязда, уся яркая і празрыстая ў бліскучых праменнях. Тая самая, што на Каляды да іх прыходзіла. І нехта быццам рукой махае, у якой чорная хустка матляецца. Толіка да сябе кліча. Ён і пайшоў. Правальваўся ў сыпкі снег, набіраў яго ў валёнкі, але не спыняўся. Ды як ні спяшаецца, а не наближаецца да гвязды, яна ўсё аддаляецца і аддаляецца. Вось ужо зусім размытай, невыразнай стала, ледзь прыкметнай. І ад сонца на небе толькі адзін беражок астаўся — схавалася яно за поплаў. У Толіка ж поўныя валёнкі снегу, каля цёплых пальцаў раставаць пачаў. Набралася і ў рукавіцы, бо некалькі разоў хлопчык падаў. За нос стаў кусацца мароз. Пачалі гарэць шчокі. Спалохаўся Толік, маму кліча, ужо не да гвязды яму, не да нябеснага гадзінніка.

Мама сапраўды аказалася побач. Па слядах знайшла сына, дагнала — лецьмя ляцела. Падняла яго на рукі, да грудзей прытуліла:

— А Божа ж мой, а што ж ты, Толічак, нарабіў? Куды ты пусціўсё, га?

— Я нябесны гадзіннік шукаў, — румзаючы, адказвае Толік. — Гэта гвязда паклікала мяне, я і пайшоў за ёю…

— А мой жа ты сыночак! Чаго ты гэты снег мясіў? Тут жа глыбока, — глытае слёзы Маня. — Німа там ніякага гадзінніка, маё ты дзіцятко. Гэта Моравая пані цябе паклікала, звясці са свету хацела. І гвязду яна прыдумала.

— Не, была гвязда, я сам бачыў, — упарціцца Толік.

— Добро, сыночак, добро. Ёсць гвязда, толькі не тут яна, падалосё табе…

Гаворыць так, прыціскае да сябе Толіка, а ў самой на шчацэ сляза замярзае, тоненькі ледзяны шнурочак утвараючы. Толіка ў шчокі цалуе, гэткі ж ледзяны рубчык растопліваючы.

— Ні хадзі больш, сыночак, адзін, добро? — просіць. — А то Моравая пані забярэ цябе ад нас, у чорную хустку загарнуўшы. Жыве такая нядобрая цётка на свеці. Забірае да сябе людзей і ні аддае іх нікому. Ні аддасць нам і цябе. А што ж мы тады будзем рабіць без сыночка свайго, га? — прыгаворвае маці і ўсё цалуе Толіка. — Як жа мы без цябе?

— Добро, мама, ні буду, — згаджаецца Толік і цясней прыціскаецца да мамы — цяплей яму каля ейнага сэрца.

## 19

Вось так падвяла Моравая пані Толіка. Ніяк не хоча яна заставацца без працы, не жадае спачыну, быццам спрадвеку шукае між людзей сваё шчасце, а не знайшоўшы, помсціць за гэта жорстка і нястомна. Усё ж такі занятак. Ненаедная становіцца, ненажэрнай. Як ні кармі яе, а ўсё мала і мала ёй, усё галодная, прагне ўсё новых і новых ахвяр. І з гэтага, відаць, сваю ўцеху мае. Д’ябальскую ўцеху, нялюдскую. Ды не спыняецца, не перастае людзей са свету зводзіць.

Калі разгуляецца і разыдзецца, то цэлымі касякамі жыцці адбірае, шоргае і шоргае сваёй спрацаванай, але непадатнай ні іржы, ні зносу, ні гад*а*м, ні стагоддзям, касой. Ёй і самой, відаць, зносу няма. Хоць ужо мо тысячу тысяч гадоў пражыла, а не стоміцца, не захварэе, не сядзе хоць на часовы спачын. І не знойдзецца нікога, хто мог бы адолець яе, альбо хоць прыпыніць. Няма такога Каваля Вярнідуба, які справіўся б з ёй, саўладаў, перамог. Нічыя сіла перад ёй не сіла, ніякая моц ёй не страшная. Усясільная яна, магутная і нязводная. Бязлітасная і ўсюдыісная, хоць і завуць яе ласкава — пані.

А мо яшчэ з польскага часу засталася яна, калі пані? Але ж, відаць, не. Польскі час нядаўна быў, а пані тая невядома колькі па свеце швэндаецца. Ці мо не адзін быў польскі час? Мо некалі, даўней за даўняе, таксама было такое, што пад палякамі хадзілі беларусы? Ва ўсякім разе тыя, што жылі калісьці ў Чорнай Русі, якая затым Белай стала называцца — чыстай ды незаплямленай, бо не ведала чужога прымусу. Пра тое шмат цікавага Камунісцік, альбо Валодзік Хвілосаф, як празвалі Кусабуцкага на хутары, расказваў. А Маня лавіла ўсё ледзь не з разяўленым ротам. Вось і запомнілася многае.

Гэта толькі нядаўна зямлю гэтую, што на захадзе бела-рускай прасторы, палякі былі пад свае гаспадарства забралі. Аднак і ў іх яе адабралі. І правільна, відаць, зрабілі. Бо белыя яны — бела-русы. Не-залежныя, не-падатныя. Не адно на захадзе, а і на ўсходзе, на поўдні і поўначы гэтай зямлі — усюды, дзе здаўна былі гаспадарамі, самі апекаваліся сваёй самаіснасцю і палеткі гэтыя шчодра потам сваім, а то і крывёю, палівалі, каб адметнымі яны сталі, адрознымі ад іншых, сведчылі аб супляменнай роднасці бела-русаў, аб іхняй незалежнасці ад чуж-чужаніцаў. Яшчэ задоўга да Чорнай і Белай Русі тое пачалося. І дагэтуль доўжыцца, то прыносячы набытак і надзею, то адбіраючы іх.

Дак няўжо і дзеля гэтага існуе Моравая пані? Каб жыццё казкай не здавалася, каб не заснулі бела-русы, каб не мёдам былі насычаны іхнія будні, а салёным потам і горкімі слязамі?

О-го-го, колькі выліта іх на гэтую зямельку!? Бо вядома, што вочы баяцца, а рукі робяць. Ой-я-ёй, каб, не дай бог, не прымала зямля слёзак людскіх, то мо даўно і сама захлынулася б імі, і тады слёзнае мора праглынула б гэтую сушу, зрабіўшы з яе бясплоднае балота ды прагавітае багнішча, непрыдатнае для чалавечага жыцця.

«Ой, нешта на «хвіласофію» пацягнуло, як сказаў бы Валодзік Хвілосаф, — сама сябе спыніла Маня. — А ты стой сабе, Маня, паранее», — уздыхнула яна ў каторы раз і пайшла па традыцыйным гаспадарскім коле: выпусціць з катуха курэй, адчыніць дзверцы ў прыбудоўцы, дзе гусі сядзяць, замяшаць і занесці свіням... Ды хіба іх пералічыш усе, гэтыя адвечныя гаспадарскія заняткі? Хапае работы не толькі ад суботы і да суботы, а нават у нядзелю. Бо зноў жа — нікому нічога з неба само не падае. Але праўда і тое, што свая ношка не цяжкая...

## 20

«Божа мой, што яны робяць!? Што чыняць гэтыя прышлыя і чужыя тут людзі?»

Мані хацелася крыкам крычаць. Яна не магла стаяць на адным месцы. Ёй здавалася, што як толькі спыніцца, то абавязкова паспрыяе прышэльцам рабіць сваю нядобрую справу. Яна то выходзіла на сцежку, абсаджаную вішнямі, каб паглядзець, ці не імчыцца дадому Іван, каб бараніць сваё жытло, ці не бягуць людзі на падмогу іхняй сям’і, ёй самой, каб спыніць гэтую няпраўду, несправядлівасць, а мо і бязлітаснасць. А то адчыняла агародныя весніцы і невядома чаго ішла па разоры паміж буракамі і морквай, міжволі нахілялася, нешта папраўляла, вырывала непатрэбнае зелле.

Аднак напрамую да прысланых людзей яна не звярталася ні разу — сама не ведае чаму. Мо разумела, што ва ўсім, што адбываецца, няма ніякай іхняй віны. Проста ім далі такі нарад, яны і мусяць яго выконваць. А калі не захочаш? Маня нават уявіць сабе не магла, што было б, калі б нехта адмовіўся выконваць нарад, выдадзены брыгадзірам. А гэты ж быў інспіраваны самім старшынёй калгаса. З ім спрачацца яшчэ цяжэй. Ні сама яна, ні Іван ні разу не аспрэчылі нават брыгадзіравага нараду.

Здаецца, што ўсе гэтыя чужыя ім людзі дбаюць пра дабро для Іванавай сям’і. Але пакуль што сям’я мае больш непрыемнага, чым добрага. І найбольш перажывае Маня. Ніяк не можа пазбавіцца ад клапатлівых думак.

Як быццам тут было кепска. Адкуль яны ведаюць, *што* нам лепш? І чаму яны наогул думаюць за нас? Нашто бурыць і знішчаць нашу дабрыню? У іх яна, відаць, іншая. Дак хай не чапаюць нашай. Няўжо адступіўся ад нас Бог? Пакінуў адных? Адзін на адзін са сваім уласным сумленнем. Чым угнявілі яго? Здаецца ж, стараліся жыць з верай у сэрцы, па Божых законах, бо ведалі: без Бога бясплодная дарога. Нават у бязбожны савецкі час не зняў Іван з вільчыка страхі драўляны крыж, які, як і ва ўсіх добрых людзей, вянчаў хату. Але праўда і тое, што грашылі без меры. Ведама, жывём жа на гэтай зямлі першы раз, усё ўпершыню, да ўсяго сваім розумам трэба дайсці. Нестае вопыту. А грэх такі спакуслівы, што не стрымацца.

Дак мо за грэх той і адплата нам? Мо за нашы правіны дазволіў Бог ламаць і бурыць цэлы, загартаваны завірухамі і навальніцамі, абгладжаны ветравеямі дом? Не, не дом, бо домам «за палякамі» лічылася толькі багатае жытло, тое, дзе людзі жылі багацейшыя за ўсіх астатніх, да якіх часта наймаліся ў парабкі і Маніны сваякі. Такім, да прыкладу, быў пан Абуховіч, што з Вялікай Ліпы, да якое з іхняга хутара кіламетраў шэсць з гакам будзе. Хоць і казалі, што чым цяжэйшая ў пана работа, тым прасцей яе атрымаць, ды ахвотнікаў мець панскі грош часам было больш, чым саміх грошаў. Што праўда, пан не быў скупердзяем, плаціў за працу і грашыма, і натуральным ураджаем. Разумеў, што работнікі яму будуць патрэбны і заўтра, жыў не адно сённяшнім днём. Ведама, які гаспадар, такі і тавар. Панскі дом яшчэ пакоямі называлі, а ўсю сядзібу — дваром.

Для Мані ж паняцце «дом» найперш звязана з чалавечай еднасцю, супольным жыццём, з яе аднасямейнікамі. І калі казала яна «Назаноў дом», то разумела ўсё сваё сямейства, усіх, хто нарадзіўся пад страхой Назановай хаты, а не саму хату. Мо некаму падасца такое тлумачэнне несправядлівым, але Маня ні з кім не распачынала б спрэчкі, калі б нават ёй рэзка запярэчылі. Для яе дом — гэта род, а не хата. Не толькі Назаноў род. Гэтэвічаў таксама. Корсакаў. Пулікоўскіх. Пахвалёнчыкаў… З іх, з гэтых дамоў-родаў, і Язавец іхні скла-

даецца. А іншыя дамы разам з хутарскімі ўсю беларускую зямлю трымаюць. Гэта як нязломныя дрэвы адной велізарнай і магутнай пушчы.

А што да Абуховічавага палаца, то ад яго засталася толькі мо якая чацвярцінка. Бо савецкія войскі ў верасні трыццаць дзявятага года, калі пачаўся вызвольны паход на землі Заходняй Беларусі, выгналі пана і ён з сякім-такім сваім скарбам, аднасямейнікамі і слугамі з'ехаў некуды ў Польшчу, хоць яна тады ўжо была пад немцам, і што сталася там з панскім родам, хутаране паняцця не мелі, а па праўдзе кажучы, то не надта й хацелі пра тое ведаць: не гэткай важнасці клопатамі была занята галава.

Дык вось, калі не стала пана, найбольш увішныя, а мо злосныя на яго, пакрыўджаныя ці проста ахвочыя да чужога дабра — ведама, дармавое не патрабуе крывавых высілкаў, пачалі рабаваць панскія пакоі. І што цікава, пабеглі самыя бедныя, тыя, хто не хацеў жыць са свайго мазаля, не стараўся працай сваёй зарабіць дабрабыт. Здзіралі нават паркет — як быццам маглі пакласці яго на выгладжаную нагамі зямлю ў нейкай сялянскай хаціне. Адбівалі кафлю з шыкоўных печак і невядомых сялянскаму побыту камінаў, крышачы і ламаючы паліву, бо лічылі — прызвычаіліся так лічыць: у гаспадарцы ўсё прыдасца. Некаторыя вяскоўцы сварыліся на такіх заўзятараў — бо не разумелі: навошта нішчыць і плюндрыць тое, што можа паслужыць усім людзям, даць карысць тым жа беднякам, калі арганізаваць там школу альбо хай сабе жыллё. Аднак самыя ўвішныя ў рэшце рэшт нават больш за палову палаца разбурылі, разабралі цэглу для іншых калектыўных пабудоў.

Да гонару хутаран ніхто з іх у гэтых рабунках не ўдзельнічаў. Але ці было гэта свядома і асэнсавана, ці проста далёка панскія пакоі знаходзіліся, і хутаран апярэдзілі больш увішныя ліпаўцы ды баярцы, то хто ж яго ведае. Бо пазней ужо, калі ў Снове рабавалі і расцягвалі кашары — так за палякамі называліся вайсковыя казармы, дзе ў былым палацы Рдултоўскіх стаяла польскае войска, а пасля верасня трыццаць дзявятага іх адразу занялі савецкія воіны, якія з пачаткам новай вайны з немцам некуды сышлі, пакінуўшы прасторныя шматпавярховікі без нагляду, тады ўжо не адно сноўскія жыхары, але і найбольш рухавыя з Язаўца дапялі да кашараў і цягнулі дадому, хто што мог, не глядзелі: патрэбна гэта ў хаце ці не, ведама — запас бяды не чыніць, а вось недахоп нечага адчуваецца востра.

Маня пасля выгаворвала сваім бацькам, што і самі не пайшлі туды, і сыноў з дочкамі не пусцілі, каб сёе-тое ўхапіць, найперш мо з хатняй абстаноўкі, бо там, казалі, гэтага дабра было шмат, і многія акурат крэслы, сталы, іншую мэблю хапалі найперш, каб хоць трохі аздобіць і ажывіць свой далёка не багаты хатні інтэр'ер. Напачатку такія хапуны ці хапанцы, як пачалі дражніць іх, не баючыся, хваліліся ўсім, чаго яны панапрыносілі ў свае хаты, нават ганарыліся гэтым. Аднак нездарма кажуць, што ніводная добрая справа не застаецца без пакарання. Неўзабаве пайшла пагалоска, што немцы, якія ў былых казармах-кашарах наладзілі шпіталь, загадалі сабраць усё назад, найперш мэблю. Тады ўжо гэтыя ўвішныя пачалі казаць, што нічога такога яны і не ўхапілі, бо дзе ты там за сноўскімі паспееш, мясцовыя паразбіралі самае лепшае, а ім, хутарскім, адно нейкае ламачча засталося, тое, што не было ва ўжытку, а валялася ў падвалах ці ў хлявах. А Камунісцік і наогул здзівіў сваёй хітрыкай. «Калі я сказаў «Не браў!», значыцца і аддаваць не буду». І разумей тут як хочаш.

Але міжволі вісела пытанне без адказу: а нашто ж вы, хапуны, гэтае ламачча цягалі ажно за чатыры кіламетры, нашто вярэдзілі спіну, дзеля чаго натруджвалі і без таго спрацаваныя рукі? Але тут мо і не ўся праўда, бо цягалі гэта не спрацаваныя сталыя гаспадары, здабыўчай справай займаліся найперш

маладыя хлопцы, нават падшпаркі — з нейкім асаблівым азартам і быццам навыперадкі. Гэта для іх як бы гульня была — хто больш прынясе ў свой двор, хто больш месца зойме ў бацькоўскай хаце прынесеным: будуць спраўляць замужжа ці жаніцьбу — спатрэбіцца. Даходзіла, праўда, і да таго, што найбольш справядлівыя ды асцярожныя старэйшыя людзі сварыліся на сваіх аднасямейнікаў за такое старанне, казалі, што непатрэбна ім гэткае дабро, набытае несправядліва і нават незаконна, што з чужога не разжывешся, загадвалі аднесці яго назад. Аднак ніхто з хаты прынесенае не выкінуў.

Хіба што пацешыў усіх Жоры Бандзюковага бацька. Калі сын з хлопцамі прынёс дамоў добры ложак і паставіў яго каля печы, бацька ажно вызверыўся на сына:

— Ты што гэта, зусім здурнеў, га? Клёпкі з галавы павысыпаліся?

— А што такое? — набычыўся Жорык. — Я ж хіба з хаты вынес?

— Не збівай мяне з панталыку. Каб з хаты, то я мо і змаўчаў бы. А то ж чужое прыягнуў. І хочаш, каб я на ім спаў? Я ж не здурнеў яшчэ, каб чужых вошай карміць ці мо якой трасцы з халераю набрацца. Бо хто ведае, якія там людзі качаліся на тых ложках.

— А ты не прыпірай мяне да сценкі. Іш, багач знайшоўся, нічога яму не патрэбна, — агрызаўся Жорык.

Ды як ні супраціўляўся, як ні ўгаворваў бацьку, бо маці, адчувалася, узяла бок сына, той і слухаць нічога не хацеў. Не мароч галавы, выкінь вон і ўсё тут. Не вялікі пан, на лаве паспіш. Дзе было дзявацца Жору — выкінуў. Хоць і відно, што з характарам хлопец, непадатны, упарты. Ды Жора і тут змікіціў, што трэба зрабіць, каб і бацькоў не гнявіць, і сваю выгаду не ўпусціць. Ён памяняўся з маладым Камунісцікам. Той ахвотна пацягнуў дахаты новы ложак, а ўзамен аддаў Жорыку ёмкае крэсла, праўда, без аднае ножкі.

Жорык, аднак, навучаны бацькавай няласкаю, не панёс крэсла ў хату, а схаваў у хляве, заваліўшы да часу саломай. А вось пахваліцца перад іншымі яму карцела моцна. Таму не раз, калі бацькі не было дома, старэйшыя хлопцы і падшыванцы выпрабоўвалі моц крэсла, скачучы на ім быццам на неаб'езджаным кані. Як толькі яно вытрымлівала?

Але забавы іхнія доўжыліся не надта. Шыла ў мяшку не схавалі. Нейкім чынам пра ўсё даведаўся бацька. І тады адным надвячоркам каля Бандзюковай сядзібы задыміў незвычайны касцёр. Гэта дыміла, не жадаючы паддавацца агню, некалі шыкоўнае, абабітае дарагой матэрыяй і напханае для мяккасці нейкай невядомай і не бачнай праз абіўку рэччу — мо конскімі хвастамі, бо калі агонь сям-там прапаліў абшыўку, адтуль пайшоў такі чорны і смярдзючы дым, што хоць нос затыкай. На гэты дым і збеглася найперш хутарская дзятва, а пасля прытупалі некаторыя са старэйшых — думалі мо, не дай бог, Бандзюкова жытло занялося. І як бы хто ні адносіўся да некампанейскіх суседзяў, а пусціць з дымам нажытае — гэта не па-гаспадарску, не па-людску. Бог не даруе.

Ратаваць Бандзюкову хату не было патрэбы. А вось памянціць языкамі пасля гэтага падстаў хапіла ўсім. Кепікі і смешкі не строіў хіба што самы лянівы ды найбольш асцярожны: ці мала якім бокам можа павярнуцца лёс Бандзюкоў, з іхняй разваротлівасцю і пранырлівасцю, нейкай незвычайнай для хутаран прагай да грамадскай дзейнасці ўсё можа быць. За той круталомны час верасnёўскага вызвалення і пазнейшага нямецкага набегу-нашэсця наглядзеліся хутаране на многае, надзівіліся мо на ўсё астатняе жыццё.

У тым ліку, а мо найперш дзівілі іх Бандзюкі. Во ўвішныя ды практычныя людзі аказаліся. Каб жа хоць адзін з карэнных хутаран такім быў! Не, усіх

пераплюнулі Бандзюкі. Але пра гэта трэба доўга згадваць, цэлы воз Бандзюковых прыгод разам з імі перажылі і хутаране. Перажылі, а таму не надта спяшаліся нешта казаць пра іх — ні добрага, ні кепскага, хай сабе жывуць далей як хочуць, ёсць жа і ў іх свая галава, а паветра хутарскога, на жыце з пшаніцай ды на валошках настоенага, хопіць усім. У людзей і без Бандзюкоў клопатаў вышэй галавы. Не да парасят, калі свінню смаляць...

Але ж і прымаўка на хутары пасля таго засталася. Яе смакавалі на розны лад — і са смехам, і з пагрозай, і нават з'едліва.

— Адступіся, бо спалю, як Бандзюк крэсла...

— Не кідай ты гэтай сыр*ы*зны, — казалі, калі нехта сунуў у печ сырыя дровы. — Не кідай, кажу, бо будзя як Бандзюковаму крэслу...

— А што ж яму будзя?

— А то ты не ведаяш?

— Не-а, ня ведаю.

— Смыроду будзя і дыму. А цяпла і карысці — як з казла малака.

— А ты хіба даіла казла? Во майстрыха, га? А нічога ж ні казала... А то за настаўніцу ўзяла б цябе...

— Дак у цябе ўжо і казёл ёсць? — якое пытанне, такі і адказ. — А хавалася? Ці мо з кашараў астаўсё? — пацяшалася вясёлая суседка над няздатнай на хітрыкі кабетай, хоць ведала, што ў тае ні казла і ніякай маёмасці з кашараў.

Але чаму ж не пасмяяцца, калі падставы маюцца? Язык, як казалі, без косці, што хоча, тое і халосціць. Ды і тое вядома, што адны людзі з гадамі разумнеюць, а іншыя проста становяцца старэйшымі. Кепска бывае, калі на прымаўку забываюцца: «Не радуйся чужой бядзе — свая наперадзе».

## 21

Кажуць, балючай раны не варта вярэдзіць, не трэба дражніць. Яно мо й праўда, бо зачапі толькі яе, як боль па ўсім целе пойдзе, засмыліць скрозь, запячэ ўсё тое, што баліць. А балячак хутаранам не бракавала ніколі.

Во-ой, чаго толькі не перажылося за доўгі час хутарскога побыту. Хапіла ўсяго з каптуром — і за палякамі, і пры першых саветах, што пасля палякаў кіраваць пачалі, і пры другіх, якія пасля вайны прыйшлі. Найбольш мо запала ў сэрца тое, што з недаверам да родных братоў, як называлі савецкія вызваліцелі тутэйшых жыхароў, паставіліся начальнікі на тым баку. А калі сказаць проста, то вялікую крыўду мелі былыя заходнікі. Фізічна не пускалі іх у тую вялікую сям'ю, да якой далучаць намерваліся. Відаць, усё-ткі не давяралі. Бо чым яшчэ можна вытлумачыць, што да самай вайны нікога не пускалі саветы праз ужо былую савецка-польскую мяжу без спецыяльнага дазволу.

Захоча нехта, скажам, у Мінск, а яму — дулю з макам: атрымай спярша дазвол. Ды лягчэй, відаць, зорку з неба дастаць, чым дазвол гэты. Спачатку цябе вывучаць і агледзяць з усіх бакоў, не раўнуючы, як пакупнік карову на Сноўскім базары. Затым праверацць надзейнасць, выпытаюць, вынюхаюць, чым за палякамі займаўся, ці не супрацоўнічаў з дэфензівай, ці не выдаваў членаў КПЗБ, камуністаў, значыцца. Падчас такіх вышуканняў-дапытанняў не адзін пакрыўджаны на суседа мог звесці з ім рахункі, адплаціць, так сказаць, у сто разоў. Здаралася і такое. Але неўзабаве гэткія дабрахоты зразумелі, што і на іхнюю спіну бізун маецца: плявузгаеш ты, нехта і пра твае паводзіны можа кепскае сказаць. Як баба да дзеда, так і дзед да бабы. А таму прыціхлі

«дасведчаныя» інфарматары, сталі трымаць язык за зубамі, рэдка казалі благое пра суседзяў.

Што праўда, пэўная палёгка ад першых саветаў была маладым дзяўчатам. Калі іх выбіраў нехта з прыезджага начальства альбо пекная маладзіца ўпала ў вока нейкаму камандзіраванаму, то для жаніцьбы перашкоды не было. Таму і наравілі мясцовыя бацькі знайсці для сваіх дачок васточніка — так празвалі жаніхоў з таго боку. Тады ўжо лягчэй было і сваякам нявесты, менш правяралі падчас паездкі ў савецкія гарады. Скажаш, што замужам «за васточнікам», і меншае дасціпных пытанняў.

А колькі страху нацярпеліся зімой 1940-га?! Ну й зіма тады выпала — такіх маразоў не памяталі самыя старыя хутаране, казалі, да 45 градусаў даходзіў мароз. Снег валіў без меры. З-за кудасы з завірухай свету белага не відаць. Праўдзівы свой характар паказваў люты. Тады і паверылі людзі прымаўцы: «Пытаецца люты, ці добра абуты». Паверыць то паверылі, але як ад холаду ратавацца, не ведалі. Многія мерзлі нават у сваіх хатах, бо не хапала дроў, не дазваляла новая ўлада лес секчы. А чым паліць, начальнікаў, якія ў абсалютнай большасці былі прыезджымі, мала турбавала.

Тады і адбыліся на хутары два здарэнні, адно з якіх засталося ў памяці Толіка і яго сям'і, а другое ва ўсіх без выключэння смылела пякучым болем цягам усяго жыцця.

Адным лютаўскім днём, калі бярвенні ў сценах хат ажно лопаліся ад марозу, а шыбы на цэлы палец дарослага чалавека абраслі лёдам, з'явіліся на Язаўцы незвычайныя ездакі. Прыехалі на такой машыне, якой хутаране і за палякамі не бачылі. Дасведчаныя ў тэхніцы нядаўнія вайскоўцы сказалі, што гэта ваенная машына. Ведама, па снезе, па бездаражы — бо на хутар зімой ніхто ніколі ні на чым, акрамя конных саней, не ездзіў, убітай дарогі не было, просты аўтамабіль не праб'ецца. Спачатку хутаране праявілі звыклую цікаўнасць. Але неўзабаве іх працяў страх. Вочы не бачылі ні снегу, ні дрэў, ні хат, ужо не кажучы пра пякучае і кусачае сонца. Бо прыезджыя запатрабавалі прыгнаць пяць фурманак, дакладней, саней з коньмі і ездавымі. Знайшлі, хоць і не проста было ўгаварыць гаспадароў. Загадалі. Праўда, Жора Бандзюк дык сам прыпёрся, хоць і без каня. Да кожнага ездавога з прыезджай машыны па два міліцыянты з вінтоўкамі падселі. Добра апранутыя былі: паўзверх шынялёў — доўгія кажухі, пашытыя некалі на тутэйшых заходніх землях, на нагах валёнкі. Шапкі-вушанкі пад барадой завязаны. У такой вопратцы ніякі мароз не страшны. Але і яны сталі рукамі ў трохпальцавых рукавіцах па плячах стукаць, сагравацца — мо прамерзлі ў тым жалезе?

А тады пачалі дабірацца да некаторых хат. Нічога не разумелі хутаране. Адно праз замерзлыя шыбы, бо баяліся на надворак выходзіць, цікавалі, што далей будзе. Адбывалася ж сапраўды нешта страшнае. Выбралі прыезджыя сем хат, каб знайсці некаторыя, спатрэбілася падмога Жорыка.

Дзіўна, але выбранымі аказаліся тыя хаты, дзе самыя бедныя і шматдзетныя сем'і жылі. Па шасцёра-сямёра дзяцей сядзела на печы гэтым холадам. З хаты не вылазілі нават на свой надворак — не было чым задніцу прыкрыць, портак у хлопцаў не было. Калі ўжо вельмі мерзлі малыя нават у хаце, то па чарзе завязвалі на попу матчыну хустку-канаплянку, бо на ўсіх хустак не хапала. Дык вось, гэтых гаспадароў разам з іхнім бедным пажыткам і з малечай выводзілі ў сані. А малеча тая так і была з канаплянкай на попе. Сем хат ачысцілі такім чынам. А вось таго дома, які з вялікай нацяжкай можна было назваць багатым, бо ў гаспадара меліся і веялка, і сеялка, і малатарня, і людзей некалі

наймаў на працу, хоць, што праўда, добра плаціў за гэта, не кранулі прыезджыя, нават не заехалі туды.

І можна сабе ўявіць, якім цяплом саграваліся бедныя дзеткі з канаплянкамі на задніцы, пакуль усіх іншых збіралі ад хаты да хаты. А што ўжо было з імі, калі павязлі на чыгуначную станцыю ў Гародзяй, якая кіламетраў за дваццаць ад хутара, то ад аднаго ўяўлення пра тое мароз па скуры. Вазніцы-ездавыя нават расказваць баяліся: прыезджыя загадалі ім нічога не бачыць і нічога не чуць. Тыя і маўчалі, навучаныя нядобрым лёсам.

І толькі праз шмат гадоў, ужо калі мяжа паміж Усходняй і Заходняй рэальна перастала існаваць, калі ў Маскве не стала Сталіна, вярнуліся на Язавец з невядомай хутаранам далёкай далечы, што Сібірру называецца, дзве ссівелыя і нязвыкла рана пастарэлыя жанчыны. Адна з дзвюма дочкамі, другая з адной. А што з астатнімі людзьмі сталася, то хутаране так і не даведаліся. Бо і жанчыны негаваркія былі, відаць, Сібір адмарозіла іхнія языкі. Добра, што хоць самі жывыя засталіся, чым ужо тут хваліцца…

Праўда, гэты дзікі хапун абмінуў сем'і Гэтэвічаў і Назаноў. Але ў хутарскіх жыхароў доўга яшчэ жыў страх: калаціліся ад кожнага вуркатання любой машыны — ці не вяртаюцца хапуны, мо замала першы раз набралі? На шчасце, паўтарэння гэткага разбою не было. Адно цішком шапталіся хутаране пра тое здарэнне ды пераказвалі пачутае ад ліпаўскіх і баярскіх вяскоўцаў. Тыя ж таксама шэптам дзівіліся: што гэта за час такі наступіў, што можна забіць, знішчыць чалавека словам. Некалі забівалі стрэлам, сякерай, нечым яшчэ, цяпер жа хапала аднаго адзінага слова. Данёс — і гатова. Хто першы, той і лепшы, той перамог, жыць застаўся.

Івану нават анекдот на гэтую тэму адзін баярскі мужчына расказаў. Але не ў хаце, а на полі, дзе вушэй лішніх не было.

Сустрэліся ў гулагаўскай турме двое. Адзін і пытаецца:

— За што сядзіш, га?

— За ляноту, — адказвае.

— Не зразумеў…

— Вечарам з суседам бралі па сто грамаў. Пасля на анекдоты пацягнула. Не абміналі і палітычныя. Позна паразыходзіліся, каля поўначы. Я не захацеў ісці ў органы, каб расказаць пра ўсё. Сусед жа не паленаваўся. Вось я і тут…

Ды ўся бяда ў тым, што анекдоты гэтыя вельмі часта станавіліся суровай рэальнасцю. За ўсе праўдзівыя і няпраўдзівыя грахі мог здаць сусед суседа, адным сваім словам мог пазбавіць жыцця таго, на каго зуб меў…

Яшчэ з польскага часу запомнілі хутаране: на чыім вазку едзеш, таму і песенькі спявай. Аднак сустракаліся сярод іх і безгалосыя, гугнявыя, і зацятамаўклівыя. Бывалі, што праўда, і вельмі галасістыя. А для ўсіх іх адзін закон: як спяваеш, так і маеш…

***Заканчэнне ў наступным нумары.***



Анатоль ЗЭКАЎ

# ЗЯМЛЯ ДЛЯ НАС — АГУЛЬНЫ ДОМ

## БЕЛАРУСЫ

Згараем мы ў варожым полымі —
і ўжо не ўратавацца быццам.
Ды нас не ўзяць рукамі голымі,
як і не ўзяць у рукавіцах.

Стараемся з агню звек выскачыць,
хоць, бы вуглі ў ім, пачарнелі,
ды, як ні паляць нас, мы звычныя —
дасюль яшчэ вунь не згарэлі.

І хоць адзін калі з нас выжыве,
дык не звядзецца род ніколі:
і мову не адымуць прышлыя,
і нас саміх не заняволяць…

## НАСТАЛЬГІЯ

Пры якім ні быў бы чыне,
хто б цябе як ні ўзвялічваў,

---

***Зэкаў Анатоль Мікалаевіч*** *нарадзіўся 20 студзеня 1955 года ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна. Пасля заканчэння гісторыка-філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1977) працаваў карэспандэнтам гомельскай раённай газеты «Маяк», у рэдакцыях газет «Чырвоная змена», «Книга и мы», «Добры вечар», «Беларуская лясная газета», часопісаў «Вожык», «Полымя», «Вясёлка», у выдавецтве «Мастацкая літаратура».*

*Выдаў кнігі паэзіі «Боль сумлення» (1989), «Промнік позірку твайго» (2008), «Пад кронай белых аблачын» (2013), «Белае сонца бяроз» (2016), сатыры і гумару «Дуэль» (1994), «Дуэль-2» (1995), «Кругі ў галаве» (2007), «Вінегрэт пад фуршэт» (2015), «Тары-бары» (2015), «Замарожаныя пачуцці» (2015), прозы «Вясельнае падарожжа ў Стамбул» (2000), «Генеральскі нумар» (2011), для дзяцей «Чатыры зярняткі» (2000), «На арэхавым кані» (2003), «Зязюля Гулюля» (2011), «Не казкі пра Сашку» (2013), «Безбілетны Зай» (2014), «Азбуку мядзведзь вучыў» (2015) і інш.*

настальгія па Айчыне
за мяжой душу казыча.

Дух Айчыны, ён нязводны.
Наша ў тым і падабенства:
адтаем, як вее родным,
чым і веяла з маленства.

* * *

Па пашпарце і сын мой родам
з маёй Патапаўкі, адтуль,
дзе, як і ўсюды, з кожным годам
дзяцей нашмат менш, чым бабуль.

З адных крыніц пілі ваду мы,
адна нас песціла зямля,
ды мне і сыну часам сумна,
што згадваем яе здаля.

* * *

Дах для зямлі — не проста дах,
бо дахам — неба для зямлі.
Ды і зямля — не проста гмах,
які прапрашчуры ўзвялі.

Зямля для нас — агульны дом,
і ў доме тым нам жыць усім.
Калі ж дом раптам мы ўзарвём,
то і загінем разам з ім.

Не можам мы таго не знаць,
аднак, гуляючы з агнём,
ці не пара нам перастаць
падкладваць дровы
пад наш дом?

* * *

А гады ўжо ляцяць,
і за спінаю — смерць.
Шмат хацеў бы сказаць,
ды наўрад ці паспець,

і наўрад ці адкрыць
тое ўсё, што ў душы.
Век імкліва ляціць
да апошняй мяжы.

Для каго гэта ўжо
я жыццё ўсё бярог?
Што за тою мяжой,
адно й ведае Бог.

* * *

Не зарастае быллём
памяць
і голаў не тлуміць.
Жыць можна з сытым валлём
і ні пра што больш не думаць.

Ды як, не думаўшы, жыць,
памяць адрынуўшы раптам?
Жыць — як само набяжыць?
Можна і так.
А ці варта?

## АКОП

***Праўнукам ветэрана вайны***
***Івана Яўхімавіча Зэкава***

Капаюць акоп у мірныя дні
нашчадкі ваеннага прадзеда.
Унукаў, бабуля, у тым не віні,
бо ім гэта ў спадчыну дадзена.

Калі ад блакады стагнаў Ленінград,
акоп не адзін прадзед выкапаў,
каб потым ніколі не трапіў снарад
ў акоп да Мацвея з Нічыпарам,

каб сніліся ім толькі мірныя сны
і каб іх мінулі часы неспакойныя…
Кап*а*юць акоп у мірныя дні
Іванавы праўнукі —
праўнукі воіна.

## ПАЭЗІЯ

А што паэзія?
Лязо.
Па ім, нібы па мінах, ходзіш
і, шапялявячы «няўзо?»,
«няўжо» сапраўднае знаходзіш.

Няўжо паэзія — лязо,
і, рыфмы кінуўшы на рыфы,
праз шапялявае «няўзо?»
яна жыве спрадвек для рыфмы?

* * *

Туга — хвароба невылечная,
і дні ўсе ёй спаўна аздоблены.
Пара задумацца пра вечнае
і дарабіць, што недароблена.

Пара, адкінуўшы мізэрнае,
на болей важным засяродзіцца,
бо ўжо і сілы не бязмерныя,
дый ці на ўсё іх раптам хопіць,

зрабіць яшчэ так многа хочацца
і ні на кроплю не раскаяцца,
пакуль жыццёвы век не скончыцца,
які імкліва ўсё ж канчаецца.

* * *

Адмераў веку Бог нямнога —
жыцця канчаецца сувой,
і ўжо жыццёвая дарога
вядзе мяне на фініш мой.

Я, зрэшты, смерці не баюся —
няхай ступае на парог! —
хіба што на сябе злуюся,
бо шмат чаго зрабіць не змог.

Шкадую сёння я пра тое,
што, непрыкаены ў жыцці,
я час разменьваў на пустое,
а штось галоўнае ўпусціў,

што, можа, быў зашмат лянівы,
у працы не згараў датла,
што не зрабіў цябе шчаслівай,
такой, якой ты быць магла.

І хоць вядуць мяне на фініш
мае жыццёвыя гады,
ды рады я, што свет не згіне —
і будзеш жыць на свеце ты.



Мікола ЧАРНЯЎСКІ

# ЯК ПАД БАЦЬКАВАЙ ГРУШКАЙ ПАСТАЯЎ...

*З жыццёвых быляў*

## Хведар і Варачка

Купляючы ўнуку ці ўнучцы «Твікс», як і шмат хто з пакупнікоў, спачатку з усмешкай вычытваў на абгортцы трохі гарэзлівае, бы з нейкім таямнічым намёкам, выслоўе «Салодкая парачка». Адсюль ды з рэкламных ролікаў яшчэ, што паспелі прымільгацца ў вачах з экранаў тэлевізараў, пайшло яно ў свет, у людзі, набыўшы нейкі свой, у нечым станоўчы і ў нечым насмешліва-негатыўны сэнс: «Салодкая парачка»… Не ведаю, як хто ўспрымае гэты свавольны выраз, каму як ён падаецца, а мяне заўсёды вяртае ў родную вёску, у маленства, навявае свой, блізкі да гэтага выслоўя, успамін…

Памятаю, у нас хадзіла прымаўка, якую ні я, малы шалапут, ні мае сябрыаднагодкі не маглі зразумець: «Сабралася парачка — Хведар і Варачка». І чамусьці вяскоўцы часта казалі такое пра мужа і жонку, у якіх не ўсё добра ішло ў сям'і, не так, як ім хацелася б, не адпавядала звычкам вяскоўцаў — сапраўдных руплівцаў: ці былі яны абодва гультаяватыя, ці занадта вясёлыя, «бязлаберныя», як у нас казалі, хоць, здавалася б, не галадалі, нешта ў двары вялося.

З гадамі зразумеў, што да чаго, на свае вочы ўбачыў і гэтага Хведара, і тую ж Варачку, бо жылі яны, аказваецца, у пасёлку, які называўся ў нас Цэнтральным, і пачуў не адну гісторыю, звязаную з гэтым Хведарам і яго дзівацтвамі. І ўсе — нясумныя, прыцепленыя гумарам, усмешкай, што ў жыццё калгаснай вёскі прыўносіла нейкія праблескі хоць хвіліннай, мімалётнай, але бестурботнай падвяселенасці, перасмеху.

---

***Чарняўскі Мікалай Мікалаевіч*** *нарадзіўся 16 студзеня 1943 года ў вёсцы Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1966). Працаваў у рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі», на Рэспубліканскім радыё, у часопісах «Бярозка» і «Вясёлка».*

*Піша для дзяцей і дарослых. Аўтар зборнікаў лірыкі, сатыры і гумару: «Чалавечнасць» (1971), «Трывога» (1988), «Лёкса ў люксе» (1993), «У трох соснах» (1996), «Сонечны кошык» (2009) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра (1995), прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (2001), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2010).*

А яшчэ ж у вёсцы Хведара болей ведалі па мянушцы Сараград. Як і хто, з якой «ласкі» ўзнагародзіў яго такой дзіўнаватай мянушкай, я не ведаю па сённяшні дзень. І ўжо наўрад ці даведаюся. Можа, хто з вяскоўцаў і ведаў, але ж у малалецтве нас, падшыванцаў, гэта мала цікавіла. Затое ведаю, з-за чаго да Хведаравага ўнука, а да майго старэйшага сябра і цёзкі, а пазней і кума, прыстала мянушка Камуніст. Аднак пра гэта трошкі пазней...

Што дзядзька Хведар Сараград быў чалавек з гумарам, бяскрыўдна вясёлым, нават жаданым у любой вясковай згуртоўцы, я не адзін раз мог сам пераканацца. Калі ён, цыбаты, ужо добра падсушаны пражытымі гадамі і нялёгкай доляй сялянскага рупліўца, але з заўсёднай міла-таямнічай усмешкай на вуснах і прыжмурам лагодных вачэй, у нязменным капелюшы, падыходзіў да людской купкі, якая збіралася часцей каля вясковай крамы ці клуба, усе неяк прымаўкалі, расступаліся, быццам запрашаючы «падыходзіць бліжэй», і ўжо мелькам пераглядваліся між сабою, бо ведалі: зараз дзядзька Хведар «ляпне» нешта смешнае ці ўшчыпне кабету за бок, гарэзліва падкрэсліўшы сваю неабыякавасць да іх у маладзейшыя гады, быццам нагадваючы такім «конікам»: «Я яшчэ о-го-го!» З гумарам, канешне, бо пра яго захапленне любошчамі ды заляцаннямі да чужых вясковак я чамусьці ні разу не чуў. Каб яны былі ў дзядзькі Сараграда — на вёсцы не схавалася б ад людскога вока.

Ведаў я толькі, што ў маладзейшыя гады, калі служыў у войску, сваёй Варвары любіў пісаць лісты. Мабыць, не ўмеючы добра чытаць, яна хадзіла з імі да суседзяў, і таямніцы гэтых лістоў, іх інтым, як цяпер сказалі б, хутка разыходзіліся па пасёлку і далей па ўсёй вёсцы. Шкадую, што не дайшло калісьці да майго розуму знайсці нейкую зачэпку і пацікавіцца ў гэтай сямейнай «салодкай парачкі» тымі пісьмамі, якія ў свой час невыпадкова сталі здабыткам вясковага фальклору, увайшлі ў «рэпертуар» мясцовых жартаўнікоў і перасмешнікаў.

Мяркуючы па лістах з войска, Хведар Сараград служыў недзе далёка ад дому, там, дзе давялося ўбачыць горы. А якія яны падаліся яму, паспяшаўся расказаць сваёй любай Варвары. «Дарагая Варвара, — дзяліўся навіною і ўражаннямі ад убачанага ён. — У нас тут горы-горы, як на кладбішчы кражы!» А з чым жа яшчэ параўнаць: сапраўды, гэтыя хвоі на могілках, што раскінуліся паблізу пасёлка, на ўзгорыстым водшыбе, з гадамі выструніліся вышэй за ўсе дрэвы ў ваколіцы, і, каб азірнуць іх верхавіны, трэба было добра задраць галаву. Я яшчэ застаў іх на ўкрыжаваным пагосце, сам убачыў такімі высознымі…

Здзіўляла вяскоўцаў, што ў тых пісьмах да жонкі Хведар Сараград ніколі не скардзіўся на цяжкасці і суровы побыт салдацкай службы, на нейкую там муштру. Нярэдка ён дзяліўся з ёю армейскімі навінамі такога кшталту: «Дарагая Варвара! Нядаўна ў нашым узводзе случылася вялікае няшчасце: мой таварыш гарачым супам сабе пуза апарыў». Чыталі суседзі, смяяліся, і самой Варвары ад такіх пісьмаў на душы, напэўна, не так сумна было, весялей станавілася…

Яшчэ большым дзівацтвам падалося вяртанне Хведара Сараграда з вайны, з Германіі. Яму пашанцавала перажыць ліхалецце, прайсці праз вайну і жывым вярнуцца дахаты. Не сакрэт, што, вяртаючыся з чужыны пераможцамі, нашы вайскоўцы ехалі адтуль не з пустымі рукамі, везлі трафеі, якія каму дасталіся, прыйшліся даспадобы. Адзін з нашых буднян не абцяжарваў сябе ўсялякімі там срэбнымі лыжкамі ды відэльцамі, люстрамі ды «лісапетамі», а прыехаў, лічы, улегцы: прывёз у сваім салдацкім заплечніку, апрача неаб-

ходных там харчовых прыпасаў, толькі… кацялок іголак. Хітрым сялянскім розумам ён скумекаў, што ў пасляваеннай разрабаванай вёсцы гэтыя самыя іголкі будуць на вагу золата. І не памыліўся. Збываючы іх вясковым кабетам, праз нейкі час разжыўся і на «лісапету», і на іншыя рэчы, якія некаторым былі не па кішэні.

Дзядзька Хведар таксама прыехаў з вайны нібыта ўлегцы, не абцяжараны залішне розным там хатнім скарбам ды прычандаллем. Ці то гэтак падказаў яму той жа ягоны сялянскі розум ды ў нечым гуллівая натура, ці то паспеў пры дзяльбе дармавых трафеяў толькі на разбор шапак, а прывёз ён з пераможанай, але не такой ужо беднай, як самі былі, Германіі поўны мех… капелюшоў. Ці, як у нас казалі, брылёў. Гэтымі дзіўнымі для вёскі «трафеямі» Хведар Сараград без аніякай шкадобы шчодра падзяліўся з усімі сваякамі, раздаў іх. Не абмінуў і малечу — унукаў, пляменнікаў. Босыя, у латаных-пералатаных кашулях ды штанах з вясны да восені гойсалі яны па вуліцы ў тых брылях, што выклікала ў вяскоўцаў міжвольную ўсмешку, бо надта смешна было дзівіцца збоку на такое відовішча — франтаватага галадранца.

## Паляк і Камуніст

Браты Лёнька і Коля, каму з Хведаравай ласкі пашанцавала выбіцца ў такія «моднікі», жылі ў нашым пасёлку. Жылі ў дзеда Паўліка і бабы Вулляны, якая даводзілася Хведару Сараграду роднай сястрой. Іх маці, якую, як помню, болей звалі ў нас не Сцепанідай, а Сцёпай, з меншымі дочкамі Раяй і Зояй перабралася ў новую хату на суседнюю Зайцоўку, а хлопцы чамусьці днявалі і начавалі ў дзеда з бабай. Адсюль хадзілі ў школу, тут гулялі з намі.

Лёнька быў старэйшы за Колю на год ці два. І, як у многіх з нас у вёсцы, былі ў іх свае мянушкі: у Лёнькі — Паляк, а ў Колі — Камуніст. Па мянушках хлопцаў ведала вуліца, імі часцей за ўсё карысталіся і мы, вясковая малеча: «Бачыў Паляка», «Гуляў з Камуністам». Браты не злаваліся за гэта, не лічылі свае мянушкі за нейкія там абразлівыя дражнілкі. Не кідаліся з кулакамі ў бойку, пачуўшы іх ад старэйшых ці маладзейшых дружбакоў. Тым болей — ад дарослых. Нават з’едлівая, як нам здавалася, прыпеўка, што, здаралася, злятала з нашага языка, каб за нейкую дзіцячую крыўду «куснуць» таго ж Лёньку, часта выстрэльвала ў «малако», не выклікала чаканай успышкі злосці і помсты з ягонага боку. Ён часцей прапускаў яе міма вушэй, успрымаў так, быццам тыя кепліва-з’едлівыя словы адрасаваліся не яму, а некаму іншаму, былі за самую звычайную дзіцячую забаўку:

Рускі, немец і паляк  
Танцавалі кракавяк,  
Рускі выхапіў бутылку  
Ды паляку — па затылку.

Трапіла ж гэта прыпеўка ў наш «рэпертуар» з даволі непаўторнага «рэпертуару» вясковага перасмешніка Хамы: без яго таптання пад гармонік, падагрэтага шклянкай-другою «жыватоўкі», не абыходзілася, мабыць, ніводная вечарынка. І згаданая прыпеўка ў яго выкананні, што сама сабою перадалася вушлай дзятве, была самай прыстойнай, за яе ніхто з бацькоў не круціў за вуха, калі нехта з нас, падшыванцаў, паўтараў яе прылюдна.

Я ж, дзякуючы Лёньку, зрабіў для сябе адкрыццё: упершыню даведаўся, што ёсць такая краіна — Польшча.

Памятаю, узнікла ў мяне нейкая патрэба ўбачыць Лёньку. Прыбег да дзеда Паўліка ў хату, расчыніў дзверы і па сваёй дзіцячай звычцы выгукнуў яшчэ з парога:

— Паляк дома?

— Няма, — прыхаваўшы ўсмешку ў рыжавата-пракураныя вусы, адказаў мне дзед Паўлік.

— А дзе ён? — трымаючыся за клямку дзвярэй, зноў пацікавіўся я.

— Палякі жывуць у Польшчы, — з ранейшай іроніяй патлумачыў дзед. — А ў нас ім няма чаго рабіць. Мы ж не паны, як яны сябе завуць…

Як мыла з'еўшы выскачыў я на вуліцу, сеў на лавачку каля веснічак, спадзеючыся тут дачакацца, калі вернецца адкуль патрэбны мне Паляк. Сяджу, чакаю, а сам сабе бубню пад нос: «У Польшчы, у Польшчы…» Дзе яна знаходзіцца? Радыё тады ні ў кога не было, газет я не чытаў, геаграфію яшчэ не вывучаў, адкуль я мог чуць і ведаць пра тую Польшчу?

Я не ведаю, чаму да Лёнькі прыстала такая мянушка, хто яе даў. Можа, з-за Хведаравага капелюша? Надта ж фацэтны капялюш дастаўся ад дзедавай дзяльбы Лёньку, сапраўды панскі з выгляду. Цёмна-карычневы, гожа абвіты зверху такой жа шаўкавіста-срэбнай стужкаю, ён шыкоўна і вельмі зграбна сядзеў на Лёнькавай галаве, быццам хтосьці прымерваў яго, перш чым ашчасліваць хлопца, прыдаючы яму выгляд калі не паніча, то ўладальніка фацэтнага ўбору. Толькі б яшчэ апратку яму болей прывабную, багацейшую, чым збітыя чаравікі і шарачковыя, добра-такі выцертыя штаны. Не адзін год, памятаю, у школу і са школы адхадзіў ён міма нашай хаты, нязменна штосьці насвістваючы і размахваючы арэхавым кійком, які быў з выдумкай аздоблены яго рукатворнымі ўзорамі. Па Лёньку можна было звяраць раніцай гадзіннік: калі чуўся за акном яго свіст, можна не сумнявацца — ходзікі на сцяне паказваюць восем, і табе ўжо таксама трэба выбірацца ў школу. І свістаў ён не проста так, абы пасвістаць, а з нейкімі каленцамі, быццам падладжваўся пад салаўя. Вясной ці той жа восенню гэты свіст успрымаўся натуральна, звыкла, а вось халоднымі зімовымі прыцемкамі пачуць за мураванымі марозам вокнамі такога «салаўя» было да смешнага дзіўнавата.

У адрозненне ад свайго брата мой цёзка Коля ахвотаю да свісту не вызначаўся. Болей рослы, але болей запаволены ў рухах і гаворцы, ён, як мне здавалася, не дужа шаноўна ставіўся да свайго брыля. Бегаў у ім нават пад дажджом, не беручы ў галаву, што ён размокне і ператворыцца ў лямцаваты грыб. Нейкага мышынага колеру, як і мундзіры нямецкіх вайскоўцаў, якія можна было ўбачыць на плячах у таго-сяго з нашых вясковых мужчын, глыбокі, з шырокімі абвіслымі палямі, ён налазіў Колю на самыя вушы, быццам хаваў пад сабою яго вочы і нос, і не ішоў у ніякае параўнанне з Лёнькавым фацэтным капелюшом.

Нягледзячы на ўсе насмешкі вясковых жартаўнікоў, Коля любіў круціцца каля старэйшых хлопцаў, за іх не дужа салодкую «ўзнагароду» — зацяжку ці дзве самасаднага дыму — мог выканаць тое ці іншае пажаданне. Часцей зводзілася да аднаго: «Коля, паўтары раз за разам — камуна, камуна, камуна». Як цяпер бачу: Коля выпростваўся, задзіраў галаву, прыкладваў да рота далоні і, як той Тарзан у нашым любімым кіно, пачынаў выгукваць. І ўся соль паднначкі вясковых жартаўнікоў заключалася ў тым, што хлопец не мог правільна і дакладна прамаўляць мала знаёмае яму слова «камуна». Яно прамаўлялася ім чамусьці вельмі парадыйна, болей нагадвала дражнілку, чым што якое: «Камуня, камуня, камуня…» Дзіўна, але не гэтае «камуня» прыстала да яго

мянушкаю, а ў нечым палітычна-правакацыйнае — Камуніст. Я думаю, поўны сэнс гэтага слова ён зразумеў ужо значна пазней і, магчыма, з пэўнай доляй гумару вымаўляў яго, згадваючы пару свайго маленства, а тады…

## Тайнае хрышчэнне

Як бы там ні ставіўся ён да свайго статусу «камуніста», Коля, стаўшы бацькам, не пярэчыў сваякам і, падпарадкаваўшыся нейкаму ўнутранаму пачуццю і перакананню, свайго сына-першынца адважыўся пахрысціць у царкве. Гэта не цяпер, не ў перабудовачную бязладзіцу нават, а значна раней, на пачатку 60-х, калі ішоў самы наступ на рэлігійна-культавыя прыходы і храмы. З-за боязі трапіць у няміласць да ўладных чыноўнікаў (нават самага ніжэйшага рангу), зрабіць такі крок тады не кожны асмельваўся. Рызыкоўна ўсё ж! З уладай не пажартуеш! Але ж ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць. Тым болей, што начальніцкім партфелем, з-за якога маглі даць па шапцы без асаблівага разбору, абзавесціся не прадбачылася, а «корачкі» вадзіцеля не адбяруць. І мой сябра не ўпіраўся: трэба пахрысціць, дык трэба. А можа, яно і да лепшага? Праўда, хрышчэнне гэта меркавалася правесці ў поўным сакрэце, па папярэдняй дамоўленасці са святаром у самім Жлобіне, дзе на той час царква не была зачынена, ладзілася служба.

Як і старэйшы брат Лёнька-Паляк, Коля, адслужыўшы ў арміі, з’ехаў з вёскі, знайшоў працу ў не такім ужо далёкім ад нас, маладым горадзе хімікаў Светлагорску, бліжэй да брата. Да маці і бабы Вулляны прыязджаў на выхадныя. Я таксама з Мінска часта наведваўся да бацькоў у розныя там святы, а калі надараўся адпачынак — з лета ў лета праводзіў яго ў сваёй вёсцы, дома.

Сустрэўшыся аднаго разу, Коля-Камуніст падчас застольнай гамонкі ў матчынай хаце неспадзявана агаломшыў мяне: «Мы з Нінай былі б рады, калі б ты згадзіўся стаць хросным бацькам нашага Артура, стаў нам кумам». Прызнаюся, я спачатку задумаўся: мне, камсамольцу, нават члену райкама камсамола аднаго са сталічных раёнаў, маладому супрацоўніку Рэспубліканскага радыё, ці варта ўвязвацца ў такі «крымінал», прымаць такую прапанову няхай сабе і лепшага дружбака? Як яно «адгукнецца» мне потым? Але перамог нейкі мала зразумелы і самому на той час малады запал, нават нейкая безразважная бравурнасць: «З чым чорт не жартуе! Няўжо, калі даведаюцца ў Мінску, не даруюць мне гэты мой цяжкі ідэалагічны “грэх”? Чаму б не стаць кумам, ку-у-мам? Гэта ж не ўсім даецца такая мажлівасць! Нават — гонар!» І я згадзіўся.

Як пераканаўся неўзабаве, можна было пагадзіцца на такое «злачынства» толькі з-за… кумы, якую падшукалі мне ў «змоўшчыкі» — яшчэ маладзейшай за мяне дзяўчынкі Зіны. Танклявая, апранутая ў шаўкавістую сукенку жаўтлява-салатнага колеру, што шчыльна абцягвала яе зграбную постаць, яна нагадвала перадвелікодную вярбовую галінку, ад якой не хацелася адводзіць вачэй. З такой кумою і пад вянец не грэх было б пайсці, калі б згадзілася ашчасліваць сваёй ласкай…

З ёю ранічкай выбраліся мы на станцыю Салтанаўка, каб прыгарадным цягніком дабрацца да Жлобіна. На ўсялякія там легкавікі тамашні люд яшчэ не быў багаты, як цяпер, не было з кім дамовіцца бацькам, каб сваім ходам падвезці нас з дзіцём да царквы. Тым болей не хацелася, каб нехта лішні ведаў пра такое патаемства. Папераменна то я, то кума Зіна бралі з рук маці Ніны

ношу з сынам, каб аблегчыць і ёй дарогу да станцыі, падмагалі несці свайго хрэсніка.

Мяркуючы па ўсім, служба ў царкве вялася не кожны дзень. Але ў гэты раз, як і было кімсьці дамоўлена з ім, бацюшка з'явіўся ў храм загадзя, яшчэ да пачатку галоўнай службы. Царкоўны стараста, дзябёлы чырванашчокі дзядзька, які, па ўсім відаць, любіў не заўсёды боскія прычашчэнні за межамі святога прыходу, запісваючы звесткі пра нас, хросных бацькоў, у царкоўную рэгістрацыйную кнігу, даведаўшыся, дзе я працую, затрымаў у руках маё рэдакцыйнае пасведчанне (я не ведаў, што спатрэбіцца нейкі дакумент, а нічога іншага, апрача пасведчання, у мяне на той момант не аказалася), неяк загадкава-хітравата пацікавіўся:

— А не баіцеся, што вас могуць пакараць, звольніць з работы за гэта? Вам жа, мусіць, як і ўсім камуністам і камсамольцам, забаронена хрысціць дзяцей? Не мусіць, а так і ёсць. А нас жа правяраюць, глядзяць, хто бывае ў царкве. І я сам абавязаны падаваць звесткі, куды трэба…

Памятаю, я не падаў выгляду, што яго перасцярога збянтэжыла мяне, перавёў усё на жарт: «Я ж не ў міліцыю ці выцвярэзнік трапіў, неяк выкручуся, калі што якое». Аднак, уносячы грошы за хрышчэнне ў царкоўную касу, што знаходзілася ў распараджэнні гэтага ж старасты, я падкінуў яму лішнюю пяцёрку: «На патрэбы храма». Не з-за нейкай там боязі ці подкупу, а з чыста чалавечых намераў. Няхай і ён разгавеецца пасля службы.

— Дзякую, дзякую, — расплыўся ва ўсмешцы, а мае «чаявыя» неяк непрыкметна адсунуў рукавом далей ад скарбоначкі, куды перад гэтым паклаў «узнос» за працэдуру хрышчэння, потым сунуў іх пад свой «кандуіт».

Ды царкоўны «іспыт» на гэтым не скончыўся. Пакуль бацюшка недзе там усё нешта расстаўляў і парадкаваў, рыхтуючыся да працэдуры хрышчэння, у старасты знайшлася яшчэ адна зачэпка. Ён не надта настойліва, ды ўсё ж выказаў сваю нязгоду з нашым пажаданнем запісаць хрэсніка Артурам.

— Пад такім імем мы не можам хлопчыка хрысціць і запісаць у сваю рэгістрацыйную кнігу.

— Чаму? — ледзь не ў адзін голас здзіўлена перапыталі мы з кумою Зінай.

— Таму што ў царкоўным календары няма імя Артур. Ёсць імя — Арцём. Згодны, каб запісалі яго Арцёмам, па царкоўных правілах?

Памуляліся з кумою, захопленыя знянацку такой нечаканкай, паразважалі з хвіліну, ды пагадзіліся: Арцёмам дык Арцёмам! Хто будзе выведваць, цікавіцца, як яго тут ахрысцілі, якое імя далі? Ёсць жа загсаўскае пасведчанне аб нараджэнні, і па ім ён усё роўна застанецца для ўсіх Артурам. Як бацькі таго захацелі. Чаго яшчэ таргавацца, у спрэчку з царкоўнымі законамі ўступаць?..

Забягаючы наперад, скажу: калі нядаўна расказаў хрэсніку пра гэты выпадак, звязаны з яго хрышчэннем, ён нямала здзівіўся: «Ведаеце, не трэба было тады надта ўпірацца. Цяпер імя Арцём бадай самым модным у бацькоў стала. Артураў можна па пальцах пералічыць, а Арцёмаў цяпер — праз аднаго. Ніхто ўжо яго старамодным не лічыць. — Потым дадаў жартаўліва: — Ну, я ўжо не буду пашпарт перарабляць, як і быў, застануся Артурам. За модай не ўгонішся…»

Хто ж думаў, што цягам часу адбудзецца такі паварот у выбары знябытых, здавалася б, імён, звычак да не такога ўжо беспрасветнага мінулага?..

Пасля было гаманлівае хрэсьбіннае застолле ў барачнай кватэры Нініных бацькоў. Па даўняй традыцыі я, ужо ў статусе кума, выкупліваў на таргу з

гасцямі «кашу», разбіваў аб рог стала гліняны гаршчок, у якім яна чакала свайго прысуду, каб потым стаць пачастункам для падвяселеных гасцей, пільнаваў куму, каб яе «цыганы» не ўкралі ды не пасадзілі праехацца на… вастразубай баране, якая невядома адкуль з'явілася раптам у пакоі гаспадароў. Давялося зноў выдаткоўваць нейкія рублі з не такога ўжо багатага халасцяцкага бюджэту, каб адкупіцца ад іх…

## «Мікрараён»… побліз пагоста

Даўно ўсё было. Амаль паўстагоддзя прамінула з таго дня, а помніцца гэта ўсё, быццам адбылося толькі ўчора. Эх, каб такія імгненні маглі паўтарацца, змаглі вярнуць туды, у далёкае тагачассе, калі душа хаўрусавала з маладосцю, а Хведар з Верачкай радаваліся праявам зямнога жыцця, выганяючы і пераймаючы з пашы карову, шукаючы божага блаславення ў ранішніх і вячэрніх малітвах, бо, як шмат хто з вяскоўцаў, якія пабачылі веку, верылі ў дабрыню Усявышняга, у яго сілу і ласку…

Еду па вуліцы, стараюся згадаць, дзе чыя хата стаяла раней, каго ўбачу цяпер на дворышчы. І міжвольны смутак агортвае душу: не пазнаю іх. Не пазнаю, бо не бачу саміх хат. Няма ўжо ФАПа — фельчарска-акушэрскага пункта — дзе ўсмешліва-лагодная фельчарка Ксеня накладвала бінт, падмацаваўшы павязку ўколам ад слупняку, калі, гуляючы з хлопцамі ў футбол, пры верхавой сутычцы акрывавіў сабе лоб, на якім па сённяшні дзень захаваўся рубец. Не відаць і Хведаравай хаты, што тулілася па суседстве з ім у прысядзібным вішняку. Вішняк захаваўся, але ўжо здзічэлы, непралазны, кінуты людзьмі. Застаўся, каб нагадваць тым, хто загляне ў гэты куток, што калісь тут нехта жыў… Колькі ні ўзіраўся б, не ўбачыш на падворку і даўгалыгай постаці Хведара Сараграда, увенчанай трафейным брылём. Ён даўно перабраўся на вечны спачын ад зямных турбот пад тыя «кражы», з якімі ў пісьмах да сваёй Варвары параўноўваў чужыя, далёкія адгэтуль горы. Туды ж, прабедаваўшы ў самоце з нейкі год, прыземкам адправілася і Варвара: «Як жа яму там аднаму?»

Каб жа аднаму: амаль усе з вяскоўцаў сталага веку (і той-сёй з маіх аднагодкаў), каго я ведаў у маладыя гады, нярэдка гуртаваўся, перабраліся ўжо на пагост, пад тыя кражы ды бярозы. Новае жыццё роднай вёсцы ўдыхнулі… перасяленцы з чарнобыльскай зоны. Гэта бяда зрабіла іх тут гаспадарамі. Калі б не яны, мусіць, даўно б анямеў трохпавярховы будынак школы, бо ў ёй наўрад ці ўдалося б набраць тыя дзевяць дзясяткаў вучняў, што ходзяць у школу сёння. А мне шкада і той драўлянай сямігодкі, у якую некалі бегаў я: не ўратавалася ад пажару, аднае ночы згарэла ўся. Ці хто знарок падпаліў, ці электраправодка вінавата…

Як ні дзіўна, але тутэйшы чарнобыльскі «мікрараён» раскінуўся зноў жа… побліз пагоста, тады яшчэ ў чыстым полі. Два пасёлкі выраслі за нейкі год, даўшы прытулак дзясяткам сем'яў з той зоны адчужэння, якая неспадзявана апынулася пад чорным крылом радыяцыйнай бяды. Думалася, на новым месцы хутчэй забудзецца бяда. Людзі знойдуць надзею на шчасце, другую малую радзіму. Але ж не…

Помніцца, праз колькі гадоў пасля жахлівай трагедыі, калі прыехаў у вёску і прайшоў па ёй, я здзівіўся нямала: вуліц не пазнаць, з канца ў канец пакрыты асфальтам, чаго раней, пэўна, і не прадбачылася: масцовая калгасная гаспадарка была эканамічна слабой. Болей за тое: заасфальтаваны былі

ўсе падворкі. Не кранулі толькі тыя, што даўно пуставалі, раскідаўшы былых гаспадароў — каго на пагост, каго да дзяцей у горад.

Убачыўшы маё здзіўленне, сусед Віктар, чыя хата стаяла на самай мяжы з бацькавым садам, выказаў сваё:

— Ты ж знаеш, як у нас заўсёды робіцца, чым спачатку думаюць… Улагодзілі перасяленцаў, новых дамоў ім наставілі, зямлі нарэзалі: жывіце, людцы, радуйцеся, не бядуйце, што з родных мясцінак сарвалі, у чужы край прывезлі! Праўда, як пасмяяліся з іх, етых бежанцаў. Бачыў, можа, сам: каля самых могілак месца ім аблюбавалі. Як з намёкам якім… А пасля начальства спахапілася, нейкія камісіі сюды раз за разам шась ды шась! Аказваецца, нас саміх, мясцовых, трэба было некуды перасяляць адсюль! Не разабраліся спярша, не праверылі як мае быць, пасля на ўгаворы пайшлі, каб з'язджалі з хат. Тыцкаюць пальцамі ў дазіметры, страшаць: небяспека вялікая! Ды людзі ні ў якую: куды ж мы паедзем у чужы свет? Хто там нас жджэ? Будзем дажываць свой век на сваёй зямельцы. Памром, дык дома, на сваіх могілках пахаваюць. Дый гаротнікі-перасяленцы ў хамут ударылі: каму ахвота з абжытага ўжо трохі кутка зноў некуды перабірацца?

Рыпнуў пратэзам (застаўся ў вайну без адной нагі), сплюнуў перад сабой змусоленую цыгарку, павёў рукою, быццам збіраўся захапіць адным узмахам ўсю вулічную пустэчу, і распавёў далей:

— Дык прыслалі знекуль сюды нейкіх рабочых, і тыя з вясны да восені, як бач, усё «акультурылі». Нашто? Ды каб радыяцыйнага пылу, як нам сказалі, у паветры меней круцілася, каб чысцей дыхаць было. Нам так казалі. А хіба ад яе ўратуешся дужа, ад радыяцыі етай? Учора вунь камісія зноў з дазіметрамі прыходзіла. У адным канцы двара дваццаць пяць нейкіх там мілірэнтген паказала, а ў другім — пад пяцьдзясят загнула. А мо і болей, у вочы ж не кажуць праўду. Звечара свіння ў хлеўчуку рохкала, карміў яе, жывую, а ўранні прыйшоў — ляжыць ногі выпрастаўшы. Здохла, каб на яе. Карміў-карміў, думаў, бліжэй да каляд на свежыну ўзаб'юся, а тут — на табе, ламай галаву, дзе б закапаць, каб сабакі не разнюхалі… Дзякуй, мяне пакуль не бярэ. Можа, ад таго, што ў самагонку ліха етае лезці баіцца, а я да яе, хоць і пякучая, зараза, смаку, дзякуй богу, не страціў яшчэ… Ты ж мяне знаеш…

Ведаю: як быў загадчыкам фермы, ледзь не кожны вечар, часцей самымі прыцемкамі, на трактары дадому падвозілі, з прычэпа, здаралася, як тое бервяно, скочвалі каля веснічак, адкуль ужо Анюта, жонка ягоная, неяк высільвалася ў дом завалачы… Але ж не ўсім такое «конскае здароўе» Бог даў. І не ўсе вечныя на гэтым свеце…

## Як пад бацькавай грушкай пастаяў…

Няйначай, як нешта дзіўнае, не заўсёды зразумелае людзям маладзейшага веку, робіцца з людзьмі, калі яны старэюць, пачынаюць адчуваць нейкую душэўную самоту і прытомленасць, лагоду ці крыўду ад пражытага і перажытага імі. Тады душа сама імкнецца хутчэй трапіць у палон успамінаў, хочацца адшукаць, дастаць з цянётаў папер ці памяці (забыты знарок ці незнарок) адрас, нумар тэлефона, сустрэцца ці хаця б задаволіцца кароткай размовай па тэлефоне, абмяняцца эсэмэскай з колішнімі сябрамі і знаёмымі, з кім давялося размінуцца, часова згубіцца ў вірлівай плыні цяперашняга жыцця-быцця, каб нешта прыгадаць, парадавацца ці пасмуткаваць разам. Колькі яшчэ дадзена

Усявышнім пратэпаць па жыццёвым гасцінцы, дзе ён пакручаста абарвецца, стане тваім апошнім крокам?! Хто ведае?..

Адшукаўся нядаўна кумаў тэлефон. Калі не забылі — Колі-Камуніста. Даўно ўжо я не турбаваў яго, а ён — мяне. З таго часу, як перабраўся на жыхарства са Светлагорска ў Жлобін. Хацелася пачуць, як жывецца яму, чым займаецца хрэснік мой Артур, ці ўсё добра ў яго сям'і. Трубку падняў Паўлік, малодшы кумаў сын.

— Бацька ў бальніцы, — пазнаўшы мяне, патлумачыў ён. — Запішыце нумар яго мабільнага тэлефона. Ён праз дзень выпісваецца і паедзе да мамы ў вёску. Яна ўжо там агарод парадкуе, дык ёй памагатыя трэба. Я таксама на выхадныя паеду.

Хоць добра сцямнела, але я ведаў, што ў бальнічных палатах яшчэ не аб'явілі медсёстры адбою, таму, не адкладваючы, набраў нумар мабільнага тэлефона, які падказаў мне Паўлік.

Было неймаверна радасна пачуць знаёмы голас, які не паспеў паддацца старэчай «карозіі» — хрыпаце ды прыглушанасці, застаўся такім жа не па гадах выразным, нават бадзёрым, як і раней.

— Жыву з Нінай часцей у вёсцы, — пачаў дзяліцца навінамі кум Коля. — Дзе, у якім доме? У тым самым, дзе і бацькі яе жылі. Не забыў, як некалі там Артуравы хрэсьбіны праўлялі?.. Пустога жытла там цяпер хапае, і зямлі таксама. Дык Іванаўна мая не пабаялася ў свой час клопату, абзавялася гаспадаркай, можна сказаць, фермерствам занялася. А я, на пенсію выйшаўшы, памагаю ёй, наколькі здароўя хапае. А ў жлобінскай кватэры меншы сын асталяваўся. Я туды наварочваюся, як трэба пенсію палучаць ці ў бальніцу легчы, хвароба падапрэ. Як цяпер во… Як Артур? Працуе там жа, у Светлагорску, на заводзе. Дзвюма дочкамі абзавёўся. Адна ў каледжы ў вас, у Мінску, вучыцца…

Як я сам? Ды як тая старая асіна, рыплю, але жыву, трымаюся пакуль. Паляжу трохі, падлячу сэрца, ды далей патэпаў…

— А як брат твой Лёнька, што з ім? — выслухаўшы кума, пацікавіўся я. — Ён са Светлагорска нікуды не пераехаў?

Чую, уздыхнуў кум Коля, потым горка пажартаваў:

— Камуніст, як бачыш сам, ходзіць яшчэ па зямельцы, корпаецца на ёй, а Паляка падрэзала кашчавая касой сваёю якраз у той год, як яму толькі шэсцьдзясят адстукала. Здавалася б, не хварэў дужа, на здароўе не скардзіўся, а імгненна хоп — і няма яго! Інфаркт… Нават першую пенсію ці паспеў палучыць…

Хацелі ці не хацелі таго, а ўспаміны ў той раз чамусьці набылі не зусім вясёлы лад. Хутчэй нават — мінорны, афарбаваны жалобай. Ды, напэўна, на нешта іншае і нельга было спадзявацца.

І Хведара Сараграда ўспомнілі, неяк мімаходзь згадаўшы даўнюю гісторыю з яго трафейнымі брылямі.

— Людзі смяяліся з дзеда Хведара, а мы з Лёнькам у яго брылях усе леты адбегалі. Не трэба было матцы на шапкі нам траціцца. Грошай жа, сам знаеш, на кніжкі ды сшыткі не было дзе ўзяць, — перавёў на сур'ёзны лад гаворку Коля-Камуніст. — Цяпер бы хваліліся, носячы тыя брылі, — не нашы, імпартныя, з Германіі прывезеныя. А яшчэ, калі падумаць, тады, у дзіцячыя гады, яны грэлі галаву, а цяпер, на старасці, сваім успамінам пра іх грэюць сэрца. Ці многа засталося ў нашай памяці таго, што можа вярнуць радасць, узняць настрой? З табою вось загаварылі, успомнілі пра ўсё, і, не ведаю, як у цябе, а ў мяне, чую, быццам нейкае цяпло па ўсім целе разлілося...

Слухаючы кумавы развагі, не пазбаўленыя свайго філасофскага сэнсу, не вытрымаў, каб не падзяліцца назіраннем ад паездкі ў вёску. Захацелася падтрымаць павесялелы сябраў настрой, звесці размову на трохі жартаўлівы лад, бо пра сумнае ўжо нагаварыліся дастаткова. Падхапіўшы яго красамоўны дыялог, яго настрой, нават скаламбурыў на ходу:

— Ведаеш, будучы ў нашай Будзе, не ўбачыў ніводнага вяскоўца ў брылі. Усе, хто трапляўся мне, нават дзяўчаткі, у адных і тых жа жакейскіх шапках ды бейсболках прагульваюцца. Здаецца, на нейкім іпадроме ўраз апынуўся. Смешна, але падумалася чамусьці: хто іх сюды прывёз, адкуль? Які яшчэ Хведар Сараград знайшоўся ў вёсцы, каб ашчасліваць галовы землякоў такімі замежнымі ўборамі? А завуць жа многіх, чуў у школе, як дражняць: Максамі, Джэкамі, Алексамі, Дэнамі, Стасамі, Стэфанамі і нават... Катрын. Як ты думаеш, ці згадзіўся б твой дзед Хведар памяняць гэтыя шапкі на свае трафейныя брылі?

— Думаю, памяняў бы, не ўсе, а памяняў бы, — з усмешкаю ў голасе адказаў Коля-Камуніст. — І абавязкова ўнукам падарыў бы. Ён быў дзіўнаватым, але добрым. Як і ўсе даўнейшыя людзі. Ён жа з таго мяшка, што прывёз з вайны ў сорак пятым, сабе толькі адзін брыль пакінуў, а ўсе астатнія раздаў: «насіце на здароўе!» Хто б так зрабіў, хто б абдзяліў сябе, маючы цэлы мех такога на той час багацця? У нашай дзярэўні не купілі б, дык у Гомелі гарадскія расхапалі б...

Ах, успаміны, успаміны! Каму яшчэ яны могуць сагрэць сэрца цяплом душэўнасці і пракаветнага дабрадзейства, якія збліжаюць і нітуюць душы людзей дзеля ўсяго, што прыносіць хвіліны шчасця? І ці могуць сагрэць? І ці стануць яны радасцю, хоць хвілінным, але — святам? Як таму ж Колю-Камуністу, як і мне цяпер: пагаварыў, разгавеўся душою і сэрцам, апынуўшыся ў палоне ўспамінаў, і, здаецца, у бацькавым садзе пад грушкаю пастаяў, слухаючы таемна-ажыўлены пошапт лісця, — быццам гаворку ўсіх, хто сыходзіўся пад ёю ў нядзельныя дні, каб, як сад у вясновыя прымаразкі, прычасціцца дымком самакрутак, падзівіцца яе пладаноснай шчодрасці, адчуць сябе часцінкаю зусім не райскага, такога звычайнага зямнога спакою...

Божачка, няўжо гэта ўсё і напраўду было, прыносіла хвіліны шчасця? Якія ж «неперaборлівыя» мы тады былі?!.

І яшчэ не-не ды падумаецца часам: а якімі праз гады ўспомняць нас — мяне, цябе, усіх, хто доўжыць сёння свой род на зямлі?..



Ганад Чарказян

# З ВЫШЫНІ БЛІЗКІХ ГОР

* * *

За ракою Аракс невядомага шмат.
Там у марыве сумна-дрыготкім
На чужыне марнее гара Арарат.
Ёю лучаны мы з вечнай памяццю продкаў.

* * *

Стась ці Слава — розніца якая?!
Бо імя — не марка, не таўро.
Сутнасць у імя яго такая:
Множыць на зямлі маёй дабро!

* * *

Што мы бачым на жыцця дарогах?
Скрозь сляды былых і новых страт.
Розвітаў, праводзін вельмі многа,
А сустрэч, спатканняў — не, не шмат.

* * *

Адным жыццё — улада ды казна,
А хтось капейкі за душой не мае.

---

***Чарказян Ганад Бадрыевіч*** *нарадзіўся 18 кастрычніка 1946 года ў Арменіі. Вучыўся ў тэхнічным вучылішчы № 1 горада Ерэвана, у прафесійна-тэхнічным вучылішчы № 27 горада Эчміадзін, працаваў на суднарамонтным заводзе імя Ф. Дзяржынскага ў горадзе Туапсе Краснадарскага краю, служыў у Савецкай Арміі. Скончыў Ерэванскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум (1976) і будаўніча-педагагічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1982). Працаваў у будаўнічых арганізацыях Мінска, у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Цяпер — дырэктар фірмы ТСТ.*

*Піша на курдскай, армянскай і рускай мовах. Выдаў у перакладзе на беларускую і рускую мовы зборнікі вершаў «Прочность» (1980), «Цвет доброты» (1986), «Пространство и время» (1990), «Плач» (1994), «Караваны гор» (1996), «Чаргаві» (2001), «Дом дождя» (2001), «Тоска по дому» (2003), «Зорная глыбіня» (2005), «Мелодия разлуки» (2006), кнігі прозы «Шамдзін» (1998), «Камни печали» (1999), «Белая вежа» (2010), раман «Опередить смерть» (2005) і інш; кнігі для дзяцей.*

Ды іншы свет аднолькава ўсіх нас —
І жабрака й багатага — прымае.

* * *

Мураш, і жук, і муха, і чарвяк
Трымаюцца гаротніцы-зямліцы.
І толькі чалавек адзін, дзівак,
У невядомасць напралом імчыцца.

* * *

Ты глянь з вышыні самых блізкіх гор —
І ўбачыш: малы чалавек усё-ткі.
Дзівак, кароткі свой шлях без таго,
Ён больш яшчэ робіць кароткім.

* * *

Пайшоў мой сябра і не развітаўся.
Быў непрыкметным, кажуць, пры жыцці.
Што засталося? Успамін застаўся...
Ды тыя, хто памог яму пайсці...

* * *

Пакіне свет ці геній ці герой —
І даўні досвед бачыцца яскрава:
Адразу столькі знойдзецца «сяброў»,
Каб ля кастра чужой пагрэцца славы.

* * *

Хоць сам слабак, а подзвігу жадзён,
Знямогся ўвесь. Ужо і свет не мілы.
А ісціна даводзіць нам здавён:
«Рабі сваё, на што хапае сілы!»

* * *

Імперыі знікаюць і народы.
Курок ля скроні сам узводзіць час.
І плачам зноў, хоць так было заўсёды,
За хвілю і... мільён гадоў да нас.

* * *

Напята цеціва — вось выблісне страла
І жураўля ў палёце перапыніць.
На павучынцы і дабра, і зла
Трымціць усё, што з намі доля чыніць.

* * *

Навошта інструктаж, як сіла ў сіле?
Навошта вершы, калі вершыць іх стыхія?
Падказвалі, змушалі ці прасілі,
Паэт стараецца — а вершы ўсё не тыя.

* * *

Не крыўдзі, брат, нікога і ніколі,
А тых, бездапаможных, барані.
Чаму ж адзін народ жыве ў спакоі,
А іншы гіне ў бойцы і агні?

* * *

У час свой мусіў кожны нарадзіцца,
Ды кожны йшоў у свет з уласнай мэтай.
Вунь і яны, былыя крывапіўцы,
Жывуць яшчэ ў гісторыі дагэтуль.

* * *

Хто абняславіў на зямлі сваёй сябе,
Калі б дазволіў толькі Усёвышні,
На іншую планету тут жа б збег,
Але і там не стаўся б, знаю, іншым.

* * *

Краіну, дзе радзіліся, раслі,
Мы бэсцілі бязбожна і клялі,
А потым спахапіліся ў журбе —
Мы ж гэтак самі ганьбілі сябе.

* * *

Жывём па іншых правілах даўно,
Але хлусня пільнуе нас пагрозна.
Ліецца кроў людская зноў і зноў,
Але маўчыць, як анямелы, розум.

* * *

З дабрынёй іду да чалавека я,
Ды жыццё са мною не згаджаецца.
Вось ты кубкам мёду стрэнеш некага —
Тут жа нехта з лыжкай дзёгцю з’явіцца.

* * *

Няхай жыццё прайшло і на чужыне,
Дух продкаў у душы маёй не згас.

Нідзе, за светам нават, не загіне,
Зярнятка тое, што яднае нас.

* * *

Хоць разам і выходзілі з пячор,
А хтосьці ўжо на вас глядзіць звысоку.
Ды памяць ёсць. Яна — нібы дакор,
Але ніяк не станецца урокам.

* * *

Цывілізацыя, як тая інквізіцыя.
Народы гінуць у яе агні.
Адкінь жа прэч сумненні і амбіцыі,
І рукі да яднання працягні!

* * *

Ён быў геніяльным, з тых самых зямлян,
Хто ясны вачыма і чысты душой.
Брахалі яны на яго караван,
А ён у гісторыю проста пайшоў.

* * *

Бездар, ён дужы пасадай сваёй,
Але часовыя ён і яна.
Хоць ён за ёю, нібы за сцяной,
А ўжо хістаецца, бачу, сцяна.

* * *

Сябра мой пушчанскі не ляны,
Славіць дрэвы ён і птушак спевы.
Хваляць, што ён свой усім, лясны
І сякуць за тое ж, нібы дрэва.

* * *

Жыць пад сонцам гэтак бы на свеце,
Каб усім быць родным і сваім.
Сонца ўзыдзе, потым грэе, свеціць
Шчыра і аднолькава усім.

* * *

Ластаўкі і салаўі звяліся.
Спеўны лес даўно нібы пусты.
Чалавек разумны, схамяніся,
Памятай — наступным будзеш ты.

* * *

Сунуцца навала за навалай.
Нехаця забудуся пра сум.
Тое, што цяжарнай ношай стала,
Некаму на злосць яшчэ нясу.

* * *

Царавіты дуб каля дарогі
Прыўздымае вечнасці цяжар.
Але кажа час, суддзя наш строгі,
Што ўсяму на свеце ёсць мяжа.

* * *

Цябе згадаю — даўні луг прысніцца.
Шчаслівымі былі мы як ніхто.
Сухое сена полымя баіцца,
І сцеражэцца закаханых стог.

* * *

Зноў здрада наіўнага падсцерагла.
Як шмат пацярпелых наўкола!
Хто шчыра кахае — чакае цяпла
І плача, пабачыўшы холад.

* * *

Зноў той страшны сон пабачыў.
На падушцы — слёз ручэй.
Хай у сне душа паплача,
Каб ёй днём было лягчэй.

* * *

Дзе пачуццё, скажыце, меры?
Няма нідзе яе даўно.
З экрана — голыя гетэры,
І ўсё — як змрочнае кіно.

* * *

Свет ачарсцвеў. Яму ўжо не баліць,
Што так яшчэ балела ўчора.
І чалавек разгублена маўчыць.
Перад дзвярмі — за імі зноў пячора.

* * *

Ніхто не пагаджаецца ні з кім,
Няма маралі анідзе і веры.

А будзе ўсё па-іншаму зусім,
Як рухне дом той, склееныз папeры.

* * *

Крычым пра розум, праўду і любоў.
Пра боль зямны забыўшыся, балюем.
Памерлі рэкі, скрозь ліецца кроў,
І гэта ўсё нікога не хвалюе.

* * *

Не хцівы, не скупы, хоць летуценны,
Так і звякую свой, напэўна, век.
А той, хто не жадае жыць сумленна,
Няхай сярод сумленных не жыве.

* * *

Кожны свой лёс на зямлі гэтай мае,
Мары, учынкі свае і ахвяры.
Рэкі бягуць — берагі пакідаюць.
Жыццё прабяжыць — пакідае мары...

* * *

Нічога не завершана з пачатага,
Я смутку столькі дзён сваіх аддаў.
Цягнік пабег мой без мяне. Шкада.
А я застаўся ў ролі даганятага.

* * *

Ну, што дзяліцьмем, песняры?
Зноў бойка, зноў не будзе згоды.
А жыць так хочацца, тварыць.
Для шчасця, ўнукаў і народа...

* * *

Пераможа розум цемрадзь зла.
Перамога гэта недзе блізка.
Хто з дабром да нас — таму хвала
І ў дадатак — кланяемся нізка!..

***З курдскай.***
***Пераклад Казіміра КАМЕЙШЫ.***



**Уладзімір ЛІПСКІ**

# КРОК У СВОЙ ЛЁС...

*Уліпкі*

***2015 год — быў юбілейны для мяне, юбілейны для Перамогі — новая гістарычная прыступка для ўсёй Зямлі, для нашай Беларусі. Гэта і новы крок у свой лёс для кожнага з нас. І я вырашыў засведчыць яго сваімі ўліпкамі. Прызнаюся, «уліп» у неймаверна цяжкую працу Душы. Азірнуцца на свежапражыты дзень — ой як няпроста, але ж з яго і складваецца наша Мінулае і наша Памяць.***

***З хваляваннем перадаю чытачам «Полымя» свае штодзённыя ўліпкі за сакавік, красавік і май мінулага года.***

**Аўтар**

## Сакавік — вясны маладзік

**01.03.**
Беларусь рыхтуецца да 70-годдзя Перамогі.
А я пішу аповесць-казку
пра закаханага трэцякласніка.
І мне раптам стала страшна:
які лёс чакае маіх герояў-шчаслівуцаў
праз паўсотню гадоў?
Хто захоча тады
паўтарыць іх светлую вандроўку
па Беларусі?

---

*__Ліпскі Уладзімір Сцяпанавіч__ нарадзіўся 6 мая 1940 года ў вёсцы Шоўкавічы Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Мінскі тэхнікум харчовай прамысловасці (1960) і завочнае аддзяленне факультэта журналістыкі БДУ (1966). Працаваў на Гарадзейскім цукровым заводзе, у рэдакцыі нясвіжскай раённай газеты «Чырвоны сцяг», у апараце ЦК ЛКСМБ, у Саюзе пісьменнікаў Беларусі. З 1978 года — галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка». Старшыня праўлення Беларускага дзіцячага фонду.*

*Аўтар кніг прозы: «Аўцюкоўцы» (1995), «Я. Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод» (1998), «Мама. Малітва сына» (1999), «Каралева белых прынцэс» (2000), «Бацька» (2004), «Мы» (2006), «Янкаў вянок» (2009) і інш.*

*Лаўрэат літаратурных прэмій імя Янкі Маўра і імя Аляксандра Грына, Дзяржаўнай прэміі Беларусі (2001).*

Якімі будуць яны самі?
Якім будзе свет?..
Пытанняў пякучых процьма.
А вясне-красне да іх — нуль увагі.
Вясна вярнулася,
зазірнула ў вокны і вочы людзей,
прагнала снег с зямлі.
Прачысціла ад павуціння неба.
Заходзь да нас, маладая госця!

**06.03.**
«Дзед, як дзіця.
Хаця...»
Такі вось верш увесь
Рыгора Барадуліна.
А мяне ён цешыць
цалюткі дзень.
Ходзіць, як цень,
свеціць, як прамень.
Спатыкаюся, аб пень.
Дзед, як дзіця!
Дык вось жа чаму
ўнук Толік
садзіць мяне за столік,
давярае свой ролік.
Дзед, як дзіця,
Цікаўны і хітры.
З унукам дурэе,
ад таго й маладзее,
а Толік — мудрэе.
Дзякуй, дзядзька Рыгор,
за вершык пра дзіця.

**13.03.**
Вёска — жывы барометр Вясны.
На тэлефоне — вёска Зашыр’е,
на Палессі.
Чую бадзёры голас Бабчанка:
«Сеем ячмень, падхарчоўваем азімыя.
Вясна ў поўным разгары!..»
Тэлефаную ў Дабужу,
маленькую рэчыцкую вёскачку,
дзе векавуе мая сястра Люба,
і чую яе напеўны рапарт:
«Вярнуліся з выраю шпакі.
Бачыла, каля хаты круціліся.
Звонка курлыкалі жураўы.
Селі ў нашым балоце.
Лебедзі па возеры плаваюць.
А кругом драбяза —
чырыкае, ціўкае, заліваецца.

Коцікі на лазе чырвонай —
лахмаценькія, мякенькія,
на сонца любяць пазіраць.
З бяроз — сок збіраем.
Прыедзь, пакаштуй прыроднага напою…»
Чуеце, як паэтычна гаворыць
мая любімая хутаранка.
А ёй жа во-во — 89 гадоў!
Дзякуй, дзень,
што наблізіў да сэрца Вясну!

**16.03.**
Ён выглядаў апосталам:
сівы, румянашчокі,
з замілаванай усмешкай
і крыху слязлівымі вачамі.
Яму казалі, што ён Леў Талстой,
і ён згодна пахітваў галавой.
Яго называлі Янкам Купалам,
і ён маўкліва пагаджаўся.
Зноў і зноў браўся тлумачыць,
як ён доўга і пакутна
пісаў сваю эпапею,
якую сам жа і аб'явіў,
што гэта — раман веку.
Зайздрошчу аптымізму
майго аднагодкі,
упарта ўпэўненага ў сябе.
І сумніўна пачынаю думаць:
няўжо Грыбаедаў ўсур'ёз
ўявіў, што напісаў
неўміручую кнігу «Гора ад розуму»?
Няўжо Ганчароў некалі аб'явіў,
што яго «Абломаў»
будзе жыць стагоддзі?
Няўжо Дастаеўскі некаму прызнаўся,
што яго «Ідыёт» напісаны для вечнасці?
Я сустракаў пісьмо Якуба Коласа,
у якім ён тлумачыў настаўніцы:
«Мяне называюць другім Шаўчэнкам,
беларускім, безумоўна.
Хацелася б гэтаму верыць,
але як бы не выйшла тут памылкі:
хутчэй за ўсё мяне зблыталі
з Янкам Купалам…»
Час і толькі час
выстаўляе нам ацэнку,
вызначае наш рэйтынг.
А яшчэ — дасціпны Чытач
самых розных часоў.
Так што спіце спакойна,

летапісцы нашай эпохі.
Баю-бай!..

**18.03.**
«Мілаградскі конік» — мая новая кніга.
Была ў задумках і думках.
Легла на чыстую паперу.
Праявілася ў камп'ютары.
Акультурана мастакамі, выдаўцамі.
Закладзена ў друкарскі станок.
Спавіта ў вясёлую вокладку.
Прымай, падлетак, падарунак.
Наталяйся, падранак, мастацкім словам
пра першае каханне,
пра свет вакол цябе,
пра дарослых, хто вучаць жыццю,
пра зямлю, паветрам якой дыхаеш.
Я — аўтар і бацька кнігі —
радуюся і хвалююся.
Хто прачытае?
Як ацэняць?
Што дасць чытачу?..
Мой мілаградскі конік,
стань пегасам, каньком-гарбунком,
будзь акрыленым, натхнёным
і не стаміся слугаваць
маім наступнікам.
Мая кніга — акно ў душу.
Хай жа праз яе чыстыя шыбы
чытач убачыць аўтара.
І хай мы пасябруем!
Гэта будзе самым шчодрым ганарарам.
І прызнаннем.
Божа, хай так здзеецца!

**20.03.**
Лагойскія «шпачкі» слухаюць
маю казку пра А і Б.
Вочы  іх высвечваюць здзіў:
багата слоў у беларускай мове
на літары «А» і «Б»!
Здзіўленне — прыкметная рыса дзяцей.
Гэтай аўрай перапоўнена сёння
дзіцячая бібліятэка.
Галасістыя, цікаўныя, вірлівыя,
яны, здаецца, унеслі ў храм Кнігі
саму вясну-красну.
На Лагойшчыне сустрэў вясну жыцця,
вясну паэзіі, вясну абуджэння
беларускі геній Янка Купала.
І, ей жа Бог, у зале перада мной

сядзелі паэты і мысліцелі,
разумнікі і творцы.
Па-добраму ім зайздросціў:
яны стануць, кім захочуць,
а мы ўжо тыя, хто ёсць.
Яны ж абавязкова накачаюць
мускулы душы
і заступяцца за нашу Айчыну,
як таго хацеў Янка Купала:
*Гэй ты, гэй, Беларусь, маладая старонка!*
*Уставай жа, ўставай, з паніжэння, з пацёмкаў,*
*Хай жа будзе нязможана ўлада твая!*
*Гэй ты, гэй, Беларусь, маладая мая!*

**23.03.**
Толік — самы зялёны лісток
ад ліпы Ліпскіх.
Ходзіць у школу, у басейн.
Вучыць мовы, чытае.
Любіць хакей і футбол.
А кім будзе?
У першым класе марыў
стаць шафёрам,
вывозіць ад дамоў смецце.
У другім класе задумаў
вывучыцца на машыніста метро.
У трэцім класе захацеў
асвоіць сучасныя танцы.
Ну некім жа вырасце
гэты хлопчык!
Не абміне свой лёс.
От бы ведаць,
дзе падаслаць саломкі
пры падзенні,
дзе абмінуць балота,
у якім атабарыўся нячысцік.
Вучы яго, падказвай яму,
а ён жа ўсё роўна
пройдзе інакшай дарогай.
Толькі сваёй!
Дык не спаткніся, родны.
Не стаміся,  любы.
Не абазліся, залаты.
Ідзі і помні, Толік,
я люблю цябе,
мой вясновы лісток!

**25.03.**
Сённяшні дзень Волі
абагрэў у роздуме пра радавод.
Па гэтай тэме даў інтэрв’ю

сталічнаму тэлебачанню.
пра тое, што мы ўсе радня, —
мой урок для чытачоў «Бярозкі».
А ў запасніку —
новы роздум пра родзічаў.
Як было чатырыста гадоў назад?
Роднасць па лініі маці
вызначалася па кудзелі.
Днямі і начамі сядзелі жанчыны
за прасніцамі і бясконца
цягнулі з кудзелі
льняную нітку.
З той, касмічна бясконцай ніткі,
ткалі палатно,
выраблялі адзенне на ўсе густы,
на ўсе ўзросты, на будні і святы.
Той кудзельнай ніткай
можна было падперазаць Зямлю.
Ёй знітоўваліся жанчыны
ў радню, у адну долю.
Мужыкі радніліся па мячы.
Зброя вызначала іх сілу, моц,
згуртоўвала ў паходы,
ацэньвала вартасць ваяроў.
Блізкія па кудзелі.
Блізкія па мячы.
Вось хто нашы далёкія родзічы!
А давайма іх шукаць
у цяперашняй яве.
Прыгледземся, ці тую «нітку»
цягнуць нашы жанчыны,
ці тым «мячом»
бароняць волю мужыкі?
Параднімся, паверым,
што ўсе мы —
адзін народ, адно дрэва,
назва якім — Бе-ла-ру-сы,
Бе-ла-русь!

**26.03.**
Усё прыгожае — ад Кахання —
дзеці, кветкі, вершы.
Усё гасціннае ад Вясны —
шалёная зеляніна, пралескі, выраі.
Усё жаданае ад Анёла-ахоўніка —
вязенне, удача, прыбытак.
Але ж чмыхае на ўсё гэта
нястомны чорт-«крот»:
не дае аптымістам расслабону,
шкодзіць рамантыкам, летуценнікам.
І нават Дзецям,

Божым пасланнікам.
Гэта адчуў, убачыў
на сустрэчы са школьнікамі
ў бібліятэцы імя Янкі Купалы.
Сярод іх былі —
пазяхлівыя, бледнатварыя, стомленыя.
Добра, што ёсць
канікулы, настаўнікі, бібліятэкары.
Сустрэча з кнігай і пісьменнікам
падмагла выруліць
настрой дзятвы.
Мы выйшлі пасля на вуліцу
і замілаваліся… варонамі.
Яны нястомна абследавалі
верхнія балконы.
Не яду шукалі, а пёркі, вату, шнуркі.
Вось адна чорна-сівая руплівіца
ўхапіла ў дзюбу жаданую здабычу
і панесла на дах,
дзе вентыляцыйнае акенца.
Птушкам не да вясновай млявы.
Трэба будаваць маёнтак,
у якім абавязкова з'явяцца
бадзёрыя вараняты.
Павесялелі і дзеці.
От і ў іх сёння
адбылося свята вясны.

## Красакавік — за красу ваяўнік

**02.04.**
Кніга і Дзеці.
Сёння дзіцячая кніга
аб'яўлена міжнародным святам.
«Вясёлку» наведала тэлебачанне.
Мы — на покуце свята.
Нашы вясёлкаўскія кнігі —
не госці, а гаспадары,
з намі сябруюць дзеці —
і гэта свята!
Дзеці і Кніга.
Калі дзецям патрэбна кніга.
Калі яны шукаюць яе
і знаходзяць у ёй уцеху.
Калі кніга для іх — урок жыцця.
Калі кніга ім — павадыр,
казачнік, вандроўнік, сябар.
Калі кніга дзецям —
акно ў гісторыю і ў будучыню.
Дык жа будзьце, пісьменнікі,

вартымі гэтых надзей.
Дбайма, браточкі,
пра такі клопат
у будні і свята,
сёння і заўтра,
і ва ўсе дзянёчкі пад сонцам.
Кніга і Дзеці.
Дзеці і Кніга —
хай жа гэты жыцця калабок
аніколі не трапіць
у бяздумны сеціва клубок.

**04.04.**
Мяккія коцікі на вербалоззі,
як дзеткі вясны.
Іх хочацца прытуліць, палашчыць,
пачысціць ім бофікі,
пагладзіць жывоцікі,
патузаць за хвосцікі.
Яны невялікія і не сярдзітыя.
У коцікаў-вуркоцікаў — мышкі.
А ў дзетак-вучняў — кніжкі.
І сёння ў «Зубраняці»
мы цешыліся мудрасцю
юных талентаў Беларусі.
Іх напеўнае рыфмаванне
высвечвала скарбы душы:
«Падарыце мне алоўкі,
і будзе шматколернай зямля…»
«Адзінокі воўк шукаў сваю ваўчыцу.
А без яе — ён не воўк…»
«Дзесьці ў свеце плачуць дзеці.
Дзе ж іх анёлы, што робяць?..»
«З чаго пачынаецца жыццё?
З цябе самога!..»
«Дзякуй, мама, што мяне любіла!..»
«Ніколі не буду плакаць,
калі ёсць радзімы дом…»
«Сэрца, як лісток трымціць,
мне не сорамна Айчыну любіць…»
і гэта напісалі дзеткі-малалеткі,
якіх часам лаем, не разумеем,
якім не заўсёды давяраем.
Мы, зубры ад літаратуры, —
Зіновій Прыгодзіч,
Навум Гальпяровіч,
Уладзімір Ліпскі —
ахвотна журылі
разумных зубранятак.
З радасцю падпісалі дыпломы
пераможцам паэтычнага конкурсу.
І сведкам таму — сама Нарач.

**05.04.**
Званок з Масквы.
Альберт Ліханаў паведаміў:
для рускага чытача
рыхтуюць маю аповесць
«Мама. Малітва сына».
Ты чуеш, Мама?
Мы ідзём з табою на
прасторы Расіі…
Божа! Ты ж нідзе не была,
апроч Шоўкавіч,
свайго двара, агарода.
А тут вандроўка —
ад Бранска да Сахаліна.
Мама родная, святая,
стаю перад тваім партрэтам,
як бы ўсміхаешся.
Побач — партрэт бацькі,
мужа твайго Сцяпана.
І ў яго вочы павесялелі,
вусы напушыліся.
Мілыя мае,
жыву пад Вашым наглядам.
Спавядаюся перад Вамі
кожным дзянёчкам.
Дзякуй за строгасць,
за пяшчоту і адвечную вясну.
Вы ў сэрцы маім — сёння і вечна!

**07.04.**
Благавешчанне —
свята святаў вясны.
Кажуць, у гэты дзень
пасланец Бога архангел Гаўрыіл
з’явіўся да Божай абранніцы Марыі
і абвясціў, што яна народзіць
ад Духа Святога сына Божага
Ісуса Хрыста.
З гэтага дня і пачынаюцца
таямніцы зносін Бога з чалавекам.
Уся прырода святкуе.
Птушка гнязда не ўе.
Дзеўка касы не пляце.
Прылятаюць буслы.
Вуллі пчаліныя выносяць.
Мядзведзь з бярлогі вылазіць.
Прачынаюцца вожыкі.
Лясныя мурашы ажываюць.
Грахоўнікаў у пекле не мучаюць…
Як Благавешчанне правядзеш,
такім будзе і ўвесь год.

Госпад, спраўдзі мае надзеі.
Сёння сустрэўся з вернымі,
чаканымі і жаданымі сябрамі:
пісьменнікамі, мастакамі,
выдаўцамі, дзяржаўнымі людзьмі…
Яны абвясцілі шмат добрых навін.
І я малю аб адным:
Божа, будзь міласцівы
да мяне, грэшнага,
спраўдзі ўсё тое,
што пачулі мае вушы.
Уладар нябесны,
усцеш маю душу,
і хай будзе здаровай
мая духоўная Айчына,
тады і я буду ў ёй
пачуваць сябе чалавекам.
Амінь.

**12.04.**
Вялікдзень. Хрыстосуемся.
Усцешана прамаўляем:
«Хрыстос уваскрос!»
Сонца з гэтай нагоды
танцавала, віталася
з днём Перамогі.
Уваскрашэнне і ёсць
перамога над злом,
над нячысцікавай агідай,
над усім тым,
што шкодзіць грэшнікам
людзьмі звацца.
У дзень святой Пасхі
зноў сабраліся ўсе Ліпскія
за сямейным святочным сталом.
Перахрысціліся,
пагулялі ў біткі,
узялі па каліву
за свята святаў.
І вырашылі:
спавядацца перад Збавіцелем
штодня,
вывяраць свае крокі па зямлі
пад наглядам Уладара,
не прасіць міласці,
а шанаваць Госпада.
Гэту ісціну зразумеў
і наш слаўны Толік —
зялёны лісток Ліпскіх.
Дзякуй, Вялікдзень,
за яднанне Душ!

**17.04.**
Б’ю рэкорды ў басейне:
туды — кролем,
назад — брасам.
І так — трыццаць кругоў!
Чаму ж не рэкорд
для майго ўзросту?
Дык яшчэ ж пры гэтым
хочацца спяваць:
«Только смелым покоряюся моря…»
Сапраўды, без смеласці —
і ні туды, і ні сюды;
і не ў гору, і не з гары;
ні на моры, ні на сушы;
ні ў цывільні, ні ў войску;
ні ў шахце, ні ў космасе…
Смеламу ды адчайнаму
і мора па калена, яго і кулі не бяруць,
яму часцей шанцуе.
Перад ім дзверы адчыняюцца.
Яму слабыя зайздросцяць.
Яго выпрабоўваюць
падножкамі, ананімкамі,
паклёпамі, уніжэннем…
І хай сабе, а я хачу быць смелым.
Ша! Досвітак яшчэ не разбудзіў
маіх «дабрадзеяў»,
я пакідаю ўтульны ложак,
і ногі самі кіруюць у басейн.
Ён маніць да сябе,
як некалі лес заманьваў Якуба Коласа:
*Мне лес цяпер міл удвая,*
*Бо родны лес мой краю служыць,*
*Бо лес мой туліць смелых, дужых…*

**18.04.**
Самая свежая рана перад Раданіцай —
памёр пісьменнік Уладзімір Содаль.
Аднойчы ён завітаў да мяне ў рэдакцыю «Вясёлкі».
Перадаў два аркушы паперы,
засеяныя яго душэўнымі слоўцамі,
узараныя роўнымі баразёнкамі-радкамі,
почыркам адметным, уборыстым.
Узяў ды напісаў пра мяне.
Нататка атрымала назоў —
«Шоўкавец».
Уладзімір Содаль цешыўся,
што яго дзед Павел збудаваў хату
з гонкіх шоўкаўскіх сосен.
Радаваўся, што яго цётачка Марыя
вучыла мяне геаграфіі.

Па духу і аўры — мы браты.
Па вернасці Беларусі — крэўнікі.
Па любові да Дзяцей — ваяры.
Па спачуванні Слову — вернікі.
Як жа ён ведаў і любіў
Дуніна-Марцінкевіча, Багушэвіча,
Купалу, Багдановіча!
Якімі ж адметнымі, содалеўскімі
слоўцамі напісаны яго кнігі —
«Людзьмі звацца», «Кушлянскі кут»,
«Свіранскія крэскі», «Карпілаўка»…
Дарагі Уладзя, бывай і ведай,
на зямлі засталася мая душа,
якая стогне ад нечаканай весткі,
плача па табе, непаўторным.

**21.04.**
Радуніца — асялок Памяці.
Сёння якраз такі дзень.
Разбудзіў дзіўны сон:
нібыта дзынкае тэлефон,
і нехта мне падказвае:
«Клава звоніць».
Прачынаюся.
Цішыня.
Сонейка зазірнула ў акно.
І да мяне даходзіць:
Клава, мая любая сястрычка,
якая ўжо год у Нябёсах,
разбудзіла,
нагадала пра Радуніцу.
Бяру паперу,
пішу памінальную:
па лініі Мамы — трынаццаць душ,
па лініі Бацькі — чатырнаццаць,
па лініі жонкі — дзесяць,
шоўкаўцаў — пяцьдзесят пяць,
пісьменнікаў — трыццаць пяць,
сяброў — сямнаццаць…
Усіх помню, люблю,
па кожным плачу.
Трывай, мая душа,
і помні,
што гэты боль
прыгадваю не толькі
на Радуніцу, —
нашу яго штодня!

**26.04.**
Чарнобыль стукаецца ў сэрца.
Вось ужо 29 гадоў

жывём пад яго чорным крылом.
Я быў сведкам,
як паміраў Яначка ў Бараўлянах.
Быў на пахаванні дзяўчынкі,
якая напісала ў апошні дзень:
«Мамачка! Хачу жыць!!!!»
Яе чатыры клічнікі —
шрамы ў маім сэрцы.
Я выклікаў хуткую дапамогу
хлопчыку з Чарнобыльскай зоны,
які пасінеў нечакана
на прыёме ў Дзіцячым фондзе.
У нас і па сёння ёсць
дабрачынныя праграмы —
«Дзеці Чарнобыля»,
«Хворым дзецям — нашы сэрцы».
Госпад праведны!
Ты падмог вучоным
расчапіць атам,
зазірнуць у яго ядро.
Думалася, гэта адская энергія
мірна паслужыць людзям.
Ажно выйшла трагедыя.
Беларусь атрымала «падарунак»
на сотні гадоў наперад.
За якія грахі, Госпад?
У чым наша віннасць?
Душа стогне ад крыўды…

**28.04.**
Раптам наведала навіна,
што я маю ўзрост жыцця
ў трох вымярэннях.
Па працоўным стажы —
мне сто гадоў;
58 гадоў — вучоба ў тэхнікуме,
завод, рэдакцыя, камсамол,
Саюз пісьменнікаў, «Вясёлка».
10 гадоў — школа, кожны дзень,
у любое надвор’е, пяць км
туды і назад, дома —
вечны падручны па гаспадарцы,
а летам — звеннявы
па вырошчванні кукурузы.
7 першых гадоў жыцця —
дзіця вайны, страх, голад,
хваробы, трывожныя сны.
25 гадоў — цярпліва разблытваю
вузлы сіроцтва, дзіцячых бедаў,
выціраю слёзы пакрыўджаным,
падмагаю трапіўшым у бяду.

Служу Дзецям, як кіраўнік
Беларускага дзіцячага фонду.
Па пашпарце — мне во-во 75 гадоў.
Па стане душы — вясёлкавец.
Я — свой у краіне Дзяцінства.
Усе тры ўзросты — маё багацце,
мой скарб!

## Мой май

**1.05.**
У маі ўсё абвяшчае хвалу
Багародзіцы нашай, Маці Божай.
Прырода ажывае ў Яе гонар.
Царква называе Яе Маёвай,
Каралевай прыгожага маю,
Каралевай нябёсаў.
І мне хочацца ў маі
класці першыя вясновыя кветкі
да ног маёй Мамы Марыі.
Хочацца плакаць па ёй,
як плакаў Хрыстос,
каб ніхто не бачыў слёз.
Хочацца складаць малітву
пра святую зямную Марыю,
якая ў свае сорак два гады
адчайна нарадзіла мяне.
Мая майская малітва
ствараецца пад Мінскам,
у драўлянай хаце на лецішчы.
Перад партрэтам Мамы,
абрамлёным яе сярпом,
у заспакоенай ранішняй цішы
стукаюцца словы прызнання,
ачышчэння, споведзі:
Мама залатая,
калі агортвае радасць, сум, роспач —
думаю пра цябе.
Мама ўсемагутная,
калі цяжка на душы,
калі адчуваю небяспеку —
прамаўляю імя тваё.
Мама сумленная,
калі падступае навала спакусы —
клічу цябе.
Мама шчырая,
калі падкатвае зайздрасць —
прыгадваю цябе.
Мама цярплівая,
калі гнеў адбірае мой спакой —

гляджу на цябе.
Мама родная,
калі дзень пражыў годна —
дзякую табе.
Паверыў, Мама,
з табой не заблудзішся,
ты ніколі не падманеш,
з тваёй падмогай не ўпадзеш,
з верай у тваё заступніцтва
заўсёды дойдзеш да жаданага.
Кожным новым маем, Мама,
усё мацней адчуваю цябе
сваёй іконай.
Здаецца, акушэрка забылася
адшчыкнуць ад цябе
маю пупавіну.
Таму мы разам.
Мы — адно цэлае.
І ў гэтым моц
маёй жыццёвай батарэйкі.
Мама святая,
Вартуй і далей апошненькага.
А я не стамлюся цябе ўслаўляць
і вясновым маем,
і ва ўсе месяцы года,
і ва ўсе дні свайго зямнога раю.

**2.05.**
Май напоўню ўключае вясну.
Прыносіць новыя святы, наталенні.
Можна майскай расой
прамыць вочы.
Абнавіць кроў гаючай зелянінай,
жывільным бярозавікам.
У маі добра маліцца за дзяцей:
Каб былі мілей за краснае сонца,
святлей месяца, саладзей мёду,
весялей салаўя, здаравей дуба…
Нібыта чую Маміну малітву:
«Божа праведны, Божа любы,
падмажы нарадзіць дзіцятка.
Хай жа будзе маёвым,
але каб не маялася,
каб у майскай красе купалася,
ад высокіх нябёсаў натхнялася…»
Бабка Анэта прытупала,
вохкала, жалілася:
«Не падмагу табе, Маня,
на гэты раз.
Сама занядужала».
Дачка Ліда ўжо два месяцы

Няньчыла свайго Мішку
і маму ўпрошвала:
«Едзь у радзільню, мамачка,
там акушэркі дабрэнныя…»
І папёр Сцяпан у Горваль
новенькую маслабойку,
якую штукаваў ці не месяц.
Доктару падарунак панёс,
каб яго Марылю прыняў.
Пятнаццаць кіламетраў туды,
з грузам за плячыма,
столькі ж назад з думкамі:
каго шостым падорыць Марыя?
Хай бы сынка —
была б сямейка роўная:
тры дачкі, тры сыны.
Сына хачу — выстуквала сэрца.
Ку-ку — паддаквала зязюля.
Сініцы падціньквалі.
Голуб падвухкваў.
Трэлямі захлёбваўся салавей.

**4.05.**
Збіралі Маму ў Горваль,
як у далёкую, незваротную дарогу.
Дачка Ліда,
якая пабыла ўжо ў радзільні,
раіла, што ўзяць з сабой,
што апрануць, абуць,
як паводзіць у казённым доме.
Дачка Клава,
якая была ўжо паненкай,
сарамацілася мамінага пузіка.
Дачцы Любе, падлетку,
было цікава,
каго ж давядзецца няньчыць.
Сын Пеця,
які вучыўся на бухгалтара,
меў свае разлікі —
маму трэба ратаваць.
Сын Коля,
які заканчваў другі клас,
ані пра што не думаў,
Ён нават не разумеў,
чаму бацька, смелы і дужы,
вельмі хвалюецца,
курыць адна за адной
свае махоркавыя самакруткі.
Сцяпанава хата нагадвала
ўстрывожаны вулей.

Вось-вось з яе павінен
вылецець новы рой,
новы сем'янін.
У чацвёрты дзень мая
Ліпскія згадвалі святога Проклу,
ахоўніка ад нячыстай сілы:
«Уратавальнік Нябесны,
будзь уперадзе, пашлі анёла ззаду.
Уратуй нашу маці Марыю
і дай усім нам супакаенне…»
А за агародам, у лазовых карчах,
наярвалі на ўсе ноты,
шалелі ад спеваў салаўі.

**5.05.**
Нядзелькай, як абяцаў Думка,
Сцяпан запрог буланую Белку,
пасадзіў на воз сваю Маню
і пакіраваў у Горваль.
Шоўкаўцы, хто быў на двары,
хрысціліся, прывячалі.
Сцяпан курыў самакрутку.
Марыя махала ўсім рукой,
губы вышэптвалі просьбу:
«Госпад, выратуй і падмажы…»
За сажалкай і цягельняй
Белку павярнулі ў Лазовіцу,
на палетках якой рунела азіміна.
А калі ўехалі ў сасоннік,
і колы пачалі лічыць карані,
Маня ўзмалілася:
«Сцёпа, цішэй едзь,
бо не давязеш у Горваль».
Паціху, як міннае поле,
адолелі лясную дарогу.
Калі выехалі за Крапіўняй
на Кацярынін шлях,
колы зашапацелі па грунтоўцы.
Сцяпан як бы адчнуўся ад страху:
«Ці даедзеш, Маня?..»
«З табой куды хочаш даеду».
А ў гэты час, то тут, то там,
Заліваліся салаўі,
здавалі экзамен па вакале.
Марыя і Сцяпан трымалі іспыт
перад тым чалавечкам,
якога яшчэ не было на свеце,
але перад якім неслі адказнасць,
якога жадалі і ўжо любілі.
Божа, гэта быў Я!

**6.05.**

У гэты дзень я ўпершыню кугікнуў.
Ухапіў першыя глыткі паветра.
Убачыў зямное святло.
Займеў званне:
сын Марыі і Сцяпана Ліпскіх
з вёскі Шоўкавічы.
Быў панядзелак.
Будзённы дзень стаў райскай зоркай.
З той пары люблю ў неба ўзірацца.
Паверыў праз гады: кожны чалавек — зорка,
такая ж высокая і загадкавая,
як і нябесная.
А тым майскім дзянёчкам
Я стомлена адпачываў,
як касманаўт пасля прызямлення,
як касец пасля сенажаці,
як альпініст пасля спуску з гары.
Мама вымольвала мне долю:
«Госпад, дай жа майму сынку
светлую дарогу,
пацалуй у лобік, каб меў розум,
пацалуй у ручкі, каб быў працавіты,
пацалуй у ножкі, каб стаў непаседам…»
Акушэрка надавала веры,
што хлопчык,
які нарадзіўся на Юр'я,
абавязкова асядлае варанога каня,
знойдзе залатыя ключы жыцця…
Хто з мяне атрымаўся —
ведаюць Бог і людзі.

**7.05.**

Праз тоўшчу гадоў,
аб'ехаўшы блізкія і далёкія краіны,
вельмі ж зашчымела ў душы
па дамоўцы,
па мілых Шоўкавічах,
па маміных сцяжынках.
Кінуў усе турботы-клопаты,
пакіраваў у краіну пупавіны.
Паехаў тым лесам, полем,
па якіх некалі бацька
вазіў Маму ў радзільню,
па якіх вёз мяне дамоў.
Такой хвалюючай вандроўкі
не меў за ўсе пражытыя гады.
Хацелася пакланіцца бярозе —
яна бачыла маю Маму.
Хацелася паслухаць пошум сасны —
яна чула голас Мамы.

Хацелася прытуліцца да клёна —
ён прывячаў маю Маму.
Хацелася лашчыць дарогу —
яна помніць колы бацькавых калёс…
Нечакана ўехалі ў Горваль.
Мне паказалі месца былой бальніцы.
Старыя дрэвы акацый.
Высокая трава, сярод яе —
сунічнік з чырвонымі бусінкамі.
А вось і травяністы катлаван —
падмурак даваеннай радзільні.
Упаў у траву, абняў яе, росную,
і наўзрыд заплакаў.
Думаў, у мяне ўжо няма слёз,
ажно памыляўся…
Мама нябесная, ты вось тут
падарыла мне жыццё.
Я — вечны твой даўжнік,
Люблю цябе бязмежна…
Засушаныя галінкі-шаблінкі.
З горвальскай акацыі —
мая рэліквія,
тэлеграма ад Мамы,
напамін пра першае «у-у-а-а».

**8.05.**
Такім вось, слаўным днём,
вярнуліся мы з Мамай
у шоўкаўскую хату.
Зірнуць на мяне,
выпіць за маё здароўе,
павіншаваць сям’ю,
завіталі ці не ўсе вяскоўцы.
За кожнай чарчынай —
новае хрышчэнне:
каб узрос, як дуб-мацак;
каб грому не палохаўся;
каб кусачых сабак абходзіў;
каб стаў прыгожым, як вясна,
багатым, як восень,
прыемным, як лета;
каб нас, гарамыкаў,
помніў і паважаў…
Мама незабыўная!
Праз 75 гадоў ад народзінаў
мяне віншавала краіна:
віцэ-прэм’ер і міністр,
губернатар і мэр,
акадэмікі і пісьменнікі,
сябры і родзічы.
А за сямейным сталом,

ад твайго апошняга парастка —
ажно дзесяць радаводнікаў:
сын, дачка, тры ўнукі,
зяць з мамай, нявестка, жаніх унучкі,
а на покуце — мы з Нінай.
Такім гуртам не дадзім
згубіцца Ліпскім у свеце.
Гэта і ёсць мая аддзяка Вам,
дарагія Мама і Бацька.
Слава вашаму жыццю на зямлі!

**9.05.**
Дзень юбілейнай Перамогі.
Сонечны. Маршавы. Песенны.
70 гадоў святкуем,
а кожным разам
з асобным пачуццём.
Калі аб'явілі аб Перамозе,
мне было пяць годзікаў.
Я стаў дзіцём вайны.
Зведаў страх спаленай вёскі,
жыццё ў зямлянцы,
голад і холад…
Перамога — мой сімвал
і сэнс жыцця.
Хачу перамог штодня,
маленькіх і вялікіх.
Хачу ў перамогах
гартаваць волю, характар.
Баюся паддацца спакою.
Не змаўчу сказаць ліхадзею,
што думаю пра яго.
Плявузгалаў выкрэсліваю
з сэрца свайго.
За дабрадзея — гарой стану.
Нямогламу працягну руку.
Мама! Ты вучыла мяне
усяму гэтаму.
Ты — мая настаўніца
ў школе перамог.
А я твой адвечны вучань.
Сёння, пад салют Перамогі,
услаўляю тваё імя.

**10.05.**
У маі — букет святаў.
І ўсе знакавыя:
дзень Працы, Друку, Радыё,
Свята Перамогі.
У маім жыцці Праца —
заслужаны настаўнік.

Друк вывеў да мастацкага Слова.
на Радыё — я свой чалавек.
Перамога — змест жыцця.
Сёння сонца сядзела на троне
звыш пятнаццаці гадзін.
А я столькі ж — у працы:
касіў дачныя газоны,
рабіў градкі,
садзіў на іх гуркі, кабачкі,
паліў у печы,
гуляў з Толікам у футбол,
рэдагаваў «Бусю»,
чытаў Васіля Быкава,
пішу вось гэтую ўліпку.
Дзякуй, май,
што ўстурваеш раніцай,
пазбаўляеш сну і ляноты
на доўгі дзень.
«На спіне мы яшчэ наляжымся, —
прыгадваў мудрую падказку
майго земляка, духоўнага брата —
паэта Анатоля Грачанікава.
Схіляю галаву перад табой,
майская нядзелька,
і хачу, каб ты ўліпла
ў маю біяграфію.

**13.05.**
Дзень — пад знакам Шамякіна.
Быў на прэзентацыі
яго выбраных твораў.
У «прэзідыуме», на століку —
дваццаць тры тамы прозы.
Гэта і духоўны храм,
Гэта і помнік пісьменніку.
І мне далі слова на свяце.
Гаварыў пра ўрокі настаўніка.
А яны, яго ўрокі, адметныя:
як умела бачыць яву,
як смела ўздымаць праблемы,
як карыстацца словам,
як даражыць сяброўствам,
як падмагаць людзям,
як адганяць зайздрасць,
як удзячным быць за крытыку,
як шанаваць сям'ю,
як пісаць дзвюма рукамі і ноччу,
як абараняць гонар творцы…
Адзін урок Івана Пятровіча
самы адметны і прыкметны:
жыві годна і сумленна,

і дасца табе любоў ад чытачоў,
і будеш ты ў памяці нашчадкаў.

**14.05.**
Слуцкія салаўі ў Мінску.
Дзеці з радзімы Віткі
чыталі вершы
ў бібліятэцы Васіля Віткі.
«Срэбранымі пацеркамі» трымцелі
іх галасы.
А ў лірычных радках —
сэрца і голас Паэта
пра дзівоснага спевака вясны:
Дасціпны, увішны,
Слаўны ён спявак —
светлая манішка,
Паверх — доўгі фрак…
Ён без нотаў,
свабодна бярэ трэлі.
Паэт падслухаў іх
і зарыфмаваў:
«Як у лядзе-лядзе,
Пастух сала пёк-пёк,
Як прысядзе-сядзе
На пянёк-пянёк-пянёк,
Як пакр-руціць ён ражэньчык, —
Ах, каб цябе, каб… —
Скварка: тр-р, кап-кап…
І няма: ўсю з'еў агеньчык…»
У пятнаццаці вершах Віткі
дзеці знайшлі радкі пра салаўя,
склалі літаратурную кампазіцыю.
Атрымалася паэтычнае прывітанне
на Віткаўскіх чытаннях.
А яшчэ са Слуцка навіна —
салаўі тут спяваюць
ад відна да відна.
А паколькі ў Слуцку
ўсё па-людску,
то случчане прызналі свята —
Дзень Салаўя.
І ён супадае з днём народзінаў
іх земляка Васіля Віткі.
Салаўіны фэст гулялі сёння
ў мінскай Віткаўскай бібліятэцы.
І я там быў,
ліпавы мёд і духмяны пірог еў,
хлебным квасам запіваў,
па барадзе цякло,
і ў рот трапіла.
А ў гэты час чысты, жывы

голас слуцкага салаўя,
злоўленага на касету,
разрываў душу.
У ім гучаў голас Васіля Віткі:
«Ах, каб цябе, каб…
Сквар-рка: тр-р, кап-кап…»

**15.05.**
Сястры Любе — 89 гадоў!
Чую яе бадзёры голас з Дабужы:
«Гуляем у маім летнім рэстаране.
Дзеці, унукі, праўнукі загадалі,
каб жыла вечна.
А я хіба супраць!..»
Мне падабаецца настрой сястры.
Яна — вайной загартаваная,
дактарамі парэзаная,
мужам бітая,
каровай колатая,
громам напалоханая,
канём кусаная,
па сыне сплаканая…
А застаецца жыццялюбкай:
«Мне, братка, медаль уручылі
да Дня Перамогі,
Прэзідэнт віншаванне прыслаў,
а сельсавет даў тры мяхі зерня,
куры паклююць, яек нанясуць.
Жыць можна!..»
Мая любімая Люба,
жыві доўга,
а мы ўсе, Ліпскія,
з уцехаю будзем злятацца
ў тваю гасцінную хату.
Як у бацькоўскую!

**19.05.**
У маі заўсёды задумваюся:
што ёсць маё на гэтым свеце,
чым намаяўся,
што адчэкаў маятнік жыцця?
Галоўнае маё —
той міг жыцця, які падарылі
мае залатыя бацькі
Марыя і Сцяпан.
Яшчэ маё ўсё тое,
што набыў за міг гадоў:
жонку, дзяцей, унукаў,
сівізну і маршчыны,
сяброў і зайздроснікаў,
акуляры на носе,

паліцу аўтарскіх кніжак,
кватэру ў Мінску,
домік на Лысай Гары,
вясёлкавыя клопаты ў «Вясёлцы»,
цяпер яшчэ і ў «Бусі»,
бясконцыя праблемы
ў Дзіцячым фондзе…
Спаліў акіян нервовых клетак.
Страціў братоў, сясцёр,
шэсць пляменнікаў.
Але не пакінулі мяне,
надзея, вера і аптымізм.
З хаценнем і ахвотай
сустрэў і пражыў
сённяшні свежы дзянёк.
Слава Богу!

**22.05.**
Семдзесят пяць маяў адмаяваў.
Што запомніў?
За сёмым маем пайшоў
у лапціках у школу.
На трынаццатым маі плакаў,
бо памёр Сталін.
Паверыў, будзе зацьменне.
На сямнаццатым маі пакінуў
бацькоўскі парог,
пайшоў вучыцца, шукаць долю.
На дваццаць першым маі
мог утапіцца ў рэчцы Уша.
Выратаваў сусед Кастусь.
Праз дзень Ніна нарадзіла
нашага першынца Ігара…
Шмат памятных маяў,
горкіх і салодкіх.
У кожнага свае адсечкі ў жыцці.
Відаць, усе яны загадзей
вызначаны лёсам.
Іх не прамінеш,
ад іх не ўцячэш?
Застаецца слухацца Творцу.
Спадзявацца, верыць
і ў добрым строі
пеставаць разум, мускулы, душу.

**23.05.**
Помніш, Мама, адным далёкім досвіткам
ты пяшчотна разбудзіла мяне:
«Уставай, сынок, нештачка пакажу».
Мы пайшлі басанож
па роснай, майскай мураве.

Мінулі гарод, дубняк, арэшнік.
Апынуліся на прасторнай сенажаці.
Ты пачала збіраць шчаўе.
А я стаў зачараваны,
бо з другога, далёкага берага
над сенажаццю загаралася неба.
Я ж ніколі не бачыў такога дзіва:
над зялёнай травой
уздымалася млява-чырвонае полымя.
Раптам выплыў на неба
агністы ражок таго вогніва.
Ён імкліва ўздуваўся, акругляўся.
І вось над зялёным дыванам —
Сонца!
Мне падалося, яно задумала
падкаціцца да мяне…
Мама, я і цяпер адчуваю твой позірк.
Рвала шчаўе, цешылася мной,
як я радаваўся ўзыходу сонца.
Той ранак з табой —
успамін на ўсё жыццё.
Ён адгукнуўся ў душы
і сёння, на Лысай Гары.
Я збіраў маладое шчаўе.
Салавей у вербалоззі
падбадзёрваў мой настрой,
шчымліва варушыў памяць маленства.

**24.05.**
Якога жанру мая кніга жыцця?
Раман?
Сюжэт рамантычны і пакутны,
як з шоўкаўскай лазы
выходзіў у людзі.
Драма?
Мой лёс мог абарвацца ў вайну.
У пятым класе мог застацца без нагі.
А каб не чысціня бацькоў,
хіба б супакоіліся ананімшчыкі?
Камедыя?
Ці не камічнае, што я адкрыў Аўцюкі,
а не прызнаныя гумарысты?
Не, маё жыццё — салідная дзіцячая кніга.
Сюжэт просты:
хлопчык, у якога вайна спаліла цацкі,
знаходзіць казачнае царства
пад назвай «Вясёлка».
А можа, маё жыццё — гістарычная аповесць?
У мінулым жыцці
я быў у Новай Зеландыі.
Чаму я апынуўся на Палессі,

у непрыкметнай вёсачцы Шоўкавічы?
Не, маё жыццё — паэма,
І назва яе — «Цялец».
З цяльцовай упартасцю
шукаю лірыку
ў віры зямных трывог,
падману, нявернасці.
Божа, дай сілы і часу
прыстойна дапісаць
сваю кнігу жыцця
ў зямным, непаўторным раі.

**25.05.**
Усе мы — радня.
Пра гэта ў «Полымі»
размова са мной.
Вядзе «допыт» масціты
празаік, паэт —
Зіновій Прыгодзіч.
Прачытаў і яшчэ раз
пераканаўся:
як жа мы павінны ўмець
гаварыць адзін з адным,
Разумець адзін аднаго.
А яшчэ — паважаць і любіць,
цаніць і берагчы,
шанаваць і ўзвышаць,
падтрымліваць і дапамагаць…
Усё гэта ўмее рабіць
мудры Зіновій Кірылавіч.
Сведкамі таму — яго кнігі
«Постаці».
Усе мы, зямляне, —
радня адзін аднаму.
І хай жа гэта повязь
зніітоўвае продкаў,
спадчыннікаў, нашчадкаў.
Тады будзе вечным жыццё
на чалавечай планеце.
Тады не згасне ў творцаў
жаданне шукаць
вакол сябе постаці
і праз іх з цэлым народам
гутарку весці…

**27.05.**
Яшчэ на адну Маму
збяднела наша краіна.
Не стала Кацярыны Трафімаўны,
простай, працавітай сялянкі,
якая адна выгадавала,

паставіла на крыло
свайго адзінага сына —
першага Прэзідэнта Беларусі.
Што ведаем пра гэту
сціплую, цярплівую Маму?
Да крыўднага — вельмі мала.
А яна магла б расказаць,
як яе сын хадзіў у школу,
як дапамагаў ёй араць, касіць,
як здабываў дровы ў печ,
як рамантаваў хату,
як начамі чытаў кніжкі,
як спрабаваў пісаць вершы,
як і з кім сябраваў…
Шкада — апавядальніца ў Нябёсах.
Хай жа адтуль яна спрыяе
і свайму сыну, унукам, праўнукам,
і ўсім нам, беларусам,
каб мы дайшлі да Беларусі,
пра якую марыў і сніў
наш геній Янка Купала.
А сёння я шчыра спачуваю
Аляксандру Рыгоравічу
і перадаю яму сваю аповесць
«Мама. Малітва сына».
Буду ўсцешаны,
калі мая споведзь,
маё маленне
падмогуць яму аблегчыць,
а можа, і ўзрушыць
неўтаймоўны боль
па незагойнай ране.

**28.05.**
У мяне грошай няма,
але я самы багаты чалавек.
Уласны афарызм
падмагае бадзёрыцца
пры пустых кішэнях.
А я ж яшчэ пры гэтым
прыдумляю аповесць-казку
«Грошык і таямнічы кошык».
Вяду з дзецьмі ўрокі
пра фінансы-рамансы,
пра сямейны бюджэт,
крэдыт і дэпазіт
даходы і расходы…
Маю навуку падтрымалі
ў «Беларусбанку».
Выдатнікаў вясёлкаўскай школкі
прынялі кіраўнікі банка.

Адбылася ўзнёслая гаворка
пра наш галоўны капітал —
Дзяцей.
А самі дзеці свяціліся радасцю.
Ад ўвагі, ад падарункаў,
ад надзеі на тую будучыню,
калі пачнуць зарабляць свае рублі.
Хлопчык Максім з Кобрына
вельмі ж сур'ёзна ўсё ўспрымаў.
Мо задумаўся, як стаць дырэктарам
над банкаўскімі грашыма?
А мне, бяссрэбніку, усцешна,
што ўзбудзіў вундэраў на роздум,
а дарослых на клопат пра іх.

**29.05.**
У мінскім Доме Масквы
наш Фонд святкуе
Міжнародны дзень абароны дзяцей.
Ёсць і музыка, і песні, і апладысменты,
а ў зале ўсё-такі — шчымлівая нуда.
Вунь у другі радзе —
дзяўчынка ў белай хусцінцы.
У яе — анкалогія.
У міжраддзі — хлопчык на калясцы.
Ён не можа хадзіць, як усе.
Дзяўчынка ў цёмных акулярах,
у плацейку сінім з белымі зоркамі.
Мама выводзіць яе на сцэну.
Сафійка Марцішка з Брэста
голасна спявае пра голас,
музыканта і высокае неба.
Яна ніколі не бачыла кветак,
а моліцца перад імі.
Яна душой пазірае на свет
і прымушае нас, відушчых,
цаніць жыццё — Божы дар.
Уручаю Сафійцы прэмію
«Мы верым у цябе».
Зала ўзрываецца воплескамі.
Людзі! Пачуем Дзяцей,
адчуем іх касмічную энергію,
спазнаем сваю адказнасць
перад спадчыннікамі
і абаронім іх:
ад войнаў і хвароб,
ад чынуш і гора-бацькоў,
ад крапівы і камароў,
ад наркаты і беднаты,
ад голаду і холаду…
І хай так станецца
ва ўсе дні іх Дзяцінства!

**30.05.**
Стаю пад зорным парасонам ночы.
Здаецца, увесь сусвет азірае мяне.
І апаноўвае шалёная думка,
што мяне ўсе бачаць па скайпе.
А мо чытаюць мае думкі,
адчуваюць рытм сэрца,
праслухваюць нервы?
От, называецца, выйшаў падыхаць
свежым паветрам,
пацешыцца ноччу.
Адчуваю сябе аголеным электрадротам.
Не чапайце мяне!
Не трывожце!
Не ўздумайце гнуць, браць,
бо пачну кусацца.
Такім аголеным, ранімым,
нарадзіла Мама Марыя.
Строгасць, прынцыповасць — ад бацькі.
Ад шоўкаўцаў — дабрыня, цярплівасць.
Ад нашых дубоў — моц, разважлівасць.
Ад квяцістых сенажацяў — вясёлкавы настрой.
Вось так пад зорным небам
выйшаў на сайт свайго жыцця.
Націскаю кнопкі
Дзяцінства, Юнацтва, Сталасці —
і мне зусім не сорамна.
Дык гэта ж і ёсць —
Божая ўзнагарода!
Вяртаюся ў аранжавую хатку.
Грэюся цяплом новага адкрыцця.
Прашу аднаго:
дай, Госпад, заўтрашні дзянёк.
дазволь напоўніць яго
новымі пачуццямі.

**31.05.**
Май завяршаецца на Парнасе,
У асяродку беларусаў.
Яны жывуць на Беласточчыне.
Вольныя і чыстыя душою,
сабраліся ў гарадскім парку.
Фантаны. Векавыя ліпы, елкі.
Прасушанае сонейкам неба.
І песні, песні, песні —
пра свята ў нашай хаце,
дзе заўжды вясна;
пра рэчаньку,
чаму яна няпоўная;
пра мову родную,
на якой размаўляць не сорамна;

пра вясёлыя ногі,
якія ходзяць не туды;
пра край любімы,
дзе жыве душа —
пра ўсё гэта чатыры гадзіны
спеваў, весялосці, воплескаў.
«От давалі брава!»
Я сведка свята беларускай культуры
ў польскім Беластоку.
Я ўзрушаны, усцешаны, абнадзеяны,
бо адчуў — жыве Беларусь, старонка родная,
незабыўна квітнее ў сэрцах усіх,
хто там у замежжы цяпер,
хто звязаны жывільнымі каранямі,
з далёкай спадчынай:
Адзін дзядок у капелюшы
узляцеў з лаўкі,
пачаў падтанцоўваць
пад мелодыю «Беларусачкі».
І яму людзі далі «брава».
Такое ж ушанаванне
атрымалі аматарскія гурты
«Лянок» і «Вянок»,
«Калінка» і «Каласкі»,
«Журавінкі» і «Спадчына»,
артысты з прадшколля і са школ,
«Світанак» і «Росы»,
«Вясёлка» і «Цаглінкі»…
Апошні дзень мая
купаўся ў спевах беларусаў.
Дык чаму ж і мне не пець,
калі ў маёй хатачцы парадачак ідзець?..



Валерый КАЛІНІЧЭНКА

# ДАСПЯВАЦЬ НАШАЙ ПЕСНІ КУПЛЕТ

## КУРГАН СЛАВЫ

Акальцаваны стужкай магістралі,
Глядзіць сумленна свету ў вочы Мінск.
Прайшлі гады, дзядулямі мы сталі,
Хлапцы, што насыпалі абеліск.

Па прыступках у высі неслі людзі
Апаленую памяць, сэрцаў гнеў.
І сыпаўся пясок Зямлі на грудзі,
Дзе мы хавалі пахаваных спеў.

Так вырастаў курган наш векапомны
Загінуўшым на жудаснай вайне.
У полымі баёў народ нязломны,
Лічыў ахвяры на набат-сцяне.

Штых-абеліск стаіць — наказ нашчадкам,
Пасланнік у наступныя вякі.
Не даравальна крочыць без аглядкі
На спаленыя ззаду бальшакі.

---

*Калінічэнка Валерый Іванавіч нарадзіўся 21 жніўня 1949 года ў вёсцы Уборкі Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Мінскі аўтамеханічны тэхнікум (1969), факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977), Мінскую вышэйшую партыйную школу (1981). Служыў у Савецкай Арміі (1969—1971). Працаваў у буда-кашалёўскай раённай газеце «Авангард». У 1990 годзе пераехаў у падмаскоўную Шатуру. Быў галоўным рэдактарам раённай газеты «Ленинская Шатура». З 2001 года жыве ў Маскве. Цяпер — галоўны рэдактар міжнароднага часопіса «Безопасность: наука и технологии».*

*Лаўрэат некалькіх літаратурных прэмій. Заслужаны работнік культуры Расійскай Федэрацыі. Ганаровы грамадзянін Буда-Кашалёўскага раёна.*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Зорны дазор» (2008), «На залатым ганку» (2010), «Роднасць» (2012), «Гасцінец» (2013), «Баравое ляда» (2015), «Объять необъятное надо» (2015), рамана «Обреченные на счастье» (1996), аповесці «Тайное голосование» (1998).*

Бы крыж узняўся помнік над планетай.
Ён — рэквіем, званіца на мяжы
Паміж жыццём святым
і апраметнай,
Дазорны на апошнім рубяжы.

## КУРАПАТЫ

Між Мінскам і светам стракатым
Шашэйная стужка бяжыць.
На ўзбочыне ля Курапатаў
Пасталі дазорам крыжы.

Прыносіць з мінуўшчыны пошта
Нам споведзь заросшых грудкоў.
Навошта, навошта, навошта
Трывожыць магілы бацькоў?

На думкі ішло паляванне,
Нязгодных зганялі ў аблог.
Варушым святое курганне,
Каб новых не везлі ў астрог.

Далёкая праўда рассекла
Былую суполку наскрозь.
Намерамі добрымі ў пекла
Шляхі аднаўляюцца скрозь.

Зямля — жвір пагостаў, пагостаў,
Планета памёршых людзей.
Жывыя на ёй — нібы востраў
Сярод пахаваных надзей.

## ПЧАЛЯР

***Уладзіміру ЛАГОДЗІЧУ***

На ўзбочыне цывілізацый
Пад спёкай млее Гарадок.
На пасецы сярод акацый —
Вуллёў заценених гурток.

Яны ляткамі дзень смакуюць,
Ажно надзьмуліся бакі.
А пчолы ў водар зноў стартуюць,
Снуюць бы тыя чаўнакі.

Сям’я руплівая шчыруе,
Рахунак множыць залаты.
Над лугам з рання гул віруе,
Запаланіў усе кусты.

Лагода над зямлёй лунае,
У промнях сонечных зіхціць,
Нектарам соты налівае.
...На крылах лецейка ляціць.

Пчаляр Валодзя, з ім сябруем,
Мне рамку з летам прыпасе —
З Мядовым Спасам павіншуе,
Багоў напітак паднясе.

## ПАВЕРКА

Хай вакзалы мяне не чакаюць,
Тэлефоны няхай замаўчаць.
Я з юнацтва сяброў сустракаю,
Каб гады разам падсумаваць.

Тон высокі набрала застолле,
Яго прысуд — твае рубяжы.
Непрыкметныя, шэрыя ў школе
Абышлі лепшых на віражы.

Барабаншчыкі і маркітанты,
Хлебаробы, урач, кавалі...
Дзе ж героі, дзе ж скалы, атланты?
На паверку яны не прыйшлі.

Распыляцца на дробязі — што вы?
Не для іхняй персоны сюжэт.
Сядзем бліжай, сябры!
                    Вы гатовы
Даспяваць нашай песні куплет?!

* * *

Край азярын, рачулак ціхіх,
Бароў, даросшых да нябёс,
Купаецца ў вачах ласіхі,
Што выйшла на мяшчорскі плёс.

З часоў мінуўшчыны глыбокай
Блукае ў нетрах леляў цень.

Суняўшы свой палёт высокі,
Згубіўся ў гушчары прамень.

Стагоддзі пільна гай вартуюць,
Знайшоўшы ў бураломах схоў.
Іх здані дзень і ноч вандруюць
Па дыванах з дрыгвы і мхоў.

У цераме з чароўнай казкі,
Якой няма куды старэць,
Дазвол узяў, з вялікай ласкі,
На хвалях Бужы ранак стрэць.

Рака нясе дрыготкі човен
Праз таямніцы лесуноў.
А пушча на птушынай мове
Вядзе сказ сплыўшых тут часоў.

## КРЫЛАТЫ СУМ

Найсумнай песняй развітання,
З сабой пабраўшы паплавы,
Па ўскрайку золкага світання
Плывуць у вырай журавы.

У небе шэрым клін крылаты
Надзею пестую адну:
Праз сум і цёплыя пенаты
Ляціць у новую вясну.

І кліча за мяжу радзімы,
Дзе можна сэрцам успрыняць,
Чаму спеў сумны жураўліны
Ад родных высяў не адняць.



Сеймур БАЙДЖАН

# ДВА АПАВЯДАННІ

## Апавяданне, якому цяжка падабраць назву

> ***Я не разбіраюся ў анёлах і святых, я пішу пра жывых людзей. Прыхільнікі анёлаў, якія шукаюць у кнігах не людзей, а нябесных істот ды ягнят божых, няхай напішуць пра іх самі, я не ўмею.***
>
> Томас ВУЛЬФ

Цяпер я пачынаю разумець, наколькі цяжкі лёс выпаў на долю гэтай змардаванай жыццём жанчыны, успаміны пра яе працінаюць сэрца невыносным болем. Перад тым, як завесці пра яе размову, апішу сцэну, што ўзнікае перад вачыма кожны раз, — варта толькі прыгадаць. Вось бабуля сядзіць на самаробным зэдліку ў двары і скубе курыцу. Тут жа з'яўляецца муж, падыходзіць да бабулі і пачынае біць яе кулакамі па галаве, в потым пускае ў ход ногі. Бабуля пакорліва прымае ўдары, не прамовіўшы ні слова, унурыўшы галаву ў плечы і закрыўшы рукамі твар. Яна нікога не кліча на дапамогу. Калі муж, стаміўшыся ад біцця, сыходзіць, бабуля правярае спачатку сукенку, ці не пашкоджана, потым ідзе ў куратнік, дзе пачынае гучна галасіць. Спалоханыя куры квохчуць ды разбягаюцца. Наплакаўшыся ўдосталь, яна выходзіць з куратніка, мыецца і працягвае, як нічога і не было, займацца гаспадаркай. Нягледзячы на раны, атрыманыя ад мужа, будзе прыгатавана цудоўная вячэра.

Аднойчы муж схапіў яе за валасы і пачаў цягаць па двары. Стаміўшыся, ён ударыў яе кулаком па твары, з носа лінула кроў. Потым сеў у машыну ды паехаў піць гарэлку з сябрамі. Як толькі яго машына схавалася з поля зроку, бабуля ўзнялася на ногі і ўзнесла рукі да неба, праклінаючы самога Бога. Мая дзіцячая свядомасць тады не вытрымлівала такога блюзнерства. Сёння ж я разумею, што сварылася яна на яго таму, што не магла знайсці адказ на адвечнае пытанне: «Завошта мне гэтыя пакуты?!» Мо яна расплачваецца за сваё «няправільнае» жыццё? Мо яна не пражыла яго прыстойна, так як трэба? А як трэба жыць «правільна» і дзе яна магла зрабіць памылку?

---

*__Сеймур Байджан__ нарадзіўся 25 красавіка 1976 года ў Фізулі. Вучыўся ў Ваенным ліцэі імя Дж. Нахічаванскага, пасля на факультэце дзяржаўнага і сацыяльнага кіравання Бакінскага ўніверсітэта «Каўказ». Працаваў журналістам. Аўтар кніг апавяданняў, публіцыстычных зборнікаў, рамана «Гугарк».*

Бабуля галосіць, кідаецца, ліхаманкава цягае старую сукенку. Са свайго з'яўлення на свет не бачыла яна шчаслівага дня — у дзяцінстве страціла маці, расла сіратой і ў юным узросце родзічы выдалі яе замуж за майго дзеда.

Жорсткі і грубы, гэты чалавек быў не дурань, каб смачна паесці, добра выпіць ды пагуляць. Усе ведалі яго як бабніка, які без згрызот сумлення мог захапіцца апошняй мярзотніцай. Гэты тыран абыходзіўся са сваёй сіратой жонкай так, як яму хацелася. У любы час дня і ночы ён мог пабіць, прынізіць ды высмеяць яе, нават пры староннiх. Усё жыццё несла яна сляды пабояў на твары і, нягледзячы на гэта, працягвала смачна гатаваць, займацца гаспадаркай, трымаць у ідэальным парадку дом, клапаціцца пра тое, каб кожная талерка блішчэла. Муж грошы дадому не прыносіў, усё спускаў на пагулянкі. Апранаць дзяцей, набываць ім рэчы для школы — гэта быў прамы абавязак бабулі. Як яна спраўлялася з гэтым усім пры сваім нізкім заробку — застаецца загадкай.

Бабуля заўсёды хадзіла бязгучна, дробнымі крокамі. Старалася нічога не зачапіць, быццам бы перадаючы рэчам спакой і цішыню. Калі да чаго дакраналася, то рабіла гэта так мякка і далікатна, быццам рукі яе былі з ваты. Плакала яна так шчодра, што, здавалася, слёзы цякуць з вачэй, рота і носа адначасова. Яна плакала ад сваёй бездапаможнасці, глыбокай самоты, бязлітаснасці людзей ды жорсткага бога.

Бабуля была адной з тых рэдкіх жанчын, якім наканавана ідылічнае сямейнае жыццё. Але лёс вырашыў інакш, пазбавіўшы яе сямейнага шчасця. Мала таго, што за ўсе гады сумеснага жыцця яна ні разу не пачула ад мужа добрага слова, не атрымала падарунка, дык ён яшчэ біў і прыніжаў яе. Ні разу яна не была ў кавярні ці рэстаране, не мела нават уяўлення пра падобныя ўстановы. Звычайна такія жанчыны растрачваюць любоў, прызначаную для мужа, на людзей у сваім асяроддзі. Жанчыны, такія, як мая бабуля, валодаюць настолькі велізарным запасам любові, што могуць дзяліцца гэтай любоўю не толькі з блізкімі, але і з зусім незнаёмымі людзьмі.

Я купаўся ў яе пяшчоце з тых часоў, як сябе памятаю. Але яе любоў і клопат я магу ацаніць толькі цяпер. На жаль, той далёкай парой я не мог зразумець, наколькі рэдкім і цудоўным стварэннем была гэтая жанчына. Бабуля не толькі не казала, але і не думала пра сябе. Усё жыццё яе поўнілася любоўю і адданасцю. Я так прызвычаіўся да яе бясконцай любові да ўнукаў і староннiх людзей, што не мог яе ўявіць не гэткай, а іншай. Мы зусім не былі ёй удзячныя. Ніхто з нас ніколі не задаваўся пытаннем: «Ці задаволена яна намі?» Ніхто — ні дзеці, ні ўнукі, ні калегі, ні суседзі, — не здольныя былі зразумець усю глыбіню яе пакут.

Звыклая да пастаяннага гвалту, гэтая жанчына глядзела на свет поўнымі жаху вачыма, азіралася на кожны шоргат, дрыжэла ад кожнага гуку. Яе слабое цела і плечы, што неслі непамерны цяжар быцця, калаціліся ад драбнейшых, нязначных навін. На твары, вакол вачэй ды вуснаў, назаўсёды застаўся глыбокі выраз стомы і душэўных узрушэнняў, за ўсё жыццё я не бачыў твару больш драматычнага. Калі раптам яна рабілася выпадковай сведкай вулічнай сваркі ці бойкі, то пачынала гучна плакаць і дрыжэць ад жаху. Слёзы і боль іншых яна ўспрымала як асабістыя, пралівала слёзы падтрымкі разам з самотнымі, хварэла разам з хворымі, цяжка пераносіла гора незнаёмых людзей, перажываючы іх пакуты, ператварала іх бяду ў асабістую трагедыю. Дзіця лёгка магло абвесці яе вакол пальца. Напрыклад, сказаць у сонечны дзень, што зараз поўнач, і яна б паверыла яму. Памятаю, як мы, унукі, імітуючы самагубства, заціскалі сабе раты і насы рукамі. Божа, з якой трывогай яна бегла да нас, про-

сячы аб дапамозе ўсіх святых і молячы нас пачаць дыхаць. Мы, заліваючыся смехам, беглі прочкі, каб выдумаць новую хітрасць, якая прымусіць хвалявацца гэтую прастадушную наіўную жанчыну.

Аднойчы я выпацкаў белую кашулю гранатавым сокам і з крыкам выбег на двор. За некалькі крокаў ад яе я заваліўся на зямлю, чым увёў бедную жанчыну ў стан шоку. Калі бацькі, асабліва маці, каралі і білі нас, бабуля заўсёды намагалася нас абараніць. Калі ёй не ўдавалася вырваць унукаў з рук бацькоў, то яна пачынала плакаць разам з намі.

Дзядуля памёр, і бабулю быццам бы няма каму было біць, катаваць і прыніжаць. Але лёс працягваў выпрабоўваць яе цярпенне, на гэты раз з маім дзядзькам, яе сынам, якога яна да глыбіні душы любіла і звязвала з ім усе свае спадзяванні.

Пасля дзядулі за бабулю ўзяўся ён — мой дзядзька.

Нягледзячы на магчымасці сямейнага бюджэту, ён паліў дарагія цыгарэты і насіў дарагое аддзенне. Каб задаволіць непамерныя патрэбы сына, бабуля вымушана была працаваць на дзвюх работах — у бальніцы і аптэцы. Да таго ж яна разводзіла хатнюю птушку, вырошчвала гародніну, корпалася ў градах, палівала дрэвы. Дзядзьку асабліва не цікавіла, з якой цяжкасцю здабываюцца грошы. Ён працягваў паліць дарагія цыгарэты, надушваўся дарагой парфумай, насіў дарагія касцюмы і часцяком прыходзіў з чарговага балявання ці папойкі пабітым да крыві, у падзёртым адзенні. Ніякія клятвы ды ўгаворы не дапамагалі. Ён усё патрабаваў і патрабаваў ад бабулі грошай і дарагіх рэчаў. Заўсёды вяртаўся дадому далёка за поўнач, а бабуля не спала і чакала да ранку. А потым, выпіўшы нашча горкую гарбату, бегла на працу.

Дзядзька пасадзіў у двары каноплі і загадаў бабулі паліваць іх кожны дзень салодкай вадой. Бабуля ўзрадавалася новаму захапленню сына. Думала, паразумнеў, калі раслінамі захапіўся, вось і ўзялася з энтузіязмам за паліванне канаплянага куста салодкай вадой.

Кожны выкарыстоўваў яе, як мог.

Бабуля валодала абсалютнай памяццю непісьменнага чалавека. Калі-нікалі, вельмі рэдка, яна дзялілася ўспамінамі. Пачынаючы з дзяцінства, завяршаючы старасцю. Дзядулю яна спадабалася на вяселлі, дзе ён, убачыўшы прыгожанькую дзяўчынку ў танцы, вырашыў пасватацца да яе. Вось бабуля пакідае сваю маленькую дачку, маю маму, у калысцы пад дрэвам і ідзе збіраць бавоўну. Тады, каб немаўляты не плакалі і не перашкаджалі працы, іх паілі гарбатай з сонных зёлак. Сабраўшы бавоўну са свайго надзелу і вярнуўшыся па калыску, яна бачыць там змяю, якая звілася клубком побач з дзіцём, якое соладка спіць. Бабуля замірае ад жаху, але змяя, не прычыніўшы шкоды малой, адпаўзае.

Вось дзед вяртаецца дадому пасля чарговай папойкі, збівае бабулю і праганяе яе з хаты. Бабуля ідзе ночыць у куратнік. Але дзед праганяе яе і адтуль. Бабуля вымушана прасіцца да свайго брата. Але і тут няма ёй спакою, братавая кпіць з яе, кавалка хлеба не дае, і бабуля галадае. Прыходзіць дзядуля і забірае яе дадому, каб зноў біць і прыніжаць. Так і не ўбачыўшы ў жыцці нічога добрага, яна нараджае ліхадзею мужу пяцярых дзяцей і адна, без дапамогі, выхоўвае іх. Рана прыходзіць старасць з-за цяжкага жыцця. Дзяўчынкі адна за адной выходзяць замуж, паўтараючы лёс маці — ім таксама не бачыць сямейнага шчасця. Мужы іх аказваюцца не лепшыя за дзеда — таксама збіваюць, прыніжаюць і выстаўляюць за дзверы.

Расказы бабулі, яе ўспаміны паўняцца пранізлівым горам, слязьмі, крыўдамі... Ах, калі б яна магла пісаць!

Потым… потым пачалася карабахская вайна, разваліўся Савецкі Саюз і пайшло-паехала. Разбураліся дамы, высыхалі дрэвы. Даводзілася нам вандраваць з месца на месца і не раз пачынаць жыццё з чыстай старонкі. Адбываліся такія жудасныя, брудныя, агідныя падзеі, што я з цяжкасцю магу іх апісваць.

У рэшце рэшт наша вялікая сям'я вымушана пасялілася ў маленькай кватэры, і бабуля стала жыць разам з намі. Страціўшы пад канец жыцця свой прытулак, родны край, яна дажывала свае дні як паслушніца ў манастыры — у поўнай адзіноце.

Аднойчы яна паспрабавала падняцца з крэсла і тут жа звалілася. Паглядзела на свае саслабелыя ногі і страціла прытомнасць. Мы адвезлі яе ў бальніцу, і яна там доўга праляжала. Маме і цёткам давялося патраціць на яе лячэнне вялікія сумы. Без таго складаная фінансавая сітуацыя пагоршылася яшчэ больш.

Пасля бальніцы бабуля рэдка размаўляла. Сэрца калацілася ў грудзях, не дазваляла ёй раскрыць рота. Яшчэ ёй было сорамна за выдаткі дачок. Я пакутаваў кожны раз, як бачыў яе танклявыя рукі, худыя плечы і хваравіты твар. Бабуля нагадвала мне лодку, поўную паклажы, якая марудна ідзе на дно. Павярнуўшыся тварам да сцяны, яна магла гадзінамі ляжаць не рухаючыся. Бабуля так старанна і акуратна падрыхтавалася да сыходу, што працяг жыцця, поўнага сумненняў і трывог, прыносіў ёй неймаверныя пакуты. Яна даўно ўсвядоміла і змірылася, што для вечнага спакою чалавеку патрэбна толькі яма два метры даўжынёй. Яна не хвалявалася наконт хуткай смерці, нікольні яе не баялася, і толькі перажывала з-за нас, не была ўпэўнена, што пасля яе сыходу з нашай сям'ёй усё будзе ў парадку.

Аднойчы мы засталіся з ёй дома адны, і я раптам спытаў:

— Як гэта было?

Цікава, што неадукаваная, непісьменная жанчына адразу зразумела, пра што я пытаюся. Павярнуўшыся да мяне, ўважліва паглядзела пажаўцелымі вачыма. Яна глядзела так, быццам бачыла мяне ўпершыню.

— Вельмі проста, — прамовіла бабуля. — Дарма мяне вярнулі…

Яе твар перакасіўся, вусны напяліся, на лбе з'явіліся глыбокія зморшчыны, з вачэй пацяклі буйныя слёзы. Жудасна было бачыць старога чалавека, які тоне ва ўласным горы ды турботах і жадае хуткай смерці.

Неўзабаве яна зноў не знайшла ў сабе сілы падняцца з крэсла. Гэтым разам мы не павезлі яе ў бальніцу — не было грошай — і пачалі лячэнне дома. Калі ў хаце безнадзейна хворы чалавек, ствараецца асаблівая атмасфера. Я кажу пра тыя нязручныя моманты, калі блізкія нерашуча, саромеючыся саміх сябе, жадаюць смерці хвораму. Толькі дзеці баяцца смерці родных і нават у страшным сне ўявіць сабе не могуць такую страту.

Усе ведалі, што яна не пражыве больш за месяц. Жадаючы ёй хуткай смерці і пазбаўлення ад пакут, дарослыя ўсё ж паілі яе немаведама дзе здабытымі лекамі, падманваючы ў першую чаргу сябе, а потым паміраючага чалавека. У кватэры панавала амаральная, прыніжаючая мана. Бабулю, якая так спяшалася ў лепшы свет, я любіў больш за ўсіх, і мне даводзілася з болем у сэрцы назіраць за перамогай падману ў нашай сям'і. Бабуля ж толькі паслухмяна глытала горкія безнадзейныя таблеткі ды імкліва худнела.

У рэшце рэшт, пражыўшы поўнае пакут жыццё, бабуля адмучылася. Усе мы плакалі, а яна — ужо не. Са смерцю скончыліся яе пакуты. Жыццё цякло ў сваім звыклым рэчышчы, толькі ў адных чуллівых грудзях сэрца спынілася назаўсёды. Яна так моцна схуднела, што нечага было класці ў труну. Маці, цёткі ды іншыя родзічы паядналі свае невялікія сродкі і пахавалі косці маёй бабулі на гаўсанінскіх могілках.

P. S. Толькі аднойчы я бачыў бабулю, якая смяялася ад душы. Гэта было падчас сумеснага прагляду «Вялікай прагулкі». Натуральна, яна не ведала імя акцёра і называла Луі дэ Фюнэса проста «смешным чалавекам».

## Пра майго дзядулю

Сапраўды! Чаканыя на ўсіх святах ды вечарынках мужчыны звычайна нікчэмныя сямейнікі. Калі казаць прасцей, то дрэнны муж і бацька здольны добра весяліцца, гуляць і сябраваць, атрымоўваючы ўсё ад жыцця напоўніцу. Заробленыя грошы яны трацяць не на будучыню дзяцей, а на выпіўку, сяброў і прастытутак — гэта іх крэда. Мой дзед быў адным з такіх марнатраўцаў. Ён апантана збіваў сваю бедную жонку, якая несла на слабых плячах увесь цяжар іх сумеснага жыцця. Але толькі ён пераступаў парог і аказваўся на вуліцы, як гнеў спаўзаў з яго твару, змяняючыся на добрую ўсмешку. Пяць хвілін таму ён катаваў да крыві, цягаў за валасы знясіленую, бездапаможную немаладую жанчыну, — а цяпер вось смяецца з дзяцей, непрыстойна жартуе з бабулямі-суседкамі, выводзіць з сябе мужчын, корміць хлебам дварнякоў. Дзед, які сварыўся дома самымі паскуднымі словамі, рабіўся на вуліцы заўзятым жартаўніком, шчаслівым грамадзянінам, які зараджае ўсіх вакол невычарпальнай энергіяй. Ён проста зачароўваў людзей!

Таму многія і не здагадваліся пра рэальнае становішча ў яго сям'і і не ўяўлялі сабе, якія пакуты даводзілася вытрымліваць маёй бабулі. Знаходзіліся нават тыя, хто вінаваціў бабулю за атрыманыя ад мужа пабоі. Зразумець іх было нескладана — гэтага шчодрага, вясёлага, камунікабельнага чалавека немагчыма было ўявіць катам, пачварай у сямейным жыцці.

Дзед быў непераўзыдзеным арганізатарам арыгінальных, вясёлых вечарынак. Усё рабіў з густам і не забываўся адпускаць жарцікі, якія не напружвалі, а толькі ўлагоджвалі гасцей. То ён збіраў усіх на рыбалку, то ладзіў паход у лес, і на ўсіх пагулянках абавязкова чаркаваўся, і абавязкова здаралася так, што браў у рот цыгарэту фільтрам уперад. Дзе б ён ні сядзеў на ўрачыстасцях, яго столператвараўся ў эпіцэнтр свята. Калі ён напіваўся, у яго мяняўся голас, ён пачынаў хрыпець, як быццам кожнае вымаўленае слова яго душыла, ён гаварыў і адначасова масіраваў горла. Любіў назіраць за людзьмі і выяўляць рысы іх характару ды род заняткаў. Наведваў абсалютна ўсе пагулянкі, з'яўляўся на ўсіх вяселлях і хаўтурах.

У рэстаранах, кавярнях ды крамах дзед лёгка расставаўся з грашыма. З кожным патрачаным рублём рабіўся бадзёрым і свежым. Пры гэтым падэшвы яго абутку былі заўсёды сцёртыя, а на штанах бязглузда надуваліся расцягнутыя каленкі. Гучны смех не стасаваўся з яго знешнасцю. Здавалася, што замест цыбатага, шыракаплечага чалавека з гуллівымі вачыма смяецца нехта іншы. З дзяцінства і да глыбокай старасці ён працаваў у першабытных умовах, ад цяжкай працы рукі спрэс былі пакрытыя мазалямі. Ад яго грубых і страшных рук хацелася адвесці вочы. Твар яго быў знявечаны воспай.

З-за высокага росту яму даводзілася не толькі нахіляць галаву, але і самому згінацца, каб прайсці ў дзверы. У гэтага грознага мужчыны ў кожнай вёсцы, у кожным паселішчы меліся шматлікія сябры, усе яны сустракалі яго ў любы час з вялікім жаданнем. Штогод, па традыцыі, ён ехаў на курорты і ў санаторыі, любіў фатаграфавацца на прыродзе.

Дзед усюды знаходзіў сабе жанчын. Зарабіў рэпутацыю ненажэрнага бабніка, змучанага неўтаймоўным лібіда. Яго жарсць выяўлялася на кожным

кроку і ў кожнай справе. Аднойчы я заспеў яго дома за праглядам тэніснага матча. Дзед увесь засяродзіўся на гульні і пускаў сліну. Захоплены выгляд старога, прыкутага да экрана, заўсёды здзіўляў мяне, пакуль я не зразумеў, што ён сочыць не за гульнёй, а захапляецца грудзямі ды клубамі спартсменак. Ён любіў жанчын з вялікімі азадкамі. У тыя гады па тэлебачанні часта спявала мажная жанчына, толькі пабачыўшы якую ён кожны раз маліў бога, каб той скінуў спявачку проста яму на галаву. Неверагодна, але ён марыў застацца пад гэтай жанчынай, задыхнуцца і памерці. Ён шчыра жадаў сабе падобнай смерці, у гэтым я ніколькі не сумняваўся.

У розных месцах і сітуацыях я ўважліва назіраў за ім. Дзед нацешыцца не мог з мяне і вельмі мной ганарыўся. Гэты кат і дыктатар падарыў мне увесь запас любові, які згубіўся ў цёмных закутках яго чэрствага сэрца. Звычайна жорсткія, халодныя ў адносінах да ўласных дзяцей людзі робяцца шаўковымі з унукамі. Яны быццам бы захоўваюць арсенал самаахвярнасці, увагі і клопату для ўнукаў — і гэтым усё сказана. Няцяжка здагадацца, якой велізарнай увагай дзеда я карыстаўся.

З кожнай сваёй вандроўкі ён прывозіў мне падарункі і заўсёды даваў мне кішэнныя грошы. Калі я начыў у яго, то ранкам ён адвозіў мяне ў школу на машыне. Набываў мне самыя якасныя ранцы, сшыткі, асадкі. Прычым усё гэта ён прывозіў з розных гарадоў Расіі. Выпадала яму на працягу трох дзён не бачыць мяне — і ён пачынаў сумаваць. Калі я хварэў, ён моцна нерваваўся і зрываўся на бабулі, маці, цётках, сварачыся і абражаючы іх. Правіна іх заключалася ў тым, што яны «не дагледзелі дзіця належным чынам».

Памятаю, як аднойчы летам я разбурыў пчаліны вулей. Раз’юшаныя пчолы накінуліся на мяне, і я не паспеў уцячы і схавацца. Пчолы джалілі мяне ва ўсе магчымыя часткі цела. На мой немы крык збегліся людзі, хутка прыгатавалі гразевую сумесь і нацёрлі ёй уджаленыя месцы. Потым яны закапалі мяне ў пясок, пасля чаго намазалі цела кефірам. Узнялася тэмпература, напух твар, галава была падобная на галаву дзіка. Выклікалі ўрача.

Ранкам твар апух настолькі, што я не мог расплюшчыць вочы. Седзячы каля варот, я скрозь вузкія шчыліны вачэй паміж павекамі бачыў дзяцей, якія пужаліся мяне, а дарослыя глядзелі так, як глядзяць гарадскія жыхары на кабылу пры шашы. Страшэнна свярбеў твар, але ўрач забараніў дакранацца да яго. У тыя дні маці хадзіла ў шаўковай спадніцы і я, седзячы на падлозе, паміж яе кален, цёрся тварам аб падол яе спадніцы. Дзед тады адпачываў у Есентуках. Даведаўшыся, што са мной здарылася, ён перарваў адпачынак і тэрмінова вярнуўся дадому. Мала што магло прымусіць яго адмовіцца ад задавальнення. Нічым іншым, акрамя бязмежнай любові да ўнука, гэты ўчынак не патлумачыш.

У гэтай любові была яшчэ адна важкая прычына — я нарадзіўся ў дзень смерці яго любага брата. Дзед часта паўтараў: «Бог паслаў мне цябе замест яго». Брат дзеда загінуў маладым, у аўтамабільнай катастрофе. Гэтая смерць літаральна падкасіла ўсіх родных і блізкіх — Робертам захапляліся ўсе. Мама і цёткі і па сённяшні дзень узгадваюць яго самымі шчырымі душэўнымі словамі. Ён быў сімпатычным маладым чалавекам. Мне паказвалі фотаздымак, з якога на мяне глядзіць з густам апрануты юнак прыемнай знешнасці. Усе, асабліва дзеці, яго вельмі любілі.

Мама распавядала, як у часы яе студэнцтва і пражывання ў інтэрнаце ў Баку да яе аднойчы наведаўся дзядзька. «Дзяўчаты прыйшлі, кажуць, цябе ўнізе сімпатычны хлопец пытаецца. Спускаюся ўніз, бачу — стаіць каля ўвахода мой дзядзька з тортам, ружамі і шампанскім у руках. Абняліся, пацала-

валіся, пагаварылі пра тое-сёе. Уяўляеш, ён сыходзіць, я падымаюся наверх, а дзяўчаты не вераць, што гэта мой дзядзька. Каханы кажуць — і ўсё тут! Ніяк не магла ім патлумачыць, што ніякі гэта не каханы…»

Калі не памыляюся, брат дзеда быў мараком і пасля службы ў войску вырашыў застацца ў Расіі. Таму ён і вылучаўся сярод нас. Ён пераняў ад рускіх шмат станоўчага. Калі збіраўся ў госці, то набываў абавязкова букет, торт, шампанскае. Восьмага сакавіка ўсе жанчыны ў акрузе, незалежна ад узросту, атрымоўвалі ад яго падарункі. Бабуля вельмі любіла Роберта, які клапаціўся і пра яе. Пра жудасную аварыю яна распавядала са слязьмі на вачах.

Дзед не мог змірыцца са смерцю любага брата, часта хадзіў на магілу. Там ён рабіўся зусім іншым чалавекам. Спачатку зрываў пустазелле каля магільнай пліты, праціраў анучай яе мармуровую паверхню, паліваў кусты і дрэвы. Скончыўшы працу, ён клаўся на магілу і пачынаў гучна галасіць: «На каго ты пакінуў мяне, брат? На каго?»

Я баяўся яго галашэння і, намагаючыся хоць неяк адцягнуць сваю ўвагу, назіраў за белай кабылай, якая гуляла паміж магіламі і адганяла хвастом надакучлівых мух. Я і цяпер не магу забыцца на гэтую таварыскую спакойную жывёлу. У час Ашура[1] дзеці па чарзе праходзілі пад гэтай кабылай. Старыя распавядалі, што коні імамаў таксама былі белага колеру і праходжанне пад белай кабылай — гэта даніна памяці ім. Мы кармілі кабылу пернікамі. Яна брала іх сваімі мяккімі вуснамі з нашых далоней і, арыстакратычна жуючы, глядзела на нас добрымі вачыма і прасіла яшчэ. Нагаласіўшыся ўдосталь, дзед супакойваўся, клікаў мулу, які павінен быў прачытаць малітву за спакой душы памерлага. Пасля гэтага мы сыходзілі з могілак.

Супярэчлівая натура дзеда здзіўляла мяне, і я не мог да канца зразумець яго характар. Як удавалася яму мучыць родных, але на вуліцы шкадаваць кожнага сабаку? Як ён спалучаў у сабе міласэрнасць ды тыранію? Які з іх быў сапраўдным дзядулем?

У яго было шмат сяброў армян, да якіх мы часта заходзілі. Мажныя армянкі, абрысы цел якіх добра былі бачныя з-пад сукенак, даставалі ўсю ежу са скляпенняў і накрывалі шыкоўны стол. Віно, каньяк, гарэлка, разнасолы, кампот, вараная курыца, смажаная рыба. Стол выносілі звычайна на свежае паветра — у цень ад дрэў. Мужчыны рабілі шашлык, жанчыны завіхаліся з сервіроўкай. Калі ўсё было падрыхтавана, мужчыны, жанчыны, дзеці збіраліся за вялікі стол, і пачыналася свята. Мужчыны налягалі на гарэлку, спявалі хорам на армянскай, рускай, азербайджанскай мовах, разбівалі бутэлькі аб талеркі і ствалы дрэў. Дзядуля ў армян змяняўся, жартаваў, спяваў, смяяўся з кожнага слова. Я дзівіўся такім зменам. Пасля застолля ў двары гаспадары і госці ішлі ў лес з сырам, кавунамі, памідорамі, гуркамі ды віном. Лес на доўгі час губляў свой спакой.

Дзіўнае ў яго было жыццё. Дзед меў неймаверную колькасць сяброў розных саслоўяў, яму з лёгкасцю davяралі, ён прымаў удзел ва ўсіх вяселлях і пахаваннях, знаходзіў рэдкія тавары, быў гурманам і ніколі не еў нясмачныя стравы. Нават у самых неспрыяльных умовах ён быў мастак прыгатаваць выдатную страву. Ніколі не піў алкаголь нашча і не прымушаў нікога піць. Ён быў чалавекам-тэатрам, быў і за рэжысёра, і за акцёраў. Дзед ладзіў драмы і камедыі, ператвараючы самыя будзённыя сітуацыі ў дзеі грандыёзнага маштабу.

[1] Дзясяты дзень першага месяца Мухарам па мусульманскім календары — дзень жальбы. У гэты дзень загінуў унук прарока Мухамеда — імам Хусейн.

Аднойчы мы ехалі з ім на машыне па вузкай вясковай дарозе, якую занялі цалкам жанчыны. Яны неслі на плячах вялізныя кашы, прывязаныя вяроўкамі. Жанчыны гучна размаўлялі і нават не заўважылі машыну, якая ехала на адлегласці выцягнутай рукі. Дзед не стаў сігналіць, ён проста высунуў галаву з акна і, быццам клічучы куранят, звярнуўся да жанчын: «Цып, цып, цып». Усе мы, уключаючы жанчын, гучна засмяяліся і засталіся задаволеныя гумарам дзеда.

Неяк дзед адвёз мяне на хутар да сваіх сяброў-пастухоў. Пастухі сустрэлі нас са шчырай радасцю. Вядома, дзед жа быў жаданым госцем усюды акрамя ўласнага дома. Усюды, дзе б ён ні з’яўляўся, яго сустракалі з увагай і клопатам, а мне дарылі падарункі і ледзь не насілі на руках. Канешне, гэта рабілася дзеля дзядулі, пра яго любоў да ўнука хадзілі чуткі.

Пастухі, не губляючы часу, закалолі дваіх ягнят, хутка прыгатавалі булён з вялікімі кавалкамі мяса і зрабілі шашлык. Выпіўку ў вялікай колькасці дзед прывёз з сабой. І панеслася! Болей за ўсіх гаварыў дзед, а ўсе моўчкі, з задавальненнем слухалі, бо ніхто не мог супернічаць з ім у красамоўстве і знаходжанні цікавых тэм для застольных бясед. Ён мог гадзінамі распавядаць пра месцы, у якіх ніколі не быў, складаць гісторыі, да якіх не меў ніякага дачынення. Ён расказваў вайсковыя байкі, і пастухі заходзіліся са смеху. Бо ніхто не ведаў, што мой дзед ніколі не служыў у войску. У дзяцінстве ён атрымаў сур’ёзную траўму — асколкамі шкла знявечыла пальцы ног. Гэты, па вялікім рахунку нябачны, дэфект дапамог яму пазбегнуць службы. Аднойчы я стаў сведкам яго размовы з ветэранам вайны, які не быў раней знаёмы з дзедам. Некалькі гадзін слухаў ён «успаміны» дзеда пра вайну і паверыў у тое, што дзед служыў з ім на адным фронце. Ён меў рэдкі талент хлусіць і быў паталагічным фантазёрам.

У той вечар мы засталіся начаваць на хутары. Я пасябраваў з калматымі сабакамі пастухоў. Дзядуля з сябрамі выпілі вельмі шмат гарэлкі і цяпер крычалі, свісталі, спявалі песні і елі без перапынку. Галасы іх гучалі па ўсёй акрузе і адказвалі рэхам. Кожны жадаючы сказаць тост павінен быў ляпаць нажом па шклянцы. Пілі яны да паўночы, а ў мяне ўжо зліпаліся вочы. Я пайшоў у будан і лёг на тоўсты матрац з моцным авечым пахам. Заснуў я так хутка і моцна, як атрымоўваецца толькі ў дзяцінстве — без таблетак і ўколаў.

Раніцай, выйшаўшы з будана, я ўбачыў жудасную карціну, ад якой мне стала дрэнна. Пакуль я спаў, пастухі закалолі ўсіх старых аслоў і коней і цяпер кармілі сабак цэльнымі тушамі жывёл. Змучаны пахмеллем пастух моршчыўся ад млосці і цягнуў за сабой апошні сабачы сняданак — худую, брудную, высокую кабылу з куртатым хвастом і болькамі на спіне. Кабыла з цяжкасцю ішла на трох нагах, цягнучы пераламаную ніжэй калена чацвёртую. Сабакі радасна скакалі вакол кабылы і падбадзёрвалі адзін аднаго. Пастух адвёў кабылу даволі далёка ад буданоў і паваліў яе ніцма. Прачытаўшы кароткую малітву, ён рэзка шаснуў лязом нажа па горле жывёлы. Праз колькі хвілін сабакі ўжо разгрызлі няшчаснай кабыле пуза, дасталі адтуль цёплыя кішкі і глыталі шчодры сняданак. Некалькі варон чакалі зручнага выпадку перахапіць сёе-тое. Час ад часу сабакі ленавата брахалі на галодных варон і нават спрабавалі іх злавіць. Тады вароны спрытна ўзляталі і адразу ж апускаліся на старое месца.

Гэтая карціна моцна ўзрушыла мяне і траўміравала маю падлеткавую псіхіку. На той час я ўжо цікавіўся літаратурай, прагна чытаў казкі, легенды, дзіцячыя раманы, словам, усё, што траплялася пад руку. Раз на тыдзень я абавязкова хадзіў у дзіцячую бібліятэку па чарговае бярэмя кніг. З кожным разам, з кожным паходам у бібліятэку колькасць прачытаных мной кніг павя-

лічвалася, а ў жыцці маім, у маім атачэнні нічога абсалютна не мянялася. Усё заставалася на сваіх месцах. Я ўжо не мог атрымліваць задавальнення ад гульняў з маімі аднагодкамі, не праяўляў інтарэсу да былых захапленняў. Я перамяніўся. Літаратура заключыла мяне ў свае чароўныя абдымкі. Я закінуў урокі і цэлымі днямі чытаў кнігі, вандруючы на ветразях фантазіі на далёкія астравы, у мінулае, хваляваўся за любімых персанажаў, ненавідзеў адмоўных герояў. Усё гэта знаёма тым, хто рана пачаў чытаць. Літаратура навучыла мяне прасцей ставіцца да многіх рэчаў, я займеў уласны пункт гледжання. Пачуцці мае абвастраліся кожны дзень. Я аддаляўся ад пагодкаў. Дайшло да таго, што бацькі пачалі хвалявацца з-за маёй новай «жарсці» да кніг. Я чытаў, хаваючыся ад іх, як партызан. Рабіў выгляд, што сяджу над хатнім заданнем, а ў той час паміж старонкамі дапаможніка па геаграфіі быў схаваны дзіцячы раман, які клікаў мяне ў чароўны свет. Тады я яшчэ не мог сабе ўявіць, што словы, радкі, сказы, абзацы, надрукаваныя ў кнігах, могуць быць хлуслівымі. Друкаванае слова было для мяне вышэйшым аўтарытэтам.

Любыя адносіны базуюцца на сумяшчэнні супрацьлегласцей. Заўсёды нехта цалуе, нехта дазваляе цалаваць. Адзін кахае, другі дазваляе сябе кахаць. Паход на хутар прынёс яснасць у нашы з дзедам адносіны. Пасля хутара я пачаў пазбягаць яго, катэгарычна адмаўляўся хадзіць у яго ўлюбёныя месцы. Дзед таксама змяніўся — стаў больш зласлівым і пахмурным з хатнімі. Ён сварыўся, прыніжаў іх і біў, каго хацеў. Мучыць жонку і дзяцей, прыгражаючы ім, стала для яго жыццёвай неабходнасцю.

Усе гэта дрэнна ўплывала на мяне, падлетка, схільнага да меланхоліі. У юным узросце я пачаў ужо адчуваць цяжар на сэрцы. Прычынай таму была мая здольнасць прадчуваць. Магчыма, я шмат чаго не разумеў, але ўсё перажытае пакідала ў душы глыбокі след. Тады я не здатны быў разважаць па-філасофску, але балюча перажываў тое, што адбывалася вакол. Дзіцячыя забавы назаўсёды пакінулі мяне. Галава, шыя, паходка, голас, кожная частка цела і кожны рух дзеда выклікалі ў мяне моцнае раздражненне. Яго падарункі ўжо не цікавілі мяне. Ён працягваў траціць грошы не на сям'ю і спаць у штанах. Руку ён заўсёды трымаў у кішэні, баяўся, што хатнія скарыстаюцца яго п'яным станам і скрадуць грошы. Хаця ніхто і ніколі не рызыкнуў бы палезці да яго ў кішэню.

Мяне ванітавала ад звязкі ключоў, якая вісела ў яго на рамяні. Калі ён біў бабулю, гэтыя ключы звінелі, і ўсё ў ім: яго пастава, расшпілены каўнер кашулі, тое, як ён пачэсвае грудзі, заціскае па адной ноздры і смаркаецца — выглядала так абуральна і агідна, што я з задавальненнем перарэзаў бы яму горла тупым нажом.

Я не разумею, чаму дзед ператвараўся дома ў ката. Мо нечаканая смерць брата зрабіла яго такім падонкам? Мо ён марыў, што створаны для вялікіх адкрыццяў і здзяйсненняў? Мо яго душыў сялянскі быт? Мо ў больш спрыяльных умовах ён стаў бы вялікім авантурыстам? У мясцовасці, дзе ўсе ведаюць адзін аднаго, людзі, падобныя да майго дзеда, пазбаўляюцца магчымасці прадэманстраваць свой талент, раскрыць яго да канца. Мо нерэалізаваныя мары і зрабілі яго тыранам? З-за іх ён зрываўся на блізкіх? Я ніяк не магу гэта ўразумець, зусім ніяк. За адсутнасцю магчымасці абараніць бабулю я перастаў мець стасункі з дзедам, пазбягаў яго і не хадзіў да іх у госці.

Аднойчы дзед нечым атруціўся і захацеў мяне пабачыць. Я праігнараваў яго жаданне. Неўзабаве мне сказалі, што яму зусім дрэнна і ён зноў просіць, каб я прыйшоў. Я ўсё роўна не пайшоў. Потым мне сказалі, што дзед прамірае і жадае развітацца. Выявіўшы памежную жорсткасць і аслiную ўпартасць, я

не зайшоў апошні раз паглядзець на паміраючага старога. На трэці дзень яго не стала.

Калі мне гэта паведамілі, я глядзеў дома фільм «Робін Гуд». Я даглядзеў фільм да канца і не спяшаючыся выправіўся ў бабулін дом. Яго цела, пакладзенае пасярод пакоя, было накрыта белай прасцінай. Жанчыны, якія пачулі навіну, збегліся для выканання апошняга абавязку перад памерлым. Згодна з рытуалам, пры ўваходзе ў пакой спачатку трэба апрануць маску непаразумення, углядаючыся ў твары прысутных. Толькі потым можна кідацца на цела, рваць сабе валасы і драпаць твар. Назіраючы за імі, я намагаўся вылучыць тую, якая вырве сабе больш валасоў і пакіне больш драпін. Актыўней за ўсіх лямантавала сястра дзеда, якую ніяк не маглі заспакоіць. Яна драпала твар, здзіраючы з яго скуру, рвала валасы і некалькі разоў страчвала прытомнасць. Так я вызначыў, хто больш за ўсіх у гэтым жыцці любіў дзеда. У старажытнасці толькі ўдовы драпалі сабе твары як знак таго, што пасля мужа прыгажосць ім не патрэбна.

Так, дзеда на самай справе больш не было. Я адразу адчуў на душы цяжар ад свайго ўчынку, сведчання бязглуздай упартасці і празмернай жорсткасці. З першых хвілін я зразумеў, што гэты ўчынак яшчэ доўга будзе прыносіць мне невыносны боль. Тады я нема загаласіў. Галасілі таксама маці і цётка. Яны па традыцыі былі абавязаны плакаць, але іх сэрцы поўніла пачуццё бязмежнай радасці і спакою. Гэта была хітрая, падспудная радасць, якую трэба было хаваць і ад чужых, і ад сваіх. Гэта была радасць разам з сорамам, радасць, з-за якой трэба было чырванець. Бабуля таксама плакала. Як бы я ні прыглядаўся да яе, намагаючыся разгадаць, шчыра яна плача ці на публіку, — як след не разгадаў.

Цырымонія развітання прайшла на славу. Дзеда пахавалі побач з братам, потым была трапеза за спачын душы. Усе рытуалы выконваліся механічна, суха і дакладна. Пасля саракавін у хаце бабулі запанаваў спакой. Ні бабуля, ні цёткі ды дзядзькі, ні мама больш ніколі не ўзгадвалі дзеда. Ніхто пра яго нічога не распавядаў, не дзяліўся ўспамінамі. Як і належыць у такіх выпадках — ні дрэнна, ні добра. Што ж тычыцца мяне, то я працягваў жыць з асадкам у душы ад уласнай жорсткасці.

Дзіўна, але я дакладна бачу, магу сабе ўявіць усе твары з дзяцінства. Магу да дробязей па памяці апісаць выразы гэтых твараў. Толькі твар дзядулі кожны раз губляецца. Я памятаю яго рысы паасобку, але не магу сабраць іх разам, убачыць твар цалкам.

Варта зазначыць, што мая няздольнасць узнавіць дакладна яго твар не з'яўляецца нагодай лічыць, што ў мяне дрэнная памяць.

***З азербайджанскай. Пераклад Юліі АЛЕЙЧАНКІ.***

Лу АНДРЭАС-САЛАМЭ

# О ТАЯМНІЧАЕ ЖЫЦЦЁ!

## ДА СМУТКУ

Як нападзеш, ці можа хто ўцякаць,
Калі ты кідаеш свой погляд жорсткі?
Але ж я не хачу цябе ўнікаць —
Не веру, што ты нішчыш толькі!
Я ведаю — да ўсіх павінен ты зайсці,
Пазбегнуць гэтага ніхто не здатны,
І без цябе б лацвей было ў жыцці,
Ды ўсё ж таго, каб існаваць, ты варты!
Вядома, ты не прывід ночы, не —
Прыходзіш духу нагадаць пра сілу.
Ты — камандзір у вечнай той вайне,
Што значных найвялікшымі зрабіла.
Для шчасця і для радасці адно
Ты можаш даць — праўдзівую вялікасць.
Дазволь нам ваяваць плячо ў плячо,
Дазволь жыццё ды смерць на бой паклікаць!
Ты месца ў глыбіні душы займай,
Затым капай сярод жыццёвых нетраў,
Аб шчасці мроі ды падман трывай,
Вазьмі няўвартае дурных імпэтаў.
Перамагчы сябе ты не даваў,
Хоць чалавек удараў не лякаўся,
Хоць смерцю ён разбураны бываў —
Ты для вялікасці падмуркам стаўся.

## МАЛІТВА ДА ЖЫЦЦЯ

О таямнічае жыццё!
Люблю цябе, як любяць сябра.
І смех, і плач, як адкрыццё,
І весялосць, і гора — скарбы.

Люблю з усёй тваёй маркотай;
Заб’е мяне твая рука —
Цябе пакіну з неахвотай,
Нібы абдымкі сябрука.

Я моцна прыгарну цябе!
Хай разгарацца твае жарсці!
Яшчэ дазволь мне ў барацьбе
Зазнаць твае разгадкі шчасця.

Тысячагоддзі быць і думаць!
Мяне аберуч абдымі!
Няма мне долі акром суму?
Пакутамі запоўні дні!

## ТЫ АДЗІН[1]

Жыццё так можа захапляць хіба што,
Як авалодаў Ты адзін душой.
Як перад Богам, шчыра рукі склаўшы,
Я ўкленчыла перад Табой.

І ад Цябе ў душы такія раны,
Якія застануцца назаўжды,
У час, што забыццём даўно забраны,
Мне стаўся Богам толькі Ты.

За ўсё, што даў, выказваю падзяку!
Ці ж можа лепшае ў жыцці з’яўляцца?
Ты Мне адзін падараваў адзнаку:
Глядзець на Бога й адмаўляцца.

## АПОШНЯЯ ПРОСЬБА

Як лягу яскай я ў труну,
Прыціхлай назаўжды —
Хачу, каб валасы крануў
Рукой каханай Ты.

І перш чым перадаць зямлі,
Што мае быць зямлёй,
Дай вуснам, што кахаў калісь,
Ты пацалунак свой.

[1] Гэты ды наступны вершы прысвечаныя памяці Хэндрыка Гіё.

Ды цела не ў сваёй труне
Для выгляду ляжыць,
*Бо ўсё маё жыццё ў Табе!*
Заўжды Тваёй мне быць.

## САКАВІЦКАЕ ШЧАСЦЕ

Вісіць на голенькіх галінках
Апошні, хлюпкі й мяккі, снег.
Я ўвечар пачынаю бег
Па цёмных казачных сцяжынках.

Нясецца з лесу шчабятанне
Сінічкі звонкай аднае,
Як заклік, вестка аб вясне,
Нібы прыроды прывітанне.

Нібы пасланне шле прырода —
Забыцца на мароз і снег,
Каб бачыць у чароўным сне
Вясну яшчэ да надыходу.

Ці здарыцца ў мяне спатканне
З тым сакавіцкім шчасцем зноў,
Каб між маўклівых вечароў
Паслухаць зноў вясны гуканне?

***Пераклад з нямецкай***
***Андрэя КАСЦЮКЕВІЧА.***

Яўген ГАРАДНІЦКІ

# КАЛЕКТЫЎНА-ФАЛЬКЛОРНАЕ І ІНДЫВІДУАЛЬНА-АЎТАРСКАЕ МАСТАЦКАЕ ВЫРАЖЭННЕ: ГІСТОРЫЯ ЎЗАЕМАДЗЕЯННЯ

Праблема аўтара, як і многія іншыя важнейшыя аспекты літаратурнай творчасці, можа разглядацца ў двух планах — *сінхронным* і *дыяхронным*. Найбольш прадуктыўным з'яўляецца, вядома, спалучэнне абодвух гэтых планаў, улічванне пры звароце да дадзенай праблематыкі як сучаснага стану тэарэтычных распрацовак праблемы аўтара, так і гістарычных змен у разуменні месца і значэння аўтара і аўтарскага пачатку ў функцыянаванні літаратуры як сацыяльнага інстытута і эстэтычнага феномена.

На працягу тысячагадовай гісторыі развіцця сусветнай літаратуры праблема аўтара ўспрымалася і трактавалася па-рознаму. Своеасаблівай, кардынальным чынам адрознай ад сучаснай, была яго роля ў сярэднявечнай літаратуры, у якой вялікае значэнне мелі пэўныя літаратурныя каноны і стэрэатыпы, а жанравае мысленне з'яўлялася вызначальным. У літаратуры часоў Кіеўскай Русі, у старабеларускай літаратуры ранняга перыяду панаваў так званы *літаратурны этыкет*, якім прадвызначаліся як характар уяўленняў чалавека пра свет, так і спосабы яго слоўнага апісання.

Дзмітрый Ліхачоў даў вычарпальную характарыстыку старажытнарускаму літаратурнаму этыкету, які, на яго думку, складаецца «1) з уяўленняў пра тое, як павінен быў ажыццяўляцца той або іншы ход падзей; 2) з уяўленняў пра тое, як павінна была паводзіць сябе дзеючая асоба адпаведна свайму становішчу; 3) з уяўленняў пра тое, якімі словамі павінен апісваць пісьменнік ажыццяўляемае». Вучоны прыходзіў да вываду: «Перад намі, такім чынам, этыкет светаўладкавання, этыкет паводзін і этыкет слоўны» [1, с. 108].

Сярэднявечны кніжнік быў, такім чынам, строга абмежаваны і ў прадмеце апісання, і ў спосабах яго выражэння. Тым самым абмяжоўвалася, звужалася сфера дзейнасці кніжніка як аўтара, творцы.

Аўтарства ў сярэднявеччы наогул разумелася своеасабліва. Перайманне іншых аўтараў не лічылася заганай, хутчэй наадварот, яно сведчыла пра начытанасць, адукаванасць таго, хто займаўся запазычваннем. Многія творы старажытнай літаратуры ананімныя, і такое становішча, як нам думаецца, абумоўлена не толькі аддаленасцю ў часе той гістарычнай эпохі, але і свядомым зніжэннем ролі аўтара. Перапісваючы той або іншы пісьмовы помнік, кніжнік мог уносіць пэўныя карэктывы. Да сваёй справы ён адносіўся ў нейкім сэнсе як да творчага працэсу, імкнучыся аздобіць, у пэўнай ступені «палепшыць» твор.

Такое крэатыўнае стаўленне старажытнага кніжніка выдатна паказана ў славутым «Перапісчыку» (1912) М. Багдановіча, у якім дасканала перададзена атмасфера духоўнай прыўзнятасці натхнёнай працы («прыгожага труда», як піша Багдановіч) кніжніка над старонкамі рукапісу, якія аздабляюцца ім з бязмежнай любасцю і шчыраваннем, з эстэтычнай асалодай. Эстэтычны аспект акцэнтуецца паэтам праз дэталёвае выпісванне навакольнага асяроддзя, суаднясенне замкнёнай прасторы пакоя, у якім працуе перапісчык (хутчэй за ўсё гэта манастырская келля) з той вольнай прыроднай стыхіяй, якая разгортваецца ва ўсім сваім шматфарбным буянні за «вузенькім акном». У творы адчуваецца гарманічнае суладдзе

творчага акту, якім апанаваны, паглынуты без астатку перапісчык, з красой свету, якая нібы «перацякае» ў твор, надаючы яму яшчэ ў большай ступені сакральнае значэнне. Тое, чым займаецца старажытны кніжнік, схіліўшыся над старонкамі манускрыпта, «пакрашаючы» іх плёнам сваёй фантазіі («галоўкамі звяроў // і птах нявіданых»), суадносіцца па эстэтычных якасцях з прыродным з'явамі, з усёй быццёвай сферай.

У сярэднявечнай літаратуры назіраецца і такая цікавая з'ява, як прыпісванне аўтарства некаторых твораў, пераважна прапаведніцка-павучальнай, красамоўнай літаратуры, пэўным аўтарытэтам у гэтай галіне. Гэта значыць, што ў дадзеным выпадку мела месца свядомае адмаўленне ад аўтарства таго, каму гэты твор на самай справе належыць, на карысць больш вядомага кніжніка. Тым самым таксама нівеліравалася значэнне аўтарскай прыналежнасці твора, толькі ў такім выпадку адбываўся як бы адваротны працэс — кніжнік не прысвойваў сабе чужы твор, а, наадварот, шчодра дзяліўся аўтарствам з іншым.

Сярэднявечны кніжнік (ці гэта летапісец, ці перапісчык) лічыў сябе паўнапраўным удзельнікам творчага працэсу, быў, па сутнасці, надзелены аўтарскім самаўсведамленнем. Такое ўласцівае яму спецыфічнае разуменне аўтарства было блізкім у чымсьці да фальклорнага. Для фальклорнай творчасці, як вядома, не характэрна аўтарызацыя тэкстаў, якія бытуюць да свайго магчымага запісу ў выглядзе артэфактаў у вуснай форме. Фальклор, як самы старажытны від слоўнага мастацтва, ведаў толькі калектыўнага творцу. У сферу фальклорнай творчасці ў часы яе найбольш актыўнага развіцця былі ўцягнуты самыя шырокія слаі насельніцтва, асабліва тыя, што не валодалі пісьмовай культурай. Праўда, уяўленні пра фальклорнага калектыўнага творцу як пра нейкую аднародную і невыразную масу, па меркаванні сучасных даследчыкаў, далёкія ад сапраўднасці. Мабыць, на ўсім працягу развіцця фальклору з агульнага фальклоратворнага асяроддзя вылучаліся ўсё ж такі найбольш актыўныя творчыя адзінкі. Якія былі ў большай ступені за астатніх набліжаныя да «эпіцэнтра» фарміравання жанравых і сюжэтных структур.

Неаспрэчным з'яўляецца той факт, што працэсы стварэння і ўзнаўлення фальклорнага твора адбываюцца ўсё ж у межах індывідуальнай свядомасці, карэлюючыся, вядома, пэўным чынам з калектыўнай мастацкай свядомасцю. У фальклорнай творчасці, калі разглядаць яе як мастацкі працэс, можна ўмоўна вылучыць якраз два асноўныя моманты, адзін з якіх звязаны са стварэннем і станаўленнем фальклорнага твора, другі — з яго функцыянаваннем. Спецыфіка фальклору, яго важнейшае адрозненне ад літаратурнай творчасці ў тым, што гэтыя два працэсы вельмі цесна паяднаны між сабой, успрымаюцца часцей за ўсё як адзіны працэс. Гэта абумоўлена тым, што практычна немагчыма размежаваць у суб'екце фальклорнай творчасці ствральніка і рэцыпіента.

Абедзве гэтыя функцыі аб'ядноўваюцца ў крэатыўнае адзінства ўвядзеннем яшчэ адной, дадатковай функцыі — *узнаўляльніка / рэпрадуцэнта*. Гэтая функцыя ў фальклоры, па сутнасці, галоўная, паколькі адпавядае асноўнаму прызначэнню суб'екта фальклорнага працэсу, якое заключаецца ва ўзнаўленні твора і адначасовым прыўнясенні ў яго пэўных крэатыўных момантаў. Узнаўленне фальклорнага твора, якое немагчыма атаясаміць з простым капіраваннем, набывае ў працэсе развіцця фальклору першаступеннае значэнне, таму што ўяўляе сабой у пэўным сэнсе творчы акт. Выканаўца адначасова і творца, адзін са шматлікіх своеасаблівых суаўтараў, які пры чарговым узнаўленні твора ўносіць хоць бы мінімальныя змены, удакладненні, варыяцыі ў развіццё асноўнай тэмы, раскрыццё сюжэтнай дынамікі.

Фальклорная спецыфіка ў тым, што любы твор, які не фіксуецца ў пісьмовай форме, праламляецца праз памяць суб'екта і тым самым паўстае не ў сваёй вычарпальнай паўнаце, а як своеасаблівая мадэль-інварыянт. Таму працэс узнаўлення фальклорнага твора, г. зн. яго актуалізацыі, уключэння ў парадыгму сацыякультурных адносін, па сутнасці, раўназначны яго стварэнню паводле пэўнага ўзору. Некаторае збліжэнне ў дадзеным выпадку дапушчальна з сітуацыяй, характэрнай

для літаратурнай творчасці. Пісьменнік таксама не стварае кожны раз свой твор нанова — ад самых пачаткаў, як быццам да яго не існавала наогул ніякага ўяўлення пра тое, што такое літаратура, што такое літаратурны твор. У яго свядомасці (а ў пэўнай ступені — на падсвядомым узроўні) існуе ўяўленне пра ***тып*** твора (жанр), у адпаведнасці з якім ён арганізуе свае творчыя інтэнцыі і будуе стратэгію стварэння твора мастацтва ў яго канкрэтызаваным выглядзе. Жанравае мысленне мела ў сярэднявечнай літаратуры дамінуючае значэнне, ім вызначаліся характар літаратурнага працэсу, стылёвыя асаблівасці.

Трактоўкай феномена жанру як галоўнага фактару станаўлення твораў слоўнага мастацтва фальклор і літаратура якраз найбольш блізкія паміж сабой. Асабліва гэта датычыцца ранняй пары развіцця калектыўнай мастацкай свядомасці, калі жанр сапраўды дыктаваў сваю волю, прадвызначаў асноўныя напрамкі развіцця мастацтва слова. Жанр валадарыў за кошт прымяншэння і ў пэўным сэнсе падаўлення аўтарскага пачатку, свабоды аўтарскага крэатыўнага волевыяўлення.

Фальклор і літаратура — віды творчай дзейнасці, якія ў значнай ступені адрозніваюцца сваімі падыходамі да ўвасаблення рэчаіснасці, спосабамі і прыёмамі ідэйна-мастацкага выражэння. Гэта, несумненна, два асобныя віды слоўнага мастацтва, сутнасная размежаванасць якіх праходзіць па лініі супрацьпастаўлення вуснага і пісьмовага функцыянавання твораў, калектыўнай і індывідуальнай творчасці, генералізацыі традыцый і, з другога боку, настроенасці на наватарскія пошукі, творчы эксперымент у галіне мастацкай формы.

Пры тым што літаратура і фальклор аперыруюць, па сутнасці, аднымі і тымі ж паняццямі (такімі, як *твор, герой, сюжэт, кампазіцыя* і г. д.), цалкам відавочна, што агульнасць гэта толькі частковая. Кардынальнае адрозненне ў метадах мастацкага асваення рэчаіснасці, спосабах і прыёмах мастацкага выражэння, выяўленні творчага патэнцыялу індывідуума. Менавіта катэгорыя аўтарства выступае як адна з самых паказальных пры вызначэнні спецыфікі кожнай з гэтых галін творчай дзейнасці.

На беларускую літаратуру Новага часу фальклор аказаў надзвычай істотны ўплыў. Фальклорныя традыцыі з'яўляліся важным фактарам фарміравання нацыянальнай літаратуры ў XIX — на пачатку XX ст., у час, калі складвалася новая канцэпцыя развіцця слоўнага мастацтва, асноўнай рысай якой была далучанасць да вытокаў народнай мастацкай самасвядомасці. Аднак гэта не азначае, што літаратура Новага часу генетычна звязана з фальклорам, або нават, як сцвярджалі некаторыя даследчыкі, узнікала непасрэдна з фальклору. Так, напрыклад, І. Чыгрын у сваёй манаграфіі «Станаўленне беларускай прозы і фальклор» (1971) сцвярджаў наступнае: «Беларуская літаратура наогул **вырасла** з народнай творчасці» [2, с. 66; выдзелена мной. — *Я. Г.*]. Невыпадковасць выкарыстання аўтарам менавіта такога выразу пацвярджаецца яго паўторам пры разглядзе творчасці Якуба Коласа, калі канстатуецца, што «і Я. Колас як пісьменнік **вырастаў** з вуснай народнай творчасці» [2, с. 74; выдзелена мной. — *Я. Г.*].

Які ж сэнс укладваўся даследчыкам у дадзенае паняцце, што мелася на ўвазе пад гэтым словам «вырастанне»? Вырастаць які-небудзь арганізм (а літаратура ў дадзеным выпадку разглядаецца І. Чыгрынам, несумненна, як арганічная з'ява) здольны на адпаведнай генетычнай аснове, з таго, што закладзена на генетычным узроўні ў мадэлі яго развіцця. Рост у такім фізіялагічным разуменні з'яўляецца не чым іншым, як рэалізацыяй закладзенай раней праграмы, пэўнага коду. Аднак, зыходзячы з далейшых разваг І. Чыгрына, можна зрабіць вывад, што яго выказванне аб «вырастанні» літаратуры або творчасці асобнага пісьменніка з фальклору варта разглядаць не ў прамым сэнсе, а як своеасаблівую метафару. Паколькі даследчык тут жа, як бы супярэчачы свайму папярэдняму сцвярджэнню, заяўляе, што «стыль коласаўскай прозы адначасова складваўся на аснове творчага выкарыстання мастацкага вопыту нацыянальнага фальклору і лепшых дасягненняў сусветнай літаратуры крытычнага рэалізму — фактараў аднолькава значных і

абавязковых» [2, с. 74—75]. Такое пашырэнне колькасці фактараў, якія ўздзейнічаюць на фарміраванне індывідуальнай мастацкай сістэмы, у значнай ступені ўдакладняе пазіцыю даследчыка.

Існуе істотная розніца паміж канстатацыяй таго, што «літаратура вырастала з фальклору», і ўказаннем на некалькі фактараў уплыву на літаратурны працэс. Уплывае на светапогляд, стыль, паэтыку літаратуры, безумоўна, значна большая колькасць фактараў, чым названыя два. Сярод іх і заканамернасці развіцця самой літаратуры і, вядома, яе ўзаемадзеянне з рэчаіснасцю, сацыяльным быццём, успрыманне прыроднага асяроддзя і г. д.

Паміж беларускай літаратурай, якая паступова фарміравалася ў не надта спрыяльных умовах XIX стагоддзя і затым спазнала рэзкі якасны ўздым на пачатку стагоддзя XX, і літаратурай папярэдніх гістарычных эпох, літаратурай сярэднявечча, існуе, як вядома, пэўны часавы бар’ер, перапад. Мы паспрабуем менавіта такімі словамі абазначыць пэўны збой у ланцугу паступовага, эвалюцыйнага развіцця айчыннай літаратуры. Дзеля таго, каб пазбегнуць карыстання паняццем «разрыў», якое ў дадзеным выпадку часцей за ўсё фігуруе. Паколькі паняцці «разрыў», «перапынак у развіцці», як нам уяўляецца, не зусім адпавядаюць сапраўднасці. Па-першае, як паказалі працы гісторыкаў літаратуры, і ў першую чаргу А. Мальдзіса, XVIII стагоддзе на самай справе аказалася не такім ужо і «пустым», бясплённым у творчых адносінах. Нацыянальная літаратура і ў гэты «прамежкавы», пераломны час усё-такі не спыняла свайго развіцця. Ствараліся і ў гэты час асобныя творы, хоць і не ў такой вялікай колькасці, як у папярэднія і наступныя эпохі.

Неабходна ўлічваць таксама і тое, што існаванне літаратуры заключаецца не толькі ў наяўнасці твораў. Творы мусяць нейкім чынам сябе «праявіць», яны не могуць знаходзіцца ў стане самаізаляванасці, адасобленасці ад мастацкай свядомасці эпохі як своеасаблівага калектыўнага органа эстэтычнага ўспрымання. Літаратурны твор, які ў сваім фізічным выглядзе паўстае як пэўны артэфакт, сваё сапраўднае існаванне (у разгорнутасці ў ***мастацкі свет***) атрымоўвае толькі тады, калі ён рэалізуецца ў чыёйсьці свядомасці — спачатку аўтара, а затым чытача. З індывідуальных успрыманняў утвараецца сфера калектыўнага ўспрымання эстэтычных аб’ектаў.

Намаганнямі калектыўнай мастацкай свядомасці, такім чынам, падтрымліваецца існаванне не толькі фальклорных, але і літаратурных твораў. І ў гэтым істотнае падабенства працэсаў, якія забяспечваюць функцыянаванне гэтых мастацкіх, у многім іншым непадобных, сістэм — літаратурнай і фальклорнай творчасці. Пры бліжэйшым разглядзе можна, безумоўна, выявіць значную колькасць разыходжанняў і ў тым, як дзейнічаюць на практыцы механізмы калектыўнага ўспрымання адносна фальклорных і літаратурных твораў. Калектыўная мастацкая свядомасць у яе скіраванасці да фальклорнай і літаратурнай сфер пэўным чынам дыферэнцыравана, яна ў гэтых адносінах не ўяўляе сабой чагосьці маналітнага. Гэта абумоўлена перш за ўсё тым, што носьбіты фальклорнай і літаратурнай свядомасці ўяўляюць сабой сацыяльныя слаі, якія толькі часткова накладваюцца адзін на адзін.

У час актыўнага функцыянавання і развіцця фальклору гэта размежаванасць была яшчэ больш прыкметнай, паколькі тады выразна акрэсліваўся падзел на адукаваныя, далучаныя да пісьмовай культуры групы насельніцтва і носьбітаў фальклорнай свядомасці, якія ў масе сваёй не судакраналіся з набыткамі кніжнай культуры, затое актыўна выяўлялі свае эстэтычныя здольнасці ў крэатыўнай сферы фальклорнай творчасці.

І ўсё ж варта падкрэсліць, што абсалютнай адасобленасці паміж носьбітамі фальклорнай і літаратурнай свядомасці ў сапраўднасці быць не магло. Адна з прычын ужо названая. Гэта агульнасць прыроды эстэтычнага ўспрымання чалавека. Апрача таго, у рэальным жыцці назіралася частковае сумяшчэнне дзвюх вышэй адзначаных груп. З фальклорнага асяроддзя вылучаліся асобныя прадстаўнікі, якія імкнуліся да асваення кніжнай культуры. З другога боку, сярод адукаванай

часткі насельніцтва, носьбітаў самаўсведамлення пашыраліся фальклорныя творы ў іх спецыфічнай мадыфікаванасці — пісьмовай форме.

З таго часу, як пачалася практыка запісу фальклорных твораў, з узнікненнем фалькларыстыкі становяцца больш інтэнсіўнымі стасункі паміж фальклорам і літаратурай, вуснай і пісьмовай формамі культуры. Беларускі фальклор пачаў актыўна запісвацца з XIX ст. Прасочваецца, як нам уяўляецца, несумненная сувязь паміж даволі імклівым развіццём у гэты час беларускай фалькларыстыкі, актыўнай збіральніцкай дзейнасцю фалькларыстаў і станаўленнем новай беларускай літаратуры. Уплыў фальклору на беларускую літаратуру даследаваны наогул падрабязна і грунтоўна. Аднак некалькі ў баку засталася пры гэтым якраз праблема суаднесенасці ў часе гэтых дзвюх важнейшых праяў культурнага жыцця XIX ст. Гэта асаблівасць гістарычнай эпохі патрабуе спецыяльнага вывучэння, паколькі ёю шмат у чым вызначаецца характар творчага працэсу ў беларускай культуры навога часу ў перыяд фарміравання яе светапоглядных і эстэтычных асноў.

У гэтым стагоддзі дыстанцыя паміж прафесійным і народным мастацтвам была самай мінімальнай, магчыма, за ўвесь час іх сумеснага развіцця. Літаратура, безумоўна, не «вырастала» з фальклору. Але яна адчувала на сабе яго велізраны ўплыў, для яе стваральнікаў атмасфера фальклорнага, народна-паэтычнага светаадчування была не чужой, а блізкай і зразумелай. Выхадцы з таго ж самага сацыяльнага асяроддзя, якое з’яўлялася спараджальнікам фальклорнай творчасці, пачынальнікі новай беларускай літаратуры выкарыстоўвалі ў сваіх творах фальклорныя тэмы, вобразы, матывы, тропіку і прыёмы. Аднак пры гэтым, што важна, яны, несумненна, вылучалі сябе як творцаў з агульнай масы. Для іх фальклор у многім быў ужо спецыфічным ***матэрыялам***, які падлягаў далейшай творчай апрацоўцы. Фальклор для яго літаратурных інтэрпрэтатараў быў у той жа час і своеасаблівай ***мовай***, на якой можна было найбольш лёгка паразумецца з чытачом, звыклым да традыцыйных форм бытавання вуснага слова.

Адрасавацца да шырокай дэмакратычнай аўдыторыі не толькі на *мове* ў прамым сэнсе гэтага слова, г. зн. на той «тутэйшай», «простай» мове, на якой гэты чытач размаўляў штодзённа на побытавым узроўні, але і на *мове мастацтва,* зразумелай яму — менавіта такой задачай кіраваліся літаратары, якія рабілі першыя крокі на ніве нацыянальнага пісьменства ў XIX — пачатку XX ст. Таму тыя іх творы, якія ўяўляюць сабой, па сутнасці, фальклорныя стылізацыі, ёсць падстава разглядаць як выяўленне пэўнага ***коду***, мэта якога заключаецца ў тым, каб абазначыць перш за ўсё намеры аўтара дзеля ўзаемаразумення карыстацца адной мовай мастацтва са сваім адрасатам. На карысць такой версіі сведчыць тое, што праз зусім невялікі адрэзак часу або і ўвогуле адначасова са з’яўленнем твораў падобнага тыпу ў пісьменнікаў узнікалі творы іншага кшталту, у якіх сувязь з фальклорнай традыцыяй была даволі аддаленай або не адчувалася наогул.

Зацікаўленасць прадстаўнікоў маладой беларускай літаратуры фальклорам можа тлумачыцца, вядома, не толькі аўтарскімі стратэгіямі пошуку «мовы», адпаведнай інтэлектуальнаму і эстэтычнаму ўзроўню рэцыпіентаў. Зварот да фальклорнай паэтыкі быў, несумненна, абумоўлены не ў апошнюю чаргу тымі высокімі эстэтычнымі якасцямі, якімі характарызуецца народнае мастацтва. Аўтары-прафесіяналы (калі гэта азначэнне можна дастасаваць да пісьменнікаў XIX — пачатку XX ст.) усведамлялі прыналежнасць фальклору да сапраўднага мастацтва, высока цанілі яго велізарны духоўны і эстэтычны патэнцыял. Блізкая сувязь літаратуры з фальклорам тлумачылася тым, што яе прадстаўнікі бачылі ў гэтым не толькі шлях да эстэтычнага паразумення са сваім адрасатам, але і шлях да вытокаў мастацкай свядомасці ўвогуле, да першаасноў народнага светабачання і светаадчування.

Своеасаблівасць дачыненняў літаратуры і фальклору ў XIX — пачатку XX ст. у тым, што яны былі двухбаковымі, узаемнымі. Гэта быў шлях у абодва канцы. Літаратура ў імкненні спасцігнуць і адэкватна выразіць актуаліі сучаснасці ішла

ўглыб вякоў, звярталася да народнага духоўнага і мастацкага вопыту, выкарыстоўвала ў сваёй мастацкай сістэме архетыпы і канцэпты старажытнага светапогляду, адметныя рысы нацыянальнага менталітэту. У той жа час назіралася пэўнае набліжэнне носьбітаў традыцыйнай фальклорнай свядомасці да кніжнай культуры. Гэта адбывалася разам з пашырэннем адукацыі сярод народных мас, з распаўсюджаннем асветы хоць бы пакуль што пачатковага ўзроўню.

У асяроддзі, якое складала аснову ўзнікнення і распаўсюджання фальклорных твораў, вылучаліся асобы з большым запасам кніжных ведаў, у большай ступені схільныя да засваення пісьмовай культуры. Менавіта на іх былі арыентаваны ў першую чаргу адаптаваныя формы літаратурнай творчасці, у якіх улічваўся адпаведны ўзровень успрымання. З гэтых шэрагаў цягам часу пачала фарміравацца асобная крэатыўная група — творцаў так званага *інсітнага мастацтва*. У перакладзе на звычайную мову сам тэрмін азначае паўпрафесійны, прамежкавы стан мастацтва. У гэтым паняцці няма нічога зняважлівага ў адносінах да падобнай разнавіднасці мастацкай дзейнасці і яе прадстаўнікоў. Увядзенне ў шырокі ўжытак падобнага тэрміна лацінскага паходжання якраз надае дадзенай з'яве больш рэспектабельны статус.

Інсітнасць стала абазначэннем асобнай сферы творчай дзейнасці, якая характарызуецца стылёвай адметнасцю, выяўленнем своеасаблівага светаадчування. Часта пры абазначэнні дадзенага напрамку, асабліва ў адносінах да выяўленчага мастацтва, выкарыстоўваецца і такое паняцце, як *наіўнае мастацтва*. Тым самым вылучаецца характэрная прыкмета стылю, які выяўляе асаблівы стан творцы, яго індывідуальнае светаадчуванне праз мастацкія формы абагульненага характару. У інсітным, наіўным, стылі праяўляюцца асаблівасці паэтыкі народнага мастацтва — схематызм вобразаў, замкнёнасць мастацкай прасторы, рознамаштабнасць кампазіцыйнай пабудовы і г. д. Адметнасцю выражанага ў іх светаадчування і паэтыкі інсітныя творы прыцягваюць увагу прафесійных мастакоў. Прыёмы калажу і мантажу, якія паспяхова выкарыстоўваюцца ў сучасным мастацтве, несумненна, генетычна звязаны з тэхнікай інсітнага пісьма.

Інсітнае мастацтва робіць крок ад народнай калектыўнай творчасці да індывідуальнага мастацкага самавыражэння, выяўлення асабовасці ў спецыфічных формах традыцыйнай паэтыкі. Гэта своеасаблівы прарыў калектыўнай мастацкай свядомасці ў іншую сферу, туды, дзе вызначальнай становіцца творчая індывідуальнасць.

Такі напрамак руху — ад калектыўнага да індывідуальнага, ад народнага да асабовага — дыктаваўся самім часам, быў абумоўлены ўнутранымі працэсамі ў сферы народнага мастацтва. У. Калеснік, прысвяціўшы раздзел сваёй кнігі «Тварэнне легенды» (1987) казачніку Рэдкаму, звярнуў асаблівую ўвагу на праблему крышталізацыі творчай індывідуальнасці ў глыбінях фальклорнай свядомасці. Аналізуючы здзейсненае самабытным народным мастаком слова, даследчык прыходзіць да высновы, што яно сваімі мастацкімі прыкметамі ў значнай ступені вылучаецца з ананімна-калектыўнай агульнасці. У. Калеснік называе Рэдкага «непісьменным пісьменнікам», падкрэсліваючы тым самым яго асаблівы мастакоўскі статус. Пра адметнасць ягонага становішча, якое ён займае паміж прафесійнай і народнай сферамі творчасці, гаворыць ужо сама наяўнасць найменавання аўтара і ягоны характар. Рэдкі — гэта мянушка, па якой захавалася памяць у народзе пра яго. У. Калеснік якраз і звязвае семантыку гэтага наймення з тым, што ён запомніўся людзям сваёй незвычайнасцю, тым, што такія мастакі былі рэдкасцю, кантрасна вылучаліся на агульным фоне.

Народны творца такім чынам атрымоўваў найменне, персанальную пазнаку, вылучаючыся з безыменнага асяроддзя. Гэта не было яшчэ поўным і дакладным найменаваннем — фіксацыяй аўтарскай прыналежнасці — па канкрэтным прозвішчы. Пакуль што з'явілася толькі характарыстычная мянушка, паводле якой таленавіты казачнік вылучаўся сярод іншых народных апавядальнікаў.

Такі спосаб найменавання — паказальны, паколькі ён адпавядае таму прамежкаваму становішчу, якое займаў гэты мастацкі самародак, знаходзячыся паміж фальклорнай стыхіяй і кніжнай культурай. Такую мянушку можна разглядаць як своеасаблівы адпаведнік распаўсюджанай, асабліва ў перыяд актыўнага станаўлення новай беларускай літаратуры, традыцыі карыстання псеўданімамі. Многія пісьменнікі пачатковай пары, у тым ліку і класікі бралі сабе пэўнае літаратурнае імя. Гэта невыпадкова. Такім чынам, на думку У. Калесніка, літаратары, на якіх ускладаўся вялікі груз адказнасці як пачынальнікаў новага перыяду ў развіцці нацыянальнай культуры, імкнуліся псіхалагічна адаптавацца да новых умоў, у нейкім сэнсе падзяляючы гэту адказнасць з калектыўным творцам — народам.

У сувязі з гэтым У. Калеснік заўважае: «У свядомасці пачынальнікаў новай беларускай літаратуры пэўны час пераважала імкненне схавацца ў гушчу народа, растварыцца ў масе, яны і назвы кніжкам сваім давалі надасабовыя: «Дудка беларуская», «Смык беларускі», «Скрыпка беларуская», «Вязанка», а літаратурныя імёны падбіралі таксама ў стылі абшчыннай безыменнасці: Мацей Бурачок, Сымон Рэўка з-пад Барысава, Гаўрыла з Полацка, Янка Лучына, Цётка» [3, с. 200].

Назва, як вядома, мае надзвычай вялікае значэнне пры вызначэнні тэматычнай і змястоўнай накіраванасці твора, аўтарскіх інтэнцый. Напісанае без назвы — даволі рэдкая з’ява ў прозе, у адрозненне ад лірыкі, дзе верш называецца часта па першым радку. Безназоўнасць лірычных твораў з’ява спецыфічная, ёю выражаецца не безасабовасць, а якраз наадварот, такая ступень канцэнтрацыі індывідуальнага, уласцівага суб’екту творчасці, яго ўнутранаму душэўнаму стану, якая прыводзіць да фактычнай тоеснасці аўтарскай пазіцыі і светаадчування героя.

Істотнае адрозненне паміж мянушкай народнага казачніка, які рабіў першыя крокі ад фальклорнай творчасці ў бок літаратуры, і псеўданімамі пачынальнікаў новай літаратуры — у спосабе найменавання. У першым выпадку мянушка дадзена ***іншымі***. Яна замацавалася ў калектыўнай народнай памяці, перадаючыся ад пакалення да пакалення. Гэта значыць, што яе пачаткова вуснае, зафіксаванае толькі пазней функцыянаванне адпавядала спосабу функцыянавання фальклорных твораў. У выпадку з літаратарамі сітуацыя супрацьлеглая. Гэта *свабодны выбар* самім пісьменнікам літаратурнага імя. З аднаго боку — характарыстыка іншымі, рэцыпіентамі. З другога — аўтар самастойна бярэ імя, у якім пэўным чынам кадзіраваліся яго мастацкія інтэнцыі, праграма будучай творчасці. Такім чынам, розніца палягае не толькі ў суб’ектным або аб’ектным характары найменавання, але і ў тым, як выяўляецца перспектыва мастацкага развіцця. Мянушкай Рэдкі аб’ектыўна характарызуецца ўжо зробленае казачнікам, ажыццёўленае ім у практыцы творчай дзейнасці, кантакту са слухачамі. Яна ўзнікла *post factum*, як рэакцыя рэцыпіентаў. У выпадку з выбарам аўтарам псеўданіма выяўляецца скіраванасць у будучыню, праектуюцца аўтарскія творчыя інтэнцыі. Псеўданім звычайна выбіраецца на пачатку творчай дзейнасці і як бы «прымерваецца» да таго іміджу, якому імкнецца адпавядаць аўтар. У пэўным сэнсе выбар псеўданіма — гэта і выбар самога творчага шляху. Тут на першае месца выступаюць свядомыя аўтарскія ўстаноўкі, яго творчыя інтэнцыі.

Пры праектаванні стратэгій свайго творчага развіцця, выбары напрамку руху пачынальнікі новай беларускай літаратуры арыентаваліся якраз на народныя эстэтычныя вартасці і ўяўленні, маніфестуючы тым самым духоўную еднасць з народным лёсам, ладам жыцця. Такая арыентаванасць пацвярджаецца якраз характарам псеўданімаў.

Сведчаннем спалучанасці мастацкай праграмы аўтараў XIX — пачатку XX ст. з народнымі эстэтычнымі ідэаламі і светаадчуваннем з’яўляецца і такое азначэнне, як ***песняры***. Гэта не факт саманазову, а такая характарыстыка з боку соцыуму, як і ў выпадку з казачнікам Рэдкім. У. Калеснік прыводзіць сведчанне сучасніка Багушэвіча Н. Роўбы аб размежаванні ў дачыненні да гэтага аўтара такіх паняццяў, як *паэт* і *пясняр*. Гэтыя паняцці не проста супастаўляюцца, але нават і проціпастаўляюцца. Пясняр — выражэнне родавага, маючага адносіны

да калектыўнага мастацкага самаўсведамлення. Багушэвіч, а затым у XX стагоддзі Купала і Колас, атрымаўшы такія ганаровыя азначэнні-характарыстыкі, якія сведчылі пра іх глыбінную сувязь з народным быццём, з вытокамі народнай культуры, логікай усяго свайго мастацкага развіцця, выяўлялі ўнутраную палемічнасць у адносінах да дадзенага канцэпту. Паколькі іх творчасць, уздымаючыся да класічных вышынь, не магла змясціцца ў межах гэтага, па сутнасці, цалкам абумоўленага фальклорнай традыцыяй азначэння. Пішучы пра пачынальнікаў, У. Калеснік заўважае: «Аднак не змаглі б яны, каб і хацелі, застацца песнярамі ды гутарнікамі. Лёс узносіў іх. Народны лёс, нацыянальны» [3, с. 200]. Даследчык падкрэслівае, што рух да прафесіяналізацыі, авалоданне спосабамі мастацкага асваення рэчаіснасці, уласцівымі прафесійнай літаратуры, быў абумоўлены вялікімі задачамі грамадскага значэння, якія ў тую гістарычную эпоху выступалі на першы план. Літаратура выконвала надзвычай адказную місію, з'яўляючыся важнейшым асяродкам фарміравання нацыянальнай самасвядомасці.

## Спіс літаратуры

1. Лихачев, Д. С. Поэтика древнерусской литературы. 2-е изд. / Д. С. Лихачев. — Л. : Наука, 1971.

2. Чыгрын, І. П. Станаўленне беларускай прозы і фальклор: Дакастрычніцкі перыяд / І. П. Чыгрын. — Мінск: Вышэйшая школа, 1971.

3. Калеснік, Уладзімір. Тварэнне легенды: Літаратурныя партрэты і нарысы / Уладзімір Калеснік. — Мінск: Маст. літ., 1987.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 6 чэрвеня 2016 года.

## Рэзюмэ

**Яўген ГАРАДНІЦКІ**

### Калектыўна-фальклорнае і індывідуальна-аўтарскае мастацкае выражэнне: гісторыя ўзаемадзеяння

У артыкуле аналізуецца праблема ўзаемадзеяння фальклорнай і індывідуальнай мастацкай свядомасці. Разглядаюцца агульныя тыпалагічныя рысы і прынцыповыя адрозненні паміж фальклорнай і літаратурнай мастацкімі сістэмамі.

**Ключавыя словы:** фальклор, літаратура, аўтар, рэцыпіент, мастацкая свядомасць, культура.

## Summary

**Jauhen HARADNITSKI**

### Collective-folk and individual-author artistic expression: history of interaction

In the article is analyzed the problem of interaction between folklore and individual art consciousness. The general typological features and fundamental differences between the folk and literary art systems are considered.

**Key words:** folklore, literature, author, recipient, artistic consciousness, culture.

Ігар ШАЛАДОНАЎ

# СУЧАСНАЯ АПОВЕСЦЬ: ЧАЛАВЕК І ЧАС

Сённяшняе развіццё беларускай прозы ўяўляе сабой шматстайны і шматаспектны працэс ідэйна-светапоглядных, мастацка-метадалагічных і стылістычна-жанравых падыходаў у асвятленні складанага бягучага моманту. Кіпучая рэчаіснасць апошніх дзесяцігоддзяў наглядна і яскрава паказала, наколькі хутка можа трасфарміравацца жыццё чалавека і грамадства пад уплывам пэўных гістарычных падзей, «кропак біфуркацыі». Простаму чалавеку ў такіх сітуацыях пачынае здавацца, што ён «трэска на хвалях жыцця», бо працэсы, якія адбываюцца, слаба паддаюцца яго паўсядзённаму мысленню, правілам сэнсу папярэдняга досведу і вопыту па выпрацоўцы спосабу арыентацыі ў рэчаіснасці, да якога ён быў здатны дагэтуль. У такім экзістэнцыйным стане чалавеку доўга захоўвацца нельга, таму як глыток паветра патрэбна новая сістэма каардынат, якая пачала б гарманізаваць індывідуума са знешнім светам.

Адным з такіх «глыткоў паветра», у пэўным метафарычным сэнсе, павінна і стаць творчасць той генерацыі пісьменнікаў, якія прыйшлі ў літаратуру на хвалі каардынальных сацыяльна-палітычных перамен канца 80-х — пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя: А. Федарэнка, Ю. Станкевіч, А. Казлоў, А. Наварыч і інш. Больш чым дваццаць год іх творчасць уяўляе сабой пэўнае люстэрка фіксавання трывожнага сацыяльна-псіхалагічнага стану беларуса міленіумнага часу. Асаблівага поспеху ў раскрыцці свайго таленту гэтыя пісьменнікі дасягнулі ў жанры аповесці, хоць, як вядома, для стварэння літаратурнага шэдэўра аднаго таленту малавата. Каб быць сапраўдным мастаком не меней, а, можа, яшчэ болей патрэбна ўлавіць, «угадаць» свой час. Як слушна пісаў вядомы вучоны М. Арнольд: «Талент і час непадзельныя».

Калі ў 60—80-я гады XX стагоддзя вядучую ролю ў засваенні гістарычнай рэальнасці адыгрываў раман з яго шматлікімі ідэйна-стылявымі разнавіднасцямі, то аповесць мусіла выконваць незайздросную ролю і функцыю другой па значэнні эпічнай формы. Але з пачатку 1990-х гадоў дамініраванне рамана хутка пайшло на спад і менавіта яна стала праваметна прэтэндаваць на раўнапраўную замену раманнай эпічнай формы як лідара празаічнай формы

З аднаго боку сучасная аповесць як бы з'яўляецца пераходнай формай «рабочай трасфармацыі» рамана папярэдняга перыяду, а з другога боку, яна ў пэўнай ступені зрабілася «крэатыўнай лабараторыяй» для магчымага стварэння новых форм рамана XXI стагоддзя. Тым самым зараз аповесць па праве можна лічыць вядучым і цэнтральным жанрам мастацкай прозы. Хоць, безумоўна, гэта толькі адносная характарыстыка жанравых прыярытэтаў і межаў у стракатай плыні сучаснага творчага развіцця.

У сённяшнім літаратурным працэсе рэчаіснасць актыўна спазнаецца і асвойваецца шматлікімі жанравымі разнавіднасцямі мастацкіх тэкстаў. Паводле М. Бахціна «ў жанрах на працягу стагоддзяў іх існавання назапашваюцца формы бачання і асэнсавання вызначальных бакоў свету». Несумненна, жанр — тое звяно, якое звязвае ў цэлае свет літаратуры са светам чалавека і гісторыі.

Калі прамаўляем «аповесць», то ўжо адразу схіляемся аднесці твор да эпічнага роду і замацаваць за ім «пасярэдняе» месца знаходжання ў родавай іерархіі — паміж раманам і апавяданнем. Разам з тым, паняцце «аповесць» займае сваё адметнае месца ў гістарычнай мастацкай памяці агульнарускай культуры. Аповесцямі ў даўнія часы агульнарускага пісьменства называлі розныя творы, што мелі шырокую жанравую прыналежнасць, але неслі ў сваёй аснове паведамляльны і гістарычна-падзейны змест, у якім пазначалася важнасць учынкаў той ці іншай асобы. Як вядома, пачаткам усходнеславянскага літаратурнага дыскурсу прынята лічыць летапіс «Аповесць мінулых гадоў».

Такі невялічкі экскурс у мінулае невыпадковы. Справа ў тым, што тэма «Беларуская сучасная аповесць: чалавек і час» вельмі сугучная па сэнсе з назвай летапісу, дзе у цэнтры сэнсавага напаўнення таксама пастаўлена тэма чалавека і часу. У поўным варыянце назвы гэтага летапісу асноўны акцэнт робіцца на падзейна-гістарычны аспект, дзе галоўным героем падзей і дат становіцца чалавек, найперш, безумоўна, вялікія князі.

Думаецца, што слова і паняцце «аповесць», якое ў наш час мы цесна звязваем з вызначэннем жанравай разнавіднасці прозы, у сваёй генетычнай памяці захоўвае ў многім і яшчэ больш поліфанічны кантэкст значэння, які спалучае ў сябе агульнасць трыадзінства «чалавек-час-жанр». Асабліва гэта тычыцца твораў эпічнага жанру, у якіх вызначальным метадалагічным прыёмам з'яўляецца апавядальнасць. Менавіта яна заўсёды звязана з часам, у адрозненне ад апісання, дзе можа дамінаваць і «бязчасавая» форма мастацкага ўвасаблення, бо ў ёй прысутнічае толькі сам час аповеду, але не дзеяння. Вызначальная мастацкая сутнасць родавай апавядальнай формы пазначана тым, што яна мае выхад за межы працэсу формастварэння і тым самым набывае сістэмна-сюжэтную структуру перакрыжавання розных часавых пластоў.

Сучасная літаратуразнаўчая навука паэтыку жанру аповесці распрацавала яшчэ недастаткова. Па сённяшні дзень у навуковай і даведачнай літаратуры пануе ўяўленне аб аповесці як жанры прамежкавым паміж раманам, з аднаго боку, навелай і апавяданнем, з другога. Пры гэтым асноўнымі крытэрыямі аднесенасці да таго ці іншага жанру выступаюць часцей за ўсё чыста фармальныя прыкметы: колькасць старонак, наяўнасць ці адсутнасць паралельных сюжэтных ліній, шырыня ахопу жыццёвых і гістарычных з'яў і падзей і г. д. Такое спрошчанае меркаванне ў размежаванні жанравых форм выклікае пэўныя наракання і патрабуе больш сур'ёзнага метадалагічна-інструментальнага падыходу ў структурызацыі апавядальных жанравых разнавіднасцей.

Як вядома, у XX стагоддзі паэтыцы жанрабудовы і яе функцыянаванню прысвяціў шмат прац М. Бахцін. У аснову яго вучэння пра жанр пакладзены тэмпаральны складнік. Па М. Бахціну развіццё таго ці іншага жанру залежыць ад гістарычнай перспектывы яго функцыянавання. Гэта не можа выклікаць пярэчання. Больш за тое, абапіраючыся на яго канцэпцыю «трохмернасці» жанравай структуры, куды ўваходзяць: дамініруючая сюжэтная схема, тып кампазіцыйна-размоўнай арганізацыі і тып узаемадзеяння паміж светам героя і рэчаіснасцю аўтара, мы ў сваім даследаванні возьмем за галоўны крытэрый менавіта апошні складнік — тып кантакту паміж светам героя і рэчаіснасцю аўтара.

Як добра відаць, яшчэ з кананічнага погляду на аповесць, распрацаванага яшчэ ў 30—80-я гады XIX стагоддзя ў працах В. Бялінскага і Д. Пісарава і інш. рускіх даследчыкаў літаратуры, цэнтральная сюжэтная падзея яе — гэта выпрабаванне героя, якое заканамерна выклікае этычную ацэнку яго ўчынку з боку аўтара і чытача. Разам з тым цыклічнасць мастацка-сюжэтнай структуры стварае ўмову для «сэнсавай замкнутасці» і «вычарпанасці» паказанага свету без акцэнтацыі этычнага выяўлення.

Для падзейнай канвы аповесці характэрна вылучэнне на пярэдні план самасвядомасці героя і яго спавядальнага слова, пошук ім унутранай тоеснасці са

знешнім светам — у выніку сюжэтнага выпрабавання і маральна-этычнай вызначанасці фіналу.

Так, сучасны рускі даследчык літаратуры Н. Тамарчанка ўслед за М. Бахціным, прызнаючы, што ў аснове аповесці ляжыць сюжэт выпрабавання, вылучае ў ім тры асноўныя тыпы выпрабавання: а) выпрабаванне соцыуму, б) выпрабаванне героя, в) выпрабаванне ідэі.

Сама праблема выпрабавання з яе разнавіднасцямі выразна пазначае часавасупастаўляльную пазіцыю аўтарскай матывацыі ў раскрыцці той ці іншай сюжэтнападзейнай рэчаіснасці. Разам з тым, разглядаючы сучасную беларускую аповесць, можна з дастатковай пэўнасцю гаварыць пра тое, што ў ёй прысутнічае тэндэнцыя да ўзрастання значнасці пункту погляду героя як вызначальнага крытэрыя ацэнкі свету. Можна з вялікай доляй верагоднасці гаварыць пра наяўныя прыкметы змяшчэння аксіялагічнага фактару твораў у бок суб’екта адлюстравання.

Важнай эстэтычна-мастацкай адметнасцю эвалюцыі сучаснай аповесці трэба прызнаць яшчэ яе павышаную схільнасць да гратэскава-міфалагічных форм паказу вобразаў свету і чалавека, дзе ўжо час набывае новыя спецыфічныя формы мастацкага выяўлення, што часта патрабуе фабульнай размытасці тэмпаральнагістарычнай канвы падзей, больш глыбокага элемента факусіравання розных ліній часавай перспектывы.

Самай жа характэрнай рысай сучаснага празаічнага жанру аповесці з’яўляецца тая акалічнасць, што эвалюцыя развіцця жанру рухаецца па лініі зруху акцэнта ў бок героя, як суб’екта адлюстравання і асэнсавання яго ўчынкаў, іх павышаная ўзважанасць на аксіялагічных шалях. Гэты ўхіл у бок раскрыцця ўнутранага свету героя ў жанры аповесці выступае больш выразна чым у рамане, таму што ў аповесці ў меншай меры і ступені распрацоўваецца мастацка-гістарычны фон дзеяння, што робіць больш кампактнай сістэму персанажаў, а разам з тым і іх больш акцэнтаваную пазіцыю да асноўных ідэй і канфліктаў мастацкай рэчаіснасці.

Сённяшнія пошукі беларускай прозы ў канцэптуальным спасціжэнні дадзенага трыадзінства дазваляюць нам гаварыць пра інтэнсіўны характар развіцця сучаснай аповесці, якая займае ў творчай лабараторыі амаль усіх беларускіх празаікаў вызначальнае месца. Аб гэтым яскрава можа сведчыць нават просты статыстычны падлік мастацкай практыкі вядучых беларускіх аўтараў прозы.

Але не гэта самае галоўнае ў мастацка-сэнсавым напаўненні літаратурнага працэсу жанравага функцыянавання. Больш актуальным становіцца той факт, што жанр аповесці стаў сапраўдным кандэнсатарам той энергетычна-творчай «плазмы», якая найбольш настойліва і прадуктыўна імкнецца «растапіць» і «размагніціць» глыбінна-прыхаваныя пласты быційнага напружання сучасных антаганістычных і побытавых праяў рэчаіснасці, выявіць іх сапраўдны змест і характар. Найбольшай інтэнсіўнасцю творчай рэалізацыі ў гэтым накірунку выдзяляецца, на наш пункт гледжання, творчасць такіх беларускіх пісьменнікаў, як І. Шамякін, І. Навуменка, В. Казько, В. Карамазаў, А. Асташонак, А. Федарэнка, А. Наварыч, А. Казлоў, Ю. Станкевіч, Б. Пятровіч і інш.

Усякая рэч свету — гэта мноства вузельчыкаў, звязаных у адным месцы ніткай часу. Дзякуючы гэтым «вузялкам» і пpасторавай адлегласці паміж імі, мы і мяркуем пра той ці іншы час. Жыццё і час чалавека «плывуць» ва ўнутраным, духоўным свеце, а ў знешнім свеце мы наглядаем толькі вынікі працэсаў руху. Але калі індывід не здатны заняць пазіцыі наглядальніка ва ўнутраным свеце, то ён не будзе мець магчымасці распазнаваць і адрозніваць, «дух эпохі» і плынь часу.

Роздум пра час ёсць, найперш, адна з асноўных тэм чалавечага існавання. У навуцы, мастацтве праблема часу непарыўна звязана з праблемай чалавечага лёсу. Шматлікіх людзей мінулага цікавіла тая відавочная згадка. Чаму думка аб любой рэчы свету можа сказаць больш, чым зрокавы погляд на гэту рэч? Так класічны філосаф І. Кант сцвярджаў, што «час вызначае форму ўнутранага пачуцця ў супрацьлегласць прасторы, як форме праяўлення знешняга пачуцця. «Час па

сваёй сутнасці — ёсць вызначэнне спосабу актыўнасці свядомасці чалавека…» Пазнаць штосьці па-за намі самімі, па Канту, мы можам толькі праз асабістую свядомасць. У гэтым сэнсе час для нас як бы становіцца «ўмовай усіх з'яў наогул». Свядомасная думка, сэнс рэчы, слова відаць маюць у сабе нейкую якасць, якая дае нам магчымасць убачыць з'явы і рэчы свету ў большым дыяпазоне. Гэтая якасць — «працягласць» (па А. Бергсану), і ёсць анталагічны спосаб псіхічнага «ўтрымання» рэчы на пэўным адрэзку часу. Ужо ў старажытнага філосафа Геракліта, мы знаходзім цікавы на гэты конт роздум: «Думка і час непадзельныя. Думаць — значыць думаць пра час».

Антычны філосаф Арыстоцель, сыходзячы з магчымасцей нашага розуму і псіхікі «ўтрымліваць у сабе рэчы свету», вызначаў наступныя інтэлектуальныя сродкі для спасціжэння сутнасці часу: вопыт, памяць і ўяўленне ці фантазію, якія ён строга суаднасіў з часава-лінейнай гістарычнай шкалой-вектарам — сучаснасць, мінулае і будучае. Пазней дадзеную сістэму дапоўніла фенаменалагічнае вучэнне Гусерля, які здатнасці нашай свядомасці адчуваць, успамінаць, ацэньваць і ўяўляць ці мроіць, таксама суаднасіў з магчымасцямі, неабходнымі дзеля пазнання якасцей модусаў часу. Толькі Гусерль ужо не замацоўваў строга і канкрэтна за кожным жыццёва-часавым адчуваннем часавых модусаў. У вучэнні Гусерля ўласцівасці модусаў часу разглядаюцца ўжо як усеагульныя, якія падыходзяць для адлюстравання па сутнасці любых часавых катэгорый: мінулага, сучаснага і будучага.

Спрактыкаванасць чалавека ўтрымліваць рэчы свету ў полі працяглага засваення дазволіла яму прыстасоўваць іх для асабістых патрэб, тым самым стала магчымым асвойваць і ствараць розныя сферы і нішы матэрыяльна-прыроднай і віртуальнай прасторы свету. Паступова гэта прывяло да таго, што сучасны чалавек трапіў у наш час у так званую «экзістэнцыйную варонку» жыцця, калі з поспехам навучыўся аперыраваць абстрактнымі паняццямі, якія замяшчаюць яму рэчы свету ў логіцы мыслення.

Сучасны чалавек з аднолькавай магчымасцю можа тую ці іншую сітуацыйную сувязь рэчаў прэпарыраваць і даказаць, як з дадатнага, так і з адмоўнага боку. Усё стала залежаць ад метадалогіі (метад — гэта шлях, пераход, спосаб, месцаперамяшчэнне), а метадалогія зараз, у сваю чаргу, набыла тэхнічны характар. Тэхнічны прагрэс, такім чынам, як сімвал-аснова сучаснай цывілізацыі, ўжо сур'ёзна ўгрунтаваны ў само быццё чалавека.

Сучасны чалавек жыве ў часе, калі любыя веды імкнуцца стаць і прэтэндаваць на статус «навуковых ведаў», інавацый — ведаў упершыню вынайдзеных, якія праяўляюць максімум жадання і старання на прыярытэтную ролю. Зараз нават любая банальная падзея можа набыць характар сенсацыйнасці, узрыву, пры дапамозе працы культурна-гульнявых масмедыйных тэхналогій. Узнікае заканамернае пытанне: «Чаму «новае» мае такую каштоўнасную вартасць для сучаснага чалавека ў суадносінах са «старым», «мінулым», «традыцыйным»? Напэўна справа ў тым, што сучасны чалавек міленіумнай эпохі адчувае вялікую незадаволенасць «мінулым» і «наяўным» жыццём і таму актыўна імкнецца ажыццявіць выхад за яго межы — да новага, пажаданага.

Вядома, што прага да змен, жаданне пераадолець сябе цяперашняга, амаль апрыёрна ўласціва чалавечай форме існавання. «Новае» ж, на вялікі жаль, у сваёй аснове толькі ў зародкавай форме знаходзіцца ў мінулым, і толькі часткова, як патэнцыя прысутнічае ў сучасным. Значыць асноўная топіка існавання «новага» — будучае. Выхад да «новага» фактычна азначае, што сучасны чалавек свядома ці несвядома імкнецца зрабіць «будучае» фундаментам свайго асабістага існавання ў сучаснасці.

Вось чаму стала звычайным тое, што падзеі мінулага і сучаснасці не зрабіліся для сучасніка сапраўднай вартаснай каштоўнасцю, а набылі па большасці толькі пераходны характар. На першы план хуткаплыннай рэчаіснасці ці, інакш кажучы,

тэмпасвету, выйшла задача барацьбы за авалоданне прасторай, матэрыяльнасцю, часам і быццём будучага. Недарэмна напэўна ў XX стагоддзі такое шырокае развіццё і імклівае распаўсюджанне ў мастацка-літаратурным жыцці атрымалі жанры утопіі і антыутопіі, фантастыкі і фэнтэзі, дзе ствараюцца шматвобразныя віртуальныя сцэнарыі праяўлення будучага, якія настойліва жадаюць рэалізавацца на яве.

Цывілізацыйна-тэхналагічны чалавек маніякальна імкнецца паскорыць працэс дэпартацыі сябе ў часавай перспектыве ў будучыню. Гэту тэндэнцыю ў мастацкай літаратуры вельмі тонка ўлавіў і зафіксаваў яшчэ на пачатку XX стагоддзя французскі пісьменнік М. Пруст у сваім знакамітым рамане «У пошуках страчанага часу». Нам думаецца, што галоўнай ідэяй твора была думка аб тым, што чалавек у плыні падзей не ў стане зафіксаваць паўнату свайго існавання, тым самым аддае сваю духоўную сутнасную перавагу дыскрэтнай сістэме хуткаплынных, імгненных эмоцый і ўражанняў.

Але сучаснасць — гэта не толькі фіксацыя пэўнага моманту на гістарычнай шкале, а найперш сэнс, звязаны з аксіялагічнымі адносінамі да існуючага і акаляючага свету. Вось чаму Гусерль і ўнёс у тэмпаральны модус такое паняцце, як ацэнка, якое непасрэдна звязваецца ім з кантыныумам часавасці і падаецца як каштоўнасны фактар. Таму сучаснасць як звернутасць да рэальнага часу як да сутнаснага, і ёсць сінонім у разуменні «сапраўднага» і нават «ісціннага» ў гэтым свеце. Гэтую сапраўднасць сучаснасці прыўносіць у часавы зазор-фактар асабістай маральнай праяўленасці дзеянняў чалавека.

Па сутнасці — сучаснасць і ёсць той адзіны зазор праяўленасці свету, яна непасрэднае люстэрка свету, але ў духоўным плане скарэктаванае праз люстэрка душы чалавека, праз яго вопыт, памяць, эмоцыі, жаданні і мары. Толькі сучасны чалавек пачаў вельмі радыкальна і хутка мяняць часавую і каштоўнасную арыентацыю, зрабіўшы тэмпаральную перастаноўку, дзе на месцы «сучаснасці» ўсталёўваецца «будучае». Чалавек як бы задае сабе новы прынцып жыцця, «унутрана» згаджаючыся з тым, што жыць трэба ў будучым», а не сучасным. Сучаснае ім прызнаецца такім жа недасканалым і неўладкаваным як і мінулае.

Пад уплывам такой логікі разваг чалавекам выпрацоўваецца спецыфічны нігілізм у адносінах да сучаснага паўсядзённага. Прыняўшы новую шкалу каштоўнасцей, «новы тэхналагічны чалавек» як бы сам выпадае з быцця сучаснасці, чым парушае ўжо суразмернасць з ім. Чалавек пачынае слізгаць па жыцці, таму што не знаходзіць «месца-кропкі», дзе б ён мог бы супасці з быццём, каб адбылося «су-быццё», а адбываецца хутчэй за ўсё толькі «дзе-я». Сучаснае ва ўяўленні чалавека-мадэрніці як бы страчвае сваю гарманічнасць і суразмернасць і індывід становіцца не да месца ў сучаснасці і быццам птушанё з гнязда вывальваецца з яго. Сапраўднае і важнае для яго хаваецца і знаходзіцца найперш у будучым. А паколькі «будучае» ў адносінах да сучаснага чалавека выступае не як поўнасцю наяўнае, то ў памкненні да яго ён як птушанё выпадае з «гнязда сучаснасці».

Але авалоданне «будучым», як будучымі працэсамі, тэхналогіямі, сэнсамі, каштоўнасцямі, рэчамі наступіць толькі «потым», таму сённяшняму чалавеку зараз жа патрабуецца выходзіць за суразмернасць быцця сучаснасці — гэта значыць, спяшацца. «Спяшацца», у дадзеным выпадку — рухацца хутчэй, чым дазваляюць яго асабістыя задаткі і талент. Паколькі «будучае» *неабмежавана,* то «дасягненне будучыні», «авалоданне будучыняй», «поспех у будучым» ператвараецца ў ніколі не дасягальную ілюзію. Аднак сапраўднае «сучаснае» ўсё ж трапляе ў залежнасць да гэтага ілюзорнага сыходу-скачка чалавека ў будучае. Адбываецца факт страты суразмернасці як апоры яго ў быцці сапраўды існага.

Цікавай падсветкай дадзеных разваг можа паслужыць ідэйна-мастацкая завостранасць сюжэтна-фабульнай канвы твораў Юрыя Станкевіча і Анатоля Казлова.

Жыццёвая і культурная прастора, у якую патрапіў постсавецкі чалавек, шмат у чым нагадвае вялізны сацыяльны «супермаркет», у якім прадаецца і купляецца

амаль усё — тавары, паслугі, пачуцці, ідэі, перакананні, прынцыпы, таленты і нават самі людзі. Наяўнасць і колькасць грошай і капіталу сталі шмат для каго мерай і стымулам узаемаадносін і паводзін.

Беларускія пісьменнікі з асаблівай цікаўнасцю і насцярогай углядаюцца ў фенаменальную з’яву ўваходу ў жыццёвую прастору будзённага жыцця новага тыпу героя-персанажа, які набыў найбольш выразныя абрысы перавагі атрыбутаў новага светаўладкавання. Асаблівую адметнасць і плённасць за апошнія 20 год у раскрыцці характару і псіхалогіі паводзін сучаснага чалавека набыла творчасць арыгінальнага празаіка Ю. Станкевіча. Ён выдаў некалькі раманаў і больш за 10 аповесцей, а таксама шмат апавяданняў. У адным са сваіх знакавых «Мільярд udaraў», якое дало назву адной з кніг пісьменніка, аўтар уздымае вельмі важную тэму пра сэнс жыцця сярэднестатыстычнага беларуса Паўла Дука. Чалавек сталага ўзросту, які выгадаваў і ажаніў сваіх дзяцей, прыдбаў які-ніякі дастатак, меў пэўны задавальняючы яго статус, ён нечакана апынуўся ў пікантным становішчы. Падчас вяртання позна вечарам ад каханкі дамоў да жонкі аказаўся адзін зачыненым у ліфце. Другая непрыемнасць — у каханкі пакінуў свой мабільнік. Хворы да таго ж на гіпертэнзію, ён мусіць знаходзіцца ў гэтай «пастцы» да раніцы.

Пачынае крычаць, грукаць у сцены, але ўсё было безвынікова. Страх усё ўзмацняецца. Напачатку сваё хваляванне Дук хоча прыглушыць развагамі пра розныя сітуацыі з мінулага. Прыгадвае, што «праведзеныя разлікі па частаце сардэчных скарачэнняў для розных відаў жывёл супадаюць з фактычнымі велічынямі іх працягласці жыцця. Сэрцы жывёл за перыяд жыцця робяць прыкладна аднолькавы лік скарачэнняў — у межах аднаго мільярда. Але ж і чалавек, як сцвярджае сучасная навука, — жывёла, хоць і ўчарашняя. Мільярд ударaў». Ход думак Паўла вельмі сімвалічны для сучаснага цывілізаванага чалавека.

Менавіта спасылка на навуку як адзін з важнейшых крытэрыяў светапазнання з’яўляецца вызначальным. Але рацыянальна зразуметая і ўспрынятая такая, часцей белетрызаваная інфармацыя, дае ўсяго спрошчаны арыенцір у свеце. Яна дапамагае лепш прыстасоўвацца да навакольнага асяроддзя, прапануючы ў асноўным толькі колькасна-абагуленую статыстыку. Не дарэмна Дук пасля ўзгадання гэтага навуковага факта і для таго, «каб заняць свае думкі і супакоіцца», дастае з кішэні калькулятар і пачынае падлічваць, колькі год патрэбна чалавеку, каб вычарпаць запас сардэчных скарачэнняў. Атрымлівалася, што сэрца павінна спыніцца дзесьці ў шасцідзесяцігадовым узросце.

Гэта маніпуляцыя з падлікам аднак не прынесла Паўлу заспакаення. Больш за тое, яна яшчэ мацней спалохала яго. Атрымлівалася, ён ужо быў на мяжы вычарпання свайго біялагічнага рэсурсу. Цела Дука пачало ліхаманкава рэагаваць на нестандартную сітуацыю. Тут жа ўсплылі пабочныя эфекты розных псіха-неўрастанічных адхіленняў — клаўстрафобія, неўроз, тахікардзія. Памяць хутка, як у кінастужцы, узнаўляла вобразы і эпізоды мінулага жыцця. У такім узбуджаным стане Дук вырашае яшчэ раз узяць сябе ў рукі і прымусіць арганізм пераадолець пачуццё страху: «Мужчына быў гатовы прысягнуць, што яго цяперашнія пачуцці якраз не з’яўляюцца бояззю смерці».

Але Дука ўнутрана трывожыць і точыць якісьці невытлумачальны імпульс, які не дае магчымасці заспакоіць нервы і розум: «Адказ быў просты. Ён баіцца загінуць вось так па-дурному, зусім недарэчна, і не выканаць сваёй мэты». Трагедыя толькі ў тым, як аказалася, што мэты жыцця ў яго няма. Нельга ж лічыць гэтым просты жыццёвы набор будзённых стратэгій — добра вучыцца, каб паступіць у ВНУ, удала ажаніцца, выгадаваць дзяцей у добрым дастатку і камфорце. І Дук задае сабе рытарычнае пытанне: «І само жыццё — хіба мае мэту?»

Разумна палічыўшы, што адказ знойдзены, ён, цвяроза разважыўшы, вырашае, што самае галоўнае зараз для яго — гэта збіць кравяны ціск. Знайшоўшы ў куртцы сцізорык, робіць сабе кровапусканне, парэзаўшы вену на руцэ. Паўла апанавала млявасць, і ён праваліўся ў санлівы стан. Усё яшчэ хоча пазмагацца са

слабасцю і дрымотай, але яны хутка бяруць сваё. У прадсмяротным сне Паўлу прымройваецца родны кут. Рачны поплаў у кветках і эпізод са школьнага жыцця: «Мужчына раптам зразумеў, гэты сон з далёкага мінулага зусім не выпадковы».

Прыснілася Дуку аднакласніца Крываножка. Такую мянушку яна атрымала таму, што кульгала на адну нагу. Калі яе ўпершыню прывялі ў клас і захацелі пасадзіць побач з Паўлам, ён перад усім класам запярэчыў. Крываножку пасадзілі адну за іншую парту, на самае непрыстыжнае месца, каля дзвярэй. Праз нейкі час дзяўчынка наглыталася таблетак, і яе не змаглі адкачаць. У сонных думках Павел «пачаў пераконваць сябе, што дзяўчына зрабіла такое зусім не таму, што ён прагнаў яе ад сябе. Але тады — чаму?»

Гэтае пытанне застаецца галоўным для жыццёвага вызначэння страты мэты ў жыццёвым існавання героя. На парозе смерці для яго выразна паўстала быційная мяжа-лінія, якую яму ў жыцці так і не ўдалося пераадолець. Гэтая нябачная лінія трансцэндэнцыі, узняцця над сітуацыяй не была ўключана ў спосаб ягонага пражывання. Паглынуты турботамі толькі гэтага свету, Дук не здолеў, не зайшоў магчымасці ў гэтым жыцці ўзняцца, узвысіцца над абставінамі паўсядзённай выгоды і мітусні.

Апавяданне важнае яшчэ і тым, што аўтар у ім вельмі змястоўна і ўдала раскрыў, паказаў сімволіка-вобразную сістэму вызначальнага канфлікту сучаснасці, які, на нашу думку, пралягае па мяжы антаганістычных супярэчнасцей паміж ідэаламі і каштоўнасцямі культуры і цывілізацыі. У кандэнсаваным выглядзе пад культурай мы разумеем такі працэс, які праходзіць у адпаведнасці з тым, што падразумявае каштоўнасць, якая па сваёй сутнасці заўсёды накіравана на выхад за межы наяўнай рэчаіснасці, ці іншым словам, заўсёды трансцэндэнтна дадзенаму свету. Цывілізацыя ж, як сукупнасць артэфактаў, для нас паўстае працэсам, які служыць рашэнню толькі ўтылітарных задач, дзе чалавек заняты забяспячэннем выжывання толькі дзеля выжывання. Так для І. Канта цывілізацыя — гэта «тэхнічны» тып культуры, што амаль індыферэнтна маралі і трансцэндэнтным каштоўнасцям.

Дык вось у апавяданні «Мільярд удараў» вельмі сімвалічна-наглядна пададзены галоўны нерв канфлікту сучаснасці праз насычаную мастацка-вобразную сістэму. Па-першае, Ю. Станкевіч адразу задае такую мастацкую сітуацыю, у якой раскрываюцца найбольш вызначальныя экзістэнцыйна-пачуццёвыя дамінанты існавання чалавека пачатку XXI стагоддзя — пакінутасць, адзіноцтва, павышаная трывожнасць ва ўспрыманні рэчаіснасці.

Па-другое, вобраз-сімвал ліфта як цывілізацыйна-тэхнічнага дасягнення ўдала падкрэслівае ўсю хісткасць і ненадзейнасць тэхналагічнага прагрэсу, які толькі павышае эмацыянальную трывогу чалавека. Камфорт, выгода і зручнасць, звязаныя з ім, на паверку шмат у чым могуць аказацца лавушкай для індывіда.

Па-трэцяе, засяроджанасць героя на колькасным паказчыку сардэчных удараў гаворыць толькі аб тым, што ён поўнасцю заангажаваны на «посюсторонний интерес» пражывання, чаго ад яго так і вымагала цывілізацыйнае светаўспрыманне. Толькі ў пагранічнай сітуацыі на мяжы жыцця і смерці выразна адчуў усю мізэрнасць пражытых гадоў, якія не давалі зрабіць штосьці важнае, каб падняцца над жыццём. Мільярд удараў сэрца становяцца паказальным сімвалам механістычнага адліку часавага прамежку бездухоўнага жыцця чалавека, блізкага ў сваёй сутнасці да жывёльнага вітальнага існавання.

Па-чацвёртае, у крыві, паводле рэлігійных поглядаў некаторых народаў, быццам захоўваецца душа чалавека. Кроў жа, што паступова выцекла з цела Паўла Дука, аказалася толькі лужынай чырвонай цягучай вадкасці.

Але ў фінале твора пісьменнік выразна акцэнтуе сваю культурацэнтрычную, духоўную пазіцыю ў поглядзе на чалавека, паказваючы, што ў пазасвядомым перадсмяротным сне герой імкнецца падняцца з кален і пайсці на святло сапраўды чалавечага, высакароднага жыццесцвярджэння.

Першы поспех і вядомасць Ю. Станкевічу прынесла яго аповесць «Луп», змешчаная ў яго аднайменным зборніку разам з некалькімі апавяданнямі, што выйшаў у «Бібліятэчцы часопіса “Маладосць”» (1989). Назва твора «Луп» паходзіць ад лацінскага слова «lupus», што ў перакладзе азначае воўк. Галоўны герой — трохгадовы, прыручаны селянінам Карнюшкам, воўк. Такая назва як бы незнарок скіроўвала чытача да спазнання выразна зададзенай аўтарам асноўнай ідэі аповесці — ці праўда тое, што ў наш час «чалавек чалавеку — воўк»?

Напачатку твора пісьменнік збірае амаль усіх вызначальных персанажаў у адным месцы. Цэнтральным месцам сутыкнення іх становіцца гарадскі птушыны рынак. А, як слушна сцвярджае адзін з герояў Філосаф, рынак — «гэта мадэль чалавецтва. Тут людзі на розны густ і ўсе жывёлы з Ноева каўчэга».

Менавіта рынак у канцы 80-х гадоў з’яўляўся той гіпнатызуючай кропкай, што стала сімвалам гарбачоўскай перабудовы. Вірлівае жыццё, якое наглядаецца на ранейшай плошчы, а цяпер «утаптаным месцы з драўлянымі павецямі» — гэта своеасаблівы пункт перасячэння розных людскіх інтарэсаў, турбот і перакананняў.

Юры Станкевіч, бадай, знарок тыпізуе многія вобразы, называючы іх проста — Мастак, Акцёр, Філосаф, Студэнт, Мешчанін. Тым самым надае ім толькі функцыянальнае значэнне, бо іх роля на рынку чыста бытавая, мімаходная. Больш за тое, з іншага боку такой тыпізацыяй як бы хоча падкрэсліць вельмі мізэрную ролю, адведзеную прадстаўнікам гэтых прафесій і статусаў у дадзеную эпоху. Іх функцыя ў многім зводзіцца ўсяго да пэўнай сімвалічнай дэкларатыўнасці, якая мала ўплывае на асноўны ход сюжэтнай і жыццёвай фабулы падзей. Дый самі прадстаўнікі мастацка-навуковай інтэлігенцыі пачуваюць сябе вельмі клопатна і няўтульна ў новых рэаліях. Яны пэўна ўсведамляюць сваю малазначнасць і мізэрнасць у патугах і жаданні як-небудзь паўплываць на жыццё, ці што-небудзь змяніць у ім, хоць і робяць пэўныя намаганні.

Гэтаксама няўтульна і адчужана пачувае сябе на рынку і цэнтральны герой аповеду воўк Луп: «Яшчэ ніколі ў сваім жыцці ён не бачыў столькі жывых істот. Ён быў чужынцам і тут, на рынку. Людзі тыцкалі ў яго пальцамі, а сабакі аж заходзіліся ў брэху, вядома, на бяспечнай ад яго адлегласці. Але Луп ненавідзеў і пагарджаў імі, як пагарджаюць тымі, хто значна ніжэйшы за цябе».

Зрабіўшы галоўным экспанатам і таварам на птушыным рынку Лупа, пісьменнік факусіруе на яго вобразе ўсе вызначальныя лініі канфліктаў. Так міма ўвагі ваўка не магло прайсці тое, што вельмі ўпэўнена і напорыста, нават агрэсіўна паводзяць сябе тыя, у каго павышаны інтарэс у атрыманні прыбытку і выгоды. Асабліва малады хлопец Шахоцька, які падрабляў сабакаром; забіваў сабак і здзіраў з іх шкуру, каб шыць шапкі, кучомкі, унты і нават падробныя дублёнкі тыпу «аляска». Рабіць вялікія грошы на такой гнюснай працы стала для маладога, жорсткага па натуры юнака стымулам жыцця. Ён стане ўсімі праўдамі і няпраўдамі імкнуцца як мага танней завалодаць Лупам, каб затым зняць з яго футра. Нават паспрабуе адкрыта забіць прывязанага да слупа ваўка, але яму перашкодзяць наведвальнікі рынка.

Вельмі нікчэмна, карысліва і прагматычна паводзіць сябе і гаспадар Лупа Карнюшка. Прытрымліваючыся сваёй прыватна-ўласніцкай псіхалогіі, ён перакананы, што слова, дадзенае Мастаку, Акцёру, Філосафу і інш., якія выкупілі ваўка і папрасілі гаспадара выпусціць яго ў лес, калі будзе вяртацца дамоў — нішто іншае як пусты гук. Галоўнае — займець найбольшы прыбытак з усяго, што можа мець хоць якую тарварную каштоўнасць. Пры вяртанні позна вечарам дамоў на машыне, пачынае хваліцца аднавяскоўцу і шафёру Рыгору, добраму і сумленнаму хлопцу: «Далі яны мне грошы, быццам купілі майго Лупа, і кажуць: ты яго ў лес адвядзі і выпусці. А то нам нязручна, нас пакусаць можа! Слова ім дай… А слова гэтае — цьфу! А я вось вазьму ды ў райзаг яго здам, сто рублёў яшчэ атрымаю ці шапку пашыю са свайго Лупа. Хе-хе…» Такое прызнанне аднавяскоўца выклікала ў душы Рыгора моцнае абурэнне:

«— Паслухай, Сямён, — пачаў як з роўным па гадах, Рыгор. — Ты вось неяк лесніком хацеў стаць, у горад ездзіў вучыцца. А лес ты любіш?

— А чаго яго любіць? Ён не баба…

— Дрэнь ты, братка, — памаўчаўшы, сказаў Рыгор».

Калі стары Карнушка заснуў, Рыгор спыніў машыну і выпусціў Лупа на волю разам з ланцугом. Гэты ланцуг неўзабаве і адыграе трагічную ролю ў жыцці прыручанага ваўка...

Пяццю гадзінамі раней, калі на рынку ішоў бойкі торг наконт продажу Лупа, яго вельмі хацеў выкупіць дзесяцігадовы сын Акцёра, які бачыў і адчуваў самотны і гаротны стан звера. Хлопчык нечакана падышоў да ваўка і пагладзіў яго, чым здзівіў і нават крыху напалохаў астатніх.

Вельмі псіхалагічна-дакладна перададзены момант, як да ўсяго паставіўся воўк:

«Луп, вядома, зразумеў, што чалавечае дзіця не пагражае яму, але ж усялякі напад, свядомы ці не, усялякае ўварванне на яго тэрыторыю заўсёды лічыў як замах на яго, які ён павінен быў адбіваць. Луп адчуваў усё гэта вельмі акрэслена і дакладна. Ён адчуваў бы сябе значна лепш, каб яму на галаву паклалі галавешку, чым гэта дзіцячая далонь, пяшчотнае цяпло якой пякло яго зараз больш за агонь. Ён увесь дрыжэў, верхняя губа прыўзнялася, і паказаліся вострыя белыя іклы, і ўсе чакалі са страхам, але ён раптам, нібы ад спакусы, адвярнуў галаву ўбок і заплюшчыў вочы. Хлопчык перамог».

«Перамога» хлопчыка, нам думаецца, найперш абумоўлена духоўным цяплом спагады да любога, хто не нясе чорнай энергіі зласлівасці і несвабоды. А жывучы сярод людзей, Луп вымушаны быў хоць у нейкай ступені адчуць сярод некаторых з іх флюіды дабрыні і цеплыні ў клопаце пра яго. Гэта таксама сыграла сваю ролю. Аднак, жыццё сярод людзей стала асабліва небяспечным фактарам у той прамежак часу, калі воўк, здавалася, ужо атрымаў свабоду і мог жыць у лесе. Але ён, падпарадкоўваючыся якомусьці падсвядомаму прынцыпу звычкі выжывання, усё ж імкнуўся трымацца паблізу людзей. І вось гэтая звычка і жалезны ланцуг, якога ён не мог самастойна пазбавіцца, сталі прычынамі яго трагічнай гібелі.

Калі Луп перабягаў невялічкі драўляны мост, то ланцуг праваліўся ў шчыліну паміж дошак і прыручаны звер зноў апынуўся ў палоне. На яго гора ў гэты час, калі ўжо вечарэла, якраз ехаў аўтобус з вяселля. Заўважыўшы ваўка падгуляўшыя і зласлівыя маладыя людзі забілі Лупа каменнем. Толькі за тое, што перашкаджаў ім праехаць па мосце.

Трагізм сітуацыі павялічваецца тым, што ў гэтым аўтобусе аказаўся Мастак. Ён пазнаў ваўка і прасіў не забіваць яго. Але ўсе аказаліся марнымі. Пасля жорсткай расправы з Лупам, зласлівыя людзі накінуліся на самага Мастака.

Яны знялі ланцуг з забітага ваўка, надзелі яго на шыю Мастаку і прывязалі да аўтобуса. Калі аўтобус крануўся, Мастак задыхнуўся ад сціснуўшага яго горла ланцуга, калі яго цягнула волакам па зямлі. Так воўк Луп і Мастак у сённяшнім вірлівым існаванні апынуліся «самым слабым звяном» у працэсе жыцця. Але як мудра казаў бацька Мастака, аб чым ён успомніў у апошнія хвіліны жыцця, «што ніводны ланцуг не бывае мацнейшы за самае слабае ваё звяно».

Прызнаўшы выразнікоў спагады, духоўнасці, культуры слабым звяном, а яшчэ раней слабым звяном прыроды назваў Філосаф і самаго ваўка. Сучасная людская супольнасць тым самым разрывае ланцуг удасканалення свету па прынцыпах узвышэння і пошуку мэты. Тады становіцца адкрыты шлях да той вечнасці, аб якой «калісьці папярэджваў Дастаеўскі, што вечнасць, магчыма, будзе звычайнай лазняй з павукамі па кутках».

На завяршэнне падаецца шмат чым сімвалічнае апісанне апошніх хвілін жыцця Мастака: «З асветленага аўтобуса нехта ўключыў ліхтарык і накіраваў на яго. Усе яны там, за шклом, здаваліся Мастаку бязглуздымі рыбамі ў акварыуме». Успамінаецца, калі Мешчанін у пачатку твора, дзе ён папераджальна-прароча

кажа на рынку: «Вось знікне азонавае покрыва, загінуць жывёлы, дык ці доўга і мы працягнем пад купаламі са штучнага шкла».

Безумоўна, духоўнасць, культура і ёсць тое «азонавае покрыва» для чалавечай супольнасці. Без яе чалавецтва ператворыцца ў слоік з павукамі, якія толькі і могуць джаліць адзін аднаго. Вобраз-сімвал аўтобуса з пасажырамі, людзьмі «цывілізацыйнага ланцуга развіцця», безумоўна, і выступае тым па-сапраўднму слабым звяном у далейшым развіцці грамадства.

Даволі арыгінальна Ю. Станкевіч ставарае і тэмпаральную фабулу развіцця дзеяння. Кожны раздзел ён падае з азначэння часу, у якім разгортваецца тая ці іншая калізія. Прамежак складае дзесяць гадзін: з 8 гадзін снежаньскай раніцы да 18-ці вечара. У гэтым таксама закладзены глыбокі падтэкст.

Па-першае, выразна ўказваецца на тое, што вірлівая сучаснасць з яе антычалавечымі прынцыпамі і ідэаламі жыцця вельмі хутка апускаецца ў цёмную бездань цывілізацыйнага прагрэсу. Па-другое, сам па сабе тэмпаральны працэс у аповесці як бы працякае аўтаномна, адасоблена ад падзей сюжэтна-фабульнай канвы, ён індыферэнтны да існавання жывых арганізмаў, па волі аўтара яны павінны самі сваімі дзеяннямі стварыць ці нішчыць сваю прысутнасць ў свеце.

Пісьменнік у сваёй светапогляднай і мастацкай пазіцыі цвёрда прытрымліваецца той думкі, што чалавек на ўсе часы мусіць заставацца такой асобай, якая хоць і не выбірае гістарычныя эпохі свайго пражывання, але ў рамках любой з іх можа і павінна выбраць сябе самастойна. Па вялікім рахунку ў цэнтар мастацкай канцэпцыі пастаўлена экзістэнцыянальнае светаадчуванне.

Збіты з панталыку новымі рэаліямі сучасны індывід у падсвядомай рацыяналізацыі сваіх хаатычных рухаў і паводзін, з трывогай пачынае разумець, што менавіта ў гэтых умовах існавання яму амаль няма на што цвёрда і грунтоўна абаперціся ў ранейшых каштоўнасных нормах і прынцыпах ні ў самім сабе, ні ў свеце, які амаль у адно імгненне стаў нечакана для яго чужым, варожым і раўнадушным. Усе ранейшыя радасці, мары і спадзяванні на хуткі дастатак, дэмакратычна ўладкаваную сацыяльную справядлівасць імгненна згаслі, і чалавек застаўся сам-насам са страшэннай бяссэнсоўнасцю сваіх клопатаў, турбот і пакут. Тыя магчымасці, якія быццам далі свабодны рынак і інфармацыйна-камп’ютарны бум, для людской камунікацыі і салідарызацыі на справе пакуль аказаліся толькі працэсам фармалізацыі міжасабовых адносін, якія выціснулі ранейшы больш-менш жывы дыялог, калектывісцкую гуманістычна-сацыяльную сувязь паміж людзьмі — «ад сэрца да сэрца», «вочы ў вочы», «душа да душы».

У грамадскай і творчай свядомасці зараз выразна выявіўся і акцэнтаваўся сіндром светапогляднага крызісу, працэс разгубленасці, расчаравання ў мінулых ідэалах і каштоўнасцях. Адсюль росквіт цынізму, рэлятывізму маральных канонаў, якія атрымоўваюць гіпербалічную форму праяў гедынізму, культу пачуццёвасці, жыццёвых асалод, задавальненняў. Прыйшоў час панавання бязмежнай інтэлектуальна-забаўляльнай гульнявой містэрыі.

Слова «крызіс» са старажытнагрэчаскай азначае «суд», «паваротная кропка», «рашэнне». Вызначальным сэнсам яго стала паняцце пераходу праз разбурэнне аднаго стану рэчаў і светапоглядных ідэалаў у іншыя. Відавочны і той факт, што змены ў нацыянальнай культуры і сацыяльным асяроддзі, якія адбыліся на мяжы стагоддзяў кардынальным чынам трансфармавалі духоўна-каштоўнасную шкалу грамадскага светаўспрымання.

Усё гэта робіць несумненным і тое, што крызісны характар падзей міленіумнай мяжы стагоддзяў паступова, але няўхільна «перамяшчаецца» з макракультурнай сферы ў структуру асобы. Дзейсна ўплывае на ментальнасць чалавека, на праявы яго характару і матывы паводзін. Чалавек нечакана знаходзіць сваё «новае месца» ў культуры, прасторы і часе, але гэта «месца» яго не можа ў сваёй большасці задавальняць, таму што не зададзена ім самім у працэсе пражывання.

У нечым трэба пагадзіцца з выказваннем удумлівай рускай паэтэсы Алесі Мікалаевай, якая гаворыць пра «пачуццёвую беспачуццёвасць» чалавека сучаснай эпохі постмадэрнізму, аб яго сардэчным адміранні, якое адбываецца на фоне пачуццёва-свавольнага разгулу бессэнсоўнасці: «Такі чалавек не любіць, — даводзіць паэтэса — ён толькі «займаецца каханнем. Ён не стварае, а толькі «самавыражаецца», ён не прымірaецца, а толькі імкнецца прыстасавацца… Ён не раскрывае ў сабе вобраз Божы, а толькі робіць сабе імідж. Ён нават не гуляе, а толькі «вядзе» гульню». У агульнай атмасферы дэградацыйных працэсаў апошніх дзесяцігоддзяў, на думку расійскага філосафа М. Блюмеранца, «паскоранымі тэмпамі ідзе працэс катастрафічнага вымывання чалавечага ў чалавеку, выраджэнне яго духоўнай прыроды, дэградацыя ўласцівай яму волі да творчасці».

Для пераадолення сучаснага глыбокага сацыяльна-духоўнага крызісу патрабуецца як мага хутчэй усвядоміць і адаптаваць сацыяльна-гістарычную і маральна-псіхалагічную прыроду гэтага духоўна-быційнага правалу грамадства і мабілізаваць усе інтэлектуальныя і мастацка-творчыя сілы і рэсурсы, каб пашукаць, распрацаваць, і ажыццявіць аптымальную на сёння стратэгію жыцця чалавека, адэкватную яго высокаму прызначэнню. Менавіта мабілізуючая пазіцыя любой творчай асобы, што не расслабляе, а імкнецца праўдзіва паставіць перад чалавекам жорсткія пытанні быцця і небыцця, выконвае канструктыўна-арыентуючую ролю, мае права на ролю месіі, а не творчы зуд-сурагат майстроў маскультуры, якія ў шалёным азарце стараюцца падсунуць дэструктыўна-дэзарганізуючую пілюлю «наркатычнага» самазаспакаення таму, хто збіўся са шляху.

Змены, прыўнесеныя ў сучаснае жыццё, шмат у чым — вынік далейшага нашага жадання ўклініцца ў авангардную цывілізацыйную парадыгму развіцця на прыкладзе заходніх стандартаў і каштоўнасцей. У такім пераходным крызісным працэсе большасць сучасных людзей пакуль адчуваюць сябе толькі вінцікамі нейкага магутнага механізма, у які яны ўкручаны без усякага выразнага для іх сэнсу і значэння. Новы свет імі ўспрымаецца ў выглядзе рознакаляровых, не звязаных між сабой карцінак, што ўяўляе сабой мазаічны, а найчасцей нават толькі чорна-белы калаж. Чалавек непазбежна адчувае сябе пакінутым, адасобленым ад якогасьці незразумелага для яго кода руху рэчаў у свеце, які ў сваёй аснове ўтрымліваецца на прынцыпах энтрапіі, фрагментарнасці, разарванасці. Такой паўстае сучасная рэальнасць і ў мастацкай прасторы шмат якіх беларускіх празаікаў. І падобны погляд мастакоў слова на навакольную рэчаіснасць, на быційную аснову духоўных і сацыяльных працэсаў шмат у чым правамерны.

Няма ўжо тых адзіных, усеахопных, універсальных прынцыпаў, пры дапамозе якіх чалавек мог уладкаваць сябе ў сацыяльнае і культурнае жыццё грамадства. Не існуе агульнай і безагаворачнай веры ў «Бога, цара і Айчыну», патускнела і знікла вера ў «перамогу сусветнага пралетарыяту», яшчэ не выпрацавана прынцыповая і выразная дзяржаўная ідэалогія. У большасці сваёй чалавек аддадзены ва ўнутраным быцці самому сабе, а ў знешніх зносінах сутыкаецца сам-насам са стыхіяй квазірыначных працэсаў. Гэта выштурханасць з ранейшых духоўна-быційных ячэек вымушае паступова, але неад'емна шукаць і знаходзіць асабісты сэнс жыцця і прыналежнасць індывідуальнага месца прызначэння ў свеце.

Гэта тое, да чаго быццам чалавек і імкнуўся і за што змагаўся ўвесь гістарычны час — за ўласную свабоду, за магчымасць самому вызначаць свой шлях, самастойна фармуліраваць свае мэты, задачы і перспектывы ў сваёй жыццёвай прасторы. З другога боку, такая свабода часта ўспрымаецца людзьмі вузка і аднапланава, таму што не атрымала сур'ёзнага ўспрыняцця іншая важнейшая антыномія быційнага існавання свабоды — паняцце адказнасці.

Дзейсная свабода існуе толькі там, дзе існуе паняцце свабоднай адказнасці за свае дзеянні, думкі і ўчынкі. Там можа і існаваць пачуццё чалавечай годнасці. І чым большая адказнасць за магчымае зло, тым больш чалавек свабодны. У сваю чаргу высокае пачуццё годнасці найперш узнікае толькі там, дзе пачуванне

вінаватасці абсалютнае, а заслугі адносныя, дзе кожны сам сябе вінаваціць за свой лёс.

Сапраўдная свабода — гэта здатнасць падняцца над сітуацыяй. У гэтым кантэксце асаблівую каштоўнасць набывае форма і працэс рэалізацыі свабоды мастакамі слова. Чалавек, асабліва творчы, як асобны індывід ніколі не раствараецца поўнасцю ў самім працэсе існавання, ён апрыёрна можа быць толькі чыстай функцыяй, неабходнай для захавання цэласнасці. У стане адзіноцтва і абстрагавання ад свету з глыбіні ўнутранага свету мастак мае магчымасць пранікнення ў так званы антысвет ці ў прастору «Нішто» (па Хайдэгеру).

У крызісныя перыяды гісторыі, калі ідзе складаны працэс індывідуалізацыі, звязаны з пераацэнкай былых каштоўнасцей жыцця, кожная асоба сутыкаецца са сваім Нішто. Нішто — гэта пустата, пагранічны стан быційнай прасторы. Яна прысутнічае кожным разам, калі рушыцца вера ў тыя ці іншыя культурныя і жыццёвыя ідэалы і звышнаратывы. У нейкім сэнсе Нішто — існаванне па-за светам. Яно гаворыць толькі аб тым, што ёсць свет, і гэтым самым вызначае значнасць яго як прыстанішча, схованку чалавека ад усяга таго ж Нішто. Але з таго часу, як свет стаў успрымацца толькі сукупнасцю існага, якому як сродку існавання Нішто не прыдае каштоўнасці звонку, ён быццам становіцца адзінай каштоўнасцю, а цывілізацыя — самамэтай. Але калі гэта і так, цывілізацыя ёсць самамэта, адзіны спосаб функцыянавання свету, то яна страчвае свой асабісты сэнс — сэнс быць сродкам існавання. У гэтым абсурдным становішчы самазнішчэння цывілізацыя не мае моцы пазбавіць прэтэнзію чалавека на сэнс свайго існавання, абмежаваць яго суб'ектыўную свабоду да трансцэндэнцыі. З тых, хто найбольш здатны «сваё Нішто», свой комплекс перажыванняў, гарэння, болю душы і сэрца, інтэлектуальнага самакапання пераплавіць у магму суб'ектыўнага малюнка свету, — безумоўна, з'яўляецца крэатыўная асоба мастака слова.

У сучасных умовах, калі адбыўся сур'ёзны збой у веры чалавека да ранейшага метанаратыву, пабудовы камуністычнай фармацыі, па пэўных ідэалагічных і навуковых лякалах, якія не змаглі прапанаваць выразных і вартасных спосабаў паляпшэння жыццёвых праблем — усё гэта правакуе і спіхвае чалавека на індывідуальны пошук асабістых меркаванняў аб сэнсе існавання. І хоць ў крызісны перыяд гісторыі і не перарываецца працэс ідэалагізацыі светапогляду людзей, але ж галоўную ролю пачынаюць адыгрываць суб'ектыўныя, індывідуальна-інтымныя практыкі светаразумення. Ідзе актыўны працэс сутыкнення і кансалідацыі розных асобасных міфалагем, у тым ліку і ў форме мастацка-тэкставых практык. Міфалагема ў нашым паняцці — гэта суб'ектыўны міф, які імкнецца даць індывідуальны погляд чалавека на сусвет і месца чалавека ў ім.

Міфалагізм у сучаснай беларускай прозе, з нашага пункту гледжання — з'ява зусім пэўная. Міфалагема становіцца своеасаблівым метадалагічным прыёмам для пісьменнікаў, пры дапамозе якога яны дадзеную рэчаіснасць жадаюць дыскрэтна ўпарадкаваць у сваю адчужаную, суб'ектыўна створаную карціну свету. Па-словах рускага філосафа А. Лосева: «Міфічная адчужанасць ёсць найперш адсутнасць сэнсу і ідэі штодзённых фактаў, але не іх фактычнасці…»

У міфалагеме рэфлексуючая асоба спрабуе шматстайнасць сацыяльных фактаў і эмоцый «схопліваць», аб'ядноўваць у адзінае, цэласнае. Праз катэгарыяльны апарат міфалагемы як бы ідзе працэс разгортвання вобраза быцця асобы шляхам той ці іншай размалёўкі рэчаіснасці. Чым больш эмацыянальна і сэнсава выразна пададзены малюнак жыцця, тым мацней аўтар ужыўся ў той фон, які яго акаляе і тым бліжэй ён да праблем паўсядзённасці. Карыснасць такога мастацка-крэтыўнага падыходу ў тым, што ён дэмакратызуе творчы працэс. У сапраўднасці ніхто не ведае да канца дакладна, што ёсць на самай справе гэты свет, але ў кожнага ёсць права выбраць для сябе пастулаты і ідэі, якім можна давяраць.

Гэты давер да жыцця вельмі блізка стасуецца з пошукам мэты яго, бо ў ёй зацікаўлена ўнутраная сутнасць асобы. Іншая справа, што залежнасць індывіду-

ума ад тых ці іншых сімвалаў і вобразаў рэчаіснасці робіць яго не свабодным ад іх. Аднак толькі жывы чалавечы імпульс можа дакладна вызначыць сапраўдную накіраванасць ісціны свету, яго гуманістычную аснову. Міфалагема не дае, ды і прынцыпова не можа даць поўнага і канчатковага адказу на пытанні быцця і небыцця, яна ўсяго тонкай абалонкай прыхоўвае зрок ад бездані бяссэнсоўнасці свету і жаху Нішто.

Выразную схільнасць да стварэння міфалагемнай мастацкай карціны свету можна наглядаць у творчасці Ю. Станкевіча і А. Казлова. Так у сваёй аповесці «Апладненне ёлупа» Ю. Станкевіч стварае трафарэтны, ідэйна заангажаваны сюжэтны канфлікт паміж таталітарнай сістэмай і асобай. Галоўны герой твора інжынер-канструктар Янка Ласкоў, сын рэпрэсіраванага. Зведаўшы ўсе нягоды жыцця абмяжаванага ў правах члена сям'і ворага народа, ён у сэрцы затаіў вялікую крыўду на грамадства, у якім жыве. Яму прыходзіцца штохвілінна хаваць сваю сапраўдную біяграфію. Яго думкі, перажыванні, паводзіны пад уздзеяннем парушанай псіхікі неадольна скіраваны на пошук негатыўнага ў акаляючым асяроддзі. Ласкоў хваравіта апанаваны ідэяй-фікс — помсты за адабранае шчаслівае дзяцінства, за загубленую сям'ю, за скалечанае жыццё. І калі надараецца выпадак адпомсціць, з захапленнем прымаецца за справу. Яго, як таленавітага інжынера-будаўніка, прыцягваюць да сакрэтнай работы па ўзвядзенні ў Маскве будынка-хмарачоса, які павінен быў сімвалізаваць грандыёзнасць, велічнасць і моц новага ладу. Яго канкрэтны ўдзел у будаўніцтве заключаўся ў тым, каб спраектаваць і практычна разлічыць вяршынны шпіль гмаха, што павінен быў паўстаць у магутнай маналітнай форме фігуры правадыра.

Азнаёміўшыся з праектнымі дадзенымі статуі, Ласкоў анямеў ад таго, колькі цэменту і бетону неабходна будзе патраціць на гэта. Працуючы інжынерам-праекціроўшчыкам на многіх будоўлях, ён мог увачавідкі назіраць гаротны і галечны стан народа, быў сведкам страшэннай няўтульнасці барачнага жылля, у які загнана было амаль большасць насельніцтва. Азлобленасць на несправядлівасць і абсурднасць такога існавання прыводзяць да таго, што Янка збіраецца зрабіць у разліках такую незаўважную падтасоўку, пры якой велічная постаць правадыра-істукана не зможа доўга ўтрымацца і рухне, раструшчыўшы і ўсю пабудову. Ласкоў разумее, што зрабіць гэта будзе крайне складана, бо за кожным адказным работнікам будоўлі адбываецца татальная слежка, кожны пад пагрозай смерці нясе адказнасць за даручаны ўчастак работ. Атмасфера поўная трывогі, нематываванасці і скаванасці людскіх паводзін, што пануе на будоўлі, у творы сімвалізуе агульны фон жыцця краіны.

Праўда, аўтар стварыўшы псіхалагічна замкнуты вобраз героя, які амаль не кантактуе з іншымі, а толькі знаходзіцца ў свеце рыгарыстычнага ўнутранага жыцця, якое вельмі агрэсіўна эмацыянальна накіравана на знешняе асяроддзе, то і праўда пратэсту і ахвярнасці персанажа шмат у чым паўстае праявай звужанасці светапоглядных пазіцый і сухасцю эмацыянальных адносін, што наглядна пацвярджаецца нават ва ўзаемаадносінах Янкі з самым блізкім яму чалавекам, з якім болей за ўсё кантактаваў на будоўлі — паварыхай Надзяй.

За ўвесь час сустрэч з жанчынай, якая штодзень прыносіла яму ў вагончык ежу і любілася з ім, Ласкоў амаль нічога не даведаўся пра яе ранейшае жыццё. Усё ў пачуццях, думках і паводзінах яго зацягнута чорнай папонай недаверу, трывогі і крыўды. Здаецца, растапіць гэты лёд унутранай скаванасці Янку не па сілах. Той глыбокі эмацыйны стрэс, пачуццё здранцвення і аслупянення, які малады хлопец перажыў, калі зірнуў на каменнага істукана, выцягнутага трактарам з балота, назаўжды пакінуў у ім псіхалагічны бар'ер-траўму. Цікавай пісьменніцкай распрацоўкай з'яўляецца тэмпаральна-цывілізацыйнае супастаўленне ў творы двух сімвалаў — гэтага ідала часоў паганства і статуі-гіганта правадыра-атэіста ў сярэдзіне XX стагоддзя.

Сюжэтна-фабульны факт будаўніцтва гіганцкага дома з фігурай правадыра мае рэальную аснову. Па загадзе Сталіна на месцы разбуранага ў 30-я гады храма

Хрыста Выратавальніка планавалася ўзвесці менавіта такі хмарачос, які сімвалізаваў бы сабой магутнасць і веліч Краіны Саветаў. Толькі падзеі Вялікай Айчыннай вайны перашкодзілі ажыццяўленню гэтай задумы.

Звесткі ж аб тым, што ў той ці іншай мясцовасці знаходзяць каменныя постаці ідалаў язычніцтва і іншыя атрыбуты той пары, часта мільгаюць на старонках газет. Гэта сведчыць толькі аб тым, што мінулае ніколі не знікае канчаткова. І тыя метамарфозы сучаснасці, якія быццам нечакана звальваюцца на нас — толькі факт нашай слабай, лянотнай свядомаснай працы над уласным жыццём і няздатнасці ведаць гісторыю свайго народа.

Дзве цывілізацыі, як вынікае з мастацкай ідэі Ю. Станкевіча, якія функцыянуюць па правілах і канонах стварэння і служэння зямным істуканам-павадырам, маюць энергетыку магутнай пераемнасці і пераклічкі. Яны быццам капіравальны адбітак на гістарычнай паперы скрыжаляў беларускага народа. Штораз прымушаюць рабіць цывілізацыйныя збоі ў пабудове гарманічнага грамадства. Праўда, фінал аповесці падаецца ў трагедыйна-песімістычным ключы. За Янкам, пасля зверскага забойства яго каханкі крымінальнымі элементамі, усё ж прыязджае «чорны воран», і пазней Ласкоў у вайну памірае ў лагерным бараку ГУЛАГа. У апошнія хвіліны жыцця вязень даведваецца, што будынка з ідалам-правадыром у Маскве няма. Гэта, думаецца, крыху суцяшае боль смерці героя твора. Янку, здаецца, хацелася б паверыць, што магчыма і ён зрабіў важкі ўнёсак у такі расклад падзей.

Аднак пісьменнік не верыць у прыроду такога лёгкага вырашэння праблемы барацьбы з таталітарнай сістэмай падаўлення свабоды чалавека. Ён сумняваецца, што адчайным змаганнем герояў-адзіночак можна перамагчы і разбурыць несправядлівы лад дзяржаўнага кіравання. Але доля такім героям не толькі суцяшэнне. Няхай наступніца Ласкова знайшла яго дзённік і выправіла памылкі праектавання, няхай асноўнай і агульнапрынятай версіяй даўгабуда лічацца падзеі вайны, але ў выніковым раскладзе дзеянні Янкі перамаглі.

Калі цёмнай ноччу Ласкова запіхвалі ў аўтазак, ён на хвіліну спыніўся і гучна прамовіў, што ён Янка Ласкоў і назваў дату свайго нараджэння. Пераадолеў у сабе страх і боязь мець сваё сапраўднае аблічча, сваё імя, а агучаная дата толькі яшчэ больш пацвердзіла той момант яго жыцця, калі ён змог па-сапраўднаму нарадзіцца для быційнага ўсвядомлена-адказнага жыцця. Кідаецца, праўда, у вочы тое, што пісьменніку не заўсёды ўдаецца псхалагічна тонка і доказна, з паглыбленым аналізам сюжэтнай логікі разваг і паводзін героя, дынамікі яго ўнутраных імпульсаў і перажыванняў будаваць стрыжнявую ідэю аповесці.

Сухую стылістычную плынь матывацыйных рухаў душы персанажаў Ю. Станкевіч імкнецца кампенсаваць эстэтычна-апісальным смакаваннем займальна-эратычных ці паказам зніжана-гіпербалічных малюнкаў сюжэтнай канвы. Неапраўданае нагнятанне негатыўнай атмасферы, груВасткай ірэальнасці ў паказе рэчаіснасці, амаль поўнасцю падрывае сам факт магчымага выспявання ў свядомасці героя ўнутранага і знешняга супраціўлення таталітарнай сістэме.

У многім гэтыя недахопы можна патлумачыць тым, што пісьменнік у раскрыцці сваёй мастацкай міфалагемы, пакуль не мае дастатковага сэнсавага і эпічнага мыслення, якое б дало прастору для больш шырокага выяўлення эстэтычнай і духоўнай прасторы мастацкага руху персанажаў. Прычым гэты недахоп выяўна наглядаецца амаль ва ўсіх аповесцях Ю. Станкевіча. Ідэйны канструкт міфалагемы яго твораў выразна дамінуе над характарам мастацкай праўды. Гэта, аднак, зусім не адымае вялікі вартасны патэнцыял мастацкіх дасягненняў Ю. Станкевіча ў маральна-ідэйным пошуку асобы-героя, якая б у сваіх вызначальных рысах характару прычынілася да пераадолення негатыўных духоўных працэсаў сучаснасці.

Заўсёды, у часы «перазагрузкі» меганаратыўных сацыяльна-быційных сістэм адбываецца інтэнсіўны працэс пераразмеркавання розных пластоў мастацка-ідэйнага мыслення. Адным з самых актыўных культурных мацерыкоў у такіх умовах

становіцца міфалагічнае светабачанне. Пасля гістарычнага перыяду асляплення ўспышкай рацыянальна-навуковага цывілізацыйнага жыцця, чалавек апыноўваецца перад задачай пошуку больш дасканалых інструментаў, каб правільна сябе ацаніць у свеце. Міф у такіх варунках — незаменны атрыбут. Як мы ўжо звярталі ўвагу, міф валодае адной вельмі карыснай якасцю. Ён дазваляе глядзець на свет рэчаў адсутна. Нейкім чынам не прыдаваць рэчам свету павышаную рацыянальную значнасць. Міф моцна імкнецца расчапіць гэтыя рэчы, прыдаць ім іншую, чым у рэальнасці, форму існавання. Тым самым садзейнічае стварэнню магчымых новых субстанцыяльных адзінстваў.

Наша размова пра міфалагізм і яго прыроду пачата для таго, каб падкрэсліць ягоную значную ролю ў сучасным літаратурна-мастацкім жыцці. Многія пісьменнікі апошнім часам вельмі шырока аддаюць даніну гэтаму культурна-мастацкаму феномену. Міфалогія ў некаторых празаікаў стала адным з вызначальных метадалагічных прыёмаў у стварэнні мастацкай карціны свету. Адзін з такіх пісьменнікаў А. Казлоў. Амаль ва ўсіх яго творах так ці інакш прысутнічаюць элементы міфалагічнага плана. Прывядзём для прыкладу толькі такія знакавыя творы, як раман «Юргон», аповесці «Дзеці ночы», «Раздарожаны саракоўнік», «Я і Прарок-Уродка».

У мастацка-вобразнай сістэме А. Казлова міфалагічныя атрыбуты заўсёды нясуць павышаную маральна-светасузіральную функцыю. Іх наяўнасць робіць дзеянні і ўчынкі персанажаў такімі, калі яны ўжо не паддаюцца тлумачэнню агульнапрынятай у наяўным соцыуме ўстаноўцы. Літаратурны герой у нейкім сэнсе западае ў прастору іншай светабудовы, становіцца правадніком-каналам у іншасвет. Такое стаўленне да персанажаў вымагае логікай мастацкага самаруху міфалагічным героям рабіцца аўтаномнымі дзеючымі героямі, дзеянні якіх цяжка пралічыць сюжэтна-фабульным мысленнем.

Можа таму некаторыя творы, як, для прыкладу, аповесць «Раздарожны саракоўнік» па будове нагадваюць урывачна-стыхійны ход падзей і разваг, што падобна водбліскам маланкі, якая на імгненне прарываецца да свядомаснага ўспрыняцця. Не дарэмна галоўны герой Антон Яновіч, сучасны саракагадовы беларус-гараджанін, а ў мінулым просты вясковы хлапчук, прызнаецца сам сабе ў тым, што трэба «хоць раз за жыццё наступіць на свой цень». Цень успрымаецца персанажам найперш як тое магутнае падсвядомае сутарэнне чалавечай псіхікі, дзе закадзіравана і прыхавана глыбінная тайна жыцця роду кожнага з нас.

Анатоль Казлоў умее даволі філігранна растварыць у мораве мастацкай плыні ананімную рэалістычнасць міфалагічных персанажаў. Так у аповесці «Я і Прарок-Уродка» падае дзве паралельныя лініі жыцця галоўнага героя, аспіранта Андрэя. Першая — рэальны свет інтэрнацкага пражывання яго, напоўнены напружанай навуковай працай і не менш гарачым пачуццём да суседкі-аспіранткі Лары.

Другое жыццё Андрэя патанае ў сне-цемры ірацыянальна-містычнага праклёну ў вобразе старога Уродкі, перакінутага цыганам Ахрэміем на яшчэ маленькага Андрэйку з глухой беларускай вёсачкі. Разам з гэтым праклёнам перадаўся яшчэ і дар да прадбачання далейшых жыццёвых падзей і магчымасць уплываць на іх. Аднак такая магчымасць валодання пазачалавечымі сродкамі становіцца сапраўднай хваробай і няшчасцем Андрэя. Фенаменальныя магчымасці ствараюць глыбокі разлом у яго душы. Жаданні жыць па законе ўласнага досведу, пачуцця, сумлення, натыкаюцца на рацыяналізавана напоўненае песімістычнае веданне пра свет старога Уродкі, які ўвесь час хоча расказаць і паведаць хлопцу «праўду» ў апошняй інстанцыі. Драматызм сітуацыі ўзмацняецца яшчэ і тым, што каханне да Лары, дзяўчыны з тонкім эстэтычным густам і шырока адукаванай, але з выразна акрэсленым арэолам дзейснай праграмы слізгання па жыцці ў пошуку асалод і дабрабыту, заканчваецца горкім расчараваннем. Андрэй даведваецца аб шматлікіх здрадах каханкі яму. Паводзіны Лары прыводзяць да таго, што ён дзесьці нават пачынае згаджацца з Уродкам, што ў свеце няма нічога такога, чым можна было даражыць, і што б мела пад сабой нейкі рэальны сэнс.

Але, думаецца, гэта толькі хвілінная слабасць маладога вучонага. Гнеўны крык душы, які гучыць ў фінале аповесці: «А як мне далей жыць? Чаму радавацца, з чаго смяяцца? Мо толькі з сябе? Чуеш ты мяне, кляты Прарок-Уродка?» — не дазваляе сумнявацца ў тым, што герой знойдзе ў сабе моц перамагчы душэўную немач, якую нясе Уродка, сімвал нашага звышрацыянальнага свету, які імкнецца завалодаць усёй прасторай душы і сэрца чалавека.

Сучасны чалавек, па справядлівай думцы А. Казлова, апынуўся і знаходзіцца ў стрэсавым стане сацыяльна-духоўнага шоку, часта не знаходзячы шляхоў для выхаду з гэтай лабірынтнай сітуацыі. Пераходная эпоха крызіснага цывілізацыйнага, эканамічнага, прыроднага і духоўнага катаклізму ставіць індывіда перад неабходнасцю такога выбару, калі ён трапляе ў становішча высокай ступені нявызначанасці свайго погляду на шматлікія выклікі часу, не знаходзіць магчымасці іх вонкава і ўнутрана ўсвядоміць, асэнсаваць, знайсці правільнае рашэнне, паспрабаваць даць адэкватны адказ. Людзі ўсё часцей пачалі саслізгаць у «*прастору зазора*», «*становішча паміж*». Яны часта бездапаможна «завісаюць» паміж living рознымі полюсамі дылемы выбару, і ў выніку патрапляюць у пастку безадказнасці, быційнай пустаты, хаатычнай турбулентнасці. Гэтаму паскорана садзейнічае этычная бязчасавасць пераходных эпох.

Пераходная эпоха — гэта эпоха змененага часавага ўспрыняцця чалавекам рэчаіснасці, ён як бы ўваходзіць у прастору іншых часава-прасторавых каардынат, механізм работы якіх яшчэ ім слаба і недастаткова выразна ўспрымаецца і ўсведамляецца. Зусім нядаўна дастаткова надзейным компасам паводзін у грамадстве, здавалася, служылі маральныя, прававыя, рэлігійныя, этнічныя арыенціры. А зараз яны шмат у чым мадыфіцыраваны і больш таго, нярэдка, поўнасцю дэфарміраваны, зламаны нябачнай на просты погляд, часта ананімнай сілай грошай і ўлады.

Гэта часам прыводзіць да масавых псіхічных збояў у свядомасці людзей, прымушае іх мозг да павышанай энергетычнай працы ў пошуку рацыянальнага адказу на выклікі неардынарнай крызіснай рэальнасці. Менавіта такога героя са зменены работай мозга і раскрывае А. Казлоў у сваёй аповесці «Горад у нябёсах (учора, сёння і заўтра)». Антак Перуновіч, 32-гадовы беларускі інтэлігент-бомж, адчуў у сабе дзіўную здольнасць бачыць над горадам, у якім ён жыве, яшчэ адзін горад — горад у нябёсах. «У горадзе над горадам няма метро, але таксама растуць дрэвы і вазніцы паганяюць коней доўгімі бізунамі, паненкі там не носяць міні-спадніцы і ніхто не ўключае электрычнасць, калі заходзіць сонца ды апускаецца ноч. Вышэйшы горад не любіць тлуму, не забруджвае паветра. Там кожны сам сабе гаспадар, там…»

Вышэйшы ідэальны горад у нябёсах — гэта горад дацывілізацыйны, даіндустрыяльны, горад-казка. Антака ён найбольш вабіць тым, што жыхары надзелены асаблівай якасцю — адчуваць вечны час. Вечнасць гэтая — нейкая бясконцая працягласць часу, а здольнасць якаснага ўспрыняцця часу і падзей, дзе час ачалавечаны сваёй сэнсавай адказнасцю за дзеянні. Уменне чалавека хоць паступова, але мэтанакіравана расстаўляць прыярытэты жыцця, непахіснае жаданне бачыць і аналізаваць сутнасную прычыну сваіх і чужых паводзін і з'яўляецца па-сапраўднаму адзіным правільным накірункам нават у гэтым лабірынтна-хаатычным існаванні.

Падарожжа героя аповесці ў нябесны горад, яго знаёмства з прыгожай дзяўчынай-праваднікам, ствараюць моцны мастацкі эфект «сціскання» часу, фабульна-сюжэтнага і гістарычнага, што надае выразную кантраснасць у паказе нябеснай і зямной гарадской рэальнасці. Нябесная рэальнасць становіцца дамінуючым сімвалам, і асноўным арыенцірам у пошуку гармоніі і сэнсу. Не дарэмна ж яшчэ І. Кант патэтычна і натхнёна сцвярджаў, што яго ў жыцці найбольш захаплялі і вабілі зорнае неба ў вышыні і ўнутраны свет чалавека.

Беларуская літаратура на сучасным этапе змагла, дзякуючы сваім лепшым майстрам слова, выразна зафіксаваць крызісны пераходны характар нашай эпохі.

Духоўным эпіцэнтрам дадзенай экзістэнцыянальнай сітуацыі з'явіўся канфлікт паміж ідэаламі і каштоўнасцямі цывілізацыйнай парадыгмы жыцця і аксіялагічным патэнцыялам культурнага светаадчування. У прозе А. Федарэнкі, А. Казлова, Ю. Станкевіча і інш. знайшлі адлюстраванне дамінантныя рысы індывіда перыяду антрапалагічнага зруху, які шмат у чым апынуўся ў стане анталагічнай пакінутасці, быційнага адзіноцтва.

Вельмі важным паўстае задача заглыбіцца да тых унутраных, суб'ектыўных матываў-імпульсаў герояў, якія могуць задаць новы маральна-духоўны дыскурс у пошуку гармоніі свету. Актуальнай прыкметай сучасных мастацкіх практык, на наш погляд, з'яўляецца ўнутраная патрэба пісьменнікаў скіравацца да карпатлівага пошуку ў вызначэнні такога «сэнсавага поля» сучаснага героя, дзе яго жаданне ці нежаданне знайсці магчымасць прарыву да трансцэндэнтных каштоўнасцей, з'яўлялася б яго індывідуальным высілкам.

Цікавай падаецца і такая акрэсленая мастацкая тэндэнцыя аўтараў аповесцей — убачыць у асэнсаванні праблемы чалавека і часу, як адной з галоўных задач па выкрышталізацыі ў ім гэткага суб'ектыўнага алгарытму пачуцця свабоды, дзе яна неадрыўна была б завязана на ўсведамленні асобай і сваёй адказнасці за яе наступствы. Чалавек не павінен «бегчы ад свабоды», а наадварот мець магчымасць у любых абставінах зрабіць амаль кожны лакальны свой рух душы і цела такім, каб хоць крыху пашыралася б рэалізацыя свабоды ў будучым, трансліруючы яе ў вечнасць..

У сённяшніх літаратурных перыпетыях і мастацкай практыцы на новым цывілізацыйна-крызісным вітку развіцця, калі паскорана вымывае маральна-каштоўнаснае «азонавае» покрыва папярэдняй культуры, духоўны чалавек зноў вымушаны быць выціснутым на перыферыю жыцця, у прастору пакінутасці і быційнага адзіноцтва. Знамянальна, што ў такіх умовах чалавек атрымлівае ў такі перыяд пэўную часавую паўзу, каб зрабіць адказным далейшы выбар на шляху атрымання светапоглядных арыенціраў.

Спрадвечная прага чалавека зрабіць як мага больш за мінімальны час стала прычынай усё большага «сціскання» тэмпаральнай гістарычнай і мастацкай трыяды – мінулае, сучаснае, будучае, «спаўзанне» яе ў храналагічную лакуну «тут і зараз», што несумненна прыводзіць да больш пільнай увагі і засяроджанасці над аналізам і спазнаннем працэсу «пошуку страчанага часу», сімптомы якога яшчэ былі заўважаны творцамі на пераломе XIX і XX стагоддзяў (М. Пруст «У пошуках страчанага часу»).

Менавіта жанр аповесці ў сучасных умовах стаў найбольш запатрабаванай мастацкай формай дзеля засваення новай сацыяльна-культурнай парадыгмы, галоўнай прыкметай якой — працэсы глабалізацыі і паралельна-антаганістычна звязаны з ім працэс новага паскоранага пошуку нацыянальнай самаіндэфікацыі. Разам з тым, аповесць як найбольш рухомая мастацкая форма і структура ў спасціжэнні лакальных паглыбленых матываў і канфліктаў чалавечага быцця імкнецца пільна засяродзіцца на тыгле «імгненні жыцця», каб пераплавіць у ім усю гаму чалавечых эмоцый, пачуццяў, перажыванняў і мар, дзеля вызначэння магчымых, аптымальных шляхоў для гарманізацыі наспелых праблем і канфліктаў эпохі.

Такі характар спасціжэння рэчаіснасці назіраецца ў аповесцях апошніх двух дзесяцігоддзяў такіх празаікаў, як А. Федарэнка, А. Казлоў, А. Наварыч, А. Брава, А. Асташонак, Б. Пятровіч, Ю. Станкевіч і інш. Іх аповесці пранізвае неспатольнае жаданне стварыць свой, найбольш прыдатны для творчай індывідуальнасці, мастацкі ракурс і модус часу, які б стаў сапраўдным прарывам да трансцэндэнтнага небасхілу быційнай плыні, што робіць чалавека неад'емнай, дабрадзейнай часткай сусветнага векавечнага працэсу развіцця, не прыніжаючы і не завышаючы яго ролі ў жыццёвай самарэалізацыі.

**Мікола ГІЛЬ**

# «МЕЖДУ ПРОТЧЫМ...»

*Запісы тутэйшага*

## Фатальныя даты, ці ўсяго толькі дзіўныя супадзенні?

Змалку чуў: ёсць дзівосы на свеце. Не надта верыў у гэта, але ўсё-такі трошкі і верыў. Прынамсі, хацелася верыць. Бо — як жа не верыць? У дзіцячым узросце свет без дзівосаў не бывае. Яны пачыналіся на кожным кроку: за гародам, за аселіцай, за небакраем. Што ўжо тады казаць пра ўвесь свет?!

З гадамі дзівосаў менее, і ў старасці іх ужо амаль не застаецца наогул. Бо — што можа здзівіць старога, лоўленага вераб'я? Анічога, бадай. На свеце пажывеш, дык і Кузьму, сынку, бацькам назавеш. На ўсё ўжо глядзіш памяркоўна, цвяроза, разважліва: ат, бывае (было) і не такое.

Ды ўсё ж чалавечы розум — дзіўная штуковіна, не можа ён без таго, каб не здзіўляцца і не захапляцца, не ўражвацца чымсьці незвычайным, незразумелым, невытлумачальным. Як кажуць, хлебам не кармі, а дай паздзіўляцца. Асабліва ж тым, ці з таго, што й сапраўды выклікае здзіўленне ды змушае думаць пра невымоўную загадкавасць свету. Тым больш, калі гэтыя загадкі змушаюць зніякавець.

Ну вось, калі ласка.

Напалеон нарадзіўся ў 1760 годзе.

Гітлер нарадзіўся ў 1889 годзе.

Розніца — 129 гадоў.

Напалеон прыйшоў у Вену ў 1809 годзе. Гітлер прыйшоў у Вену ў 1938 годзе. Розніца — 129 гадоў.

Напалеон прыйшоў да ўлады ў 1804 годзе, Гітлер — у 1933-м. Розніца — 129 гадоў.

Напалеон напаў на Расію ў 1812 годзе, Гітлер — у 1941-м. Розніца — 129 гадоў.

Напалеон прайграў вайну ў 1816 годзе, Гітлер — у 1945-м. Розніца — 129 гадоў.

Абодва, да ўсяго, прыйшлі да ўлады, калі ім было па 44 гады.

Абодва напалі на Расію, калі ім было па 52 гады.

Абодва прайгралі вайну, калі ім было па 56 гадоў.

Міжволі скажаш: дзівосы дый толькі!

А вось яшчэ шэраг такіх жа нечуваных супадзенняў.

Лінкольн стаў прэзідэнтам ЗША ў 1860 годзе.

Кенэдзі стаў прэзідэнтам ЗША ў 1960 годзе.

Розніца — 100 гадоў.

Абодва былі забіты ў пятніцу. Абодва — у прысутнасці жонак.

Пераемнікам Лінкольна стаў Джонсан.

Пераемнікам Кенэдзі пасля забойства стаў таксама Джонсан.

Джонсан, які заняў пасаду прэзідэнта ЗША пасля Лінкольна, нарадзіўся ў 1808 годзе.

Джонсан, які заняў пасаду прэзідэнта пасля Кенэдзі, нарадзіўся ў 1908 годзе.

Розніца — 100 гадоў.

Забойца Лінкольна Уіла нарадзіўся ў 1829 годзе.

Забойца Кенэдзі Освальд — у 1929-м.

Розніца — 100 гадоў.

Разумееш, вядома, што ўсё гэта — толькі сапраўды дзівосныя супадзенні, але, тым не менш, нельга не здзівіцца. Больш за тое, міжволі пачынаеш верыць у нейкую містыку, у невытлумачальную заканамернасць ці прадвызначанасць лёсаў і падзей. І пачынаеш шукаць штосьці падобнае бліжэй, вакол і каля сябе, сваіх блізкіх і знаёмых. І, як ні дзіўна, знаходзіш. І пачынаеш думаць, што нездарма сёй-той з вучоных-атэістаў пад старасць прыходзіў да веры ў Бога ці, прынамсі, у нейкую звышмагутную сілу, што кіруе светам.

Мо і праўда мы ўсяго толькі паддоследныя трусікі ў невідочнага і непадуладнага для спазнання Творцы Сусвету? Калі гэта праўда, дык — вельмі сумна. Што ж тады ўсе нашы мары, жаданні, памкненні, парыванні душы, боль і радасць сэрца? Аз есм раб і чарвяк…

*13 кастрычніка 2007 года.*

## І я замаўкаю…

Толькі што скончылася святкаванне юбілею Якуба Коласа: ускладаннем кветак да помніка на ягонай плошчы і ўрачыстым пасяджэннем і канцэртам у філармоніі. І там, і там не надта было людна: мала і пісьменнікаў, Коласавых пераемнікаў і нашчадкаў, мала і па-сапраўднаму адданых яму і ягонай неўміручай творчасці чытачоў. І са шчымлівым сумам згадваліся сапраўды дзяржаўны размах і ўвага, з якімі ў 1982 годзе адзначаліся стогадовыя купалаўскі і коласаўскі юбілеі — агульнабеларускія (і нават усесаюзныя) урачыстасці.

З таго, што гаварылася і друкавалася да 125-гадовых юбілеяў Янкі Купалы і Якуба Коласа, мала што запомнілася. Адзінае, бадай, што прынесла адзначэнне гэтых гадавін, дык пэўнае ажыўленне ўвагі да творчасці нашых песняроў, а найперш, мабыць, да трагічных варункаў іх жыццёвых і творчых лёсаў.

А лёсы іхнія былі сапраўды, нягледзячы на ўсю рознасць, аднолькава трагічныя. Уся розніца ў тым толькі, што Купала больш эмацыйна адгукаўся-рэагаваў на тыя ці іншыя праявы жыцця, а Колас, маючы іншую натуру, многае хаваў у душы, насіў у сабе. І цяжка сказаць адназначна, каму з іх было цяжэй. Ці лягчэй. Доля ім суджана была аднолькавая: гадамі маўчаць, альбо пісаць не тое, аб чым балела і плакала сэрца.

Акурат у першыя лістападаўскія дні, у якія 125 гадоў таму нарадзіўся Якуб Колас, трапіўся мне на вочы ягоны верш «Ноч пад Новы год». Трапіўся выпадкова. Пэўна, вока зачапілася за яго, бадай, усяго з тае прычыны, што не за гарамі новы, 2008 год. Прачытаў:

Замкнула зямля свой яшчэ адзін круг,  
Другі адчыняе.  
Маўчыць непрытульна заснежаны луг  
І пушча лясная.  
Мігаюць далёкія зоры ўгары,  
Як чыстыя росы,  
І ходзіць паважна мароз па бары,  
Злы, белавалосы.  
Глядзіць неласкава скляпенне нябёс  
На скутую зямлю,  
І Млечнага Шляху паблеклы пракос  
У холадзе дрэмле.  
У гэтым змярцвенні начной цішыні

Год Новы вітаю.
— Якою пуцінай вы пойдзеце, дні? —
Я моўчкі пытаю.
Маўчыць неабсяжны прастор-глыбіня
Без берагу-краю.
Маўчыць з ім і постаць наступнага дня,
І я замаўкаю.

Прачытаў і падумаў, што верш, па ўсім, так званага дакастрычніцкага перыяду творчасці паэта. Сумненняў не было. І сапраўды: ніякіх адзнак савецкага часу, не кажучы пра ягоны пераможны сцвярджальны дух. Ды штосьці ўсё ж змусіла зняць з паліцы Коласаў томік і паглядзець-упэўніцца. І якое ж было маё здзіўленне, калі ўбачыў, што верш датуецца… 1937 годам.

Божа мой! Аказваецца, не ў дарэвалюцыйным «змярцвенні начной цішыні» паэт вітае Новы год! І маўчыць постаць зусім не дарэвалюцыйнага наступнага дня, а дня — Савецкага, асветленага сонцам Сталінскай канстытуцыі!

І што паэт? Пачуў смяртэльна-ледзяное маўчанне наступнага, гэтак як і ўчарашняга, гэтак як і сённяшняга, дня і выдыхнуў-прашаптаў: «І я замаўкаю».

Ды за адзін гэты верш — здавалася б, зусім бяскрыўдны, проста настраёвы, лірычны верш — той парою можна было загрымець пад «расстрэльны», у неагалошаныя тады Курапаты.

Вось вам і Колас, не бунтар і не змагар паводле літаратуразнаўчых міфаў! Ведаў і разумеў Паэт усё. А што да «І я замаўкаю», дык — ратаваў сябе, сям’ю, родную мову і літаратуру, будучыню Беларусі, саму Беларусь!

Неўзабаве — Новы, 2008 год. Высакосны. Да ўсяго — год Пацука. Мой год, бо я, паводле ўсходняга календара, — пацук. Які ён будзе? Што прынясе? Маўчыць «постаць наступнага дня», і маўчанне гэтае вусцішнае, хоць і не магільнае, як у трыццаць сёмым. Тым не менш — і я замаўкаю…

*14 лістапада 2007 года.*

## Усё спадзяёмся, спадзяёмся, спадзяёмся…

А й праўда, ці ёсць такая — вясковая проза? Руская крытыка актыўна карыстаецца гэтым вызначэннем — «деревенская проза», «деревенская литература», «деревенщина», «писатели-деревенщики» і г. д. На самай жа справе, гэта проста добрая, «выкшталцоная» проза. Возьмем тых жа Бялова, Распуціна, Астаф’ева, Абрамава… Так, іх творы — пра вёску, і ў гэтым сэнсе яны сапраўды належаць да вясковай прозы. Нібыта, паводле свайго тэматычнага вызначэння. Але ж гэта наогул выдатныя творы рускага мастацтва слова, глыбока псіхалагічныя даследаванні чалавечай натуры наогул, мастацка-вобразны аналіз праблем сучаснага жыцця, зноў жа — жыцця наогул, а не толькі вясковага. І дзеля чаго гэтае падкрэсліванне — вясковая тэма? Ну а калі ў цэнтры рамана, скажам, вобраз заводскага інжынера — дык гэта што, заводская тэма? Калі гэты раман выдатны, дык ён проста ёсць выдатны твор літаратуры. І зусім слушна многія крытыкі адзначаюць (і чытачы, дарэчы, таксама, пра што шмат разоў пісала «Литературка»), што вясковая проза дала нам больш, чым сацыёлагі і эканамісты, разам узятыя. У тым сэнсе, што гэта акурат яна надзвычай глыбока даследавала (мастацкімі сродкамі, вядома) сацыяльна-бытавы ўклад пасляваеннай і паваеннай вёскі, паказала ўсю страшную трагедыю яе ў выніку гвалтоўнай і татальнай калектывізацыі і шматгадовай бязлітаснай эксплуатацыі і вынішчэння цягам наступных дзесяцігоддзяў. Вясковая проза — і гэта таксама яе заслуга — надзвычай шырока і востра паставіла пытанне аб узаемаадносінах чалавека і акаляючага асяроддзя, аб жахлівых выніках гаспадарання на зямлі чалавека-архараўца, якому цалкам усё роўна, што будзе пасля яго: хоць патоп, хоць — трава не расці. Карацей кажучы,

вясковая проза ў сілу сваёй мастацкасці не магла не адлюстраваць важнейшых, істотнейшых бакоў рэчаіснасці і працэсаў, што адбываліся ў нашым жыцці. І ўжо ў гэтым — яе вялікая вартасць і заслуга. А нельга не адзначыць і яшчэ адну, ці не галоўную акалічнасць. Вясковая проза ўзяла на сябе місію абароны і зберажэння народнай мовы. І калі гэта слушна нават у дачыненні да рускай мовы, дык што тады гаварыць пра нашу родную беларускую мову?!

У нас, папраўдзе, трошкі іншая сітуацыя. У нас, па вялікім рахунку, дык амаль уся літаратура, найперш, вядома, проза, вясковая. Так ужо сталася. Нават наша ваенная проза — таксама «вясковая», бо — не франтавая, а — партызанская пераважна. Бадай, нават выключна. Тым не менш, нават і ў нас яна ўсё ж не «чыста» вясковая. У цэнтры яе ўвагі ўсё ж не чыста вясковы чалавек-селянін, а — «сена на асфальце», чалавек, так бы мовіць, міжасяроддзя і міжчасся. Герой большасці нашых твораў жыве ў вёсцы, але моцна павязаны з горадам (праз дзяцей, сваякоў і аднавяскоўцаў, што сталі гараджанамі), ці калі жыве ў горадзе, дык — часта душою там, у роднай вёсцы, дзе нарадзіўся і ўзрос, дзе яшчэ дажываюць веку старыя бацькі, дзядзькі, жывуць браты і сёстры, былыя суседзі і аднавяскоўцы. І ўрэшце — якая ж гэта вясковая тэма? Гэта тэма народа нашага, унікальнага ў тым плане, што за нейкія два-тры дзесяцігоддзі па вайне ператварыўся з вясковага люду ў гарадскі — урбанізаваўся. Такіх тэмпаў урбанізацыі наўрад ці зведваў калі-небудзь які іншы еўрапейскі народ. Якія навукоўцы, якія НДІ даследавалі як мае быць гэтыя працэсы? А літаратура — даследавала. Глыбока і ўсебакова, выцягнуўшы на свет Божы незлічоную колькасць чалавечых трагедый, слёз і пакут (і радасцей, вядома ж!), што спараджалі гэтыя працэсы. Мы ж ведаем, што далёка не ўсе з лёгкасцю незвычайнай пакідалі вёску і далёка не ўсе з такой жа лёгкасцю прыжываліся на асфальце. Ламаліся, крышыліся не толькі душы і лёсы, але, на жаль, часам і жыцці. А колькі і якіх нюансаў унесла гэта ў адвечную праблему дзяцей і бацькоў?! І зноў жа: не што іншае, а акурат літаратура выявіла, даследавала і паказала гэта з усёю мастацкаю сілаю і выразнасцю.

І пэўна ж з тае прычыны, што лёс нашае вёскі (як і расійскае таксама) быў цяжкі, складаны і трагічны, у творах нашай літаратуры (і рускай таксама) амаль няма, ці, прынамсі, надзвычай мала так званых станоўчых герояў. Большасць з іх — пакутнікі. А калі й не пакутнікі яўныя, дык — досыць індыферэнтныя, чыстыя ў помыслах, ды не надта жыццёва актыўныя ў дзеях і ўчынках. Не барацьбіты ў высокім значэнні гэтага слова. Падумаўшы, дык, мусіць, інакш і не магло быць. Бо — што было рабіць актыўнаму, мэтаімкнёнаму чалавеку, найперш маладому, у нашай пасляваеннай вёсцы? Не мог ён там разгарнуцца, не было да чаго прыкласці яму свае веды і рукі, не меў ён магчымасці да самаразвіцця. Вось і сыходзіў у горад, спадзеючыся знайсці там тыя самыя магчымасці і сродкі. Сыходзіў, часта шкадуючы, да ўсяго часта натыкаючыся там на неразуменне, пагарду, а то й на адкрытыя знявагу і абразу. І — пакутаваў чалавек, не знаходзячы сябе тут, у горадзе, з усёй відавочнасцю бачачы незваротнасць вяртання, урэшце — тупіковасць жыцця.

Ну а што да мовы, дык акурат літаратура сталася бадай што адзінай захавальніцай беларускай мовы, галоўнага скарбу кожнага народа. Песцім мы надзеі на яе адраджэнне, радуемся кожнаму, нават самаму малому прабліску яе жыццядзейнасці, кожнай новай кніжцы, кожнай новай перадачы на радыё і тэлебачанні, кожнаму новаму класу з беларускай мовай навучання і кожнай беларускамоўнай групе ў садку, ды надзеі гэтыя з году ў год гаснуць і мізарнеюць. Жывём мы ў вялікім разладзе з самімі сабою. Хочам крыкнуць «Ратуйце!», ды мусім казаць «Дзякуй!» Не прымаем лозунга «Чым хутчэй усе мы загаворым па-руску, тым хутчэй прыйдзем да камунізму!», але ж — паўтараем пры нагодзе. Такія мы ўжо людзі, «беларусы».

Усё на нешта спадзяёмся, спадзяёмся, спадзяёмся…

Знайшоў сёння гэты запіс, зроблены мною ў далёкім 1982 годзе. Перачытаў, — і пацягнулася рука перанесці яго ў камп'ютар. Падалося, што развагі адносна так званай «вясковай прозы» досыць слушныя. Ну, а што датычыць стану роднай мовы, дык — мала што змянілася ў нас з таго савецкага часу…

*29 кастрычніка 2005 г.*

## Жваканая-пераждваканая…

Некалькі гадоў назад, здаецца, з «Литературной газеты», зрабіў такую выпіску з інтэрв'ю Мустая Карыма*: «У аповесці маёй усё праўда, настоеная на выдумцы. Пра адну і тую ж падзею розныя людзі распавядаюць па-рознаму. Таму і мастак, тым больш — мастак. Таму што ён падпарадкоўваецца ўжо законам мастацтва. Рэчаіснасць, пераўтвораная мастацтвам, набывае іншае вымярэнне. Праўда ж у мастацтве вымяраецца не самой праўдай, а верай у гэтую праўду. Калі чытач паверыў, значыць, напісанае табой — праўда. А каб паверыў — трэба крыху выдумкі. Праўда ў мастацтве павінна быць трошкі акрыленай, а не навязліва-павучальнай.*

*Бывае, хочаш адлюстраваць усё праўдзіва, а атрымліваецца фальшыва. Я неяк задумаў напісаць цыкл вершаў, а не проста вершы. Загадзя аселая ў галаве думка прымусіла напісаць і некалькі вершаў, якія дыктаваліся кампазіцыяй цыкла, а не творчай неабходнасцю. Не дзіва, што атрымаліся яны рытарычнымі, у іх не адчувалася душы».*

Не адкрыў тут Амерыкі башкірскі пісьменнік. Усё гэта, так бы мовіць, азбучныя ісціны. Аднак жа — ісціны, і таму трэба іх памятаць, калі мяркуеш і сам нешта пісаць. Папраўдзе — спрабаваць працаваць у слове. Са смуткам адчуваю, заўважаю, што ў мяне гэта не надта атрымліваецца. Пішу праўду, як яно было са мною, без аніякае выдумкі — атрымліваецца нецікава, сумна і банальна. Бо, пэўна, і сам я чалавек банальны і нецікавы. А калі спрабую «выдумляць», дык — яшчэ горш: выдумка і ёсць выдумка! А як сваю праўду трошкі акрыліць выдумкай? Неразгаданая загадка! Вунь, у Караткевіча — усё выдумка, а — якая праўда! Чытаеш і — глытаеш: са смакам, з асалодаю, і наглытацца не можаш. А ў самога — жвачка, жвакана-пераждваканая…

І гэта — таксама даўні запіс: 1985 года. І яго таксама закарцела занатаваць. Гэтак я думаў шмат гадоў назад, гэтак думаю, бадай, і сёння, на схіле гадоў. Як кажа з экрана адзін з сённяшніх тэлебайкароў: як ёсць, так ёсць.

*18 студзеня 2006 г.*

## Не абы заткнуць дзірку

У кішэнным нататніку знайшоў лісток з адрыўнога расійскага календара — за 18 ліпеня 1990 года. Здзівіўся: чаму з расійскага? Ці тады яшчэ не выходзіў «Родны край»? Пэўна ж, не выходзіў, мусіць, ён з'явіўся ўпершыню ў 1991-м. А чаму, навошта паклаў яго між лісткоў нататніка, з якое прычыны? Зірнуў на адваротны бок. Там — нецікавая, шаблонна-савецкая — надта ж выхваляльная! — нататка пра мільённа-кіламетровыя трасы і стокраінныя адрасы Аэрафлоту. Ага, не выкінуў лісток, хутчэй за ўсё, з-за гэтых дзвюх лічбаў са знакам «мінус» і «плюс» — пражытых у тым годзе дзён і яшчэ не пражытых. Збег лічбаў — цікавы: —199 і +166 (амаль тыя ж 199, калі перакуліць шасцёркі).

А, можа, з-за гэтага верша І. Севяраніна:

> В полях созрел ячмень.
> Он радует меня!
> Брожу я целый день

По волнам ячменя.
Смеется мне июль,
Кивают мне поля.
И облако, как тюль,
И солнце жжет, паля.

Прачытаў — і хораша стала на душы! Быццам і сам прайшоў той спякотнаю сцежкаю між хваль вусатага ячменю.

Падумалася: каляндар — госць у кожнай хаце. З якой жа адказнасцю трэба адбіраць тое, што публікуецца на ягоных малых старонačках! Прыклад з Севяранінам нагадвае: умеюць людзі адбіраць, не абы заткнуць дзірку!

А наш сённяшні «Родны край»? Калі верыць яму, дык самы выдатны паэт — Уладзімір Мацвеенка! Каторы год запар ягоныя вершыкі «для дзяцей» аздабляюць старонкі календара невытлумачальна шчодра! Нібыта больш у нас і няма нікога, хто піша для тых самых дзяцей.

У нашае Таклюсі ўсё то не ўварылася, то не ўпяклося…

*8 лютага 2006 года.*

## Наўрад ці магу суцешыцца…

Каб спазнаць чалавека, трэба з ім пуд солі з’есці. Нібыта й праўда. Аднак жа часта досыць і аднаго, мо нават не самага важкага ягонага ўчынку, каб беспамылкова, ну амаль беспамылкова сказаць, які гэта слаўны (ці, наадварот, дробязны, нікчэмны) чалавек. Бадай, кожны з нас меў магчымасць пераканацца ў гэтым.

Гэтак і з паэтам. Досыць прачытаць адзін верш, ці нават адзін-другі радок ягоны, каб беспамылкова сказаць: талент!

Мо й сорамна прызнавацца, а — не ведаў я расійскага паэта Аляксея Рэшатава, амаль свайго аднагодка (1937 года нараджэння). Ды вось прачытаў у «Литературной газете» невялікую, на паўтара дзясятка радкоў, нататачку: «Умер Алексей Решетов», а ў ёй такі яго паэтычны радок: «Раз нам счастья не дано — дай нам, Господи, терпенья». Прачытаў і з ходу пагадзіўся з ацэнкаю яго «писателями Екатеринбурга» (гэтак падпісаны некралог) як паэта таленавітага, «бескарыслівейшага «вучня прыроды», чый Боскі дар не запатрабаваны дасюль «у той меры, якую ён даўно заслугоўваў», што «пасля Аляксандра Яшына, Барыса Чычыбабіна і Мікалая Рубцова, здаецца, не было ў рускай паэзіі іншага паэта, чые вершы абпякалі б такой жа абвостранай «совестливостью». Пацвярджаюць гэта і прыведзеныя ў заключэнне некралогу такія радкі, прадыктаваныя мужным смуткам:

Когда уйду по оклику Всевластной
И други всхлипнут, головы склоня,
Земля не станет менее прекрасной,
Но обеднеет всё же на меня.

І сумна, тужліва стала мне. І таму, што скончыў усё ж заўчасна сваё зямное існаванне безумоўна таленавіты паэт, нязнаны мною. І таму, што я, грэшны, і такім спадзевам наўрад ці магу суцешыцца…

*26 лютага 2006 года.*

## Хоць бы адзін верш!

Настрой такі, што надта ж доўга круцілася ў галаве пытанне: колькі чалавеку зямлі трэба? Ды нечакана выбліснула: а колькі чалавеку трэба паэзіі, вершаў? А дзеля чаго, уласна, патрэбна паэзія наогул? Дзеля чаго, скажам, трэба вывучаць яе ў школе, ці хоць бы знаёміцца з ёю? Спрачаюцца ж наконт гэтага! І многія

сцвярджаюць, што літаратура ў школе — лішні прадмет, што гэта не навука, якая пашырае веды чалавека, прыносіць яму нейкую практычную карысць. А ці ж можна наогул ставіць гэтак пытанне? Ці не тое самае гэта, калі засумнявацца, ці патрэбны нам любоў, дабрата, праўда, справядлівасць, спагада, урэшце — само жыццё?

Аднак жа вярнуся да пытання: колькі? Недзе чытаў, што зусім няважна, колькі чалавек прачытаў вершаў, — толькі б яны сталі часткаю яго самога. Тады і трох вершаў можа хапіць на ўсё жыццё. Больш за тое: калі б у кожным з насельнікаў Зямлі гучаў у душы хоць бы адзін верш, у свеце запанавала б зусім іншая культура. Культура наогул і культура паводзін, узаемных стасункаў, гаспадарання. Вось вам і эмпірыка! Вось вам і — у адрозненне ад асязальнай фізікі —лёгкая, эфірная лірыка!

*9 сакавіка 2006 года.*

## Хоць у думках…

*«Не, мы з Вамі яшчэ не толькі пасядзім ля цяпельца, пакурым за чарачкай, але й выправімся ў якое-небудзь займальнае падарожжа. Усё-такі няма нічога лепшага за родную зямлю з яе пагодамі, порамі года, з яе красой і смуткам, цяплом, дажджамі і навальніцамі, усялякай раслінаю і квеценню».*

Гэта — з ліста Твардоўскага да Сакалова-Мікітова.

І зноў — ніякае пазнакі: калі, з якое нагоды выпісаў, і дзе гэта было надрукавана і калі. Хацеў выкінуць лісток, на якім некалі запісаў (выпісаў адкульсці?) гэтыя радкі з пісьма аднаго вялікага да другога не меншага, ды — не паднялася рука. Перадрукаваў вось — хай ляжыць. Мо сын, ці ўнук-унучка калі-небудзь наткнуцца і — расчуляцца гэтак жа, як я зноў, праз шмат гадоў, расчуліўся.

А, зрэшты, што ж тут незвычайнага, асаблівага? Вядома, няма нічога лепшага за родную зямлю, на тое яна й родная. Аксіёма. Чаму ж тады хвалююць гэтыя радкі, чаму ад іх шчымліва млее ў грудзях сэрца? А хоць бы таму, што — мала хадзіў у свой час па сваёй роднай зямлі, далёка не ўсюды паспеў пабыць і шмат чаго не пабачыў, і, самае сумнае і журботнае — ужо не пабуду і не пабачу.

Здаецца мне, што і Твардоўскі, пішучы гэта Сакалову-Мікітову, таксама не надта, а мо й зусім не верыў у мяркуемае «займальнае падарожжа». Але ж — хоць у думках парадавацца ды суцешыцца, ды і сябра суцешыць, абнадзеіць…

*14 красавіка 2006 года.*

## І смешна, і брыдка

*«Для літаратуры цяжка ўсё, што вельмі далёка, паглядам не дастанеш, яшчэ цяжка ўсё, што вельмі блізка, вось тут, пад самым сэрцам. Самае лёгкае і даступнае для яе — не блізка і не далёка, а сярэдненька. Правільна: ёсць такая максімальна даступная літаратурная дыстанцыя. І адпаведная ёй траекторыя таксама ёсць, смальні не гледзячы — і ўсё роўна пацэліш. Ну, а стральцы па гэткіх цэлях заўсёды знойдуцца, сумнявацца не даводзіцца».*

Знайшоў цяпер вось такі запіс з паметкай: «С. Залыгін прыгадвае словы А. Твардоўскага». А дзе прыгадвае? Калі? З якое нагоды ці прычыны і калі наогул — пра гэта, як часцей за ўсё ў мяне, ні знаку. А словы ж папраўдзе надзвычай дакладныя і беспамылковыя. Колькі ўсялякага «сярэдненькага» і ўсялякіх «сярэдненькіх»! І аз есм! Дзякуй Богу, што хоць разумею гэта. А многія, заўважаю, не разумеюць і пнуццапхнуцца, лезуць-настырнічаюць, задзіраюць лычы, становяцца на катурны, корчаць з сябе значных і вялікіх, не бачачы, наколькі гэта смешна і, у дадатак, брыдка…

*16 красаваіка 2006 года.*

## Таму і сёння між намі такая розніца

Быў уражаны, прачытаўшы ў дзённікавых запісах А. Даўжэнкі такое: *«На саракавым годзе будаўніцтва сацыялізму ў сталіцы саракамільённай УССР выкладанне навук гэтак жа, як і ў іншых ВНУ УССР (цалкам), праводзіцца на рускай мове. Такога няма нідзе ў свеце. Успамінаю пісьмы Леніна па нацыянальным пытанні і думаю: не кажыце мне больш нічога. Я ўсё зразумеў і перапоўнены да верху. Калі мой народ не змог стварыць уласную вышэйшую школу, усё чыста астатняе, ну нішто ўжо іншае не мае значэння».*

Ну а ў нас хто ў той час думаў гэтак? Хіба Якуб Колас (ягоны ліст у ЦК незадоўга да смерці аб стане роднай мовы, да якога там не прыслухаліся і што, напэўна, паскорыла трагічную развязку — смерць паэта). А на Украіне, не сумняваюся, гэтак думаў не адзін Даўжэнка, а сотні і сотні інтэлігентаў, прадстаўнікоў эліты нацыі. Таму і сёння між намі гэткая розніца: Украіна — сапраўды незалежная ўкраінская дзяржава, а Беларусь? Бадай, што — усё яшчэ постсавецкая тэрыторыя.

*27 ліпеня 2007 года.*

## «Чума на оба ваши дома!»

Знайшоў сярод папер складзены ў чатыры столкі лісток. Хацеў быў выкінуць, ды пасля разгарнуў, а там прачытаў: «адзін жыхар Наваполацка падаў у суд на беларускую мову». Успомніў: такое сапраўды было, факт не выдуманы — рэаліі пачатку 90-х. Вось і падумалася зноў: дзе яшчэ ёсць краіна і зямля, здольная насіць такіх грэшных сыноў і дачок, што падаюць на родную мову ў суд? Божа, будзь да іх літасцівы — яны ж не ведаюць, што чыняць! Назваць іх інакш, чым янычары, немагчыма. А, як вядома, янычараў — самых бязлітасных ворагаў балгар — туркі выхоўвалі з… балгарскіх дзяцей, немаўлятамі адабраных у пакутніцмацярок. Дык хто ж нашы туркі, што навыхоўвалі-нагадавалі стольківх янычараў?! А й пытацца не трэба: яны і на Усходзе, яны й на Захадзе. І для адных, і для другіх край наш заўсёды быў (ды й ёсць) косткаю ў горле. А каб не падавіцца, каўтаючы, намагаліся найперш вынішчыць нашу мову…

Як там «у Вільяма, нашага Шэкспіра»? «Чума на оба ваши дома!»

*8 лютага 2007 года.*

## Калі яшчэ жыла вайна…

### *Памяць пажоўклых старонак*

Недзе на пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя заблукаў я ў рэдакцыю Лагойскай раённай газеты «Новая вёска». Не памятаю, з якое нагоды. Хутчэй за ўсё, проста быў з нейкае прычыны ў родным райцэнтры, заставаўся вольны час, таму і наважыўся зайсці ў рэдакцыю. Па праве, так бы мовіць, карпаратыўнасці, хоць тады гэтае слова не было ва ўжытку, гэта зараз яно стала модным. Тым часам я ўжо працаваў у «ЛіМе», друкаваўся і ў іншых выданнях, лічыў сябе журналістам, вось і вырашыў і рашыўся адведаць калег з раёнкі, якую ведаў і чытаў са школьных гадоў.

Найперш, вядома, ішоў да Барыса Сасноўскага, самага паважанага супрацоўніка і самага актыўнага аўтара газеты, які, да таго ж, часта выступаў на яе старонках і як паэт, падпісваючы свае часцей за ўсё гумарыстычныя творы псеўданімам Рыгор Тойсамы. Барыс (а на самай справе Браніслаў) Уладзіміравіч сустрэў мяне прыязна, аднак жа найперш, вядома, не як журналіста, а як брата ўжо знанага

і тады паэта-земляка Ніла Гілевіча. Зрэшты, мяне ён, бадай, таксама ведаў, мо нават з маленства, бо, памятаю, заходзіў, і, здаецца, не адзін раз, да нас у хату, бываючы па рэдакцыйных справах у нашым слабодскім калгасе «Іскра» (бацька працаваў старшынёй сельсавета, а пасля — старшынёй калгаса).

Сядзелі мы з Барысам Уладзіміравічам у ягоным пакоі адказнага сакратара, гаманілі. Ён распытваў пра Ніла (як ён жыве і што піша), успамінаў сёе-тое са сваёй партызанкі (як друкавалі ў вайну ў лесе лістоўкі), распавядаў пра газету і яе супрацоўнікаў, гаварыў пра нялёгкі хлеб, клопат і абавязкі газетчыка, пытаўся, што новага ў «ЛіМе» і наогул у літаратурным асяроддзі, у якое я шчасліва трапіў, — Барыс Уладзіміравіч шчыра любіў паэзію і літаратуру наогул, ведаў многіх паэтаў асабіста, з некаторымі разам вучыўся, напярэдадні вайны, у педінстытуце, той парою і сам пачаў пісаць вершы і досыць актыўна друкаваўся.

Неўзабаве яму трэба было ісці на рэдакцыйную лятучку, і ён, папытаўшы, ці змагу я пачакаць яго, падсунуў бліжэй да мяне стос гадавых падшывак «Новай вёскі» (тады ўжо «Ленінскага сцяга»?), сказаўшы: «Пагартай, паглядзі, мо што й цікавае знойдзеш. Дарэчы, і бацькавы допісы пабачыш, ён наш актыўны селькор…»

Я, мусіць, без асаблівай ахвоты — раёнка ўсё ж ёсць раёнка — разгарнуў самую першую падшыўку — за 1945 год. «Новая вёска» заўсёды, як сябе памятаю, ішла ў нашу хату — бацька яе выпісваў. Па ёй, з-за адсутнасці кніг, я ў значнай ступені вучыўся чытаць. Пісала газета пра ўсё, чым жыло тады сяло — пра ворыва, сяўбу, касьбу і жніво, пра вывазку гною, надоі малака, рамонт плугоў, баронаў і калёс і г.д. Таму я не надта чакаў, што знайду там нешта цікавае. Аднак жа неўзабаве, узяўшы са стала Б. Сасноўскага некалькі шараватых лісткоў так званае газетнае паперы (яна й сёння па сутнасці такая ж), пачаў сёе-тое выпісваць.

*«Наш калгас першым па сельсавету разлічыўся па абавязковых пастаўках, здаў дзяржаве 7 тон зерня і 7 тон бульбы. Апрача гэтага ў фонд Чырвонай Арміі адгружана 1,5 тоны хлеба і 5 тон бульбы… Вялікія клопаты мы праяўляем аб развіцці грамадскай жывёлагадоўлі. У нас ужо маюцца дзве жывёлагадоўчыя фермы, у якіх налічваецца 6 штук кароў і 10 штук авечак».* І подпіс*: «Ф. Муравіцкі, старшыня калгаса «Бальшавіцкі шлях» Астрошыцкага с/с.».*

У адным са студзеньскіх нумароў прачытаў такі вось допіс і не ўстрымаўся, выпісаў яго. Чаму? У 1957 годзе быў я на цаліне ў Казахстане — мы, студэнты, працавалі ў час жніва на таку. Пшаніцы там было столькі (дзясяткі тысяч тон), колькі мы ніколі не бачылі і не маглі бачыць датуль. Такіх буртоў бульбы ў Беларусі не было, як там бурты пшаніцы. А тут — 7 тон зерня і 7 тон бульбы! Таму, пэўна, і выпісаў: надта ж несупастаўнымі падаліся лічбы.

А цяпер, чытаючы гэты «горды» рапарт старшыні калгаса, з сумам падумаў пра іншае: а скуль наогул узялося ў студзені 1945 года тое зерне? Як і з чаго «намалацілі» яго калгаснікі таго «Бальшавіцкага шляху», калі калгас аднавіўся толькі нейкага паўгода назад, пасля вызвалення Беларусі ад фашыскай акупацыі, на схіле лета, калі сеяць нічога ўжо, акрамя азіміны, не выпадала? Няйначай, з уласных сялянскіх, аднаасобніцкіх загонаў, што былі нейкім чынам засеяны яшчэ пад акупацыяй. Пасля гэтага той старшынёўскі рапарт паўстае ў зусім іншым святле. Адтуль жа, з разрабаваных вайной сялянскіх падвор'яў патрапілі на калгасную ферму і тыя «6 штук кароў і 10 штук авечак»…

Дзіўлюся з самога сябе, як зберагліся ў мяне тыя зусім ад часу зжаўцелыя аркушыкі газетнай паперы з выпіскамі, зробленымі з колішняй лагойскай раёнкі «Новая вёска» (пасля яна доўгі час была «Ленінскім сцягам», а цяпер выходзіць пад назвай «Родны край»)? Мінула ж ледзь не паўвека! І дзякуй жа богу, што зберагліся. Сёння тыя даўнія выпіскі для мяне, прынамсі, — амаль што гістарычнай важнасці дакументы, сведкі паваеннага жыцця маіх землякоў, у тым ліку і самых блізкіх — аднавяскоўцаў. Цяпер чытаю тыя даўнія выпіскі і ўжо амаль не веру, што такое магло быць, што гэтак жылі нашы дзяды і бацькі і мы разам з імі. Якая страшэнная галеча, якая спустошанасць і вынішчанасць краю!

Але запыняла маю ўвагу і іншае. З аднаго са студзенькіх нумароў газеты (не пазначаў, на жаль, з якога канкрэтна) выпісаў заметку «Адважны воін» — пісьмо калгаснікам калгаса «Чырвоны шлях» Слабодскага сельсавета ад афіцэрскага, сяржанцкага і радавога саставу Н-скай воінскай часці: «*Ваш аднасяльчанін Іосіф Іванавіч Кутас служыць у нашай часці. Ён жыў, здароў і знаходзіцца ў нашай баявой сям'і... Агнём сваёй гарматы ён знішчыў самаходную гармату і два бронетранспарцёры праціўніка, а таксама забіў каля 30 нямецкіх салдат і афіцэраў. Узнагароджаны медалём «За адвагу», яму загадам Вярхоўнага галоўнакамандуючага аб'яўлена падзяка».*

Тады ў кожнай, нават малой вёсцы быў свой калгас. «Чырвоны шлях» — такую назву меў калгас у блізкіх ад маёй роднай Слабады Родзевічах. Не магу зараз сказаць пэўна, хто такі Іосіф Іванавіч Кутас і ці вярнуўся ён пасля Перамогі дадому. Можа, ён быў бацькам Колі і Мані Кутасоў, якія хадзілі з Родзевічаў у нашу Слабодскую сямігодку, з якімі я разам вучыўся з пятага па сёмы клас? А таксама Пеці Кутаса, колішняга калгаснага шафёра, калі замест трох калгасаў — «Савецкай Беларусі», «Чырвонага шляху» і «Іскры» стала адна аб'яднаная «Іскра» з цэнтрам у нашай Слабадзе, і які часта падвозіў мяне, студэнта, ці то да Лагойска, ці да самога Мінска? Так ці інакш, а допіс спарадзіў прыемныя і шчымлівыя згадкі.

У адным з лютаўскіх нумароў таго ж 1945 года знайшоў бацькаў артыкул пад гучным загалоўкам «Арганізацыйна-масавай рабоце Саветаў — шырокі размах». Пісаў Сымон Пятровіч Гілевіч пра культурна-асветніцкую і агітацыйна-прапагандысцкую работу слабодскіх камсамольцаў і актывістаў, згадваў пастаноўкі ў клубе (тады называўся таксама гучна — Дом сацыялістычнай культуры) нейкіх тадышніх п'ес пад назвамі «Ноч перад судом», «Родная кроў», «Подзвігі», называў імёны Раісы і Фані Рулькевічаў, прозвішчы нашых людзей Барэйка, Давідовіч і інш. Сярод іншага пісаў*: «Актывістка жонка франтавіка тав. Палуэктава Люба з'яўляецца не толькі добрым агітатарам, але і сама асабістым прыкладам паказвае другім, як трэба працаваць. Працуючы на нарыхтоўках і вывазцы лесу, яна паспяхова спраўляецца са сваёй справай».*

Але, але, на лесанарыхтоўках і вывазцы драўніны працавалі пераважна дзяўчаты і маладыя жанчыны: падмены ім не было, мужчыны былі на фронце. Люба Палуэктава — сястра названых вышэй Фані і Раісы Рулькевічаў. Адкуль у Любы такое ненаскае прозвішча? Да вайны паблізу Слабады быў вайсковы гарадок, і Люба, як і многія іншыя нашы дзяўчаты, выйшла замуж за маладога камандзіра масквіча Андрэя Палуэктава. Ён вярнуўся з фронту, і Люба з двума дзецьмі неўзабаве пасля вайны апынулася ў Маскве. Да яе пазней паехала ў госці старая маці — Кацярына Рулькевічава, там знячэўку захварэла і памёрла, і пахавана яна на адных з маскоўскіх могілак (пра ўсё гэта я пісаў у аповедзе «Як я вучыўся ездзіць на веласіпедзе»).

*«Спешна ідзе рамонт сельскагаспадарчага інвентара ў калгасе імені Карла Маркса, дзе старшынёй т. Табалевіч. Тут ужо выпушчаны з рамонту 7 плугоў, 5 барон і пачалі рамантаваць калёсы»;*

*«У Лагазе трактарыст т.Багдан з сынам і трактарысткай Шурай Дашко сабралі з рэштак трактар «ХТЗ»;*

*«У саўгасе «Лагаза» адчынены магазін, у які завезена рознага тавару першай неабходнасці на суму 10 тысяч рублёў»;*

*«У Бярэздзе Янушкаўскага сельсавета распачата адбудова смалакурні. Днямі тут выпалена першая печ вугалю ў колькасці 1500 кілаграм. Вугаль паступіў у продаж для калгасных кузняў»...*

Кожнае з гэтых паведамленняў крычма крычыць аб нечуванай беднасці і галоце, аб тых жахлівых умовах, у якіх пачыналася аднаўленне выпаленай вайной маёй роднай Лагойшчыны (як і ўсёй Беларусі, вядома). Што такое 10 тысяч рублёў у той час? Калі мяне не подводзіць памяць, цаглінка хлеба каштавала

100 рублёў, столькі ж, дарэчы, — і пляшка гарэлкі. Якая цяжкая, горкая доля выпала нашым бацькам і мацяркам, старэйшым сёстрам і братам дый нам самім, дзецям паваеннай беларускай вёскі?!

У адным з красавіцкіх нумароў прачытаў пра абавязацельствы, якія браў раён на пераможны 1945 год: 10 цэнтнераў збожжа з гектара, 110 — бульбы, 3,5 — ільносемя і 2,5 — ільновалакна. Вось такі быў наш паваенны старт. Сёлета ж, калі верыць афіцыйнай прапагадзе, ураджай у некаторых гаспадарках дасягаў 90 і нават 100 цэнтнераў!

Ды тут жа знаходзіцца і адказ, чаму былі такія мізэрныя ўраджаі. Вось радкі з карэспандэнцый:

*«У калгасах імя Крупскай і «Камінтэрн» калгаснікі рыдлёўкамі ўскапалі каля 2 гектараў плошчы»; «Акрамя гэтага, у калгасе апрацоўваюць глебу ручным спосабам. З рыдлёўкамі на полі штодзённа працуе 16 жанчын»; «У калгасе «Іскра» Слабодскага с/с тры паляводчыя брыгады, у якіх налічваецца 21 конь. У сярэднім на кожнага каня прыпадае па 8 гектараў пасяўной плошчы. Першым пачаў прывучаць да запрэжкі сваю карову калгаснік трэцяй брыгады Рулькевіч Якуб. Потым Рулькевіч Уладзімір. Вазілі дровы, гной, барануюць. Старшыня калгаса Давідовіч арэ на сваёй карове».*

Апошнюю інфармацыю (пра калгас «Іскра»), дарэчы, напісаў мой бацька (актыўны селькор, як казаў Б. Сасноўскі).

Божа мой, Божа! І зноў — жанчыны. То з сякерамі ды піламі, то — з рыдлёўкамі. І пры гэтым гадавалі — кармілі, апраналі, выхоўвалі, прывучалі да працы дзяцей, часцей за ўсё адны, без гаспадароў і памочнікаў.

*«Асаблівыя высокія паказчыкі дае маладая калгасніца Барэйка Міхаліна. Працуючы на ворыве, яна паркай коней штодзённа ўзорвае 1,1 гектара плошчы, што раўняецца 250 працэнтам нормы».*

Ах, Міхаліна, Міхаліна, як пісаў Іван Шамякін! Я добра ведаў яе, Міхаліну Барысаўну Барэйка з суседніх са Слабадою Звярынічаў. Яна не адно дзесяцігоддзе рабіла ў калгасе/саўгасе з конямі — з паркаю коней. Рабіла ўсялякую мужчынскую работу: арала, баранавала, драпакавала, разворвала і абганяла бульбу, вазіла гной, снапы і сена і г. д., і да т. п. Тады, у сорак пятым, яна сапраўды была маладая — гадоў васемнаццццаці. Я, праводзячы ў Слабадзе водпускі ды выхадныя пачынаючы з сярэдзіны 80-х, неаднаразова карыстаўся ейнымі паслугамі: яна па-ранейшаму працавала з паркай коней. Звалі яе паважліва ўжо — Міхалінай Барысаўнай, а часцей завочна, ды і вочна — Міхаілам Барысавічам. Замуж яна так і не выйшла, суджанага, як кажуць, не спаткала, дажывала веку (ужо дажыла) адна. Не зусім адна — разам з сястрою, такой жа адзіночкаю. Сястра памёрла раней, і Міхаліна колькі гадоў была ўжо сапраўды адной. Хай жа ёй будзе лёгка і добра хоць там!

У майскім нумары «Новай вёскі» 1945 года вычытаў і выпісаў такую заметачку*: «У некалькіх метрах ад лесу раскінулася вёска Казыры. На ўскраіне вёскі — кузня. Рытмічна пастуквае кавальскі молат, звініць жалеза. У кузні працуе пажылы калгаснік Іосіф Іосіфавіч Камінскі, былы хатынскі каваль. І. І. Камінскі не толькі каваль, але і калёснік. Ён майстар на ўсе рукі».* Так, гэта той самы Камінскі. Сёння ён, бронзавы, выносіць з хатынскага полымя свайго такога ж бронзавана сына, і будзе несці яго гады і дзесяцгоддзі…

Да шчымлівасці кранула сэрца такое вось кароценькае паведамленне ці не з таго ж майскага нумара газеты: «Калгаснікі «Іскры» засеялі 2 гектары гароху для сем'яў абаронцаў Радзімы». Гэта ж — пра маю родную Слабаду, гэта ж мае слабодцы зрабілі такі высакародны ўчынак!

Што ні выпіска — то новая спажыва для абуджанай памяці, шырокае поле для роздуму.

У нумары за 3 ліпеня 1945 года — да першай гадавіны вызвалення — газета падае такія звесткі: у раёне — 1942 кані, 493 галавы буйной рагатай жывёлы і

629 авечак, 21 трактар і 6 складаных малатарняў. Лічбы самі па сабе нічога, здавалася б, не гавораць. Адразу нават і не скажаш: шмат гэта ці мала. Ну, трактароў і малатарань, безумоўна, мала, а — коней, авечак? Сёння і адных, і другіх у гаспадарках Лагойшчыны куды меней! Авечак ці няма наогул. Вось і ўзнікае пытанне: а ці ж разумна гэта? Конь аніяк не можа быць канкурэнтам ці супернікам трактара, як і авечка — свінні. У тым, што апошнія практычна зведзены, адно праява безгаспадарчасці, бяздумнасці.

У тым жа нумары — і такая «справаздачная» інфармацыя: «*163 дзяцей-сірот узята на выхаванне працоўнымі раёна. Калгасніца Настасся Папкоўская з вёскі Рэбрышча Прудзішчанскага с/с узяла 3 дзяцей*».

Людзі разумелі чужую бяду і спагадалі іншым у бядзе. Разважалі гэтак: дзе двое, там выкачаецца і трое. А сёння, калі ўсе нібыта і сытыя, і апраненыя, і хаты маюць вунь якія прасторныя ды ўтульныя (а тыя пасляваенныя людцы туліліся ў зямлянках ды хібарах), і што ж? Як ні запрашае тэлевізійная і іншая рэклама браць на выхаванне гаротных сіротак, якіх чамусьці больш чым пасля вайны, водгук не надта дружны. Дык што, мы ўсе пагоршалі з таго часу, ачарсцвелі? Выходзіць, што гэтак.

9 верасня 1945 года газета паведаміла: «*Для школ раёна завезена на 12 тысяч рублёў сшыткаў, алоўкаў, пёраў, чарніліц*». Не ведаю, колькі гэта канкрэтна тых самых алоўкаў ды сшыткаў атрымаецца, але і сёння ўсцешыўся, бо і дасюль памятаю, як мая першая настаўніца Наталья Міхайлаўна Давідовіч (царства ёй нябеснае, акурат сёлета адышла яна ў лепшы свет) разрывала лісткі са школьнага сшытка надвае, каб хапіла нам усім, і алоўкі гэтаксама рэзала на тры часткі, каб кожнаму з нас дасталося хоць па кавалачку.

І, вядома, несумненна з радасцю і замілаваннем чытаў выпісанае з лістападаўскага нумара ўсё таго ж 1945 года вось гэта: «*Месяц таму назад у свой родны калгас «Іскра» вярнуўся з арміі франтавік тав. Бурбоўскі. Да вайны ён працаваў кавалём і меў славу лепшага калгасніка ў с/с.*» Тав. Бурбоўскі — гэта Андрэй Юркавіч, дзядзька Андрэй, ці не самы памятны і дарагі чалавек майго дзяцінства. Побач з нашым гародам, літаральна на мяжы, бліжэй да аселіцы была калгасная кузня. Малым я прачынаўся пад звон молата: дзядзька Андрэй пачынаў работу рана. Ён быў майстрам на ўсе рукі. Мог зрабіць з жалеза ўсё: серп, клямку, нож, прабой, чапялу, качаргу і вілы, умеў падкаваць каня, акаваць колы, сані, панарады… А ў дадатак быў надзвычай красамоўным, мог распавядаць самыя неверагодныя гісторыі, у якіх паяднодваліся быль і небыль, праўда і выдумка, цягам не адной гадзіны. Нас, малых, дзядзька Андрэй не праганяў. Мы навыперадкі падахвочваліся быць у яго памочнікамі: старэйшыя цягалі мех, а меншыя круцілі тачыла. За гэта дзядзька Андрэй дазваляў сёе-тое і нам: распаліць да чырвані кавалак жалеза, пакаваць, патачыць, загартаваць. Галоўным нашым жаданнем і клопатам было займець ножык-складанчык, і дзядзька Андрэй спагадаў і дапамагаў нам, і кожны з нас у рэшце рэшт меў у кішэні запаветную рэч.

Лёс ягоны склаўся досыць дзіўнавата. Андрэй Бурбоўскі жаніўся яшчэ да вайны. Але цягам ці не добрага дзясятка гадоў у яго з Надзяю не было дзяцей. У выніку яны разышліся. Надзя з’ехала некуды пад Плешчаніцы і там выйшла замуж другі раз, а Андрэй неўзабаве прывёў у хату новую жонку — Таццяну. І што? Знайшліся дзеці і ў Андрэя, і ў Надзі. Колькі і хто ў Надзі — не ведаю, а Таццяна нарадзіла дзядзьку Андрэю чатырох сыноў і дачку. А ў дадатак аказалася надзвычай працавітай і руплівай гаспадыняй і калгасніцай-стаханаўкай, за старанную працу на ферме атрымала высокую ўзнагароду — ордэн. Да самага апошняга часу, пахаваўшы свайго Андрэя, Таццяна жыла ў сваёй хаце адна, а цяпер — у сына Міхаіла ў вёсцы Янушкавічы, дзе я, дарэчы, канчаў сярэднюю школу. Міхаіл вельмі падобны на дзядзьку Андрэя і вонкава, і сваёю гаворкаю. Працаваў ён і галоўным інжынерам саўгаса, і ягоным дырэктарам, і загадчыкам філіяла Купалаўскага музея ў Харужанцах, паблізу Акопаў, цяпер, здаецца, фермер…

У адным з нумароў «Новай вёскі» за 1945 год знайшоў і выпісаў такі факт: калгасніца (называлася імя і прозвішча), жнучы жыта, нажала мех каласоў і намалаціла з іх 28 кіло зерня, за што атрымала 2 гады турмы. Выпісаў, бо і ў нашай вёсцы быў падобны ж факт: маці аднаго майго аднагодка прынесла з калгаснай пуні, дзе малацілі жыта, нейкі пуд збожжа, і была пакарана трыма гадамі зняволення. Я ў свой час нават напісаў пра гэта аповесць, якая так і называлася: «Пуд жыта»…

Вайна тады жыла яшчэ сама па сабе, калі можна гэтак сказаць. Жыла не толькі ў памяці, як сёння, а ў душах і сэрцах, ва ўсім жыццёвым укладзе, у штодзённым побыце, клопатах і справах маіх землякоў. Жыла і праз год, і праз два, і праз пяць пасля сканчэння. Яна напамінала пра сябе літаральна штодзённа і штохвілінна: голадам, галотай, нястачай усяго самага элементарнага.

У жнівеньскіх нумарах раёнкі за 1948 год прачытаў і выпісаў такія вось два паведамленні*: «Калгаснікі з Гайны набываюць дэтэктарныя прыёмнікі» і «Запрацавала электрастанцыя ў Янушкаўскай МТС на 25 лямпачак».* Сённяшні маладзён можа пасміхнуца: падумаеш, якія важныя падзеі, знайшлі пра што пісаць! Я на гэта адкажу: памыляешся, юнача, гэта былі тады надзвычай важныя падзеі, падзеі кардынальнай, як кажуць, значнасці. Ого, займець дэтэктэрны прыёмнік! Для нас, паваенных хлапчукоў, гэта было тое самае, чым для цябе — мабільнік самай апошняй мадэлі з усімі прыбамбасамі.

Колькі я зрабіў іх, тых самых дэтэктэрных прыёмнікаў! Мо не адзін дзясятак. І сабе, і хлопцам-сябрукам. Якая радасць была, калі, прыклаўшы да вуха навушнік і пакручваючы настройку, сярод шуму і трэску раптам пачуеш чысты чалавечы голас ці якую-небудзь мелодыю! Гэта было сапраўдным цудам! З нічога практычна ў тваёй скрыначцы нараджаецца жывы гук! І стваральнік гэтага цуду — я сам, бо гэта ж я майстраваў і саму скрыначку, і катушку сам намотваў, і ўсё астатняе. Я ў полі, пасу карову і слухаю канцэрт з Мінска, якога не толькі не ўбачыш адсюль, але і дайсці да яго — ці хопіць дня. Канешне ж, гэта цуд…

А электрычная лямпачка — цуд яшчэ большы. У Янушкавічах яны загарэліся ў 1948 годзе. А ў нашай Слабадзе — 20 кастрычніка 1949-га. Я запомніў тую падзею на ўсё жыццё. Гэта было найвялікшае свята для ўсіх слабодцаў — большае, пэўна, чым само свята Вялікага Кастрычніка, 32-я гадавіна якога павінна была быць неўзабаве. Афіцыйнае, так сказаць, адкрыццё ГЭС і прызначалася акурат на гэтае свята, а 20 кастрычніка было пробнае ўключэнне. А 7 лістапада ў ДСК быў сход, былі палымяныя прамовы, была афіцыйная каманда ўключыць рубільнік, былі неймаверныя воклічы, крыкі, пляскані ў ладкі, калі пад столлю невялікага клубнага памяшкання, запоўненага людзьмі пад завязку, успыхнула зыркае, бы сонечнае, святло.

Будаўніцтва малюпасенькай, маламоцнай, усяго на некалькі кілават электрастанцыйкі на рэчцы Гайне ў Звярынічах, у калгасе «Чырвоная Беларусь», да якога далучыліся наша слабодская «Іскра» і родзеўскі «Чырвоны шлях», — гэта падзея, вартая не меншага рамана, чым славуты ў свой час раман Петруся Броўкі «Калі зліваюцца рэкі». У нас станцыя будавалася ў 1947—1949 гадах. Гісторыя ж яго пачалася ў 1945-м, калі ў Звярынічы, у адведкі да сваякоў і землякоў прыехаў з Масквы навуковы супрацоўнік Ціміразеўскай сельгасакадэміі, кандыдат тэхнічных навук Антон Фаміч Грабеннікаў, былы звярынавец. Пабачыўшы, што натварыла на бацькаўшчыне вайна, да якой ступені галечы давялі акупанты землякоў (Антон Фаміч бы вярнуўся ў сваё ўласнае лучынна-зрэбнае дзяцінства), ён вырашыў дапамагчы ім, аблегчыць іх нялёгкае жыццё, а заадно і пакінуць тут памяць па сабе — пабудаваць на роднай колісь рачулцы невялікую гідрастанцыю. Сам зрабіў праект, раздабыў неабходныя прылады і абсталяванне. Тры леты запар — у 1947-м, 48-м і ў 49-м — прывозіў у Звярынічы групы сваіх студэнтаў, будучых энергетыкаў, і будаваў з імі сваю самую дарагую для яго ГЭС (ён гаварыў пра гэта на яе адкрыцці). Звярынцы, слабодцы і родзеўцы як маглі дапамагалі ім. Мы,

дзеці, таксама бралі ў будоўлі чынны ўдзел. Памятаю, напрыклад, як мы навыперадкі адно перад адным насілі дзёран і абкладвалі ім адхоны невысокай дамбы (мы яе называлі гучным словам — плаціна). Памятаю маскоўскіх студэнтаў і студэнтак, якія нацягвалі серабрысты алюмініевы дрот на пастаўленыя ўздоўж вуліцы свежаакораныя сасновыя слупы, як манціравалі праводку ў хатах. Памятаю, як адным надвячоркам да нас прыйшла з суседніх Айнаравічаў цётка Ганна і як, пераступіўшы парог, успляснула рукамі: «А божачкі, як відненька! Відней, чым днём!» — у хаце ў нас тады ўжо гарэла электралямпачка. А мама на тое, шчасліва ўсміхаючыся, сказала: «Відненька, сястрыца. Так відненька, што ўся беднасць з усіх куткоў палезла…»

А ты, юнача, моршчышся: знайшлі падзею…

Занатаваў я і такую інфармацыю 1947 года: «*Члены сельгасарцелей Юркаўскага с/с, прыняўшы актыўны удзел у нядзельніку, вывезлі на палі 806 вазоў гною за дзень»*. Беручы пад увагу тадышнюю колькасць коней і інвентару (тых жа саней), міжволі разумееш, што такога выніку можна было дасягнуць толькі на хвалі вялікага энтузіязму. І гэта сапраўды так. Вызваленне ад трохгадовай фашысцкай акупацыі, а пасля Перамога выклікалі ў людзей небывалы пад'ём духу. Як ні цяжка было, а людзі верылі ў заўтрашні дзень і стараліся наблізіць яго. І вера гэтая спараджала высокі працоўны энтузіязм. Гэта — было, і перакрэсліваць, альбо ганьбіць і адкідваць яго будзе несумленна і нават подла.

Выпісак я зрабіў тады на дзіва шмат, хоць і кароткіх. Вось, скажам, яшчэ такія*: «У 1948 годзе ў раёне было адна пасялковая і дзве сельскія бібліятэкі, 13 хат-чытальняў з кніжным фондам 7 тысяч»; «У раёне аднавілі* (у тым жа 1948 годзе. — *М. Г.) сваю работу 60 пачатковых, 14 НСШ і адна СШ, у іх працуе 228 настаўнікаў і вучыцца 6680 вучняў»*. Само сабою, лічбы самі па сабе не ўражваюць, хоць колькасць тых самых хат-чытальняў проста мізэрная. Цяжка было на пустым месцы адчыняць новыя хаты-чытальні і школы. Але ж яны — адчыняліся! Штогод усё больш і больш! Няпоўна-сярэднія школы дарасталі да поўных сярэдніх, адчыняліся і новыя бібліятэкі, якія тады называліся хатамі-чытальнямі, узбагачаліся іх кніжныя фонды.

А сёння? Сёння яны паўсюдна зачыняюцца: і школы, і бібліятэкі. Не буду выходзіць, як кажуць, на абагульненні. Скажу тое, што знаю дакладна. Няма сёння ў маёй роднай вёсцы ні школы, ні клуба, ні бібліятэкі, ні паштовага аддзялення, ні фельчарска-акушэрскага пункта. Няма пачатковых школ і ў неаднаразова згаданых тут Родзевічах, і ў суседніх са Слабадою Айнаравічах, адкуль прыходзіла да нас маміна сястра, а наша цётка Ганна і здзіўлялася з электрычнай віднаты ў хаце. І дзяцей сёння ў ацалелых школах таксама куды меней, чым пасля такое цяжкае і жахлівае вайны.

Ды, бадай, до — як гаварыла мама і як часта пісаў лагайчанін Янка Купала: у сэнсе дос(і)ыць.

На заканчэнне — колькі слоў пра іншае: пра раённую газету наогул, а не толькі пра тую, з якой былі зроблены гэтыя выпіскі. Не надта паважлівы статус раёнак у народзе. Здаўна, як памятаю, іх інакш не называлі, як брахалаўка. Журналісты-раёншчыкі не надта і крыўдавалі за тое: ведалі, разумелі, што нездарма гэтак. Праўды яны не маглі пісаць, не мелі на тое права як прывадныя пасы партыйнай адладжанай машыны. Газета найперш разглядалася не як інфарматар, а як прапагандыст і агітатар, а ў дадатак яшчэ і арганізатар вялікай працы партыі.

Тым не менш, значэнне і роля раёнак усё ж не малыя. Яны часта былі ў вясковых хатах адзінай газетай, адзіным інфарматарам аб навінах, падзеях, здарэннях. Іх супрацоўнікі як умелі і як іх абавязвалі, але ўсё ж вялі практычна штодзённы летапіс жыцця раёнаў — гэтых, лічы, першапачатковых ячэек дзяржаўнай структуры. І калі дух публікацый раёнак, іх настрой, інтанацыі, канцэпцыі, заклікі і высновы выклікалі сумненні і непрыняцце, дык лічбы і факты гаварылі самі за

сябе. Акурат гэтыя самыя занатаваныя лічбы і факты і мелі, маюць каштоўнасць, і чым больш праходзіць часу, тым большую.

А ў дадатак не трэба скідваць з рахунку і яшчэ адзін немалаважны фактар. Гэтыя так званыя нізавыя формы масавага друку выходзілі, як зазвычай, на беларускай мове. І гэта мела немалое значэнне ва ўсе часы: і да вайны, і пасля вайны. Да нашых людзей практычна ў кожную хату прыходзіла разам з раённай газетай роднае слова. І не толькі сухое газетна-публіцыстычнае, але і паэтычнае, і празаічнае: здаўна існавала добрая традыцыя публікаваць на старонках раёнак і літаратурныя творы, прытым не толькі пачаткоўцаў. І сотні тысяч, мільёны дзяцей і дарослых далучаліся праз сваю раёнку ўжо не толькі да проста роднага, а да роднага мастацкага слова. Пасля ж вайны, у сітуацыі амаль поўнай адсутнасці кніг, мясцовая малая газетка была для многіх першым і адзіным букваром (для мяне, як я казаў ужо, таксама).

І ўжо за адно гэта трэба ў ножкі пакланіцца журналістам-раёншчыкам, і зусім дарэмна слова гэтае набыло ў вуснах іх абласных, а найперш сталічных калег амаль што абразлівы сэнс. Пакланіцца ім трэба яшчэ і за тое, што яны сумленна (як маглі і як дазвалялі абставіны) рабілі сваю работу цягам доўгіх гадоў часта без транспарту, без друкарскіх машынак і тэлефонаў, без фоталабараторый і лінатыпаў і г.д. Яны акурат вартыя добрай памяці і ўдзячнасці. Яны былі рамантыкамі-ідэалістамі (як, дарэчы, і колішнія настаўнікі, асабліва настаўніцы), яны не лічыліся ні з часам, ні са здароўем, сапраўды маглі, як спяваецца ў нашай журналісцкай песні, тупаць сотні вёрст дзеля адзінага радка ў газеце.

Сёння ж сітуацыя іншая. Сёння і заробкі ў супрацоўнікаў раёнак параўнальна неблагія, і ўмовы працы амаль такія ж, як і ў рэдакцыях вялікіх газет. Ды затое дух журналісцкай прафесіі і самой працы падупаў (як, дарэчы, і ўсялякай іншай), адказнасць за слова — паніжэла, як і цана самога слова. Работа ўжо часцей ідзе па прынцыпе: як набяжыць. А ў дачыненні да газетнай — што прыплыве. І на якой мове прыплыве, дарэчы. А калі што і плыве, дык, вядома ж, на рускай. То і добра: менш клопату. Начальства за гэта не насварыцца. Адно пахваліць і падтрымае, у тым ліку і рублём. А вось каб было наадварот, дык можна і на непрыемнасці нарвацца. Таму і робіцца адпачатку беларускамоўная «Новая вёска» (пазней «Ленінскі сцяг», а цяпер «Родны край» — кажу пра сваю лагойскую раёнку, а такіх, на жаль, шмат) пастунова, пакрысе рускамоўнай. Глядзіш, а ўжо каторы нумар і амаль цалкам на рускай мове, за выняткам загалоўка-назвы самой газеты.

Вось і на такія сумныя думкі навялі збераЖоныя мною аркушыкі даўніх выпісак са старонак лагойскай раённай газеты «Новая вёска» першых паваенных гадоў…

*26 снежня 2007 года.*

## Вучылі класікі і някласікі

Знайшоў сярод папер аркушык з датаю ўнізе: 2.02.1965 г. Недарэмна аркушык зжаўцеў: праляжаў у шуфлядзе, сярод іншых папер, больш за 33 гады. Больш, чым хтосьці там з рускае казкі прасядзеў на печы. А цяпер вось аркушык патрапіў на вочы. І што чытаю ? Тры вершаваныя выпіскі.

**1.**
Я был в беде, как рыба в воде.
Я понял закон простой:
Там грешник приходит на помощь,
где
Отвертывается святой.

**2.**
Я вечности не приемлю.
Зачем меня погребли?
Мне так не хотелось в землю
С любимой моей земли.

**3.**
Рифмы, образы и ритмы
Трудно подчинить себе —
Как поймать рукою ветер,
Содрогающий тростник.

Якім паэтам належаць гэтыя радкі — сорамна прызнацца, але сёння, з маёй старэчай памяццю, а больш дакладна — бяспамяццю, сказаць пэўна не магу. Падумалася пра іншае. Тады, у далёкім 1965-м, мне не было і трыццаці, цяпер жа ідзе 73-ці. Мяне, старэчу, усхвалявалі гэтыя мудрыя, філасафічныя паэтычныя строфы: дзякаваць богу, «дарос» да разумення іх. Сам неаднойчы прымаў дапамогу грэшніка, не дачакаўшыся яе ад святога. І пакідаць любімую маю зямлю мне таксама вельмі і вельмі не хочацца. Усё гэта само сабою кладзецца мне на душу, усё гэта блізкае, маё, шмат разоў думанае і перадуманае, адно не выказанае вось гэтак трапна, дакладна і бездакорна прыгожа. Узрушвае і гэтае нечаканае, неспадзеўнае параўнанне-супастаўленне сілы волі і сілы ветру, — узрушвае паэтычнасцю. А чым жа закранулі яны мяне тадышняга, маладога? Ды, пэўна, тым жа. У гэтым і сакрэт сапраўднай паэзіі — не падуладная яна ні часу, ні ўзросту.

На другім лістку ў 1982 годзе пакінуў такія выняткі.

З Л. Талстога*: «Мне здаецца, што з цягам часу наогул перастануць выдумваць мастацкія творы... Пісьменнікі, калі яны будуць, будуць не сачыняць, а толькі расказваць тое значнае альбо цікавае, што ім надаралася назіраць у жыцці».*

Пра гэта, прыгадваецца сёння, шмат разоў гаварыў Алесь Адамовіч, кажучы пра нашу (і наогул) дакументальную прозу, у прыватнасці, пра тое, што рабіла (і робіць) Святлана Алексіевіч. Дарэчы, і сам А. Адамовіч спакусіўся гэтым, стаўшыся суаўтарам яскравых і памятных дакументальных рэчаў «Я з вогненнай вёскі...» і «Блакаднай кнігі». Зрэшты, і яго ўласная проза мае відочную пазнаку дакументальнасці, не «выдуманасці».

Ды ўсё ж, думаецца, Леў Мікалаевіч, кажучы гэтак, памыляўся, ці, прынамсі, перабольшваў. «Сачыненне» і «запіс» наўрад ці заменяць калі-небудзь адно аднаго. Яны існуюць і будуць існаваць заўсёды побач, дапаўняючы і адцяняючы, нават, калі хочаце, узбагачаючы адно аднаго.

З Ф. Дастаеўскага: *«Мова і народ — гэта сінонімы»*. Мудрасці амаль што нашага геніяльнага земляка можна толькі падзівіцца! Як жа гэта слушна і глыбока! Вядома ж, без мовы няма народа, як без душы няма чалавека. І шкада, што гэтага аніяк не хочуць разумець і не спрабуюць зразумець многія сёння.

З М. Гогаля: *«Самыя патаемныя пачуцці неяк робяцца пошлымі, калі выказваюцца ў словах»*. І зноў жа — як слушна і глыбока! Само сабою, рускі класік мае тут на ўвазе не проста словы, а словы фальшывыя, няпраўдзівыя, недакладныя, не адзіна магчымыя, выпадковыя. У тым і заключаецца майстэрства пісьменніка, каб — знайсці гэтыя словы. Знойдзены яны — аўтара напаткае ўдача, не — твор ягоны будзе мёртванароджаны.

Цяпер, прачытаўшы гэтыя радкі Гогаля, тут жа прыгадалася нядаўняя лімаўская рэцэнзія В. Кадзетавай на раман Н. Батраковай «Тэрыторыя душы». Кадзетава на канкрэтных прыкладах яскрава і доказна паказала гэту самую недакладнасць, выпадковасць слова ў Батраковай.

З У. Маякоўскага*: «Недарэчна адносіцца да газеты як да неразумнага грамадства, якое прыніжае паэтычную культуру... Газета не толькі не схіляе*

*пісьменніка да халтуры, а, наадварот, выкараняе яго нядбайства і прывучае яго да адказнасці».*

Выпісаў гэта няйначай таму, што і сам газетчык. Значыць, быў усцешаны, што знайшоў падтрымку ў самога Уладзіміра Уладзіміравіча? Ды ці былі б класікі класікамі, калі б ніколі не памыляліся? Праўда Маякоўскага адно ў тым, што праца газетчыка дысцыплінуе, прывучае да рэгулярнасці і, вядома ж, да тае самае адказнасці. Ну і яшчэ адорвае сустрэчамі з людзьмі і, значыць, узбагачае ўражаннямі. Гэта, вядома, добрыя якасці і набыткі і для творцы. Але не больш. Бо ў астатнім газета наўрад ці спрыяе працы пісьменніка і чаму-небудзь вучыць яго. Наадварот, яна забірае каштоўны і незваротны час і часта міжволі збівае на павярхоўнасць, верхаглядства, а, значыць, і на халтуру.

І, нарэшце, вынятка з В. Шукшына: *«Я заўсёды баюся ў сваіх апавяданнях кніжнасці, літаратуршчыны, але ніколі не баюся «кепскага канца». Жыццё — штука сур'ёзная, заплюшчваць вочы на яго ценявыя бакі — раскоша, якой, відавочна, не можа дазволіць сабе мужнае сацыялістычнае мастацтва».*

Прачытайма замест апошніх трох слоў «сапраўдны мастак», ці «сапраўдны пісьменнік» — і ўсё становіцца на сваё месца. Думка пісьменніка безумоўна слушная і разумная. Літаратуршчына, другаснасць губіць любы твор. Як і прыхарошванне, прыгладжванне, заштрыхоўванне ценявых бакоў жыцця. Карціна яго паўстае няпоўнай, аднабаковай. Творы самога В. Шукшына акурат і цікавыя паўнатою паказу жыцця, выяўленнем і раскрыццём ягоных нялёгкіх, часта драматычных, нават трагічных канфліктаў.

*8 снежня 2008 года.*

## Людзі гінуць за метал...

Сёння і сам здзіўляюся часам з сябе, знаходзячы ў паперах такія, напрыклад, запісы: *«Шмат стагоддзяў назад на тэрыторыі цяперашняй Чэхаславакіі было знойдзена золата. Пачалася «залатая ліхаманка», у выніку чаго «забыліся» пасеяць збожжа. І калі надышла зіма, многія ўладальнікі золата памiралі з голаду. Ролі золата ў эканоміцы ніхто не адмаўляе, аднак жа... Нямецкі пісьменнік Георг Ліхтэнберг гаварыў, што болей, чым золата, свет пераўтварыў свінец, і найбольш — той, што ў друкарнях, чым той, што ў кулях».*

Цікавая, безумоўна, вынятка, зробленая невядома адкуль: тады не пазначыў, а цяпер успомніць не пад сілу. Цікавая, як для мяне, заўвагаю акурат пра свінец у друкарнях, а не ў кулях. Мяркую, што і тады гэтая акалічнасць найперш прыцягнула маю ўвагу. З друкарскім свінцом я быў добра знаёмы, шмат гадоў «ЛіМ» набіраўся на лінатыпах, і самому даводзілася рэзаць свінцовыя, яшчэ гарачыя, толькі што адлітыя радкі, трымаць у руках свінцовыя ж паўкруглыя друкарскія формы. Само сабою, друкарскі свінец зрабіў для прагрэсу чалавецтва невымерна (і параўноўваць кашчунна!) больш, чым свінец збройны: першы нёс асвету, сеяў разумнае, добрае, вечнае, а другі —- забіваў.

Золата ж «пераўтварала» свет па-свойму...

Дзеля пацвярджэння значэння золата ў жыцці часта спасылаюцца на Пушкіна, цытуючы гэтую вось мясціну з «Яўгенія Анегіна»:

Бранил Гомера, Феокрита,<br>
Зато читал Адама Смита<br>
И был глубоким знатоком,<br>
То есть умел судить о том,<br>
Как государство богатеет,<br>
И чем живет, и почему<br>
Не нужно золота ему,<br>
Когда простой продукт имеет.<br>
Отец понять его не мог<br>
И земли отдавал в залог.

Сёння, праўда, Пушкіна ўжо бадай не ўспамінаюць, спасылаючыся часцей на Японію, скажам, ці на іншых эканамічна развітых «тыграў».

Я ж, знайшоўшы і прачытаўшы гэтую даўнюю, па ўсім, выпіску, прыгадаў сёлетнюю кніжку ўспамінаў выдатнага тэатральнага сцэнографа Я.Чамадурава. Бацька ягоны быў вядомым расійскім геолагам, найперш — золаташукальнікам. Але, гаворыць Я. Чамадураў, золата ў іхняй сям'і і доме ніколі не было, усе жанчыны насілі ўпрыгожанні толькі са срэбра. Чаму? Бацька, кажа мастак, быў перакананы, што золата — гэта крывавы метал, яно не прыносіць спакою і шчасця.

Што ж, шкада, пэўна мала хто чытаў успаміны колішняга галоўнага сцэнографа нашага опернага тэатра. Бо золата сёння ва ўсіх у вялікай пашане, многія проста моляцца на яго, рвуць за яго жылы, а то й жыццё гатовы аддаць. Дзеля нагляднасці варта калі-небудзь паглядзець па тэлебачанні хоць бы ўсяго толькі тыраж «Суперлато». Божа, як заўзята там грабуць шчасліўчыкі ў торбы і сумкі «золата» пад бясконцыя і дружныя воклічы залы «Больш! Больш! Больш!»

*18 снежня 2008 года.*

## У Купалы ўсё ёсць...

Калісьці, недзе ў 60-я гады, зняўшы першы том тадышняга 6-томнага выдання Янкі Купалы і пачаўшы чытаць яго, пацягнулася рука да ручкі і аркуша паперы: закарцела выпісаць сёе-тое з паэтавых слоўных жамчужынак. Ведаў, што ў Вялікага Песняра іх мноства, таму парашыў выпісваць толькі самыя-самыя, тое, што было забыта, чаго не сустрэнеш у іншых нашых паэтаў і пісьменнікаў. Выпісваў, натуральна, не толькі асобныя словы, але і спалучэнні слоў, трапныя выслоўі і выразы. Не перагарнуў і трэціны тома, як гэтых выпісак сабралася некалькі старонак — пад дзве з паловай сотні слоўных адзінак, як кажуць моваведы.

Памятаю, прыносіў тады тыя аркушы з выпіскамі на працу, паказваў хлопцам-калегам, паэтам, якія заходзілі ў рэдакцыю. Шмат гаварылі пра лексічнае багацце Купалавай паэтычнай мовы, пра яго надзвычай цікавую і актыўную, проста неўтаймоўную і вельмі ж адмысловую, удалую, трапную, выразную і дакладную словатворчасць. Адзінагалосна пагаджаліся, што спробы тых ці іншых нашых маладых (і не толькі) паэтаў у гэтым плане не адкрываюць нічога новага — у Купалы ўсё гэта было, ёсць, проста трэба часцей і больш чытаць Песняра, вучыцца ў яго.

Праляцелі з тае пары гады і дзесяцігоддзі, а лісткі мае з выпіскамі, дайце веры, зберагліся. Гартаю зараз іх, учытваюся ў не надта роўна напісаныя (спяшаўся ж!) словы і словазлучэнні, і зноў душа поўніцца радасцю і замілаваннем: Божа мой, Божа, якія ж мы гультаі і недарэкі, якія ж сляпыя і нецікаўныя, маючы пад рукою — вазьмі толькі! — такое неацэннае і незлічонае багацце! Калі кажам: «Народ — гэта мова!», дык гэтак жа слушна сказаць, што і паэт — гэта таксама мова. І пасля гэтага нехта асмельваецца казаць, што мова наша бедная і прымітыўная, што на ёй нічога вартага выказаць ці выразіць нельга! Памаўчыце, невукі! Пачытайце хоць бы аднаго толькі Купалу!

Чытаю выпісанае мною больш чым сорак гадоў таму: *імгла няпамяці* (тлумачыць няма патрэбы, хоць і імгла, а ўсё выключна ясна), *умор* (мор), *бліжыцца* (надыходзіць, наступае, на падыходзе), *пострах* (пагрозы, страх), *думна* (упэўнена, разумна), *нязможана* (непераможана), *душою загавеў* (сканаў, памёр), *няхват* (недахоп, нястача), *урода* (ураджай), *пярэчка, пярэчына* (бярно, дошка, жэрдка, пакладзеныя ўпоперак), *як стой, за раз, жудка* (жудасна, страшна, боязна), *наспелы колас, адсланіць* (адкрыць), *аквеціцца* (расцвісці, укрыцца квеценню), *падпора* (у пуні, хляве), *накас, скокам-бокам, дзерава і дзервяная, падцікаюцца* (падкрадаюцца), *запорына* (перашкода, запруда, загудка), *выгаласіць* (праспяваць), *жджы і пажджы, прыспаны, паніжэнне* (прыніжэнне), *адлюддзе* (далёка ад

людзей, на адзіноце), *свойская* (песня, музыка, напеў), *звабіць* (завабіць), *жывіна* (жыўнасць, жывёла), *вымкну* (выйду, выскачу), *гальны шум* (шум у галінах дрэў), *грайкія* струны, *жыўчая* вада (лепш, чым жывая), *прыселле* (у сэнсе — прыстанак), *скарбны* дзень (светлы, шчодры, багаты дзень), *дачакацца забавы з кумамі* (радзін, хрэсьбінаў), *удваёчку, калатуха* (калатнеча), *сную* (у сэнсе — сноўдаюся), *усябыт, усябытнасць* (рэчаіснасць, побыт), *узгаманіцца* (загаварыць), *крукі* (груганы) *грагаюць,* сонейка *загасілася,* птушка *свяргоча*, а яшчэ і *цвіркае, і цыгліць*, *сокат* птушыны, *няўроднае, убоісты, сяўцы* (сейбіты), лапці *скарчанелыя*, трава *зрошаная*, *зусюль, копка* (у печы), *трудна, брахалка*, *мала-веле, перахвалка* (выхваляка), *няўжоннае* жніва*, дабрыла* (угнойвала, рабіла лепшай) зямлю*, з'укоса* (скоса), *піргні* (штурхані), *дамавіна*, *дамоўка* (труна*), свет у вачах калаўротам* ходзе, *скасцянела* кроў, *брazджыць сошка* (па каменнях), *прутка* закладай (з напругай), *найбагатшая, шлюбоўнікі і наважэнцы* (маладыя), *таўпехацца і таўпеханне* (штурхацца, таўчыся, таўкатня), *штохвіля і штоміг*, *няма за што зацяць рук, воклік, крыліцца матылёк, неўглядзь* (нечакана, не паспеў агледзецца), *караўніца* (брудная апратка, неахайная жанчына), *паланейся* (палымней), *караціць гадкі* (маладзіцца), *ацямрае ноч дарогу, вецер ціснецца ў плот, небазор* (неба ў зорках), *пушаны* (пушысты), *скроплен жудкай расой*, *гойна* (ласкава, лекава, як лістком да раны), *і гавець і адгаўляцца без хлеба, азярняціць поле, неразвейны голас, хлебадайная зямля, хватаныя* капейкі (лёгкі заробак), *ані мру-мру* (ані бум-бум), *убор вясновы*, *нявыдумны* (немудрагелісты), *вечна-цяглы сон, устрос паляўнічым страх і жаль, яма большыцца*, *схоў* (магіла), *неўнарай* (незнарок), *пад аслонай ночкі, адсвеціцца ў слёзах* (адаб'ецца, адлюструецца), *ухарошыць, ройны рой, гаманіста, шумліва, агул жыцця* (біяграфія, усё жыццё), *спанатрыць* (скеміць, даўмецца*), з слязою жаніся, досвітная птушка, відніць* (асвятляць), *спочаныя* (потам палітыя) гоні, *неўніманы голас, нязведзістая* (нязведная), *слабшыя, удушша грудзей, ходам-зводам за народам, на вечныя госці сышлі, падцінае* (уторыць), *упадобная* (каханая, упадабаная), *руніцца дабрыною, сняжніца* (мяцеліца), *многа хмар параехала небам, узвяселіцца* (развесяліцца)...

Стаўлю не кропку — шматкроп'е, бо можна было б такія ўзоры доўжыць і доўжыць, а гэта ж задача «Слоўніка мовы Янкі Купалы» (хай ягоныя тамы выходзяць). Мне ж хацелася, перадрукоўваючы гэтыя словы і выразы, яшчэ раз і самому парадавацца і ўсцешыцца, ды можа і яшчэ сяго-таго парадаваць (чаго на свеце не бывае). І яшчэ раз сказаць, наглядна паказаць, які вялікі, неабдымны і невычэрпны наш народны Пясняр. Сапраўдны ўладар роднага слова! Хто можа параўнацца з ім? Які ўжо віртуоз, проста эквілібрыст слова Рыгор Барадулін, а й ён, хай не крыўдуе, да Купалы ўсё ж не дацягвае. Што ўжо тады казаць пра іншых, а тым больш — пра маладзейшых і маладых, якія часцей пасміхваюцца з Купалы, пацвельваюцца ды перадражніваюць яго, замест таго, каб шанаваць ды паважаць.

Чытайце Купалу, хлопцы! І вучыцеся ў яго і думаць, і пісаць!

*21 снежня 2008 года.*

## Уладзіслаў, свет Якаўлевіч...

У мяне на паліцы стаіць невялікі зборнічак апавяданняў (з серыі «Першая кніга празаіка») Уладзіслава Рубанава «Вокны без фіранак», выдадзены «Мастацкай літаратурай» у 1981 годзе, у якім аўтару споўнілася дваццаць дзевяць. На першай старонцы гэтай сціплай, у папяровай вокладцы, кніжачкі — такі дарчы надпіс: *«Паважаны Мікалай Сымонавіч! Шчырае Вам дзякуй, што Вы былі першы, хто прыкмеціў і падтрымаў мяне, сказаў добрыя словы пра маё апавяданне, якія са старонак «ЛіМа» далі старт у літаратурную дарогу. Мне была бясконца дарагая і неабходная Ваша цёплая, шчырая падтрымка,*

*якая не забудзецца мной ніколі. Плёну Вам і поспехаў у творчасці і жыцці! З павагаю — Уладзіслаў. 7.VIII.81 г.»*

Даўно ў царстве нематы на дзіва светлы і такі ж на дзіва шчыры (у жыцці і ў творчасці) чалавек Уладзіслаў Рубанаў, жыццё якога абарвалася нечакана ў сорак два гады. Прычынай была, нібыта, трагічная выпадковасць. Можа, і гэтак. А мне ж чамусьці думаецца, што прычынай трагедыі мог стацца і нейкі вялікі душэўны надлом, душэўная роспач-безвыходнасць, нешта такое, чаго не магла вынесці яго тонкая і датклівая і, паўтару, на дзіва шчырая натура. А кніжачка з такім вось сардэчным аўтографам стаіць у мяне на паліцы, і мне, беручы яе ў рукі, скрушна, але і ўсцешна ад думкі, што ў далёкім ужо 1977 годзе перакрыжаваліся нашы дарогі. Дзякуючы «ЛіМу», вядома, куды я шчасліва трапіў на працу адразу, можна сказаць, пасля ўніверсітэта і к таму году «даслужыўся», так сказаць, да пасады адказнага сакратара. Рэдакцыйная пошта звычайна клалася на стол акурат сакратару (за выключэннем, вядома, адрасных, альбо іменных, паступленняў). І аднойчы пошта прынесла апавяданне невядомага датуль нам, у «ЛіМе», аўтара — супрацоўніка раёнкі са Старых Дарог. Нам яно лягло на душу. Прываблівала яно зместавай жыццёвасцю і дабрынёю, нейкай асаблівай шчырасцю аповеду, светласцю юных і сталых персанажаў, свежасцю, натуральнасцю, без налёту газетчыны ці кніжнасці моваю. Мне асабіста яно чымсьці нагадала першае апавяданне Міхася Стральцова «Дома» — агульнай, трошкі сумна шчымлівай, танальнасцю ды, хоць і аддалена, падобнасцю галоўных герояў, тут і там некранутых яшчэ жыццёвымі бурамі юнакоў. Дарэчы, вельмі імпанавала мне і тое, што Уладзіслаў — зямляк Міхася Лявонавіча, што ён таксама родам са Слаўгарадскага раёна.

Неўзабаве апавяданне з адпаведным бласлаўленнем было надрукавана. Крытыка і чытачы сустрэлі яго прыязна. Апавяданні маладога аўтара пачалі з’яўляцца ў іншых выданнях, у «ЛіМе» — таксама. І літаральна праз нейкія тры гады з хвосцікам Уладзіслаў ужо мог сказаць пра сябе, як калісьці Максім Багдановіч: «Я не самотны — я кнігу маю...» — выйшаў з друку згаданы вышэй зборнік ягонай прозы. І сам Рубанаў перабраўся ў Мінск, быў прыняты на працу ў часопіс «Полымя» — рэдактарам аддзела прозы, пазней перайшоў на працу ў выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Мы ў «ЛіМе» былі, вядома, рады ягоным творчым і жыццёвым поспехам.

А сёння знайшоў у паперах даўні ліст ад Рубанава — таго ж памятнага для яго (а зараз вось і для мяне) 1977 года. Ліст гэты і змусіў зноў зняць з паліцы ягоную кніжку і сёе-тое прыгадаць з таго часу. Ліст — падзячны, фактычна, як і аўтограф на кніжцы, але — не толькі, змест яго куды шырэйшы і, падаецца, сёе-тое дадае да партрэта, ці вобліку ягонага аўтара.

*«Мікалай Сямёнавіч, добры дзень!*

*Піша Вам Рубанаў са Старых Дарог. А не напісаць я не мог таму, што дзякуючы апавяданню ў «ЛіМе» я пабываў на такім аўтарытэтным маладзёжным форуме, як IX рэспубліканскі семінар творчай і навуковай моладзі, што праходзіў у Гродне. Вельмі ўдзячны за гэта газеце, бо менавіта яна зрабіла для мяне вялікую справу — «адкапала» і надта аператыўна.*

*Я шмат чаго вынес з гэтага семінара. Чаго толькі варта адно — пакруціцца ў творчым, вірлівым асяроддзі, сярод людзей думаючых, свежых. Хіба параўнаеш са Старымі Дарогамі? Я ўжо не кажу пра знаёмствы. Дарэчы, самае дзелавое і карыснае атрымалася з Нілам Сямёнавічам. Ён так гэта, па-бацькоўску, параіў мне, каб я аднёс свае апавяданні ў выдавецтва і стаў на чаргу. Калі што захачу замяніць або дабавіць — дык гэта будзе не праблема. На самай справе, чым не варыянт. Я раней пра яго не ведаў.*

*І яшчэ адна вестка. Я атрымаў на сваё «Зерне...» водгук з Польшчы, ад пісьменніка Сакрата Яновіча. Ён так расхваліў мяне, што я ажно сам не веру. Вось некаторыя вытрымкі з яго ліста: «...з радасцю прачытаў Ваша як жа добрае апавяданне «Зерне — у зямлю». Рэч пра дабрату; Вы расчулілі мяне — і тэмай,*

*і зайздросным багаццем мовы. Дзякую Вам за добры кавалак жыцця!» «Скураю адчуваю я, што Вы можаце пакінуць у жыцці свой след, карысны, прыгожы; свой удзел у справу змены свету на лепшае; сваю долю ў яго адкрыццё. Ён Вас цікавіць!» «Гэта, здаецца, Вы апублікавалі ў «ЛіМе» свой водгук на прозу Брыля; «Прыгожа!» «Праўдзівае памятаецца!»*

*Ну, як, скажыце, Мікалай Сямёнавіч, пасля такіх слоў не пісаць, не натхняцца. І ўсё — дзякуючы «ЛіМу», Вам!*

*Вось і напісаў Вам, каб падзяліцца сваёй радасцю.*

*Усяго Вам найпершага! Уладзіслаў.*

*I.X.77 г.»*

Сакрат Яновіч валодае добрым дарам прадбачлівасці, ці празорцы: ён не памыліўся. Уладзіслаў сапраўды пакінуў добры след у жыцці, у нашай літаратуры, зрабіў свой унёсак у паляпшэнне людскога свету. А ён жа мог быць куды больш важкім, калі б не гэтакі ранні сыход пісьменніка. Уладзіслаў Якаўлевіч набываў, як кажуць, добрыя абароты. Проза яго рабілася ўсё больш вагомай, філасофска-аналітычнай, характары персанажаў акрэсліваліся ўсё больш выпукла і глыбінна, фраза набывала пругкасць і дасканаласць, само пісьмо — жывасць і натуральнасць. З часам мы маглі б мець сур'ёзнага і глыбокага пісьменніка, прычым не традыйнага для нас бытапісца: шмат цікавага прадвызначалі, абяцалі і яго пошукі ў галіне формы.

На жаль, на жаль...

*25 снежня 2008 года.*

## Проста запіс

У 1979 годзе быў я ў санаторыі ў Нясвіжы. Зрэшты, не зусім у санаторыі. Паслалі мяне туды пасля лячэння ў бальніцы колішняй ЦКоўскай лечкамісіі на рэабілітацыю: у санаторыі было некалькі лячэбных палат. Узяў туды з сабою блакнот з надзеяй — мо што запішу. Пэўна, стан і настрой мае былі там не з лепшых, бо блакнот застаўся фактычна пусты. Зараз, выцягнуўшы яго са спратаў на свет, пабачыў там усяго адзін запіс. Не дзённікавы. І не накід нейкага апавядання. І не абразок. От нешта такое ўбачылася-пачулася адноечы і нечакана чамусьці запісалася...

*«— А я ўжо кіламетры тры прабег. Я штодня тут бегаю. Падымаюся а палове сёмай — і ў парк. Зраблю прабежку спачатку, а потым гімнастыкай пазаймаюся на беразе возера. Зараджаюся на ўвесь дзень. Шкада, што басейна тут няма. Дома дык я ў басейн хаджу. У нас на заводзе ёсць свой. Два разы на тыдзень плаваю. Здорава! Адно што для скуры перагрузка. Перад басейнам з мылам памыйся, пасля яго — таксама памыйся, а яшчэ раз і дома, калі бялізну мяняеш. Дык скура ажно як злазіць — гэтак лупіцца і шалушыцца!*

*— Што, дзед, доўга жыць збіраецеся? — нешта бы падштурхнула мяне падкалоць яго.*

*— Здаровым хачу быць! — як адрэзаў ён.*

*Дзед як для мяне дык і не дзед — самому на пяты дзясятак, хутчэй дзядзька — шэсцьдзясят чацвёрты яму пайшоў, аднак сухарлявы, паджары, на пенсію не збіраецца, працуе па-ранейшаму на заводзе. Кім робіць — не гаворыць, але рукі выдаюць, што працуе фізічна, — рукі звычайнага рабочага чалавека. Хваліцца, што не было ніводнага года, калі не быў у доме адпачынку ці ў санаторыі на поўдні альбо тут, дома.*

*Усё нібыта правільна. Нават хораша. Сучасны рабочы чалавек. На пэўным узроўні фізічнай і духоўнай культуры — кожную раніцу пасля сняданку ідзе на пошту і купляе жмут газет, зазірае і ў бібліятэку...*

*А вось жа гляджу на яго і агортвае мяне ці то крыўда нейкая, ці то гаркота, ці то нават і боль. Не за сябе, хоць я, на пятым дзясятку, на Поўдні ні разу не быў, мора не бачыў. Мо пажыву, дык, дасць Бог, пабачу. А бацька мой? А мама? Яны ж былі не нашмат старэйшыя за гэтага заводскага ружовенькага і бадзёранькага «дзеда», а — параць ужо, як кажуць, зямлю, і ні разу не ведалі, што гэта такое — дом адпачынку ці санаторый. І ніколі не прыходзіла ім у галаву, — не магло прыйсці! — бегаць уранку попусту, проста так, для бадзёрасці. Ім проста не было на гэта ні часу, ні патрэбы. На смех бы паднялі аднавяскоўцы, каб раптам хто ўзяў раніцай ды пабег у трусах і майцы да нашай Краснай Горкі і назад...*

*Бацька памёр сем гадоў газад, мама — летась...*

*Колькі ж іх, такіх бацькоў і мацярок, па нашых забытых Богам вёсках?!»*

Вось такі запіс. 1979 года. Сёння канчаецца 2008-ы. Тыя вясковыя бацькі і мацяркі, якія меліся на ўвазе тады, у большасці сваёй, практычна ўсе адышлі ў лепшы свет. Адышлі такімі ж, якімі пражылі свае нялёгкія і некамфортныя жыцці. Ну, а заводскія «дзяды»? Многіх выкінулі, выперлі з заводаў 1990-я галотныя і развальныя гады, і колішнія токары-слесары ды ткачыхі-краўчыхі дажывалі і дажываюць веку ў корпанні на сотках-лецішчах. Сёй-той утрымаўся ля станка, дадаючы да пенсіі тысячу-другую. Зніклі-прапалі бясплатныя басейны, паліклінікі, дамы адпачынку і санаторыі. Усё гэта стала платным, значыць — для багаценькіх бурацінаў.

Мой знаёмы «дзед», памятаеце, хадзіў штораніцы на пошту і купляў жмут газет, якія былі вельмі танныя, амаль бясплатныя. Дык жа і яны зніклі, у тым сэнсе, што перасталі быць таннымі і зрабіліся мала каму даступнымі. Застаўся адзін тэлевізар. От тут сапраўды: гуляй, Вася! Спажывай малахаўскія шоу ды петрасянаўскія смехапанарамы! Значыць, і колішні ўзровень фізічнай і духоўнай культуры крутнуўся па спіралі ўніз? Адпаведна. Бо ўсё ўзаемна звязана, жывём у спалучаных сасудах: усё апусцілася, але ўсё і падраўнялася.

Дык што, настальгія па добрым савецкім часе? Ой, не! Нягледзячы на ўсіх бадзёранькіх «дзядоў», час быў недарэчны, цяжкі, трагічны, мо нават страшны. Дзякаваць богу, што мінуўся і, трэба думаць, ужо не вернецца. А краіну трэба ўздымаць па спіралі ўверх. Толькі ўздымецца яна тады, калі будзе сваёй. Роднай. Беларускай. Але, але! Сорак песень у мядзведзя, трыццаць дзевяць з іх — пра мёд. Гэтак і ў мяне. Пра што б ні пачаў, а ўсё ў рэшце рэшт заканчваецца на мове. Няма мовы — няма народа. Няма народа — няма гаспадара. Няма гаспадара — няма дабрабыту і парадку. Няма дабрабыту і парадку — няма сям'і, шчасця і, адпаведна, дзяцей. А няма дзяцей — няма будучыні. Круг замыкаецца...

Аказваецца, і пра гэта ўсё — той даўні блакнотны запіс...

*29 снежня 2008 года.*

**Хведар КУНЦЭВІЧ**

# ВЫРАТАВАЛЬНЫ КРУГ АД СТАТКЕВІЧА-ЧАБАГАНАВА



*Гэта і так агульнавядома. Тым не менш нагадаю яшчэ раз: цікавасць да нацыянальнай гісторыі, да беларускай даўніны апошнім часам ўсё больш узрастае. Гэта, несумненна, сведчыць аб сталенні нацыі, якая хоча болей ведаць пра свае карані і вытокі. Хоць, безумоўна, нельга адмаўляць і тых пазітыўных змен, што адбыліся ў жыцці грамадства, дзякуючы якім гістарычны працэс пачаў разглядацца ў яго адзінстве, а не так, як гэта рабілася раней, калі пэўныя перыяды, па сутнасці, абыходзіліся ўвагай, а калі пра іх і згадвалася, дык толькі мімаходзь. Станоўчая з'ява і тое, што паўнапраўнае месца сярод іншых гістарычных дысцыплін заняла генеалогія, якая, як вядома, вызначае ў гістарычнай рэтраспектыве індывідуальна-сямейна-родавыя, заснаваныя на агульным паходжанні, роднасці. Прасцей кажучы, усё больш з'яўляецца тых, каго хвалюе пытанне: хто мы, адкуль мы... Дый прыцягвае яно да сябе не толькі ўвагу спецыялістаў-навукоўцаў. Пацвярджэнне гэтаму — шматтомнае ўнікальнае даследаванне Анатоля Статкевіча-Чабаганава «Я — сын Ваш. Летапіс беларускай шляхты», што выходзіць адначасова на дзвюх мовах — беларускай і рускай.*

*Анатолю Васільевічу — 70 гадоў. Скончыў Ленінградскі інстытут дакладнай механікі і оптыкі па спецыяльнасцях «электронныя вылічальныя машыны», «сістэма кіравання балістычнымі ракетамі падводных лодак». Вучыўся таксама ў Вышэйшай школе кіравання пры Аграпрамысловым комплексе СССР у Маскве і ў Школе сусветнай эканомікі і англійскай мовы, а гэта г. Боўнмоўс, што ў Англіі. Працаваў на шмат якіх адказных пасадах. Цяпер старшыня назіральнага савета групы кампаній «Стецкевич».*

*За вывучэнне гэтай тэмы ўзяўся не толькі таму, што з'яўляецца высокаадукаваным, эрудзіраваным чалавекам, якому, як кажуць, да ўсяго ёсць справа, цікавіць нават тое, што знаходзіцца за межамі ягоных прафесійных памкненняў. Людзі, падобныя А. Статкевічу-Чабаганаву, разумеюць, што, як у кроплі вады адлюстроўваецца, па сутнасці, увесь свет, так праз гісторыю асобнага чалавечага роду можна шмат у чым лепш, паўней зразумець гісторыю сваёй Бацькаўшчыны, адчуць, наколькі паяднаны і ўзаемазвязаны людзі на зямлі, наколькі моцныя, пры ўважлівым вывучэнні, у іх родныя сувязі.*

## Загаварылі шляхецкія роды

Заглыбляцца ў генеалогію Анатоль Васільевіч пачаў у большай ступені таму, што належыць да аднаго з самых даўніх на беларускай зямлі родаў — Сацкевічаў-Статкевічаў. Пра род гэты ў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» сказана: «**Статкевічы**, Сцяцкевічы, Сцяцковічы, Стацкевічы, Стацковічы, шляхецкі род герба «Касцеша» ў ВКЛ. Родапачынальнік — Сцецка Пятровіч, гаспадарскі дваранін, войт магілёўскі і слуцкі (15 ст.). Меў сына Ждана, які валодаў Любанічамі, Чаркасавам і Расасною, унукаў Хаму, Яўмена і Андрэя, ротмістра і дваараніна вял. князя ВКЛ Казіміра».

Куды падрабязней пра роднасныя сувязі, ступень роднасці гэтага, дый не толькі гэтага роду, і расказваецца ў першай кнізе «Статкевічы, Сацкевічы герба «Касцеша. Карафа-Корбуты герба «Корчак». Прадстаўнікі першага са згаданага роду ў розныя часы праславіліся сваімі працоўнымі і ратнымі справамі. Дый не толькі імі. Багдан Вільгельмавіч Статкевіч (быў яшчэ і Багдан Іванавіч) актыўна выступаў у абарону праваслаўя. Разам з жонкай Аляксандрай Саламярэцкай заснаваў некалькі манастыроў, фінансаваў дзейнасць Куцеінскай друкарні. Гэта за ягоныя сродкі вядомы беларускі друкар, кнігавыдавец Спірыдон Собаль выдаў свайго «Апостала». У знак удзячнасці фундатару ён напісаў оду «На герб их милостей панов Стеткевичей», якую размяціў на зваротным баку тытульнага аркуша кнігі. У гэтым творы, у прыватнасці, гаворыцца:

Два сердца ся споили, меч их розрывает,
Моцы старожитных домов през то осведчает,
Которым варварскіи гуфы не зровнали.
Пойзри на гелм, обачиш як ся потыкали
Котвицы — теж веры статечной знаком,
Як кгды окрут на ветры умоцнен троигаком,
А крест — церкви похвала, крест — венным оброна,
И тот есть Стеткевичов клейнот и корона.
Прето ж их слава в небо, як стрела, взносити
И на кеки ся будет в людех голосити.

Ода напісана на старабеларускай мове, але разуменне зместу яе не выклікае цяжкасці. Адзначаецца даўнасць гэтага герба, які не змаглі знішчыць варожыя сілы. Ён цвёрды ў сваёй веры, як карабель, які, каб не сарваў яго вецер, умацаваны якарам. Слава ж Статкевічаў, быццам тая страла, узнеслася ў неба, і яна заўсёды будзе жыць у памяці людзей.

Раздвоеная страла, скіраваная ўгору, змешчана і на чырвоным фоне герба гэтага роду, а ў кляйнодзе, над прылбіцай, знаходзіцца шляхецкая карона з трыма страусавымі пер'ямі. Пазней згаданы знак пачалі называць «Страла выратавання». Ён стаў і знакам серыі «Я — сын Ваш». Гісторыя ўзнікнення герба «Касцеша» — такая. У бітве, што адбылася ў 1072 годзе пад Сноўскам, асабліва праславіўся рыцар Касцеша. Ён, расказвае А. Статкевіч-Чабаганаў, «змагаўся ў глыбіні варожага стану, не зважаючы на зламаны меч, шматлікія крывавыя раны на целе, расшчэпленую на дзве часткі стралу, што засела ў плячы. Калі закончылася бітва і войска пачало збіраць здабычу, тады і з'явіўся перад каралём Касцеша. Ён стомлена зняў змяты і парыжэлы ад крыві баявы шлем і, паказваючы на сваё зраненае цела, сказаў: «Гэта і ёсць уся мая здабыча!» Пасля гэтага Баляслаў I Храбры і дазволіў Касцешу размясціць у сваім гербе стралу.

Аб вялікай жа папулярнасці герба «Касцеша» сведчыць тое, што такую назву насіла і адна з яхтаў расійскіх імператараў. Дарэчы, у калекцыі А. Статкевіча-Чабаганава ёсць кубак з сервіза гэтай яхты. Ён выраблены на Імператарскім фарфоравым заводзе ў Санкт-Пецярбургу ў XIX стагоддзі. Як было не займець яго прамому нашчадку пачынальнікаў роду Статкевічаў.

Да месца пытанне: што ж падштурхнула Анатоля Васільевіча заняцца даследаваннем гісторыі свайго роду? Дый калі гэтая зацікаўленасць узнікла? Пра гэта А. Статкевіч-Чабаганаў расказвае ў першай сваёй кнізе ў раздзеле «Час збіраць камяні». Спачатку, як на адным дыханні, прамаўляе:

Рака мая, радавод мой!
Вы не канулі ў Лету!
Лёсу было неабходна, каб я стаў летапісцам вашым.
І няма высакародней працы,
Бо я — часцінка ваша, ваш прыток.
Я — сын Ваш.

Далей піша: «Пачну з таго, што бясспрэчнае, што вядомае, што яшчэ свежае ў памяці і чаму сам быў сведкам. Спачатку пра тых, хто натхніў мяне на пошук, хто прывёў да паўнаводнай ракі майго радаводу.

Столькі гадоў прайшло, але той дзень не забываецца… Ён стаў для мяне знакавым і даў штуршок да пошуку, якім займаюся і да гэтага часу».

Было гэта ў пачатку восені 1952 года. Тады Анатоль жыў у вёсцы Засмужжа ў бабулі. Прызнаецца: «На дварэ холадна, мокра, а ў нашай хаце светла і святочна: вярнуліся з арміі мае дзядзькі — Віктар і Мікалай. У час вайны яны падлеткамі пайшлі ў партызаны. Пасля роўна па сем гадоў праслужылі ў Савецкай Арміі. Вярнуліся пасталелыя, узмужнелыя. Да вялікіх чыноў не даслужыліся, але кожны меў на пагонах лычкі. […] Пад вечар салдаты селі за стол. Як і належыць, выпілі па чарцы. Пачаліся цікавыя размовы, гарачыя спрэчкі. Я ляжаў на печы (падлеткаў у нас не запрашалі за стол) і ўважліва слухаў, пра што гавораць дарослыя». Слухаць жа было што: «Многае з размовы было не зразумела, але некаторыя рэчы я ўсвядоміў і запомніў на ўсё жыццё». А гэта тое, «што дзядзькі, будучы яшчэ малымі, пабывалі дзесьці ў далёкай ссылцы, была з імі і мая шасцігадовая на той час мама. Здарылася гэта ў 30-я гг. ХХ ст. Мікалай і Віктар гаварылі, як было цяжка, колькі ім давялося перажыць. Не паспела адна бяда скончыцца — грымнула вайна. Яны шмат разоў і потым вярталіся да гэтай тэмы. Мінулае моцна трывожыла іх душы».

Тады «зайшла і размова пра калгасы. Вось тут і загарачыўся дзядзька Віктар. Ён быў старэйшы, яго меркаванне было важнае.

— Няхай хоць на вяроўцы цягнуць, а я ў калгас не пайду! — ужо не гаварыў, а крычаў ён. — Гэта была наша зямля, і мы павінны цяпер працаваць на ёй на ўладу, якая паставіла да сценкі маіх родзічаў? Ды я ніколі не стану там працаваць».

Між іншым, ён так і не пайшоў у калгас, вучыўся ў тэхнікуме, затым працаваў старшынёй сельскага спажывецкага таварыства. Праўда, «дзядзька Мікалай усё-так стаў хлебаробам, працаваў шафёрам, трактарыстам».

Але яшчэ пра размову, што адбылася тым восеньскім вечарам 1952 года. Яна, безумоўна, не прайшла для хлопчыка бясследна: «Запомнілася і ўрэзалася ў памяць, што род наш быў калісьці знатны, меў свае землі, што сям'я перажыла жудасную трагедыю. І хоць гэта былі невялічкія звесткі, але яны ўзрушылі мяне. Я **вырашыў даведацца пра ўсё** (выдзелена мною. — *Х. К.*)».

Далейшы штуршок да пазнання праўды пра свой род у А. Статкевіча-Чабаганава звязаны з гадамі студэнцтва: «Пасля "хрушчоўскай адлігі" студэнцкая моладзь была сур'ёзна занепакоена новымі ганеннямі на культуру. У той час выйшла аповесць Аляксандра Ісаевіча Салжаніцына "Адзін дзень Івана Дзянісавіча". Для мяне гэта стала штуршком, своеасаблівым наказам дазнацца праўду. А які ж быў доўгі шлях да яе. І сёння гэтая дарога вядзе мяне ў глыб стагоддзяў».

Паступова Анатоль Васільевіч даведаўся, што, хоць і нарадзіўся ён у вёсцы Засмужжа цяперашняга Любанскага раёна, але да рэвалюцыі 1917 года аднайменны маёнтак належаў ягонаму дзеду Міхаілу Іванавічу Сацкевічу-Статкевічу і ягоным родзічам. Купілі яны яго ў князя Вітгенштэйна. Талакой, можна сказаць, куплялі: «У Засмужжы ў князя было больш за чатыры тысячы дзясяцін, а гэта

каля чатырох з паловай тысяч гектараў ворыўнай зямлі, лугоў і лесу. Вітгенштэйн прасіў за маёнтак 30 тысяч рублёў серабром. Па тых часах — вялікія грошы. Іван Вікенцьевіч (прадзед А. Статкевіча-Чабаганава. — *Х. К.*) такой сумы не меў. І тады ён прапанаваў блізкім родзічам — Карафа-Корбутам, Рудзінскім, Тычынам — набыць маёнтак суседа». Не ўсё адразу ўдалося, бо неўзабаве Замужжа перайшло да блізкай сваячкі князя княгіні Марыі Львоўны Гагенлое. А потым адзін пакупнік адмовіўся. Давялося «ўзяць у сваю кампанію шляхту, не зацверджаную ў дваранстве, і тых сялян, што лічыліся моцнымі гаспадарамі». Усё законна было аформлена 25 верасня 1893 года.

Чытаеш пра ўсё гэта і лішні раз упэўніваешся, наколькі дваране, шляхта адчувалі сябе сапраўднымі гаспадарамі, як у іх было развіта пачуццё саслоўнай салідарнасці, локця, як ахвотна прыходзілі яны адзін аднаму на дапамогу. Было ў іх і іншае пачуццё — карпаратыўнае. Яно праяўлялася ў тым, што шляхта жыла не толькі незалежна, а ў пэўнай ступені і ізалявана. З сялянамі вельмі не збліжалася, у асобных выпадках аддавала перавагу «моцным». Таму для працягу роду абавязкова шукалі «сваіх»: шляхціц абавязкова браў у жонкі шляхцянку, шляхцянка старалася выйсці замуж за шляхціца. Так было да рэвалюцыі 1917, а потым... Хто быў нічым — той стаў усім. Адпаведна гэтага ўсяго пазбавілі «эксплуататараў»: «У Статкевіча і яго родзічаў абрэзалі землі, пакінуўшы толькі невялікі надзел. З іх здзекаваліся. Пазбавілі выбарчых правоў».

Балюча становіцца на сэрцы, калі знаёмішся з лёсамі самых блізкіх А. Статкевічу-Чабаганаву людзей. Раздзел за раздзелам — «Мой дзед — Міхаіл Іванавіч Сацкевіч-Статкевіч», «Мая бабуля — Марыя Аляксандраўна Карафа-Корбут», «Мая мама — Аляксандра Міхайлаўна Сацкевіч-Стацкевіч», «Мой дзядзька — Іван Сацкевіч-Стацкевіч» — і ўсё, кажучы словамі Аляксея Талстога, «блуканні па пакутах». Такія перыпетыі, якія не можа прыдумаць нават самая багатая фантазія. А гэта ж была сама рэальнасць. Частка жыцця краіны на тым складаным адрэзку яе развіцця, калі, вазьму на «падмогу» яшчэ аднаго пісьменніка, гэтым разам беларускага, Лукаша Калюгу, «косці малолі». У гэтыя страшныя жорны трапіў і дзядуля А. Статкевіча-Чабаганава. Са сваім стрыечным братам загінуў 6 красавіка 1930 года. А колькі перажылі бабуля, маці аўтара кнігі?! Жорсткая, бескампрамісная праўда паўстае са старонак. Аднак без яе не абысціся. Дзеля самаачышчэння яна неабходная. Дзеля таго, каб падобнае больш ніколі не паўтарылася.

Другая частка кнігі называецца «Карафа-Корбуты герба «Корчак». З гэтага роду паходзіла не толькі бабуля А. Статкевіча-Чабаганава, а і прабабуля Наталля Васільеўна, мама дзеда Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча. «Ды і яшчэ дзве мае пра... прабабулі, — удакладняе Анатоль Васільевіч, былі з гэтага ж роду: адна з іх — Марыяна Васільеўна — выйшла замуж за Івана Тычыну, другая — Феліцыяна — вянчалася з Андрэем Іваноўскім. Гэта было яшчэ ў XVIII ст.»

Адсюль і зразумелая ягоная цікавасць да роду Карафа-Корбутаў. Як і ў выпадку з гербам «Касцеша», канешне ж, расказваецца гісторыя ўзнікнення герба «Корчак». Наконт з'яўлення яго існуюць дзве версіі. Дарэчы, абедзве засведчаны іншымі аўтарамі, на якіх і спасылаецца А. Статкевіч-Чабаганаў. Разглядаецца таксама, адкуль з'явілася першая частка прозвішча — Карафа. У яго італьянскія карані: «Прозвішча Карафа на Апенінскім паўвостраве было даволі распаўсюджанае. Сярод яго носьбітаў — паэты, фельдмаршалы, кардыналы... З роду Карафаў паходзіў нават рымскі папа Павел IV». Адзін з носьбітаў гэтага прозвішча Павел Карафа, нашчадак князёў венецыянскіх, разам з жонкай падчас царавання караля польскага Уладзіслава Ягайлы прыехаў у Польшчу, дзе стаў палкоўнікам, вызначыўся ў баях з крыжакамі. Што да Корбута, то, паводле адной з легенд, некалі з такім прозвішчам у Польскім Каралеўстве жыў гандляр сукном, дачка якога зачаравала іальянскага афіцэра графа Карафа.

Анатоль Статкевіч-Чабаганаў даследаваў восем галін роду Карафа-Корбутаў. Тую, да якой адносіцца сам, умоўна назваў «Карафа-Корбуты I». Як і ў першым раздзеле, у гэтым таксама прасочваюцца розныя людскія лёсы. На жаль, і гэтым

разам нярэдка драматычныя, а то і трагічныя. Што ж, як і прадстаўнікі роду Статкевічаў, Сацкевічаў-Статкевічаў, Карафа-Корбуты былі людзьмі заможнымі, а такіх у 20—30-я гады мінулага стагоддзя адразу адносілі да кулакоў, а кулакоў у лепшым выпадку высялялі, а то і адразу, без следства і суда, расстрэльвалі.

«Я — сын Ваш» — навукова-папулярнае выданне. Яно цалкам адавядае такім крытэрыям. Што тычыцца навуковага аспекта, то гэта дакладнасць звестак, якія прыводзяццца, увядзенне ў абарот многіх малавядомых, а то і зусім невядомых фактаў, багацейшае выкарыстанне архіўных крыніц і літаратуры. Па раздзеле «Статкевічы. Сацкевічы-Статкевічы герба «Касцеша» — гэта 641 пазіцыя, па раздзеле «Карафа-Корбуты герба «Корчак» — ажно 1460. Істотна і яшчэ вось што: сярод багатага ілюстрацыйнага матэрыялу вялікае месца займаюць фотаздымкі. Ёсць сярод іх і зробленыя бліжэй да нашых дзён, але і нямала такіх, якія таксама ўжо сталі гісторыяй. На многіх з іх аб'ектыў фотаапарата занатаваў воблікі блізкіх Анатолю Васільевічу людзей. Што адразу кідаецца ў вочы, дык тое, што воблікі гэтыя вельмі адухоўленыя. Перад табой нібы жывыя людзі. Канешне, нельга адмаўляць у майстэрстве тым, хто рабіў гэтыя здымкі ў той час, калі такая важная справа яшчэ не была пастаўлена на паток, як сёння. Толькі відавочна і іншае: гэтыя людзі былі такімі ж і ў сваім паўсядзённым жыцці: добрымі, чулымі, спагадлівымі, на дзіва багатымі духоўна.

У рэшце рэшт, прыгадайма лёсы прадстаўнікоў асобных знакамітых родаў, пра якіх ведаем з літаратуры, не ў апошнюю чаргу з літаратуры мастацкай. Незалежна ад таго, кім прадстаўнікі іх з'яўляліся па прафесіі, якой справай займаліся, яны найперш паўставалі інтэлігентамі. Такой інтэлігенткай была і мама А. Статкевіча-Чабаганава, якая памерла на 80 годзе. «Яна не хацела, — прыгадвае Анатоль Васільевіч, — каб яе пахавалі ў Засмужжы, дзе столькі ўсяго прыйшлося перажыць. Знайшла апошні спачын на Паўночных могілках у Мінску. Там усталяваны помнік і адначасова мемарыял усім маім рэпрэсіраваным у 1930-я гг. родзічам: мама ў тужлівай паставе абапіраецца на старажытную амфару з дваранскімі гербамі яе бацькоў — Статкевічаў і Карафа-Корбутаў. Каля ног мамы — крыж, на якім увекавечаны прозвішчы тых яе блізкіх, чые магілы невядомы...»

Ужо дзякуючы першай кнізе А. Статкевіча-Чабаганава «Я — сын Ваш» адбыўся прарыў у гісторыю даўніх беларускіх шляхецкіх родаў. Канешне, і да Анатоля Васільевіча на Беларусі ў згаданым накірунку сёе-тое рабілася. Аднак менавіта дзякуючы яго намаганням праца гэтая набыла такі мэтанакіраваны, па-грамадзянску (дый па-навуковаму таксама!) даследчыцкі накірунак. Зразумела, вынік даў аб сабе знаць не адразу: дваццаць гадоў А. Статкевіч-Чабаганаў нястомна працаваў у архівах, бібліятэках. На справе даказваў тое, пра што казаў яшчэ Віктор Гюго: «Будучыня належыць двум тыпам людзей: чалавеку думкі і чалавеку працы. Па сутнасці яны складаюць адно цэлае, таму што мысліць — значыць працаваць». Даказанае ў першай кнізе падмацаваў новымі адкрыццямі, знаходкамі ў наступных тамах, на справе ўпэўніўшы ў тым, наколькі ён няўрымслівы і мэтанакіраваны ў сваіх даследчыцкіх пошуках, а захопленасць ператвараецца ў апантанасць, якая, у сваю чаргу, выклікае жаданне працаваць так, як змогуць працаваць нямногія. Для гэтага і прызванне трэба мець.

## Святло… залатых месяцаў

У першай кнізе змешчаны і верш Міколы Мятліцкага «Радавод», прысвечаны Анатолю Васільевічу:

Мой край, у сечах зруйнаваны,
Адну святую са шчадрот,
Хавае скарб свой нечуваны —
Наш беларускі радавод.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Адтуль, дзе досвітак славянаў,
Дзе гул эпох, як гул грымот,
Вядзе Статкевіч-Чабаганаў
Маёй Айчыны радавод.

На гэтым засяродзіў увагу і аўтар прадмовы да другой кнігі акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў Нацыянальнай акадэміі навук Аляксандр Каваленя — «Радаслоўнае дрэва — нітка пакаленняў». Адзін з вядучых гісторыкаў краіны на дзіва дакладна заўважыў тое, што вызначае сутнасць працы А. Статкевіча-Чабаганава. Пачатае ў першай кнізе, Анатоль Васільевіч канкрэтызаваў далейшым пранікненнем у сутнасць даўніх падзей, засяроджваючыся на лёсах тых, хто, жывучы ў сваім часе, таго не ведаючы, несумненна, працаваў і на стагоддзі наступныя.

Кніга пачынаецца расказам пра род Сыцькаў герба «Астоя». Зварот да гэтага роду для Анатоля Васільевіча — магчымасць перагарнуць старонкі яшчэ аднаго радаводнага летапісу, дзе ёсць месца і яму самому. З роду Сыцька паходзіла мама ягонай прабабулі Наталлі Васільеўны Карафа-Корбут — Наталля Стэфанаўна. Вытокі гэтага роду, зразумела, куды больш даўнія. Паводле архіўных дакументаў, якія адшукаў А. Статкевіч-Чабаганаў, Сыцкі не былі людзьмі бязроднымі. Яшчэ ў XV стагоддзі яны займалі высокія і адказныя пасады. Гэта, прынамсі, відаць, з такога дакумента: «…1432 года датаваны месяца ліпеня 12 дня, а 1765 жніўня 6 дня ў земстве Навагрудскім актыкаваны прывілей на староства Цырынскае народжанаму Севестрыяну Сыцьку ад Уладзіслава трэцяга караля польскага выдадзены».

Родапачынальнікам гэтай шляхецкай дынастыі з'яўляецца Стэфан Сыцька. Ён асабліва вызначыўся ў 1581 годзе ў час баявых дзеянняў пад Псковам, за што атрымаў ад караля польскага Стэфана Баторыя герб «Астоя», а таксама чын ротмістра і шляхецтва. У гэтага прыватнаўласніцкага герба, у сваю чаргу, багатая гісторыя. Як сведчыць легенда, вытокі яго ў часах праўлення караля Баляслава Храбрага. Калі варожае войска ўварвалася на тэрыторыю Польшчы, палкоўніку Астоя загадалі выведаць планы непрыяцеля. З невялікім атрадам рыцараў ён прабраўся ў размяшчэнне ворагаў, паланіў некалькі чалавек. Пасля гэтага, аб'яднаўшыся з іншымі атрадамі, атрымаў бліскучую перамогу. У гонар адважнага рыцара і быў зацверджаны герб, названы яго імем. Герб уяўляе сабой два няпоўныя залатыя месяцы, рагамі ў розныя бакі, размешчаныя ў чырвоным полі. Паміж імі белы меч без похвы, рукаяткай уверх. Яшчэ вышэй — пяць страусавых пёраў.

Анатоль Статкевіч-Чабаганаў перакананы (і гэта сапраўды так): «Па-рознаму і вельмі няпроста склаўся лёс прадстаўнікоў роду Сыцька. Аднак «два няпоўныя залатыя месяцы паўкругамі да сябе павернутыя… у чырвоным полі» з герба «Астоя» і сёння свецяць нашчадкам. Мінулае не забываецца…» Не забываецца не ў апошнюю чаргу дзякуючы таму, што знаходзяцца такія руплівцы на ніве нацыянальнага Адраджэння, як і сам Анатоль Васільевіч. У другім томе ён прасачыў і лёс Ждановічаў-Гурыновічаў герба «Любіч», якіх таксама да шараговых не аднясеш.

Свой расказ А. Статкевіч-Чабаганаў пачынае са сведчання: «Ёсць у нашым родзе яшчэ адна цікавая галіна — Ждановічы-Гурыновічы герба «Любіч». Па жаночай лініі яна бярэ пачатак ад роду Корсакаў, які быў вядомы ў Вялікім Княстве Літоўскім і ўжо ў той час лічыўся найстаражытнейшым». Не менш, а ў пэўнай ступені і больш значнае такое прызнанне: «Захаваліся тастаменты, хоць і сумныя ў сваёй сутнасці, аднак такія, якія ярка сведчаць не толькі аб значнасці роду Ждановічаў-Гурыновічаў, а і аб дабраце і сардэчнасці яго прадстаўнікоў».

Пра некаторых з іх Анатоль Васільевіч гаворыць не так і шмат, пра іншых — больш падрабязна. Ды ў абодвух выпадках можа сказаць так, што чалавек запамінаецца, паўстае асобай. Міжволі ловіш сябе на думцы: калі б А. Статкевіч-Чабаганаў узяўся пісаць прозу, яна атрымалася б у яго такой жа праўдзівай, пераканаўчай, як і ягоныя даследчыцкія намаганні. Для прыкладу пра аднаго з тых,

хто даўно пайшоў у лепшы свет, сказана на дзіва коратка: «Былі ў родзе фізічна моцныя людзі, як Панфіл Сямёнавіч Гурыновіч, які за некалькі гадзін да смерці разам з сынам насіў дрэвы за камель — самую цяжкую частку…» І больш ні слова. Але як сказана! Няцяжка ўявіць сабе, што гэта за чалавек быў. Асілак зямлі беларускай! Ён не ўдзельнічаў ні ў якіх спаборніцтвах, каб даказаць, на што здатны, а пацвярджаў сваёй працай — цяжкай, але такой, якая, па сутнасці, і рабіла яго чалавекам. Так і бачыш гэтага волата перад сабой. Ён, як дрэва сваім камлём, зросся з роднай зямлёй, глебай і да апошняга не парываў гэтай еднасці.

А гэта ўжо куды больш разгорнуты расказ. Пра малодшага з сыноў Панфіла Сямёнавіча — Івана, якога празвалі «шляхтой». Іван упадабаў у суседняй вёсцы дзяўчыну, да якой пастаянна наведваўся. Гэта мясцовым хлопцам не падабалася і яны ўзяліся правучыць яго, каб забыў да каханай дарогу. Пабілі Івана, а ён устаў і ў роспачы прамовіў: «Такі-то я, і шляхто, дык яшчэ і б'юцца!» Мянушка «шляхто» замацавалася не толькі за ім самім, а і за ягонымі дзецьмі, а потым і ўнукамі. Аднак праславіўся ён не толькі дзякуючы такому свайму прозвішчу, а і таму яшчэ, што займаўся лекарствам. Ратаваў людзей ад укусаў змей, ад розных хвароб. Такое ўмельства было і ў яго брата Мацвея. Цікавы лёс у яго сына Сяргея Мацвеевіча, які прайшоў дарогамі Вялікай Айчыннай вайны. Ягоны ўнук Андрэй запісаў успаміны дзеда. Навелы «Выратавальны макацёр», «Як немцы кароў даілі», «Коні і пчолы» і іншыя — гэта таксама штрыхі з роду Гурыновічаў. Самі факты, што пакладзены ў іх аснову, як быццам і непрыкметныя, але гэта частка самога жыцця, узноўленая, пададзеная А. Статкевічам-Чабаганавым па-майстэрску.

Гэта яшчэ ў большай ступені адчуваецца, калі ён расказвае пра лёс Віктара Гурыновіча. Праўда, першапраходцам Анатоль Васільевіч тут не з'яўляецца. Пра В. Гурыновіча расказваў Мікалай Смірноў у артыкуле «Чэрчылю. Цалкам сакрэтна», змешчаным у газеце «СБ. Беларусь сегодня» 8 мая 2010 года». Дарэчы, А. Статкевіч-Чабаганаў не абыходзіць увагай гэтую публікацыю, што сведчыць на карысць таго, што ён, як даследчык, паважае думку і сваіх папярэднікаў, а ўзнаўляючы пэўныя падзеі, расказваючы пра людскія лёсы, стараецца быць як мага больш дакладным. Разумее, што кожны факт, няважна кім ён уведзены ва ўжытак, спрацоўвае на тое, каб яшчэ лепш спасцігнуць лёс таго, пра каго грэшна не ведаць. Асабліва, калі факт такі ўнікальны: перапіска Сталіна і Чэрчыля тычылася аднаго з вельмі важных разведвальных даных, атрыманых Гурыновічам.

Данясенне ж, у сваю чаргу, звязана з распрацоўкай гітлераўцамі «цуда-зброі» — ракет ФАУ, якімі яны збіраліся абстрэльваць Лондан. На рахунку начальніка асобага аддзела партызанскай брыгады Гурыновіча і іншыя добрыя справы. Так, ён укараніў у Бабруйскую школу разведкі «Зондэрштаба — Р» свайго чалавека. Дзякуючы гэтаму «сталі вядомы прозвішчы і прыкметы 28 здраднікаў, засланых у партызанскія атрады Мінскай і Магілёўскай абласцей…»

Захоплена расказвае Анатоль Васільевіч і пра генерал-лейтэнанта Аляксандра Казанкіна, які быў родным братам яго бабулі па лініі бацькі Еўдакіі Казанкінай. У кастрычніку 1947 года Аляксандра Фёдаравіча прызначылі камандуючым Паветрана-дэсантнымі войскамі СССР. Тым самым, ён стаў пятым па ліку на гэтай вельмі адказнай пасадзе. Цікавейшы чалавек быў. Нават тройчы вылучаўся на прысуджэнне звання Героя Савецкага Саюза, якое, па розных прычынах, на жаль, так і не атрымаў. Ягонае ж жыццё вартае асобнай кнігі, але і таго, што расказаў пра Казанкіна А. Статкевіч-Чабаганаў дастаткова, каб упэўніцца, наколькі неардынарнай асобай ён з'яўляўся, як, неаднойчы гледзячы смерці ў вочы, смела ваяваў з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, паказваючы асабістую мужнасць і геразім, але, разам з тым, умелымі, узважанымі, прадуманымі дзеяннямі натхняючы на подзвіг сваіх падначаленых.

Першыя старонкі ў летапіс сваёй мужнасці і гераізму Аляксандр Фёдаравіч упісаў у самым пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Як вядома, вясной 1941 года ў адпаведнасці з загадам наркама абароны ў Заходняй Асобай ваеннай акрузе

тэрмінова разгортваліся паветрана-дэсантныя карпусы. Адзін з іх дыслацыраваўся ў Мар'інай Горцы. Казанкін у ім быў начальнікам штаба. Паколькі камандаванне корпусам прызначаны генерал-маёр Аляксей Жадаў прыняць не паспеў, уся адказнасць легла на плечы начальніка штаба. Няпроста давялося 4-му паветрана-дэсантнаму корпусу. Як пісаў Аляксандр Фёдаравіч у аўтабіяграфіі, «атрымаў загад з баямі адыходзіць на раку Бярэзіна, каб захапіць там пераправы ў раёне гарадка Свіслач і арганізаваць абарону. Але пераправы былі заняты танкавымі часцямі групы Гудэрыяна, і корпус з цяжкімі баямі, маючы толькі 45-ці мм гарматы, заняў гэтыя пераправы і перайшоў да абароны іх, забяспечваючы адыход нашых армій». Затое пад Крычавам даказалі, чаго варты: «[…] 25 сутак утрымлівалі горад, што ў пачатку вайны было вельмі важна. Нават адзін дзень затрымкі нямецкіх войск лічыўся подзвігам». Не абышоў «крычаўскі выступ» у сваёй кнізе і нямецкі генерал-палкоўнік Гудэрыян. Але ён сцвярджаў, што перашкодзілі яму «наступаць на Маскву і ў іншым кірунку» 20 новых дывізій маршала Цімашэнкі. Не хацеў прызнацца, што пад Крычавам дзейнічаў паветрана-дэсантны корпус.

Гэткім жа смелым, мужным быў і бацька Анатоля Васільевіча, якому ў кнізе таксама прысвечана нямала цёплых слоў. Перад намі паўстае светлы воблік аднаго з тых, хто і ў ваенны, і ў мірны час заўсёды знаходзіўся на пярэднім краі. Дарэчы, яго таксама вылучалі на прысваенне звання Героя Савецкага Саюза. Гэтая самая высокая ўзнагарода краіны Васіля Чабаганава, праўда, абышла бокам. Расказваючы пра тое, як ваяваў ягоны бацька, Анатоль Васільевіч засяроджвае ўвагу і на яго вялікай чалавечнасці. Адзін жа з прыведзеных эпізодаў заслугоўвае таго, каб пра яго згадаць падрабязней.

Як вядома, у партызанскіх атрадах знаходзіліся і дзеці. Нярэдка яны гулялі ў вайну, стралялі адзін у аднаго з лукаў. Страла трапіла адной дзяўчынцы ў вока. Патрабавалася тэрміновая аперацыя. Камандзір роты Васіль Чабаганаў узяўся завезці яе ў Асіповічы, у нямецкі шпіталь. Пераапрануўся ў вясковую адзежу, узяў сала, некалькі бутэлек самагону, каб пры сустрэчы задобрыць паліцэйскіх. На ўсялякі выпадак і дзве гранаты прыхапіў з сабой. Адну з іх схаваў у хамут каня, другую — пад сваю папругу. Пашанцавала, усё абышлося добра. Пакуль жа ішла аперацыя, «удалося выканаць і другое заданне — атрымаць ад партызана-падпольшчыка важныя звесткі».

Чытаючы такое, святлееш душой. Каторы раз задумваешся над тым, як шмат выдатных людзей было і ёсць сярод нашых сучаснікаў. Пражыў жа Васіль Аляксандравіч больш за 90 гадоў, працаваў — да 85-ці. Быў галоўным інжынерам, потым дырэктарам буйнога прадпрыемства па вытворчасці ваеннага абсталявання ў Языкава пад Ульянаўскам. У час так званай перабудовы, жывучы ў Краснадарскім краі, пад Стаўрапалем, стварыў кааператыў па вытворчасці тэнтаў для аўтамабіляў.

Аляксандр Каваленя, прадстаўляючы чытачу гэтую кнігу, прывёў такое выказванне Аляксандра Пушкіна: «Дзікасць, подласць, невуцтва не паважае мінулага, рабалепствуючы перад сённяшнім… Павага да мінулага — вось рыса, што адрознівае адукаванасць ад дзікасці». А. Статкевіч-Чабаганаў і належыць да людзей, а калі мець на ўвазе тое, чым ён на дзіва плённа займаецца, то і даследчыкаў, якія, жывучы ў дні сённяшнім, памнажаючы сваёй працай набыткі, з павагай ставіцца і да мінулага, мацуючы яго з сучаснасцю людскімі лёсамі, якія з'яўляюцца прыкладам для сучаснікаў.

## Сваяк пачаў, нашчадак прадоўжыў

З тым жа гонарам, як і ў першых дзвюх кнігах, прамаўляе А. Статкевіч-Чабаганаў «Я — сын Ваш» і ў трэцяй кнізе «Некрашэвічы герба «Любіч». Татуры герба «Данброва». Сеўрукі герба «Курч». Кернажыцкія герба «Юноша». Маствіловічы герба «Даленга». Прасочваючы гісторыю роду Некрашэвічаў, канешне ж,

згадвае аднаго з самых яркіх ягоных прадстаўнікоў, ахвяру сталінскіх рэпрэсій — першага віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук БССР Сцяпана Некрашэвіча і тут жа прызнаецца: «... я зразумеў, што ўсе тры мае пра… прабабулі — яго бліжэйшыя сваячніцы. Апроч таго ўдалося высветліць, што ў Сцяпана Міхайлавіча ёсць прамыя продкі з нашага роду Карафа-Корбутаў: яго прапрабабуля Агата Васільеўна даводзілася роднай сястрой Івану Васільевічу Карафа-Корбуту, дзеду Наталлі Васільеўны — маёй прабабулі».

Род Татураў... Зноў роднасныя сувязі: «Прабабуля майго дзеда Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча — Ганна Самуілаўна Татур». І таксама нямала лёсаў, зламаных злымі, віхурнымі часамі, калі асобны чалавек ставіўся ў нішто, бо галоўным было шчасце для ўсяго чалавецтва. Аказваецца, не мінула гэта і блізкіх людзей, тых, каго многія ведалі. Скажам, вядомага беларускага перакладчыка Міколу Татура. У даведніку «Беларускія пісьменнікі (1917—1990)», што выйшаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1994 годзе, сказана, што ён нарадзіўся «ва ўрочышчы Застар'і Клічаўскага раёна». Як устанавіў А. Статкевіч-Чабаганаў, М. Татур родам «з маёнтка Урочышча Застар'е». Больш за тое, ягоны бацька Ігнат Татур, у мінулым афіцэр царскай арміі, быў расстраляны ў 1931 годзе. Пра гэта ў савецкія гады было лепш маўчаць.

Яшчэ адзін род, што стаў «героем» гэтай кнігі — Кернажыцкія. Таксама відавочны роднасныя сувязі з аўтарам кнігі: «Мой продак Казімір Пятровіч Забела абвянчаўся з Кацярынай, дачкой рэчыцкага чашніка Валяр'яна Кернажыцкага, чалавека вядомага і паважанага». Здавалася б, усё вельмі проста. Знайшоў у архіве неабходную справу, адкрыў яе на патрэбнай старонцы і, калі ласка, неабходныя звесткі. Аднак так можа думаць толькі дылетант. Сам жа А. Стацкевіч-Чабаганаў неаднойчы ўпэўніваўся, што часам для таго, каб адшукаць, здавалася б, самы маленькі факт, неабходна працаваць не дзень, не два. Дый не ў адным архіве, бо нішто важнае на паверхні не ляжыць. Да ўсяго неабходна дайсці, да ўсяго дакапацца. У гэтым пераканаўся і тады, калі даследаваў гісторыю роду Сеўрукаў. Дакладней, у нечым працягваў тое, чаму пачатак быў пакладзены яшчэ ў пазамінулым стагоддзі.

У пачатку раздзела «Сеўрукі герба «Курч» Анатоль Васільевіч не без гонару сведчыць: «У нашым родзе ва ўсе часы былі людзі, якія з вялікай любою і асаблівым хваляваннем вывучалі свае вытокі, сваё мінулае. Так мы помнім братоў Іллю і Паўла Карафа-Корбутаў, якія ў няпростыя часы першай паловы XX стагоддзя не пабаяліся апісаць і захаваць генеалагічнае дрэва сваіх продкаў і сваякоў па некалькіх дваранскіх родах, што жылі ў Бабруйскім павеце». Васіль Курчэвіч-Сеўрук нават выдаў у 1896 годзе ў Мінску кнігу «Вывод о происхождении прозвища Севрук и Курчевич-Севрук», а праз год з'явіўся яе дапоўнены і выпраўлены варыянт.

Дарэчы, ён, хоць і правёў велізарную работу па даследаванні сваёй радаслоўнай, не быў упэўнены, што цягам часу знойдуцца ахвочыя прадоўжыць гэтую па-сапраўднаму падзвіжніцкую работу: «Я колькі мог, дык і адкрыў поцемкі для патомкаў, хоць, магчыма, ніводзін і не ўспомніць добрым словам за працу». З пачуццём выкананага абавязку А. Статкевіч-Чабаганаў заўважае: «За больш чым 20 гадоў даследчыцкай работы мне ўдалося знайсці звесткі аб 657 прадстаўніках роду Сеўрукаў (14 колен), якія жылі з XV стагоддзя на Валыні і з XVI стагоддзя да XX стагоддзя — на землях Случчыны і Нясвіжчыны. Такім чынам, мара майго сваяка пра тое, што патомкі будуць вывучаць свой радавод, збылася».

Род жа Сеўрукаў вельмі даўні, пра гэта пісаў яшчэ В. Курчэвіч-Сеўрук, адштурхоўваючыся ад даследавання вядомага Мацея Стрыйкоўскага: «Курч ёсць герб Курчоў, князёў рускіх, узяты ад Карыята, князя навагародскага, аднаго з сыноў Гедзіміна Вітэніевіча, князя Літоўскага Карыята. Карыят Гедзімінавіч, после хрышчэння названы Міхайлам, працаваў у 1301 годзе. Меў сына па імені Юрый-Аляксандр-Фёдар-Глеб».

Вось якія глыбокія карані! І якую сімптаматычную паралель можна прывесці: Мацей Стрыйкоўскі — Васіль Курчэвіч-Сеўрук — Анатоль Статкевіч-Чабаганаў. Зближаюцца эпохі. Лёсы людскія зближаюцца. І ўжо новыя пакаленні падаюць свой голас тым пакаленням, якія жылі да іх. Каб пачулі, даведаліся яны, што род іхні не толькі не згубіўся на ветравейных паўстанках часу, а годна працягвае жыць, дзякуючы сваім новым прадстаўнікам, пра некаторых з якіх і расказваецца ў гэтай кнізе.

## Чаго не ведаў… Аляксей Талстой

Будучы першаадкрывальнікам, А. Статкевіч-Чабаганаў нярэдка ўносіць і нешта сваё ў тое, на што ўжо звярталі ўвагу навукоўцы. Што ж, у даследчыцкай дзейнасці — гэта заканамерна, калі пошук прыводзіць не толькі да адкрыцця невядомага, а і да дапаўнення ўжо вядомага. Але Анатолю Васільевічу ўдалося дапоўніць нават самога Аляксея Талстога. Таго, якога Аляксеем Мікалаевічам звалі.

Памятаеце, ці не ў самым канцы кнігі другой трылогіі «Хождение по мукам» (менавіта як кнігі, а не як раманы, як вядома, ім самім пазначаны састаўныя часткі) А. Талстой прыязна адзываецца аб адным з белагвардзейскіх генералаў: «Генерал Казанович стоял на срубе колодца у железнодорожной будки и спокойно следил за умелыми движениями офицерских цепей, идущих без выстрела. Тонкое, изящное лицо его, с полуседыми длинными усами и подстриженной бородой (как носил государь император), было насмешливо-сосредоточенно, красивые глаза холодно, с женственной страстностью улыбались. Он был настолько уверен в исходе боя, что ни минуту не захотел ждать дивизии Дроздовского. Он соперничал в поисках славы с Дроздовским, болезненно самолюбивым, осторожным и, часто во вред делу, медлительным. Он любил войну за ее пышный размах, за музыку боя, за громкую славу побед».

Пра Барыса Казановіча расказвае ў чацвёртай кнізе «Казановічы герба «Гржымала» і А. Статкевіч-Чабаганаў, адштурхоўваючыся ад таго, што пра яго гаворыцца ў трылогіі «Хождение по мукам». Гэты генерал, хоць і змагаўся супраць рэвалюцыі, безумоўна, заслугоўвае ўдзячнага стаўлення да сябе. Ён не здрадзіў клятве, якую даваў. Ён абараняў тую Расію, якой служыў і ў якую верыў. Казановіч — гэта і абагульнены вобраз афіцэра Добраахвотнай арміі, «прокалённой насквозь железной дисциплиной, поражаемой и отступающей, но, как механизм, послушной воле единого командования». Аднак А. Статкевіч-Чабаганаў падаў звесткі, якія, паводле мастакоўскай аўтарскай задумы, у трылогію «Хождение по мукам» не ўвайшлі, але веданне такіх фактаў дапамагае лепшаму спасціжэнню гэтай задумы. Тым самым, па сутнасці, дапоўніў А. Талстога. Сваю ж мастакоўскую задуму А. Талстой абгрунтаваў 4 мая 1927 года ў лісце да рэдактара «Нового мира». Гэтыя высновы тычацца акурат напісання другой кнігі «Восемнадцатый год».

Аляксей Мікалаевіч, бадай, не мог не прадбачыць, што знойдуцца тыя, каму можа не спадабацца, як пададзены паслярэвалюцыйныя падзеі, таму ўдакладняў: «Первое: я не только признаю революцию, — с одним таковым признанием нельзя было бы и писать роман, — я люблю ее мрачное величие, ее всемирный размах. И вот — задача моего романа, — создать это величие, этот размах во всей его сложности, во всей его трудности». У гэтым прызнанні істотна тое, што А. Талстой, знаходзячыся ў сваім часе, вырываўся з гэтага часу, глядзеў далёка наперад. Ён разумеў, што аднабаковы падыход да рэвалюцыйных і паслярэвалюцыйных падзей карысці не дасць: «Вы хотите, чтобы я начал с победы и затем, очевидно, показал бы растоптанных врагов. По такому плану я *отказываюсь* (выдзелена самім А. Талстым. — *Х. К.*) писать роман. Этот будет

одним из многочисленных, никого уже теперь, а в особенности молодежь, не убеждающих плакатов».

Пазбаўленне плакатнасці — гэта, зразумела, і праўда пра таго ж Б. Казановіча. Але гэта і праўда ўсяго роду Казановічаў, прадстаўнікі якога за пяцьсот гадоў пакінулі глыбокі след у гісторыі Беларусі і Расіі. Гісторыю гэтага роду і прасачыў А. Статкевіч-Чабаганаў. Усяго ж ён вывучыў гісторыю больш як сарака вядомых шляхецкіх родаў Беларусі. Найперш тых, хто ў той ці іншай ступені з'яўляецца ягоным прашчурам. Нездарма кажуць, што свет цесны. Належачы да роду Стацкевічаў, Сацкевічаў-Статкевічаў і Карафа-Корбутаў, Анатоль Васільевіч знаходзіцца ў сваяцтве і з Казановічамі.

Старанна вывучаючы кнігі магілёўскага магістрата, ён устанавіў, што род Казановічаў бярэ свой пачатак ад двух братоў — Гаўрылы і Яроша, якія жылі ў Магілёве ў XVI стагоддзі. Шэсць сыноў Гаўрылы праславіліся ратнымі справамі ў Айчыннай вайне 1812 года. Аляксей жа і Гілярый Казановічы прымалі ўдзел у знакамітай Барадзінскай бітве. Абодва былі ўдастоены залатой зброі. Паколькі ў гэтай бітве Гілярый праліў кроў, то ягонае імя навечна выбіта на памятнай дошцы, устаноўленай у Храме Хрыста Збавіцеля ў Маскве. Істотны і такі факт: браты Казановічы ўдзельнічалі ў Барадзінскай бітве ў званні паручнікаў Ахтырскага гусарскага палка, а дaслужыліся да падпалкоўнікаў.

Быў і яшчэ адзін паручнік Казановіч — Васіль. Да тых належаў, хто ў гэтую памятную вайну арганізоўваў партызанскія атрады. І не беспаспяхова дзейнічаў. Таму яго і прыгадвае ў сваім «Дневнике партизанских действий» Дзяніс Давыдаў: «...Рано 14 числа мы выступили к Белыничам. На подходе встретили мы Ахтырского гусарского полка поручика Казановича. […] Он, узнав о приближении моем к сему местечку, сел на конь и поскакал ко мне навстречу, чтобы уведомить меня о пребывании неприятеля в местечке, о числе оного и вместе с тем, чтобы быть вожатым моим по дорогам, более ему, нежели мне, известным…»

Але не аднымі мужчынамі род Казановічаў слаўны. Праўда, слава славе розніцца. Ды, калі ўжо быць аб'ектыўным, то нельга нічога ўпускаць з-пад увагі. Таму А. Статкевіч-Чабаганаў і расказвае пра Лідзію Казановіч (Язерскую). Лідзія Паўлаўна была эсэркай. Ад гэтага, як кажуць, нікуды не дзенешся. Затое яе сястра Еўлалія стала адной з заснавальнікаў Пушкінскага Дома. Гэта ёй Аляксандр Блок запісаў у альбом свой апошні верш — «Пушкинскому Дому». Да ўсяго Еўлалія Паўлаўна збірала фальклор Магілёўшчыны. У кнізе прадстаўлены яе запісы «Валачобныя песні» і «Говары Азеранскага краю». Трэба сказаць, на дзіва арыгінальныя. Яны, безумоўна, сведчаць пра тое, якая багатая творчая фантазія ў беларускага народа, а перад усім пацвярджаюць тую думку, што лепшыя выхадцы з таго ж народа з павагай ставіліся да гэтай багатай духоўнай спадчыны, стараючыся зрабіць усё ад іх магчымае, каб зберагчы яе для нашчадкаў.

Аднак вернемся да генерала Барыса Казановіча. Апошнія свае дні ён правёў у эміграцыі, з'яўляўся старшынёй Галоўнага кіраўніцтва Саюза ўдзельнікаў 1-га Кубанскага паходу і Таварыства афіцэраў Генеральнага штаба ў Югаславіі. У час Грамадзянскай вайны эмігрыравала і ягоная дачка Алена. Сама гісторыя яе жыцця — настолькі цікавая, што заслугоўвае ўважлівага прачытання. Што і робіць А. Статкевіч-Чабаганаў, перагортваючы старонкі яе біяграфіі. У гэтым яму дапамагае дзённік, які яна вяла на працягу многіх гадоў, і які, на шчасце, захаваўся, пра што і гаворыць Анатоль Васільевіч: «… благодаря моей родственнице Наталье Татур мне удалось получить часть забытых рукописей. […] В дневниках Елены Борисовны оказалось много интересных сведений из истории родов Казановичей и Островских, к последнему принадлежала ее мать Ольга Николаевна».

Дачка Барыса Казановіча таксама доўгі час жыла ў эміграцыі. Але ў 1950-я гады з мужам, афіцэрам Сяргеем Карповічам вярнулася на радзіму. Само вяртанне іх — гэта, па сутнасці, адысея, у якой спалучаны смеласць і рашучасць, рызыка і пэўная авантура, небяспека, якая падсцерагала на кожным кроку, і ўпэўненасць у

тым, што ўсё, у рэшце рэшт, закончыцца добра. Гэтая адысея пад пяром А. Статкевіча-Чабаганава набывае форму апавядання, напісанага на аснове багатага фактычнага матэрыялу, аб з’яўленні якога сведчыць так: «Друзья их семьи — Наталья Николаевна Татур, Зинаида Ивановна Ляшевич, Валентина Ивановна Ивашина и Клавдия Степановна Глазкова с дочерью Ольгой — поведали мне о жизни Казановичей в эмиграции и судьбе Елены Борисовны после возвращения». Як высветлілася, на працягу не аднаго дзясятка гадоў Алена Казановіч вяла дзённік.

Несумненна, для лепшага разумення, кім жа былі прадстаўнікі гэтага славутага роду, якім душэўна багатым чалавекам з’яўлялася сама Алена Барысаўна, шмат дае сам яе дзённік, змешчаны ў кнізе. Сапраўдным адкрыццём для А. Статкевіча-Чабаганава (гэтае адкрыццё напаўняе і кожнага чытача) стала тое, што гэта не проста запісы, няхай самі па сабе і значныя. Яны напоўнены цікавывымі фактамі, што дазваляюць лішні раз упэўніцца, наколькі неардынарнымі былі прадстаўнікі роду Казановічаў.

Кожны з іх быў у чымсьці адметны. У нечым яны маглі і памыляцца, але ў адным ні ў якім разе нельга адмовіць ім — у любові да Радзімы. Дзеля гэтага яны маглі ахвяраваць малым дзеля таго вялікага, што дазваляе адчуваць сябе грамадзянамі сваёй краіны. Гэта і відаць з запісаў А. Казановіч, пра значнасць якога ў прадмове дакладна сказаў доктар гісторыка-філалагічных навук, прафесар гісторыі Рускай Царквы і рускай філасофіі Свята-Сергіеўскага багаслоўнага інстытута ў Парыжы, старшыня Радаслоўнай камісіі Саюза Рускіх Дваран князь Д. Шахаўской: «Дневники Елены Борисовны удачно дополняют историю рода Казановичей и, несомненно, являются определенным вкладом в мемуарную литературу».

Жыццё Алены Казановіч і яе мужа — таксама свайго роду «хождение по мукам». Дарэчы, у гэтым блуканні, дакладней, у самым пачатку іх быў вельмі цікавы эпізод: «…1918 год. Могилёв. В один из церковных праздников прихожане Трёхсвятительского храма, несмотря на то, что уже было принято решение о закрытии его и запрете богослужения, направились с крестным ходом в другую церковь. Люди несли в руках хоругвы и иконы. Чекисты стали разгонять прихожан, начали стрелять — и люди разбежались, унося по домам святыни.

В этом крестном ходе участвовала и Елена Борисовна, в руках которой находилась икона «Образ Пресвятой Богородицы» с мощами святого Онуфрия. Именно эта святыня, как считала Елена Борисовна, помогла им выжить в трудные годы эмиграции и пройти тяжелейший путь возвращения на родину».

Аб высокай маральнасці шляхецкага роду Казановічаў, аб ягонай прыхільнасці хрысціянскім традыцыям і сведчыць тое, што сям’я Алены Барысаўны, знаходзячыся ў эміграцыі, старанна берагла гэтую праваслаўную святыню. Па вяртанні ж на радзіму перадала яе сваім сябрам — Клаўдзіі Сцяпанаўне Глазковай і яе дачцэ Вользе. У жніўні 1995 года ікона была вернута гораду на Дняпры, перададзена на захаванне ў Магілёўскі Свята-Нікольскі манастыр. Не магла быць не вернута. Калі Вольга цяжка хварэла, то яна «часто обращалась за помощью к образу Пресвятой Богородицы. Она чувствовала тепло, исходящее от иконы, и ей становилось легче». Аднойчы ж пачула голас: «Отвези Меня на место». Пасля гэтага просьба паўтаралася яшчэ двойчы.

Вярнуся яшчэ раз да вышэй згаданага ліста А. Талстога да рэдактара «Нового мира». Аляксей Мікалаевіч прызнаваўся: «В романе я беру живых людей со всеми их слабостями, со всей их силой, и эти живые люди делают живое дело». «Эти живые люди», як вядома, у Грамадзянскую вайну знаходзіліся па абодва бакі барыкад. Толькі пісьменнік вялікага таленту і не менш вялікага грамадзянскага абавязку, якім і з’яўляўся А. Талстой, мог асмеліцца ўзяць на сабе адказнасць падаць станоўчы вобраз таго, хто змагаўся з бальшавікамі. І пасяхова справіўся з пастаўленай перад сабой задачай. Дый, калі разабрацца, не мог гэта не зрабіць, бо ў яго рэальны персанаж, які цалкам спрыяў вырашэнню такой адказнай задачы. Таму ён і вывеў Барыса Казановіча пад сваім сапраўдным прозвішчам.

Кніга ж А. Статкевіча-Чабаганава «Казановічы герба «Гржымала» дапамагае, заглыбіўшыся ў гэты род, а таксама даведаўшыся нямала пра іх родзічаў — Астроўскіх, Кігнаў, Свянціцкіх і іншых (пра іх таксама расказваецца ў гэтым томе), лішні раз упэўніцца ў тым, што грамадства заўсёды было, ёсць і будзе дзякуючы сваім лепшым прадстаўнікам. Пры гэтым, зразумела, нельга адмаўляць сам народ як вялікую рухаючую сілу, але народ у такую вялікую рухаючыю сілу ператвараюць менавіта лепшыя з лепшых.

## Ад кнігі пятай — да шостай, сёмай…

У пятай кнізе (на падыходзе да чытача шостая і сёмая) прыцягвае ўвагу найперш летапіс роднай вёскі А. Статкевіча-Чабаганава, а таксама расказ пра прадстаўніка інсітнага мастацтва Паўла Марціновіча (асобна ў Анатоля Васільевіча выходзіла кніга-альбом «Маляваныя сны Паўла Марціновіча»). Гэты творца таксама родам з Засмужжа. З маленства Анатоль бачыў у многіх хатах прыгожыя маляваныя дываны, былі яны і ў яго бабулі. Да ўсяго ў пачатковай школе вучыўся з дачкой Марціновіча Евай, бываў у іхняй хаце. Больш за тое, у канцы XIX стагоддзя лёс звёў дзеда Марціновіча і прадзеда Анатоля Васільевіча. Калі дваранін Іван Сацкевіч-Статкевіч набываў маёнтак Засмужжа, пэўную суму грошай уносіў і Аўраам Марціновіч.

Анатоль Статкевіч-Чабаганаў прыводзіць цікавыя звесткі з жыцця Марціновіча, які жыў ў 1911—1981 гадах. Дзякуючы ж рэпрадукцыям, на поўны голас загаварылі і самі творы П. Марціновіча: дываны, макаткі, карціны. Найперш — дываны, якія ў Засмужжы называлі «каўёрамі». У нечым сюжэты іх напоўнены тымі ж «дзівоснымі снамі», што характэрна і для творчасці А. Кіш. Гэтая не тая рэальнасць, якую бачыў П. Марціновіч, а нейкі мройны свет, у якім ён знаходзіўся і сам. Інакш як растлумачыць тое, што чамусьці пастаянна маляваў белы палац, які стаяў на выспе; адлюстроўваў берагі невядомай рэчкі, а яшчэ вяршыні гор, якія асвятляла заходзячае сонца. Несумненна ў гэтым давала аб сабе знаць паэтычнасць душы майстра, што прагнула прыгажосці, гармоніі. Гэткім жаданнем жылі і заказчыкі П. Марціновіча, а імі былі жанчыны і дзяўчаты з Засмужжа і навакольных населеных пунктаў. Маляванымі дыванамі яны ўпрыгожвалі сцены сваіх хат. Дарэчы, каля такога дывана, які вісеў у ягонай бабулі, стаіць і А. Статкевіч-Чабаганаў, на той час юны піянер.

Пятай кнігай з серыі «Я — сын Ваш» А. Статкевіч-Чабаганаў працягвае і даследаванне гісторыі старадаўніх беларускіх родаў. Адзін з раздзелаў — «Тычыны гербаў «Тучынскі» і «Тржаска». У ім Анатоль Васільевіч заглыбляецца ў вытокі гэтага роду. Уласныя даследаванні дапаўняе сведчаннямі з кнігі Міхася Тычыны «Большие и Малые Тычины: легенды і реальность». Называе і вядомых прадстаўнікоў гэтага роду. А гэта і той жа М. Тычына, і Алесь Адамовіч.

Гэткім жа шляхам А. Статкевіч-Чабаганаў ідзе і ў раздзеле «Рудзінскія герба «Прус III». Але, у адрозненне ад папярэдняга, у ім куды больш вынікаў уласнай працы ў архівах. Не абышлося, праўда, і без спасылкі на краязнаўца А. Крукоўскага. Ды, зразумела, істотна не тое, наколькі ўласныя даследаванні спалучаюцца з росшукамі іншых даследчыкаў. На першым плане, канешне, сама выніковасць матэрыялу. У гэтым сэнсе ў першым і другім выпадку ў шырокі ўжытак уводзіцца вельмі шмат дагэтуль невядомага матэрыялу. Несумненна, што прыведзеныя звесткі прыдадуцца і іншым даследчыкам. Тым, каго гэтая тэма зацікавіць і ім захочацца прадоўжыць яе вывучэнне.

Ва ўсіх кнігах А. Статкевіча-Чабаганава ўдала суседнічаюць навуковасць і папулярнасць. Пра гэта сведчыць і багацейшы ілюстрацыйны матэрыял — копіі гістарычных дакументаў і фотаздымкаў, у многіх выпадках вельмі рэдкіх, а то і адзінкавых у сваім родзе. З імі, несумненна, з задавальненнем пазнаёмяцца не

толькі вучоныя-гісторыкі, архівісты, архіварыусы, а і так званы шырокі чытач. Не ў апошнюю чаргу гэтая кніга будзе карыснай выкладчыкам гісторыі.

Для зручнасці карыстання да кожнага роду ёсць асабовыя паказальнікі, а прыведзены таксама геаграфічны паказальнік. У радаводных роспісах першы лік абазначае парадкавы нумар прадстаўніка роду, а другі нумар указвае продка, ад якога ён паходзіць. Дзякуючы гэтаму лёгка ўбачыць і без асаблівай цяжкасці прасачыць роднасныя сувязі, а таксама даведацца ступень роднасці. Сярод іншых прадстаўнікоў роду імёны прамых продкаў і нашчадкаў самога А. Статкевіча-Чабаганава выдзелены чырвоным колерам.

Услухаемся ў словы, што прамаўляе А. Статкевіч-Чабаганаў у пачатку кожнай сваёй кнігі:

Святую веру продкаў,
свой род,
культуру і Айчыну
шануй і беражы.

Словы гэтыя — не проста заклік. Яны нібыта тая паэзія — простая, шчырая, зямная (і ад гэтай шчырасці адкрытая і вабная), напаўняе тваю душу, робіць цябе аднадумцам аўтара. А дзе паэзія — там і жыццё. Не толькі нашае, а і жыццё тых, хто, дзякуючы памяці, вяртаецца з небыцця.

## Па працы і пашана

Падзвіжніцкая, адраджэнцкая дзейнасць Анатоля Васільевіча заўважана і належным чынам ацэнена. А. Статкевіч-Чабаганаў — лаўрэат Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2012 года «За ўклад у вывучэнне і прапаганду духоўнай і культурнай спадчыны, стварэнне серыі гісторыка-дакументальных кніг «Я — сын Ваш», прысвечаных дваранскім родам Беларусі». За першы том свайго даследавання ўзнагароджаны прэміяй «Залаты Купідон». Да ўсяго з'яўляецца лаўрэатам міжнароднай літаратурнай прэміі Саюза пісьменнікаў Расіі, Акадэміі навук Расіі і Інстытута сусветнай літаратуры «Залатая восень» імя С. Ясеніна за самаадданае служэнне рускаму слову… Але Анатоль Васільевіч не толькі займаецца плённай даследчыцкай дзейнасцю, а і шмат піша. Для яго не чужое і тое, без чаго цяжка ўявіць сапраўднага вучонага. Ён выступае на многіх навукова-практычных канферэнцыях, у тым ліку і міжнародных, на розных прэзентацыях, выстаўках.

Рэгулярна праводзіць і прэзентацыі сваіх кніг, у час якіх ахвотна дорыць іх зацікаўленым чытачам. Нацыянальнай жа бібліятэцы Беларусі перадаў ажно 500 асобнікаў. Яны трапілі не толькі ў яе фонды, а і былі перададзены ў іншыя бібліятэкі. Падпісаў і Дагавор аб перадачы Нацыянальнай бібліятэцы электронных копій сваіх кніг, што, безумоўна, пашырыць кола чытачоў. Кожны зможа знаёміцца з ім як па-беларуску, так па-руску, у залежнасці ад таго, які варыянт зацікавіць.

Дзейнасць А. Статкевіча-Чабаганава патрапляе і пад тое, што французскі пісьменнік Жазэф Жубер выказаў так: «Дабрачыннасць — гэта здароўе душы». У сваім дабрадзейным памкненні Анатоль Васільевіч дае фору шмат каму. Яго спонсарскі імпэт сягае за межы клопатаў аб пэўным чалавеку ці вырашэнні якога-небудзь праекта. А. Статкевіч-Чабаганаў дбае пра ўсю Беларусь, пра ўвесь беларускі народ. Сам на дзіва душэўна здаровы, хоча, каб такой была і ўся нацыя.

Шляхі для дасягнення гэтага, зразумела, могуць быць розныя, але, бадай, найбольш перспектыўны той, што ідзе праз веру і вядзе для далейшага ўсталявання, умацавання веры праваслаўнай. Менавіта яна, у рэшце рэшт, і вярнула род Статкевічаў, Сацкевічаў-Статкевічаў з небыцця, а ўжо праз вяртанне аднаго роду

адбылося вяртанне і іншых родаў. Дзякуючы намаганням, высілкаў аднаго з найбольш яркіх і самых таленавітых яго прадстаўнікоў. На тое была воля Гасподняя, каб знікла несправядлівасць і ўсталявалася праўда, іншыя добрыя пачынанні. Не сумняваюся, што Анатоль Васільевіч памятае тую ісціну, якую някепска не забываць кожнаму з нас: «Si Deus nobiscum — Quis contra nos?», што ў перакладзе гучыць так: «Калі Бог з намі, хто супраць нас?».

Серыю сваіх кніг ён заснаваў па блаславенні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта. А. Статкевіч-Чабаганаў падтрымлівае намаганні Праваслаўнай Царквы па ўсталяванні міру і згоды ў грамадстве. Ён стаў арганізатарам помнікаў святой благавернай Сафіі, княгіні Слуцкай у самім Слуцку, а таксама ў Мінску. Прымаў удзел і ва ўзнаўленні храмаў Космы і Даміяна ў мястэчку Вішнева Валожынскага раёна, а таксама Узнясення Гасподняга ў вёсцы Сёмкава, Раства Божай Маці ў вёсцы Сёмкаў Гарадок Мінскага раёна.

Актыўная творчая і грамадская дзейнасць А. Статкевіча-Чабаганава не прайшла незаўважанай Рускай Праваслаўнай Царквой. Ён узнагароджаны ордэнамі «Крыжа прападобнай Еўфрасінні Полацкай», «Святой праведнай княгіні Сафіі Слуцкай», «Свяціцеля Кірылы Тураўскага» І ступені, «Святога роўнаапостальнага князя Уладзіміра» ІІІ ступені, граматамі Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, Граматай Святога Сінода Беларускай Праваслаўнай Царквы ў гонар 400-годдзя прадстаўлення святой праведнай Сафіі Слуцкай. Заўважыла А. Статкевіча-Чабаганава і Праваслаўная Царква Чэшскіх зямель і Славакіі, прысудзіўшы яму «Залаты медаль святых роўнаапостальных Кірылы і Мефодзія.

* * *

Кнігі А. Статкевіча-Чабаганава, вобразна кажучы, — той выратавальны круг, дзякуючы якому ніколі не страціш раўнавагу на хуткаплынных хвалях XXI стагоддзя. Можна колькі заўгодна гаварыць аб любові да Бацькаўшчыны, маючы на ўвазе родную сінявокую Беларусь.... Можна паўтараць і паўтараць, што чалавек, які парваў сувязь з зямлёй маленства, у многім духоўна абдзелены... Усё гэта, канешне, будуць правільныя словы. Няма сумнення ў тым, што ў большасці з нас яны ідуць ад чыстага сэрца. Аднак куды большая карысць тады, калі гэта не толькі праяўляецца, дэкларуецца, а і падмацоўваецца канкрэтнымі дзеяннямі. Так і робіць аўтар кніг «Я — сын Ваш», старонка за старонкай пішучы летапіс беларускай шляхты. Шляхта ж, дваранства, не лішне нагадаць яшчэ раз — частка ўсяго беларускага народа. Таму ведаючы яе гісторыю, вяртаючы з небыцця не толькі найбольш яркіх прадстаўнікоў, а і, здавалася б, звычайных працаўнікоў, лепш спазнаеш і гісторыю ўсяго народа. Аднак нельга забываць, наколькі ўсё ж у гісторыі вялікая роля асобы. У дадзеным выпадку — гэта роля як самога А. Статкевіча-Чабаганава, так і тых, пра каго ён расказвае.

Мікалай Карамзін некалі назваў дваранства «душою нацыі». На працягу дзсяцігоддзяў гэтае яго выказванне замоўчвалася, таму што, як дваран, так і прадстаўнікоў іншых «не працоўных» саслоўяў успрымалі толькі эксплуататарамі. Балазе, такое стаўленне канула ў Лету. Мы з гонарам прыгадваючы тых, хто абараніў чалавецтва ад карычневай чумы фашызму (іначай і быць не можа, бо не было б іх, не было б і нас!), цяпер з гэткімі ж павагай і ўдзячнасцю ставімся і да тых, хто ваяваў у Першую сусветную вайну дый у Айчынную вайну 1812 года. Не кажучы пра тое, што згадваем, незалежна ад іх сацыяльнай прыналежнасці, усіх, хто сваімі ўчынкамі, справамі, набыткамі заслугоўвае ўдзячнай памяці нас, іхніх нашчадкаў. Гэтаксама як і памяці тых, хто прыйдзе следам за намі. А гэта ўжо акурат і залежыць ад нас саміх. Ад таго, наколькі паважна і ўважна ставімся мы

да іх, як даследуем, а потым і прапагандуем зробленае, здзейсненае імі. Як гэта і робіць А. Статкевіч-Чабаганаў. Істотна і тое, на што звяртаў у прадмове да кніг Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, а цяпер ганаровы Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт. Высокапраасвяшчэннейшы Мітрапаліт, у прыватнасці, зазначаў: «У Бога нет мертвых: у Него все живы! А значит, мы все — одна семья, одна земля, один народ, одна вера, один крестный жизненный путь по образу Христа Спасителя. И воскресение наше будет всеобщим. Оно уже началось, если в сердце человека луч Божественной любви не заглушается стихиями мира сего, но становится негасимым пламенем. Мы приветствуем благочестивые намерения, воплотить которые взял на себя труд Анатолий Василевич в данном исследовании».

Кнігі, якія піша А. Статкевіч-Чабаганаў спрыяюць духоўнага адраджэнню нацыі. Болей таго, яе адзінству, згуртаванню. Адначасова яны працуюць і на карысць «уваскрэсення нашага агульнага».

Такі ён — наш выдатны сучаснік Анатоль Васільевіч Статкевіч-Чабаганаў. Ён так і «просіцца» стаць героем аднаго з чарговых тамоў серыі «Жыццё знакамітых людзей Беларусі». Слова просіцца я невыпадкова ўзяў у двухкоссе. Чалавек сціплы, Анатоль Васільевіч — не з тых, хто сам гатовы выказаць такую думку. Як і ўсе па-сапраўднаму таленавітыя людзі, менш за ўсё дбае аб захадах, каб неяк лепш падаць сябе. Дый не да гэтага яму, бо трэба працаваць, працаваць, працаваць. Што можаш зрабіць сам, ніхто за цябе не зробіць. Нам жа нельга забываць пра тое, што дзейнасць выдатных людзей трэба як мага лепш прапагандаваць. Дык да сустрэчы з Анатолем Васільевічам на старонках кнігі ў серыі «Жыццё знакамітых людзей Беларусі»?

Юлія АЛЕЙЧАНКА

# ПАКАШТАВАЦЬ ЯБЛЫКІ




*Мікалай ЧЫРСКІ*

**Літаратурныя вандроўкі**

**ПА ЗЯМЛІ КУПАЛЫ І КОЛАСА**
*Мінск, Беларусь, 2016*

Пэўна, прачытаўшы назву кнігі, многія падумаюць, што нічога новага для сябе не адкрыюць. Маўляў, колькі пісалі ўжо пра родныя мясціны славутых песняроў. І памыляцца! Мікалай Чырскі, старшыня «Беларускай асацыяцыі экскурсаводаў і гідаў-перакладчыкаў» знайшоў ключык да сэрца чытачоў рознага ўзросту. За больш чым сорак гадоў актыўнай экскурсійнай дзейнасці ён назапасіў каштоўны практычны вопыт, а ў сваіх кнігах выяўляе сябе як пісьменнік з добрым разуменнем стылю. І не дзіва, бо прынцып, якім кіруецца Мікалай Чырскі — «Экскурсія — гэта тэатр аднаго акцёра». Адкрыць Беларусь для беларусаў — найважнейшы гарант таго, што і турысты з іншых краін будуць з задавальненнем наведваць нашу краіну. Развіваць і ўдасканальваць веды, распрацаваныя беларускай школай экскурсаводаў (якая, дарэчы, вельмі блізкая да пецярбургскай) трэба і па сённяшні дзень, — лічыць Мікалай Арсенцьевіч. Сімвалічна, што сваю першую экскурсію ён правёў менавіта па музеі Янкі Купалы…

Вандроўкам па знакавых для Янкі Купалы і Якуба Коласа мясцінах прысвечана і кніга Мікалая Чырскага. «Станем бліжэй да Купалы — не гіганта на пастаменце, да Купалы — чалавека і паэта», — прапануе нам у прадмове да першай часткі кнігі аўтар. І ў сваіх своеасаблівых літаратурных, геаграфічных, гістарычных вандроўках дадае новыя дэталі да рэальнага, жыццёвага вобраза славутага творцы, сумяшчаючы пры гэтым дакладную факталагічнасць з неаспрэчнай мастацкасцю, кваціcтасцю выкладу: «Нібыта струна, праспект Незалежнасці… Нібыта пуцявіна ў вечнасць,

нетаропкая Свіслач. І паміж імі — парк імя Янкі Купалы, велічны ў майскай квецені і сцішаны ўвосень». Аднак не толькі на асобе Янкі Купалы засяроджваецца аўтар. Разумеючы, што талент — спараджэнне свайго народа, выкліканае да жыцця папярэднікамі, і выток жыцця для наступнікаў, аўтар не спыняецца адно толькі на постаці Івана Луцэвіча. Напрыклад, распавядаючы аб Віленскім шляху, «аднолькава дарагім беларусу і рускаму, украінцу і літоўцу, латышу і паляку», Мікалай Чыркі згадвае і Сымона Буднага, Міхала Агінскага, Уладзіслава Сыракомлю, Дуніна Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча, Міхася Чарота… «Робіць прыпынкі» і ў музеі-лецішчы Васіля Быкава ў Ждановічах, касцёле Насвяцейшай Дзевы Марыі і Спаса-Праабражэнскай царкве ў Заслаўі. І ўсе «вандроўкі» шчодра перасыпаны вершамі ў гонар той зямлі, марамі аб светлай будучыні якой жыў Янка Купала.

Як «часцінкую злітую вялікага свету» раскрывае для чытачоў Мікалай Чыркі і асобу Якуба Коласа. Шчыра і непасрэдна расказвае аўтар пра хату паэта, бярозку, пасаджаную ў гонар жонкі, дубы, што сімвалізуюць сыноў, — Данілу, Юрку ды Міхася. А з главы «Па дарозе ў Коласаў край» распачынаецца незвычайна насычанае падарожжа па гасцінцы Мінск—Дзяржынск—Стоўбцы. «Дарогі Беларусі — гэта частка духоўнага і культурнага багацця зямлі Якуба Коласа, як частка мінулага і як маршрут у будучыню», — падкрэслівае Мікалай Чыркі. Капліца ў гонар паўстанцаў Т. Касцюшкі і К. Каліноўскага, барэльеф М. Ермаловіча, Ганнінская царква, Коласаўскі заказнік ды безліч іншых скульптурных, архітэктурных, прыродных залацінак прымячае пільнае вока аўтара… Да месца прыдаюцца і дынамічныя аповеды пра людзей, чыёй малой радзімай ці часовым прытулкам з'яўляецца азначаная мясцовасць: Мікалая Улашчыка, Алеся Махнача, Кандрата Крапіву, Лідзію Арабей, Паўлюка Труса, Алеся Гурло, Нічыпара Чарнушэвіча, Міколу Хведаровіча, Яна Скрыгана, Адама Русака і інш. Малавядомае і цікавае пра Акінчыцы, Альбуць, Ласток, несумненна, пакліча кожнага наведаць у першы ці чарговы раз комплекс Коласавых мемарыяльных сядзіб-музеяў.

Аздобленая шматлікімі фотаздымкамі, кніга «Літаратурныя вандроўкі па зямлі Купалы і Коласа» ўпэўнівае, што, валодаючы патрэбнымі ведамі, па родным краі можна скласці захапляльны маршрут. Бо шмат новага з нашай міфалогіі, гісторыі, літаратуры расказуць здольныя яшчэ расказаць старажытныя беларускія дарогі-гасцінцы…




*Лэйла АЛІЕВА*

**ЛІСТ**

**Пераклад з рускай Таццяны Сівец**

*Мінск, Выдавецкі дом «Звязда», 2016*

«Такім дарам — пераплаўляць у мастацкае слова свой боль — надзелена маладая паэтэса Лэйла Аліева», —

піша Афаг Масуд. І калі чытаеш трапяткія радкі азербайджанскай творцы ў мастацкім пераўвасабленні Тацяны Сівец, пераконваешся ў гэтым неаднойчы.

«Я сумую да вар'яцтва» «Не забірай бясцэнныя хвіліны», «І мара сталася крывёю», «Як шмат нясу я на сваіх плячах», «Дайце мне лекі» — самі назвы, палкія да горычы, настройваюць чытача на памежна шчырую размову з чалавекам, які не баіцца паказаць сапраўдныя пачуцці і перажыванні. Лэйла Аліева далёкая ад постмадэрнісцкіх эксперыментаў з формай і словам, яна бярэ іншым — пачуццёвасцю, у нечым нават наіўнасцю і чысцінёй. Разважаючы пра адвечныя пытанні чалавечага існавання, не можа абысці праблемы вернасці, спагады, трываласці маральных законаў:

Няхай снягі бяруць твой горад з боем,
Няхай твой шлях хаваецца ў імжы,
Ты памятай, што Бог заўжды з табою
І трэба жыць!

Вершы Аліевай адрозніваюцца яскравай вобразнасцю, «візуальнасцю». Нават сэрцу, як метафарычнай скарбонцы чалавечых эмоцый, паэтэса надае матэрыяльнае (часам нават правакацыйна матэрыяльнае) выражэнне:

Я пайду крыху паплачу. Гэтак ціха,
неприкметна!
Сэрца я сваё прылашчу! Ці то выкіну —
на сметнік!
Я пайду крыху паплачу, не сказаўшы
анікому.
Сэрца адвязу на дачу, выганю,
бы котку з дому.
Выкіну яго на вецер,
хай цяпер яго вартуе.
Мне ж яно не адзавецца, бо са мною —
варагуе.
Пахаваю сэрца ў градах, можа,
прарасце травою.
Сціснy сэрца з вінаградам —
будзе ўсім віно жывое.
Запрашу сяброў найлепшых —
на вячэру,
на бяседу,
Сэрца запяку і першай стравай
пачастую бедных.

Хаця часта скарыстоўвае паэтэса і даволі традыцыйныя мастацкія вобразы: чорны лебедзь як сімвал самоты, матылёк — летуценнасці і часовасці, цягнікі — змен у жыцці. Не ставіць пад сумненне і адвечныя законы быцця:

А прыгажосць па-над усім пануе,
У бойцы — меч, ды ёй не вер ніколі!
Яна цябе, няшчаснага, зруйнуе,
Пазбавіўшы і розуму, і волі!

Скрушна душы, што жадае праўды і святла, і ад недасканаласці свету, чалавечых адносін: «Як цяжка, людзі, вас любіць, / Як лёгка вас узненавідзець!», «Каханне і нянавісць — дзве сяброўкі».

Жаданым апірышчам, ратаваннем ад жорсткага свету з'яўляецца вяртанне ў «страчаны рай» дзяцінства:

Мама, пакуль малы,
Кніжак не прачытаў я,
Я не змагу зманіць
І асуджаць не стану.

Своеасаблівай рэфлексіяй, спосабам перадаць свае перажыванні традыцыйна лічыцца напісанне шчырых лістоў. Сабе самому ці блізкаму чалавеку. Невыпадкова, што зборнік вершаў Лэйлы Аліевай называецца так проста і разам з тым шматзначна — «Ліст». Каму піша маладая азербайджанская паэтэса? Пэўна, такім жа, як сама, адкрытым, шчырым, эмацыйным людзям, якія ўмеюць размаўляць на мове любові:

Я табе ніколі не пісала,
Але ўрэшце гэты ліст дашлю,
Слоў знайшла я ў слоўніках замала,
Толькі два: кахаю і люблю!

Цёплыя сяброўскія адносіны даўно звязваюць беларускіх і азербайджанскіх калег па пяры. І цяпер гэтыя адносіны актыўна развіваюцца. У серыі «Сугучча сэрцаў» Выдавецкага дома «Звязда» выйшла кніга пісьменнікаў Беларусі і

Азербайджана «Шчаслівая сустрэча». На беларускай мове пабачыў свет зборнік вершаў Чынгіза Алі аглу, асобныя празаічныя і вершаваныя творы Камала Абдулы, Афага Масуда, Вагіфа Баятлы Одэр і інш. Выдаюцца і беларускія творцы ў Азербайджане. Перакладчыца зборніка Лэйлы Аліевай Таццяна Сівец, натхніўшыся паездкай у Азербайджан, напісала выдатную паэму «Баку»… А падчас правядзення імпрэзы «Беларусь—Азербайджан» у Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы імя Астроўскага пісьменніца Алена Стэльмах прапанава мінскім школьнікам пісаць электронныя лісты сваім аднагодкам з Азербайджана. Думаецца, «Ліст» Лэйлы Аліевай таксама стане сяброўскім мастком паміж нашымі краінамі і крыніцай цікавасці беларусаў да дзяржавы з багатай гісторый і культурай.




*Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ*

**ЯБЛЫКІ**

*Мінск, «Медысонт», 2016*

«Літаратар-многастаночнік», — такое жартаўлівае вызначэнне бачым мы на цудоўнай зялёна-глянцавай, з сакаўнымі яблыкамі, вокладцы новай кнігі апавяданняў маладой беларускай пісьменніцы Маргарыты Латышкевіч. «Больш, чым пісаць, любіць толькі маляваць», — працягваецца аповед пра аўтара кнігі. І гэта сапраўды так! Вершы, фантастычныя апавяданні, навелы, аповесці — Маргарыта піша шмат і, відавочна, апантана. Захапляецца міфалогіяй, фальклорам, якаснай літаратурай — гэта выразна бачыцца ў яе літаратурнай карціне свету.

Калісьці чуліся водгукі, што, маўляў, прозе Маргарыты не хапае «пярчынкі». Аднак навошта ўводзіць у свой чароўны свет нешта ненатуральнае, штучнае, бруднаватае? Пісьменніца паказвае толькі тое, што перажыла асабіста, што ведае добра. Піша пра дзяцінства, юнацтва, знаёмыя чалавечыя тыпы.

Узяць хоць бы кранальнае і, пэўна ж, вельмі асабістае (на карысць таго кажа і загадкавая назва-ініцыял «У.») апавяданне пра першае каханне. Аўтарскі голас гучыць тут даверліва, па-сяброўску, ствараецца ўражанне, што пісьменніца ў інтымнай гутарцы дзеліцца з чытачом дарагім сэрцу ўспамінам. Таму пачатак — нязмушаны, просты, шырокімі мазкамі абмалёўвае нам жыццёвую сітуацыю, пра якую пойдзе гаворка далей: «Кожная трынаццацігадовая дзяўчына мусіць быць закаханай. Гэта — аксіёма. Іначай няма пра што пашаптацца з сяброўкамі на перапынку, няма пра што паперапісвацца з суседкай на ўроку геаграфіі». Назіральнасць, здольнасць пранесці праз гады паняцце аб падлеткавых уяўленнях, пачуццях, — гэта вельмі каштоўна! Таму надта абаяльна глядзяцца апісанні дзявочых перажыванняў: «Заўважыўшы недзе на калідоры знаёмы чорны швэдар, Ліля стартавала на трэцяй касмічнай хуткасці. Не да аб’екта захаплення, як іншыя дзяўчаткі-аматаркі, а ад яго. Куды заўгодна, абы — ад».

Цікавае само па сабе і апісанне дзіцячай гульні ў аповесці «Зямля». Дзеянні гульцоў — гэта і ёсць сюжэт. Выглядае даволі арганічна, бо для дзяцей гульня — імітацыя жыцця, яны цалкам заглыбляюцца ў створаны фантазіяй свет. Да таго ж нашыя гульні — частка гарадскога фальклору. Не страціць гэты скарб у эпоху камп'ютараў і смартфонаў — вельмі важна. Няхай бы як мага часцей збіраліся сучасныя дзеці ў дварах і чулася вясёлае:

«— Заўтра выйдзеш? Будзем у «Зямлю» гуляць?

— А то ж!»

Цікавай і вельмі жыццёвай атрымліваецца ў Маргарыты Латышкевіч галерэя характараў. Тут і наіўная дзяўчынка, якая чакае цудаў у паўсядзённасці («Шчасце»), і апантаны ідэяй сваёй геніяльнасці мастак («Муза»), і настырны ўсёвед («Чорны чалавек»)… А яшчэ любіць пісьменніца разважаць над чалавечымі адносінамі, выводзіць нейкія заканамернасці і правілы. Напрыклад, выдзяляе тры гатункі сяброўства ды параўноўвае стасункі людзей з эквілібрыстыкай. Што ж, імкненне да абагульненняў — прыкмета сапраўдных творцаў.

Не адмовіш пісьменніцы і ў добрым пачуцці гумару. Пэўна, кожны ўзгадае свае «паліклінічныя прыгоды» з чэргамі, пошукам асабістай карткі, прачытаўшы апавяданне «Інструкцыя для хворых». Ды і абяцанне заняцца асабістым здароўем з панядзелка — многім знаёмае («Спорт»).

Светлыя, лірычныя апавяданні Маргарыты Латышкевіч — пра сённяшняе пакаленне цікаўных, здольных да разважання людзей. Чаму б і не пакаштаваць яе «Яблыкі»?

# ЛЕПШЫЯ ЎЗОРЫ СЕРБСКАЙ САТЫРЫЧНАЙ АФАРЫСТЫКІ

## Радамір Раша СТАНОЙКАВІЧ (1936 г. н.)

❍ Будзь разважлівы — не разважай уголас.

❍ Найбольшы заробак у таго дарадцы, які маўчыць.

❍ Надышоў канец, а мы чакаем пачатку.

❍ Жыццё яго было песняй. Спяваў ён у розных партыях.

❍ Турма — вялікая школа, але без дзяржаўных экзаменаў.

❍ У яго добрая жонка, але і зарплата някепская.

❍ Гісторыю пішуць пісьменныя, а непісьменныя чытаць яе не могуць.

❍ Ён яшчэ не пан, але ўжо і не таварыш.

❍ Яму кляліся. Цяпер яго клянём.

❍ У рэшце рэшт праўда пераможа, толькі не ведаем, каго.

❍ Няма часу, каб быць наперад часу.

❍ Не купляй многа кніг, купі адзін дыплом.

❍ Набываючы розум, страцілі галаву.

❍ Страціў галаву, а захаваў шапку.

## Дэян ЛОПІЧЫЧ (1939 г. н.)

❍ У нас неабвержнае алібі: мы былі сведкамі здарэння.

❍ Каб гэтая ўлада была не наша, Бог ведае, што б пра яе падумалі.

❍ Калі многія апынаюцца на мяжы выжывання, трэба праверыць, можа, справа тут у арганізаваным выступленні!

❍ Любое параўнанне нас з намі — злаўмыснае і непрымальнае.

❍ Поспех толькі ў аналізах даведзены да канчатковасці.

❍ «Было цудоўна — я ледзь выжыў», — кажа мазахіст.

## Растка ЗАКІЧ (1942—2014)

❍ Хамелеоны ў гэты момант пачырванелі.

❍ У лесе перабаршчылі з дэмакратыяй: штогод лісце мяняецца!

❍ Веданне законаў не апраўдвае суддзяў!

❍ Птушкі ў клетцы, але ж клетка на волі.

❍ Хваліўся людаед людаеду: «Сёння ў мяне быў надзвычай добры абед — я з'еў найлепшага сябра!»

❍ Народ неабходна ашчасливіць, няхай нават усе пагінуць!

❍ Чаму ў нас пісьменнікаў больш, як чытачоў? Таму што гэтых пісьменнікаў творы лягчэй напісаць, як чытаць.

## Радзівое БОІЧЫЧ (1949 г. н.)

❍ Цяпер толькі ў красвордах можна існаваць вертыкальна.

❍ Таварыш зверху я — толькі сваёй жонцы.

❍ Усе нашыя глупствы — доказ, што ўсё ж такі думаем сваёй галавою.

❍ Дзе-якім нашым палітыкам Маркс сказаў тое, чаго б не казаў нават Энгельсу!

❍ Хопіць нам ісцін. Скажыце, як у сапраўднасці было!

❍ Дзякуючы гравітацыі, і мы да нечага цягнемся.

***Укладанне і пераклад з сербскай Івана ЧАРОТЫ.***

